# Содержание

# Бог

- Ты стаміўся, каханы, - ціха вымавіла яна. – Табе проста трэба адпачыць. А раніцой пачнецца новы дзень, і ты з усім справішся, і ўсё вырашыш. Як і заўсёды. Тое, што ты стаў чалавекам, не азначае, што ты згубіў нешта. Чалавек – гэта вельмі многа. Гэта – бязьмежнасьць. Бо ж у цела чалавека сышоў сам Бог. Няма таго, што ня здолее зрабіць чалавек, які адчувае руку Бога на сваім плячы.

Зараз ты засьнеш, а калі прачнешся, я буду побач. Ці ж гэта ня цуд, каханы, што мы апынуліся разам? Што праз стагоддзі я магу адчуваць тваю руку, а ты – дакранацца да майго цела? Не істотна, дзе мы апынемся, і якія часы ці зданьні будуць нас выпрабоўваць на трываласьць нашае веры, годнасьці, і нашага пачуцьця. Гэта было ўжо шмат разоў. І гэта будзе яшчэ не аднойчы. Адчуй Яго – як Ён вядзе нас, адчуй Яго ў сабе, і проста скарыся, прыімі Яго волю. Ён тут, побач. Ён у табе і ўва мне. Няма таго, што не пераможа нашая вера, і нашае каханьне. І ты яшчэ ўзьнімешся, і адчуеш яго, і ён прыме нас абодзьвух у сваёй бязьмежнасьці і велічы. Так, як прыняў Марка. Як прыняў яшчэ шмат каго. І шмат каго яшчэ прыме. Ты ведаеш, я чула, што крыж – гэта мост. Гэта мост да Бога. Але ж прайсьці гэты мост можа толькі той, хто стаў чалавекам. Ты пройдзеш яго, любы мой. Мы пройдзем яго разам. Мост, які сканчваецца сьвятлом, на канцы якога нас ніхто і ніколі не раз’яднае.

Так казала яна, пакуль ён трымаў яе ў абдымках, схіліўшы галаву ёй на грудзі. Яе рукі абдымалі яго, а яго – яе. І сапраўды, не было нічога, што магло раз’яднаць іх, ні на гэтым, ні на тым сьвеце. Нават калі іх целы былі паасобку, душы іх былі разам. Ні прастора, ні час ня мелі над імі ўлады. Зямля, пекла, адхлань і нябёсы зьліліся для іх у адзінае. Праз сваё вялікае пачуцьцё яны спасьцігалі Бога, і бачылі яго адно у адным так выразана, як чалавек бачыць сябе ў люстэрку, калі нічога не замінае, і не засьцілае яго вочы.

- Ты не шкадуеш, што ты прыйшла да мяне, каханая? – запытаў яе ён. У яго вачах, узьнятых на яе, яшчэ плёскаўся боль. Боль, і страх за яе, якія паступова сыходзілі, саступаючы месца таму сьвятлу мудрасьці, любві і моцы, якія яна заўсёды бачыла ў яго вачах.

- Не шкадую, каханы. Яна кранула яго лоб вуснамі. Як я магу шкадаваць аб тым, што стала для мяне больш чым жыцьцём? Праз цябя я сустрэла і спазнала Бога, якога ў мяне болей ніхто не адыме. Як і цябе ніхто і ніколі не адыме ў мяне. І мяне – у цябе.

Ён нахінуўся над ёй, і яна закрыла вочы, адчуваючы, як яго вусны дакранаюцца да яе твару, кранаюць яе губы, і яна прыпала да іх, і ўдыхнула адзінае зь ім дыханьне. Яна адчувала яго цела над сваім целам, цяжкое, вялікае прыціскаючаеся да яе, вымушаючае яе падпарадкоўвацца яго моцы, яго жаданьню, закрываючае яе ад самое сябе, так, што ў яе кружылася галава. Яго рукі гладзілі яе, яго дыханьне кранула яе шчаку. Яна была патрэбная яму, яе душа і цела, яе каханьне, за якое ён трымаўся, як за саломінку, утрымліваючую яго над безданьню. У сьвеце нічога не было, акрамя яе. І ў сьвеце нічога не было акрамя яго. Тое, што яна адчувала, было ня жарсьцю. Гэта была ціхая пяшчота да яго, і жаданьне, моцнае, ахопліваючае ўсю яе, аддаць яму ўсё сваё цела, і ўсю сваю душу, каб ён узяў іх столькі, сколькі яму было патрэбна, каб працягваць жыць, і каб утрываць гэтую яго чалавечнасьць, балючую, працінаючую яго, як цвікі працінаюць цела, прымацоўваючы яго да крыжу сьвету і плоці, ад якога, здаецца, не магчыма адарвацца, і ўзьняцца, і можна толькі пакутваць і прасіць, і чакаць, калі цябе ўзьнімуць, калі пакуты скончуцца, бура пройдзе, і настане ціхае сьвятое сьвятло, якое ён зараз адчуваў у ёй, прагнучы яе, уваходзячы ў яе, убіраючы, і аддаючы ёй самога сябе, поўнячыся ёю так жа, як і яна зараз поўнілася ім. І ў гэтай паўнаце не было нічога нячыстага, нічога жывёльнага, наадварот, яна ўзвышала, узьнімала, напаўняла іх, прагнучых адно аднаго, як чалавек можа прагнуць толькі Бога.

- Пакахай мяне, як Бог, - ціха прашаптала яна. – Я адчуваю, як

праз цябе Бог уваходзіць у мяне, каханы. Сын чалавечы, якога я люблю так, як люблю Бога.

Яго плоць рухалася ў ёй, і яна зьлівалася зь ім, як душа зьліваецца з тым, каго яна прагне, і да каго імкнецца ўзыйсьці на нябёсы, калі нябёсная брама адчыняецца, і яе залівае сьвятлом і радасьцю, і калі яна сустракае таго, каго кахае моцна, усёй сваёй сутнасьцю, сваёй глыбінёй, тым, што адгукаецца на Яго Любоў, загараючымся, зьзяючым праз цела, сьвятлом душы, спазнаўшай, атрымаўшай Бога ў свае абдымкі, плоцкага, рэальнага, адзінага, абараняючага і ахінаючага яе, выбачаючага і прымаючага, Бога, якому гэтая душа так жа патрэбная, як і ён патрэбны ёй. Яна больш ня разьдзяляла яго – чалавека, і яго – Бога, яго – сьмяротнага і яго бессьмяротнага. Той, хто быў зараз побач зь ёй, быў для яе ўсім, гэта была найбольшая большасьць, гэта было так велічна і сьвята, і радасна, быццам бы яе качала на вялікіх хвалях, ці гэта былі яго грудзі, якія ўзьдымаліся насупраць яе – яна не разумела. Яна даўно ўжо адкінула свой розум. Навошта ёй розум, калі ў яе ёсьць сэрца, якое зараз адчувае яго сэрца? Калі б яна жыла розумам, яе б не было тут. І яна б трапіла нават ня ў пекла – у нябыт. Сэрца падарыла ёй жыцьцё. Каханьне да яго падарыла ёй Бога. Яна больш не магла быць той, кім была калісьці. Яна магла быць толькі такой, як зараз – адзінай зь ім, душой, кахаючай яго, трымаючай яго, ахінаючай і песьцячай яго, магла быць толькі яго сьвятлом, яго жыцьцём, яго подыхам.

- Час не істотны. Лёс не істотны. Істотныя толькі мы, у любым часе, у любым месцы. Я буду трымаць тваю руку. Я пайду з табой усюды, і на самых дальніх шляхах я буду суправаджаць цябе. Бо ж я – твая душа, якую ты знайшоў, і ніколі ня згубіш, чалавек.

Яна ціха пацалавала яго. Кранула яго скронь, і ўбачыла на ёй срэбныя ніці. Ён мірна спаў побач зь ёю. Цэлы сусьвет у чалавечым абліччы. Яе чорныя косы спляліся зь яго валасамі, яе цела пераплялося, перацякаючы, у яго цела. Яна гладзіла, кранала яго шырокія плечы, яго тугія мышцы, яго сьпіну, яго

рукі, абдымаючыя яе, і шаптала яму пяшчотныя словы. А потым, сьхіліўшы да яго галаву, паснула сама.

# Глава 1: Кацярына

Перад імі стаяла напалоханае, заплаканае дзяўчо.

Кацярына ледзь ня падала з ног, і з апошніх сілаў трымалася, каб ізноў не зараўсьці ў голас, і не вядома, ад чаго больш - ад страху, ці ад сораму. Войцэх стаяў за ёй, гатовы падхапіць жонку, калі тая выраша ляснуцца на падлогу, як ужо было ва двары, калі Міхась разьвязаў вузельчык, і, ссунуўшы бровы, разглядаў бутэлечку.

Міхась, які сядзеў насупраць, глядзеў на яе строга, але ж ня злосна. Твар Летыцыі быў спачувальны, поўны жалю, бровы ўзьнятыя, быццам бы яна сама была гатовая заплакаць разам са сваёй магчымай забойцай.

- Як ты ўзяла гэта? – Войцэх проста крычэў, так, што яны вымушаны былі яго трымаць у абодзьвух: Міхась – ззаду, схапіўшы яго за рукі, а Летыцыя – сьпераду, пяшчотна гладзячы яго грудзі, заглядаючы ў вочы. Кацярына стаяла, прыціснуўшыся да вазку, і звар’яцела глядзела на іх, трымаючы ля грудзей сьціснутыя рукі, быццам бы маленькі звярок, трапіўшы ў пастку. Іеранім, крыху паводдаль, устрывожана назіраў за імі ўсімі, ня ведаючы, што яму рабіць. Кінуцца на дапамогу каханай ён ня мог, але ж і каб яе азьвярэлы муж забіў яе прама тут, перад усімі, таксама ня мог трываць. Што ён кахае гэтую малую дурніцу, ён зразумеў яшчэ ўчора, калі ляцеў на злом галавы да гаспадара, каб яго папярэдзіць.

Але ж хутка Міхась гэтую камедыю спыніў – няма чаго на двары перад усімі лямант рабіць. Вырашылі прайсьці ў маёнтак, у прыватныя пакоі, далей ад вачэй, і там правесьці допыт злачынцы, якая ішла за імі пакорліва, як баранак. Летыцыя крочыла ззаду, Войцэх вёў перад ёй жонку, крэпка трымаючы яе за плячо, а Міхась рухаўся наперадзе, раз-пораз абарочваючыся, і, ўзьняўшы бровы, аглядаючы кампанію. Не было зразумела, ці ён быў злы, ці яго душыў сьмех, але ж што камусьці мала не здасца, тое было відавочна.

Але ж калі прыйшлі ў пакой, і яны паселі па лавах і паставілі вінаватую пасярэдзіне, то стала зразумела, што допыт можа пераўтварыцца адначасова і ў пакараньне, да таго ж, сьмяротнае, бо Кацярына была белая, як нябожчыца, і ледзь дыхала ад жаху. Міхась выцягнуў на сярэдзіну стул, але ж яна на яго ня села, толькі схапілася рукамі за сьпінку. Войцэх заняў сваё месца мужа побач, і Міхась, узьняўшы ў знак увагі руку, распачаў сьледства.

- Ну што, даражэнькая? Раскажы ты нам усё з самага пачатку. Кажаш, жанчына старая ля дарогі стаяла? А потым што адбылося? Як вы яе заўважылі?

Кацярына нясьмела адказала:

- Спачатку мы голас пачулі. Нехта закрычэў у цемры, так, што коні аж на дыбцы паўсталі, я ледзь з вазку ня ўпала. Ды мяне Іеранім падхапіў, - чырванеючы, вымавіла яна.

- А што закрычэў? – пацікавіўся Міхась.

- Я ўжо ня памятаю. Кацярына паціснула плячыма. – Можа, ратуйце. А можа – дапамажыце. Лямант жаночы пачуўся. І тут жа жанчына да вазку скокнула. Мы яе ў тумане ня добра разбачылі, але ж было відна, што сялянка, кабета, не маладая і не старая, простая. Нічога асаблівага, на што б увагу зьвярнуць. Што б у вочы кінулася. Мы яе пашкадавалі, бо ж ноч, а яна стала плакаць, казала, штоісьці ня можа, а тут ноч, ваўкі.

- А куды яна хадзіла на ноч гледзячы, чаму праз лес ды поле ішла ў баку ад жытла ды гаспадаркі? Не запыталі? – пацікавіўся Міхась.

- Не, - прашаптала Кацярына. – Не запыталі.

- Ну што жа, я Іераніма запытаю… затое. Нібыта сам сабе вымавіў Міхась, і Летыцыя палажыла руку яму на плячо. – Не запыталі. Не здагадаліся. Добры ў цябе быў ахоўнік. Мыш не праскоча. Толькі вось Ганна прасьлізнула – такая сабе мыш не малая. Бяда. Міхась пакачаў галавой.

- Ну, добра. Працягвай. Што адбылося далей?

- Далей яна ў вазок пасела, а Іеранім паснуў, бо ж ківацца на козлах пачаў, ды храпець у голас, - успомніла Кацярына.

- Храпець. Міхась усьміхнуўся. – Ну, гэта ўжо лепей. Гэта ён добра прытварыўся. І што далей было?

- Далей яна, жанчына, стала розныя жахі казаць, я ўжо ня памятаю, якія. Вочы Кацярыны раптам ізноў сталі вільготнымі, твар – жаласным.

- Ну, тое вядома. Міхась крануў лоб рукой. Чараўнікі, ваўкалакі, мерцьвякі. Так, ці не?

- Так. Кацярына кіўнула.

- І што яшчэ яна табе распавяла? – Міхась строга глядзеў на яе.

- Яшчэ… ня памятаваю… раптам вымавіла яна. – Болей нічога. Усё у вачах зьмяшалася, на сэрцы млосна стала, у грудзях падпёрла, заціснула.

- Ты ўпэўнена, што болей нічога? Ня хлусіш ты мне, дзяўчынка мая? На імгненьне Міхась аб нечым задумаўся.

Раптам Кацярына рашуча пакачала галавой.

- Не, болей нічога, мосьць пане. Толькі гэта. А потым вузельчык працягнула. Кажа – падлі панне ў віно, і бягі, назад не глядзі. І маёнтак увесь пылам рассыпецца, і, прабачце, усе мерцьвякі на той сьвет сыдуць. Толькі муж мой жывым застанецца…, - ціха дадала яна, і нахіліла галаву.

- Я ня думала нічога рабіць, я сама ня ведаю, чаго яго ўзяла. Мне так страшна стала, я яе збаялася. Яна сама страшная, горш за мерцьвяка. У яе вочы вузкія, злыя, ваўчыныя, сама, здаецца, так і скочыць, так і схопіць.

- Гэтая можа. Міхась усьміхнуўся.

- Беднае дзяўчо, - вымавіў ён, зьвяртаючыся да Войцэха. Мне

ўсё зразумела. Добра, што Іеранім за імі прасачыў, ды ўсё наперад мне расказаў. Таму ня ведаю, караць яго, ці мілаваць. Ты дзяўчыну не ругай. Не чапай яе. Яна і так ледзь жывая. Ідзі, вязі яе дамоў. І каб заўтра да нас ізноў прыехалі. Я на яе ня крыўдую. У яго вусах хавалася вусьмешка. – З Ганнай і сапраўды жарты благія, яе і бывалыя ваяры пабойваліся. І сапраўды – чысты воўк. Ідзіце, мне з жонкай паразмаўляць трэба. Толькі глядзі, - працягнуў ён, зьвяртаючыся да Войцэха. – Не пакідай яе адну ні на імгненьне. А я адчуваю, трэба мне да Ганны наведацца. Самому, і з атрадам. Павязем мы яе ізноў сажаць на ланцуг.

Калі яна ня зьбегла, што малаверагодна, бо ж яе мае людзі вартуюць па ўсіх дарогах. Дарэчы, як яна ад іх усьлізнула? Ну, пэўна што ноч, туман згулялі ёй на руку. Але ж я зараз з’езжу сам.

З гэтымі словамі ён паўстаў, паціснуў Войцэху руку, пакуль той стаяў ні жывы ні мёртвы, то белы, то чырвоны, і сямейная пара накіравалася да дзьвярэй. Але ж не пасьпелі яны выйсьці за парог, як у пакоі, мінуя іх, уляцеў узрушаны рыцар.

- Мосьць пане! Бяда! Ваяры на лясной дароге пабітыя ляжаць. Вакол вёскі бойка была. Якіма няма, Ганны няма, усё мястэчка гудзіць. Мы мяняць іх паехалі, ды вось мяняць некага было. Толькі аднаго знайшлі, ды ён сказаў, што – татары, і тут жа сканаў.

Міхась разьвярнуўся да яго, працінаючы чорным вокам.

- Як – нікога? Дзе?

- Вакол Ганны і на дарозе. Мы далёка ў лес не заходзілі, і адразу сюды, далажыць. Што рабіць, мосьць пане? Назад імчэць? Можа, хто яшчэ ў лесе ёсьць. Нашыя, ці чужыя, - памарудзіўшы, адказаў ваяр.

- Ульвара пакліч сюды. І зьбірай людзей. Зараз я сам паеду.

- Войцэх, тут заставайцеся, - кінуў ён сябру. – Дарога дамоў вам пакуль закрытая. Тут яшчэ людзей шмат, ты – за галоўнага

будзеш. Кіруй покуль. Жанчын берагі. Схавайцеся ў пакоях. І калі што – у кляштар прабівайцеся. Да Раланда пашлі ганца, хай насустрач рушыць.

З гэтымі словамі ён на хаду апрануў праз галаву панцырную кашулю, накінуў жупан, і зьнік за дзьвярыма.

Кацярына, нарэшце, зрабіла тое, што намагалася зрабіць ужо добрых паў-гадзіны – зьнепрытомела. Летыцыя кінулася да яе. Войцэх падыйшоў да вакну, і стаў, палажыўшы руку на шаблю, ўстрывожана аглядаў навакольле. Праз хвіліну ў дзьверы пагрукалі – прыйшоў стары рыцар, за ім – некалькі чалавек.

Войцэх пакінуў іх тут, вартаваць унутраныя пакоі і вокны, і рашуча пакрочыў на двор, дзе ўжо зьбягаліся жаўнеры і слугі. Ізноў нешта адбываецца, міру, цішыні – і тыдня не прайшло.

Па дарозе ўжо далёка курэў пыл – Міхась з Ульварам і атрадам імчэў да вёскі, за якой была Якімава хата, і дзе адбылося страшэннае злачынства, аб якім казаў кіраўнік сьменнага атраду.

# Глава 2: Алекс

- Гасподзь прыйшоў да мяне. І ён плакаў.

- Чым магу я суцешыць цябе, Госпадзі? Але ж ён маўчаў. І толькі крывавыя сьлёзы беглі зь яго вачэй. А потым ён загаварыў. І голас яго быў ціхі, але ж ён працінаў мне сэрца.

- Дзяцей маіх укрыжоўваюць за мяне. Зямля мая ў агні. Зямля мая стогне, і сыходзіць крывёю. Там, дзе я нарадзіўся, зараз пануе пекла. Мае авечкі сталі ежай ваўкоў. Ваяры мае стогнуць у цёмных вязьніцах, паруганыя і зьнявечаныя. Мае цнатлівыя дзевы ля слупоў на кірмашах, пазбаўленыя адзеньня, прадаюцца побач з асьліцамі. Мае младзенцы застаюцца нехрышчонымі, і іх аддаюць на пацеху і службу сатане. Усё гэта адбываецца прама зараз. Як магу я ня плакаць, і не сыходзіць крывёю, і хто можа мяне суцешыць?

Чалавек захінуў твар рукой, і замаўчаў.

На тварах натоўпу зьявіліся сьлёзы. Уявіць адзінаверцаў, гандлюемых на ўсходніх кірмашах як быдла, гніючых у турэцкіх вязьніцах па сотні ў каморы на бруднай саломе без сьвету і паветра з глытком вады на ўсіх, якой нехапала ня толькі памыцца - крыху задаволіць смагу, было неяк непрыемна. Можна сказаць, што і сорамна.

Хтосьці з жанчынаў заплакаў. Хтосьці ў голас пачаў маліцца.

Алекс стаяў пасярод натоўпу разам зь некалькімі зь людзей Конрада, зь якімі ён басьцяўся па горадзе.

Вільгельм, Ражэ, Якаб, Лойка, Зігмунд, і чэх гэты, Янек. Хто там яшчэ?

Неблагія апынуліся хлопцы, вясёлыя. І, наогул, ня ўсё было так дрэнна, як ён сабе ўяўляў. Горад, дзе ён апынуўся, на мяжы Францыі і Германіі, у якім зараз адбывалася славутая

пропаведзь, прыцягнуў да сябе вялікія натоўпы. Людзі проста ішлі і ішлі. І што ж за дзіва такое? - падумалася Алексу. Не ўтрымаліся, пайшлі паслухаць і яны. Ішлі, можа, дзень, начавалі ў полі, жглі вогнішчы.

На золку дабраліся да Шпееру, куды ўжо раней прыбыў двор імператара. Конрад, сталы, крыху азызлы, але ж яшчэ дужы і крэпкі, праязджаў на высокім кані праз натоўп, які ўзрушана крычэў пры яго выглядзе. У гару ляцелі шапкі, кветкі падалі пад ногі коней. Народ Конрада любіў. Да таго ж, у горадзе шчодра раздавалі пітво і ежу, паўсюдна дымілі жароўні і патэльні, булькацелі катлы, а вясёлыя гаражанкі і сялянкі з бліжэйшых вёсак прапаноўвалі няхітрыя стравы, дамашняе віно, і ня толькі.

Алекс ужо крыху падпіў, і нават патрымаў за мяккае месца нейкую зграбную рудую дзяўчыну, а зь яго сяброў парачка Якуб зь Вільгельмам ужо ледзь стаяла на нагах.

Аднак усё неяк хутка скончылася, калі загаварыў гэты невысокі, худы чалавек. Ня малады, са спакутваным тварам, але ж прыгожы нейкай незвычайнай, узьнёслай прыгажосьцю, быццам бы вочы яго вылучалі сьвятло.

Здавалася, яго адзеньне хавала ня цела, а паветра, але ж калі ён загаварыў, яго голас быў уладным, ясным, чыстым, як толькі што адліты звон.

- Браты! - гучна вымавіў ён. - Браты ў Хрысьце! І ўзьняў над натоўпам рукі.

Людзі прыціхлі, чакалі.

Пасьля ўступу, які выклікаў сьлёзы ў самых чэрствых, Бернард адарваў рукі ад твару, і раптам апусьціўся на калені.

Загудзеўшы, людское мора апала ўніз разам зь ім.

- Госпадзі! Што магу зрабіць я, сьціплы слуга твой, каб аблегчыць твой боль, і ўратаваць тваіх баранкаў ад паруганьня і няволі? Хоць я - апошні сярод апошніх, сціплы са сьціплых, і

ўжо зьнясілены гадамі, скажы, і я ўзьніму твой крыж, і панясу яго туды, куды скажаш, хоць на Ўсход, хоць на Поўдзень. Калі трэба табе, я выступлю прама зараз, апрануты ў гэтае рубішча. Бо я веру, што сіла і слава твая са мною. Я пайду туды, дзе пакутуюць ваяры і дзевы, старыя і малыя, і панясу ім суцяшэньне Словам, якое - наймацнейшая зброя супраціў любога ворага Госпада нашага, што не аднойчы было засьведчана тваімі апосталамі і добрымі вестунамі, якія несьлі слова твае і крыж твой аж да самае сьмерці, і да парогу нябёсаў.

Бо ж Слову твайму няма перашкоды, няма прыпынку, як цякучай рацэ мнагаводнай, якая імчыць з гораў, пітаючы палі і паселішчы. Калі ж будзе яна перагароджана, то ўзьнімецца, і зь вялікаю моцай зьнясе ўсе дзёрскія перапоны, узьнятыя ў вар'яцтве ворагамі сьвятое веры.

Так і Слову твайму, ліючамуся праз мяне, ня будзе перашкоды, і змое яно ўвесь бруд і нечыстату, створаныя ворагам.

Так сказаў я, і ўпаў, і чакаў.

Бернард выпраміўся. І натоўп устаў разам зь ім. Напружаньне цішыні дасягнула свайго найвялікшага піку.

- І Гасподзь гаварыў са мной, - раптам гучна, няўяўна гучна для яго сьціплай постаці, вымавіў ён.

Па натоўпу прабегла хваля - крыкі, рыданьні, стогны.

- Што! Што сказаў табе Гасподзь Бог наш, шаноўны Бернард? Слова! Мы хочам чуць Слова Гасподне! - пачулася вакол.

- Гасподзь сказаў мне: "Ідзі, і гавары! Ідзі ў слаўныя гарады, у Парыж, і Рэймс, і Кёльн, і Дрезден, і Шпеер, і ўсюды аб'яўляй Слова маё і маю Волю!"

- І вось я тут, перад вамі, і Слова Госпада майго на маіх вуснах.

Натоўп заціх, і чакаў.

- Не я, сьціплы слуга яго, а сам Ён, Айцец наш нябёсны, гаворыць праз мяне. І ён, ён зараз кажа вам: “Дзеці мае! Ці

гатовы вы ісьці за мной? Ці гатовы вы ўзьняць мой крыж? Узяць, і панесьці яго, як я нёс яго на месца свайго укрыжаваньня? Ізноў я панясу яго разам з вамі! Я сам гатовы ісьці туды, дзе пакутуюць хрысьціянскія душы. І калі хоць адзін з вас будзе гатовы пайсьці са мной, я пайду зь ім побач. Калі ж ні воднага з вас ня пойдзе у зямлю маю, я пайду туды адзін. Пайду да дзяцей маіх, і панясу ім суцяшэньне". Так сказаў мне Гасподзь, і я тут, как абвесьціць вам Яго Слова. Прама зараз Гасподзь заве вас пайсьці разам з ім. Хто адмовіць Госпаду нашаму, укрыжаванаму за нас, адданаму на пакуты? Ня крыж чакае вас, а нябёсная слава! І самая грэшная, самая сьціплая душа, пакутуючая пад цяжарам граху, якая зараз горка плача над сваёй убогасьцю, можа пайсьці, і панесьці гэты крыж разам з Госпадам, і ўзьняцца разам зь ім у палацы нябёснае славы. Гасподзь прызывае вас – хто адмовіць яму? Слухайте голас яго, слухайце яго ў сваім сэрцы. Што такога ёсьць у вас, што ня стоіць таго, каб аддаць яго дзеля Госпада? Што трымаеце вы. Якія нябёсныя скарбы, што яны даражэй за Айца вашага? За яго міласьць, яго любоў, адвечнасьць, якую вы правядзеце зь ім разам. Прама зараз нябёсны жаніх запрашае сваю нявесту – душу - на яго ложак. Ён – творца. Ён – суцяшальнік. Ён – аддаўшы за вас жыцьцё.

Ён стаіць перад вамі і моліць вас, ён уладна кліча вас, як вялікі кароль, зьзяючы ў славе, ён запрашае вас уступіць у яго сьвятое воінства.

Ці ж ёсьць такія, хто настолькі амярцьвелі душой, што не адгукнуцца?

Здавалася, сілы пакідаюць Бернарда, у вачах яго стаялі сьлёзы.

- Паглядзіце на сябе, хто вы. Задумайцеся. Што вы баецёся згубіць? За што трымаецеся? За грахі? За бруд? Грошы? Жарсьці? Ці ж ёсьць у вас такая любоў, якая больш, чым любоў да Яго? Кім вы пойдзеце зараз дамоў? Адмовіўшыя Госпаду свайму? О, я веру, што такіх сярод вас ня знойдзецца. Прама зараз я бачу прыўкрасныя, поўныя любві твары. Я бачу сьлёзы на вашых вачах. Я адчуваю подых адвечнага жыцьця на вашых вуснах. І маё сэрца адчувае вашую прагу – прагу нябёснай любві, такой, якой у целым сьвеце ня мела ні водная душа, і ня

будзе мець. Бо такая любоў ёсьць толькі ў Госпада нашага.

Воіны! Рыцары! Браты! Кроў ад крові і плоць ад плоці, зьяднаная з Хрыстовым целам! Явіце паганскаму сьвету веліч і моц хрысьціянскае душы. Узьніміце высока Сьвяты Крыж, і трымайце яго моцнымі рукамі, бо там, дзе аслабнуць адны рукі, з'явіцца іх тысяча! Там, дзе адзін з нашых братоў трапіў у вязьніцу, і быў пакутніцкі забіты, на яго месца заступіць дзесяцера, сто ваяроў. Туды, дзе плача адна гаротная душа, прыдуць дзеля яе вызваленя сто душаў! Я веру ў вас, кажа вам Гасподзь Бог Ваш, Пан, укрыжаваны дзеля вас, Пан, панесшы пакуты дзеля вас. Пазбавім жа Сьвятую Зямлю нашую сатаны і слуг яго! Вызвалім нашых пакутуючых братоў! Хто прама зараз гатоў выкупіць свае грахі дзеля любві Госпада? Той, хто зараз адкажа мне “так”, бласлаўлёны будзе ў век, і міласьць Гасподня да будзе зь ім з гэтага моманту, і назаўсёды. Няма такога грэшніка, які зараз ня будзе прабачаны. Няма такога граху, які зараз ня будзе ачышчаны. Няма той мары, таго гарачага жаданьня, якое ня будзе зараз зьдзейсьнена дзеля Госпада. Прама зараз ён працягвае вам руку! Вазьміце яе, і трымайце крэпка, і ідзіце за ім! Хто гатовы? Хто пойдзе зь Ім разам? Хто амые раны яго, вылечыць язвы яго, хто панясе Яго крыж разам зь ім?

- Я. Раптам Алекс не пазнаў свой голас. – Я пайду, - гучна крыкнуў ён, узьняўшы руку, сьціснутую ў кулак. Яго сябры са страхам і захапленьнем глядзелі на яго. Нечая рука хлопнула яго па плячы. Натоўп узбуджана зароў на многія тысячы глотак.

- Я пайду, бо мне няма чаго губляць, - выкрыкнуў ён, і натоўп ізноў заціх. – Я – грэшнік, слухайце, маім грахам няма ліку. Я забіваў, я зьняважыў жанчыну, якую кахаў больш за жыцьцё. Я піў, гуляў, прагульваў грошы. Я забыў пра Бога. Але ж Ён не забыўся пра мяне, - гучна выкрыкнуў ён. – І цяпер я – тут! Слава Госпаду!

- Слава Госпаду! – падхапіў натоўп.

- Хто са мною? – яшчэ гучней, гучней нават за Бернарда крыкнуў ён. – Мы! – раздаліся крыкі мноства галасоў. – Прама зараз! Мы пойдзем прама зараз!

- Здабудзем царства нябёснае! За нябёсным царствам! Нябёсы чакаюць! Caelum denique! – раздавалася вакол. Алекс адчуваў сябе харызматычным франт-мэнам, кумірам, рок-зоркай. Уся ўвага была скіраваная на яго, і, здаецца, нарэшце ён зрабіў нешта добрае. Яго хвіліна славы. Яго хлопалі па плячах, хацелі дакрануцца да яго, і каб не сябры, то б, напэўна, парвалі на кавалкі. Ледзь прабіўшыся праз натоўп, яны адышлі ў бок плошчы. Бернард яшчэ нешта казаў, натоўп узрушана, радасна роў. А потым Алекс са зьдзіўленьнем убачыў, як ад яго ў розныя куты і правулкі пацяклі стройныя, арганізаваныя ручайкі.

- На Ерузалем! Вызвалім сьвятую зямлю! Ідзем прама зараз! – чулася вакол.

- Яны што, прама адсюль і накіруюцца? – ён ня верыў сваім вачам і вушам.

- А што, - пацiснуў плячыма Ражэ. – Чаму не? Чаго чакаць, што губляць? Шлях у царства нябёснае адкрыты – глядзі, нам сьпяваюць анёлы! Па яго шчоках беглі буйныя сьлёзы, і на імгненьне Алекс яму паверыў.

Праз некалькі дзён яны выступілі ў паход арганізавана, у саставе войска імператара Конрада – узброеныя, апранутыя, на добрых конях, стройнымі калёнамі. Ля дарогі, па якой яны ехалі, цягнуліся сотні, тысячы небарак – ішлі за імі. Ішлі на Ўсход, вызваляць зямлю Госпада Бога нашага Пана Езуса, і няшчасных, пакутуючых у заточаньні ў вязьніцах.

- Вар'яцтва. Яны ж усе загінуць! Алекса прабіраў халодны пот, ня гледзячы на сьпякотны дзень. – Ні ежы, ні піцьця, ні адзеньня, ні зброі ў іх няма – толькі вера. Але ж ці выратуе яна іх? Ці дойдуць яны хоць да мора, ня кажучы ўжо пра пераправу? А як яны будуць біцца? Туркі ж парэжуць іх, як баранаў. Што я нарабіў? – з жахам думаў ён. – Што мы з Бернардам нарабілі? Ці ж прабачыцца нам гэты грэх, Госпадзі? Раптам ён зразумеў, што зьвяртаецца да Яго. Зьвяртаецца так проста, быццам бы гэта быў яго сябар, ці бацька, ці Ён крочыў зь ім тут, побач. І раптам ён адчуў моцную руку на сваім плячы, якая нібыта накіроўвала яго, падтрымліваючы. Сьлёзы самі пацяклі зь яго вачэй. Ён болей ня быў адзін. Зь ім быў Бог. Яго Бог. Яго

ўласны, любячы яго, той, які памёр за яго, Алекса. І Ён, гэты Бог, крочыў зараз побач з кожным, хто ехаў, ці ішоў па гэтай дарозе. Раптам Алексу здалося, што ён яго ведае, бачыць, ён наяўна ўяўляў Яго твар, твар гэтага крочучага побач Бога-чалавека. І раптам ён садрыгнуўся ад нечаканасьці. Побач зь ім, на кані, трымаючы вялікай рукой лейцы, ехаў Міхась. Яго чорныя валасы варушыў вецер, вочы глядзелі наперад, туды, дзе над дарогай паўставала ранішняе сонца. Ён прама сядзеў у сядле, і ехаў лёгка, радасна. У ім не было страху. Ён нічога не баяўся, і нічога не чакаў. Проста насалоджваўся ранкам, сонцам, будучым днём, і тым вялікім, хто панаваў зараз у ім. Кім быў ён сам. Нібыта адчуўшы Алексаў позірк, ён павярнуў твар, і ўсьміхнуўся яму. І ўзьняў руку над вачыма ў прыветным жэсьце. Ня думаючы, Алекс адказаў яму. Сябры глядзелі на яго з жахам. Ён размаўляў сам з сабой і вітаў рукой пустату ля краю дарогі. Хутка пра яго пайшлі чуткі як пра блажэннага, які размаўляе з анёламі і бачыць Бога. Ды яму было ўсё роўна. Яму даўно ўжо было ўсё роўна. Акрамя яе. І яна не сыходзіла, а паўставала перад яго вачыма ўсё ярчэй і ярчэй. Яна глядзела на яго, а побач ехаў Ён, Бог, і Алексу было гэтага дастаткова.

# Глава 3: Чалавек са схаваным тварам

- Не пайду ў няволю маскоўскую! – цяжкі кулак апусьціўся на стол побач з напоўненым кубкам, і віно пралілося, як кроў.

Чалавек са схаваным тварам у паўабарота сядзеў ля сталу, і глядзеў некуды перад сабой.

- Чаму ты не жадаеш зразумець тое, што даўно ўжо зразумелі многія. І што даўно зразумеў я. За Масквой ляжаць незьлічоныя багацьці. Зрабі туды крок, і ты будзеш валодаць усім. Усім сьветам. Непамерныя скарбы, лясы, поўныя зьвяроў, рэкі і вазёры, поўныя рыбы. Вялікая, неабсяжная зямля. Горы, стэпы, мора – усё гэта будзе нашым. Трэба толькі зрабіць крок, і працягнуць руку. І ўзяць усё гэта. Ну і што, што цар. Цар міласьцівы. І ён шчодра адорвае тых, хто яму прысягне на вернасьць. Пахіліся цару, і ідзі – ўладар самаўласна. На такіх далёкіх землях, што ні рука ні дасягне, ні царскае вока цябе ня ўбачыць. За сьпіною і рукамі маскавітаў мы заваюем усіх. І перш за ўсё, мы ачысьцім гэтую зямлю ад сьхізматыкаў з Рыму. Сьвятая Русь праваслаўная ізноў заступіць тут у свае правы. За сьпіной Масквы – татары, а манголы цяпер слабыя, і хутка і яны лягуць пад маскоўскую длань. Мы ўсталюем трэці Рым, а Рым другі будзе прасіць у нас права на існаваньне. Ты разумееш, ад якіх багацьцяў адмаўляешся? Што губляеш? Мне казалі, што ты – славуты рыцар. І што ў цябе ёсьць грошы, і ёсьць розум. Можа, грошы ў цябе і ёсьць, але ж розум, як я бачу, недзе згубіўся. Мо, патануў у віне?

Незнаёмец засьмяяўся.

Міхась узьняў цяжкую галаву, і чалавек убачыў яго твар.

- Розум? – словы, важкія, падалі зь яго вуснаў. – Розум я яшчэ не прапіў. Але ж мой розум адрозьніваецца ад твайго. Мяркую, што ты не зразумееш яго, і прымеш яго за вар’яцтва. Бо ж для мяне ня маюць значэньня грошы. У мяне іх часта было і дужа

багата, і не было зусім. Я ўжо і забыў, што такое – лічыць грошы. Ён дастаў з кішэню прыгаршню манет, і кінуў іх перад сабой на стол.

- Хочаш – лічы. Хочаш – бяры. Таму, так, розуму на твой погляд у мяне няма. Але ж у мяне ёсьць нешта, чаго няма ў цябе.

Годнасьць. Ці ты чуў пра такое, пёс? Пёс, гатовы служыць за вялікую костку такі ж самы, як і той, хто гатовы служыць за страх. Ты баішся, Швітрігайлас. Ці ты страціў сваё сапраўднае імя, надзеўшы маскоўскі хамут? Праз страх ты прыйшоў сюды, да мяне. Праз страх ты зараз намагаешся сьхіліць мяне у ярмо. Але ж ты забыўся, хто я. Так, я хрысьціўся, і я веру ў Бога адзінага, Айца неба і зямлі, і ў Сына яго, адзінанароджанага. Але ж веру я як вольны чалавек. Не як раб. Не як халоп. Бо першае, што дараваў нам Сын чалавечы – гэта воля. Воля ад улады кесара, і ад улады граху. На маёй зямлі няма нікого вышэй за Бога, здраднік. Ні князі, ні каралі не вышэй за Бога і яго сьвятую царкву, якая ўсталявалася ў Рыме. Сапраўдным Рыме, амытым крывёю пакутнікаў. Няма нікога вышэй за Хрыста, чуеш? Бо на сваім крыжы ён узьняўся надта высока, куды ня дасягне нават і маскоўскі цар. Хвалі ардынцаў і іньшых – проста брудная вада ля яго ўзножжа. І толькі перад гэтым царом я сьхіляюся да самае зямлі. Астатнія ж цары, каралі ды князі – мае кроўныя браты, калі яны адзінай са мною веры, і дрэвы, годныя пайсьці пад тапор і зьгінуць у агні, калі яны пасягнуць на яе. Веры маскоўскае я кранаць ня буду, бо ж хрысьціянства на тых землях цяжка стогне, спакутаванае і пад ардой і пад царскім ярмом. Няма ў вас Хрыста. Хрыстос не хадзіў у золаце, не ламаў шапку, і ня вымушаў яму кланяцца ў пояс ды падаць пад ногі. Ардынскае семя глыбока ўвайшло ў маскавіцкую кроў. Стагоддзі яно прарастала, і вось – дало плод. Такі, што стогне ўсё вакол. І яшчэ шмат год будзе стагнаць, бо Масква набірае моц. Але ж ведай, і данясі туды, сваім гаспадарам, што літоўскае зямлі ім ня ўзяць, пакуль на ёй будуць жыць такія людзі, як я. У якіх Бог стаіць перад царом, а годнасьць – перад угодлівасьцю. І сэрца – перад розумам. Розум – прытулак д’ябла, у той час як сэрца – прытулак Пана Бога. Бо зло нараджаецца ў думках, у той час як сэрца ніколі не падмане. І я ведаю, што зараз тваё сэрца дрыжыць, і плача, як

згвалтаваная жанчына, якую ты прамяняў на маскоўскі кашэль. Незайздросны твой лёс, Сьвідрыгайла, - з прыкрасьцю вымавіў ён. Лёс валачашчага пса. Ты страціш усё, і будзеш блукаць, ня маючы кута, дзе б прыхіліць галаву.

Ён глядзеў на схаваную постаць, ссунуўшы бровы, яго вочы наліліся крывёю, валасы ўпалі на лоб, бо ж ён надта многа выпіў. Але ж розум яго быў ясным, як ніколі.

- Таму – ты дарма прыйшоў. І дарма забіў маіх людзей. Але ж я не крану цябе, бо ў цябе цячэ княская кроў, кроў роду Кейстута – славутага, годнага роду. Ты – здраднік і сабака і для рускіх князёў, якія не скарыліся ардынскае няволі. І ня прымуць няволі маскоўскай. Прэч! Прэч ідзі, і болей мне не пападайся на вочы. Бо ж цёмнай ноччу ў бойцы я магу і не заўважыць княскага гербу. І тады ты будзеш проста целам на корм ваўкоў ды крумкачоў.

- Многа словаў, Чорны. Многа гаворыш. Многа п’еш. Незнаёмец, не запытвая, узяў, і наліў сабе кубак. – Ды я ня крыўдую. Ня хочаш па-добраму, будзе па-благому. Гатоўся да агню на тваёй зямлі. Агню вялікага. Такога, што зжарэ тут усё і ўсіх бяз рэштку. Ня хочаш скарыцца – што ж. Я прыйду сюды па попелу. Які добра ўгнойвае зямлю. Кроў ды попел – адзінае, што застанецца ад вашых гарадоў. У Масквы няма ворагаў. Жывых. Толькі тыя, хто калісьці імі былі. Ды пераўтварыліся ў цені. Нават памяці не засталося. Бо ж Масква руйнуе і памяць. Вы ня ведаеце, зь кім вы зьвязваецеся. Маскоўскі цар бязьлітасны, і войскі яго незьлічоныя. Навала, якая на вас абрынецца, - о, вы такой яшчэ ня бачылі.

- Бачылі. Міхась ададвінуў кубак, і ўстаў. – А войскі мы зьлічым. Па галовах. Калі яны ўжо ня будуць варушыцца, бо ж так – зручнее. Я цябе папярэдзіў. Калі табе лепей няволя, справа твая. З гэтага часу ты – вораг. А з ворагам у мяне размова кароткая. Так што давай сконьчым гэтую гаворку, бязвыніковую для нас абодзьвух. Я цябе не крану, бо ж абяцаў. А ты зараз зьнікнеш з маіх вачэй, як цябе й не было. А калі з’явішся, то цябе сустрэне мой меч. Бо ж узьняўшы меч ад мяча і загіне. А ўзьняўшы меч на брата будзе пракляты на вякі адвечныя.

Постаць паўстала. Чалавек быў таксама высокі, вялікі, шырокі. Доўгія сьветлыя вусы, афарбаваныя віном, зьвешваліся з-пад капюшону, пад якім хаваўся жалезны шлем, закрываючы вочы.

Вусы зашавяліліся, і абранілі:

- Меч сустрэне цябе. І ты мне ня брат. Ты проста перашкода на маім шляху. На нашым шляху. Я прыйду сюды з татарамі і русінамі, і выжгу ўсе твае вёскі і гарады. Ты яшчэ не зразумеў, што Масква робіць з тымі, хто стаіць у яе на дарозе.

З гэтымі словамі Сьвідрыгайла разьвярнуўся, і выйшаў за парог. Гучна грукнулі дзьверы, і Міхась апусьціўся на лаву. Перад ім быў толькі стол, заліты віном, і яго цяжкія думкі.

Раптам лёгкая рука лягла яму на плячо, пагладзіла шчаку. Доўгія мяккія валасы кранулі твар. Ён пачуў знаёмы пах – ружовы, салодкі. Пагладзіў яе кісьць, і прыціснуўся да яе шчакой.

- Каханы мой, ужо позна. Што гэта быў за чалавек? – ціха запытала яна.

- Гэта быў здраднік, любая. Той, хто прадаў радзіму за маскоўскія грошы. Намагаўся патаргавацца і са мной, але ж нічога не атрымалася. Ён цяжка паўстаў, апёршыся аб стол. Яго зьлёгку хістала. Горкі час, непакойны час, час вайны паміж братамі. Калі брат ідзе на брата, што можа быць горш? Калі адзін вернік забівае другога, калі ліецца кроў хрысьціянская? Навошта гэта ўсё? Але ж Арда расьце, як лішай, зжырае ўсё на сваім шляху. Прарастае ў вумах і душах атрутнай патравай.

- Пайшлі адпачываць, каханая, - вымавіў ён, абняўшы яе за плечы. Ад яго пахла віном, і яго рука на яе плячы была цяжкая. Чорныя зблытаныя валасы захіналі яго твар, вочы блішчэлі з-пад нізка пасунутых броваў. Яна з трывогай аглядала яго, яе сьветлы воблік праз чырванаваты паўзмрок лаёвых сьвечаў выглядаў для яго быццам бы прызрачным, як праз празрыстую тоўшчу вады.

Як яму хацелася страхнуць гэты морак, морак з душы і розуму.

Раптам ён прыцягнуў яе да сябе, моцна сьціснуўшы. Яго рукі вакол яе цела былі нібыта жалезныя, твар апынуўся блізка-блізка ад яе, насупраць яе твару. Яна пагладзіла яго шчаку. Яе маленькая рука была мяккай, лёгкай, прахалоднай.

Яе цела ап'яняла яго горш за віно.

- Хачу цябе, - раптам вымавіў ён. І падхапіў яе на рукі. Хістаючыся, панёс яе ў пакой.

Яго рукі абдымалі яе, як стальныя абручы – крэпкія, моцныя. Шырокія грудзі ўзьнімаліся, іх пакрываў пот. Яго кашуля на грудзях была мокрай, і ад яго рэзка пахла віном, дымам, і потам. Яна нічога не магла б зрабіць зь ім, калі б і хацела. Не было ніякага шансу вырвацца ад яго, трапіць назад на зямлю. Але ж яна не хацела вырывацца. Яна ахапіла яго шыю, і прыціснулася да яго грудзей. Калі ён хоча яе, хай так і будзе. Яна сама хацела яго. Хацела яго заўсёды, разумела яна. Ён амаль не адчуваў на руках яе вагі, пакуль нёс яе праз доўгія калідоры. Нехта трапіўся на дарозе, хтосьці са слугаў, і ён проста адштурхнуў яго нагой.

- Сам жа потым пашкадуе, - падумалася ёй. І прабачэньня будзе прасіць, і грошаў дасьць. Але ж зараз пану на дарозе было лепей не пападацца.

І усё ж, ёй падабалася, як ён нясе яе, як хістаецца, як цяжка дыша ад накрываючай яго жарсьці.

Неяк ён адчыніў дзьверы, а можа, яны ўжо былі расчынены – пінок пад дупу ўказаў накірунак.

Ён асьцярожна ўнёс яе ў пакой, і апусьціў на падлогу. Нахінуўся да яе, і яго вусны прыціснуліся да яе губ. Яго рукі накрылі яе грудзі пад сарочкай, і яна адчула, як ён хоча яе, прыціскаючыся да яго цела. Хмель ужо пачынаў адпускаць яго, але ж ногі, здаецца, ня слухаліся. Ён апусьціўся ў крэсла, і яна стала на калені перад ім, прыціскаючыся ілбом да яго рукі.

- Ты стаміўся, каханы, - прашаптала яна. – Адпачні. Вакол няма нічога, акрамя нас, і нашай любові. Сьвет раптам сьціснуўся ў

маленькі цьмяны шарык, і зьнік у бясконцасьці. І ён адкінуўся на сьпінку, і аддаўся яе пяшчотным рукам і вуснам.

Яна цалавала стыгматы на яго руках, бачныя толькі ёй. Яе мяккія губы пяшчотна краналі яго скуру, грубую, цёмную, пасечаную. Яна не магла адарвацца ад яго рук, яго кісьцей, далоняў, пальцаў. Як яна любіла яго, яго рукі, любіла яго ўсяго. Ён для яе быў нейкім цудам, якім, яна ведала, была для яго і яна. Яна вывучала кожны след на яго руце, кожную драпіну, яго рукі загрубелі ад зброі, і яго далоні былі жорсткімі. Але ж як пяшчотна яны краналі яе!

Ён сядзеў, прыкрыўшы вочы, і аддаваўся ласцы яе вуснаў, якія порхалі па яго скуры, нібыта матылькі. Там жа, дзе яна адчувала рану, яе вусны затрымліваліся, прыціскаліся да скуры, і яна абмірала, ня ў сілах суцішыць боль, які перапаўняў яе сэрца.

Яго моцныя рукі ўзьнялі яе з каленаў, і яна прыціснулася да яго грудзей, ахапіла шыю. На яго грудзях яна адчувала сябе птушанём пад крылом вялікага арла.

Ён дакрануўся вуснамі да яе валасоў, пагладзіў сьпіну.

- Памятаешь, як ты кахаў мяне ў дзяцінстве? - ціха прашаптала яна.

- Памятаю, любая. Ён прыціснуў яе да сябе шчыльней.

- Чаму ты закрыў партал? - раптам запытала яна, і ўзьняла вочы. А потым ізноў схавала твар у яго на плячы.

- Таму што ён больш не патрэбны, сонейка, - адказаў ён, пяшчотна дакранаючыся губамі да яе вуснаў. - І да таго ж, я нікуды цябе не адпушчу. Ты застанешся тут, са мною, назаўсёды.

- Аб большым я не магла і марыць, - прашаптала яна. - Гэта маё найвялікшае шчасьце, быць побач з табою, любы мой.

- Пакахай мяне, як тады. Як дзеву Марыю, - папрасіла яна, і

закрыла вочы.

Ён нахінуўся, і мякка сьціснуў вуснамі яе ружовы сасок. Яе рукі ляглі яму на шыю.

- Віно і вада жыцьця, і кроў, і лёс чалавекаў - усё ў табе, каханая, ціха вымавіў ён, і яго вусны накрылі яе губы, а рукі ўладна ахапілі яе цела.

Ён сьціскваў вуснамі яе саскі, і пакрываў пацалункамі ўсю яе, і яна стагнала пад яго гарачымі губамі.

У сьвеце нічога і нікога не было акрамя іх.

Яе цела раскрывалася перад ім, мяккае, бязвольнае, даверлівае. Яна трымцела ад жарсьці ў яго руках, аддаючы яму ўсю сябе, поўнасьцю скараючыся яго волі і яго ўладзе. Яна аб'ядноўвалася зь ім, прыціскалася да яго, напаўняючы яго сабою, а ён сабою напаўняў яе.

- Я хачу ўвабраць цябе поўнасьцю, увайсьці ў цябе, і каб ты ўвайшоў у мяне, хачу стаць хлебам тваім і плоцьцю і кроўю, і подыхам жыцьця твайго. Служы на алтары майго цела, на якім няма нічога нячыстага, бо ўсё на ім асьвячаецца праз тваё каханьне.

Укрыжуй мяне на сваім крыжы, узьнімі мяне, і апусьці мяне, раствары мяне ў сабе, прычасьці мяне сваёю плоцьцю і крывёю. Вазьмі цела маё і пераўтвары яго, агалі маю душу, якая прагне тваіх вуснаў больш за цела. Подых жыцьця ўдыхні ў мяне, праціні мяне поўнасьцю, увайдзі ў мяне са сваёй боскасьцю, і моцай, і велічу. Умаліся да мяне, і ўзьнімі мяне. Згвалці маё цела, але ж высвабадзі душу. Ці ёсьць асалода большая, чым зьліцьцё з табою? Цела маё прагне душы тваёй, па вобразу яе сатворанае, каб узьняцца.

Так казала яна яму, і ён убіраў яе словы, і вяртаў іх ёй як прычасьце са сваіх вуснаў.

Яго цела прыціскалася да яе цела, магутнае, вялікае. Яна хацела ведаць кожную яго часьцінку, спазнаць кожны кавалачак

яго плоці, а ён жадаў узяць яе ўсю, ад верху і да нізу, ад валасоў да стопаў, ад шыі, грудзей, улоньня, і да коньчыкаў пальцаў. Не было такога месца на яе целе, да якога б не дакрануліся яго вусны, якое б не было ачышчана праз яго каханьне. Яна нахілялася над ім і бачыла яго твар, і шырокія бровы, ссунутыя, якія зараз разгладзіліся, чорныя валасы раськідаліся па падушцы, і яна кранала вуснамі яго лоб і бровы, і вусны, і шчокі, і вочы, і яго прыгожыя губы асьвятляла вусьмешка. Яго плоць уваходзіла ў яе, і яна рухалася на ім, ускрыкваючы, усё хутчэй і хутчэй, і яго рукі сьцісквалі яе сьцёгны, вымушаючы яе ўзьнімацца разам зь ім туды, дзе не было нічога, акрамя ускрыкаў, стогнаў і іх цяжкога дыханьня.

Ён валодаў ёй поўнасьцю, і рабіў зь ёй усё па воле сваёй, паглыбляючыся праз цела ў яе душу. Здавалася, у ёй не было межаў, і ён мог уваходзіць у яе так глыбока, як ён жадаў.

З кожным яго рухам ён адчуваў, як расьце, расшыраецца яго плоць, як яна раздьвігае яе ўлоньне, рассоўвае яго, уваходзіць усё далей і глыбей у яе цела. Яго меч уваходзіў у яе ножны і выходзіў зь іх, і ізноў уваходзіў, мацней і ўсё больш жорстка з кожным яе ўскрыкам, паражаючы яе цела, якое сатрасалася ад яго ўдараў. Ён кахаў яе, і яго сэрца разрывалася ад пяшчоты, але ж калі ён браў яе, ён пераўтвараўся ў зьвяра, бязьлітаснага, прагнучага яе, і найбольшую асалоду дастаўляла яму менавіта ўтаймаваньне гэтага зьвяра, яго жывёльнай прыроды, над якой ён узьнімаўся, і якую пераўтвараў і ўзвышаў. У яго руках зьвер набываў чалавечае аблічча, нібыта нараджаўся ізноў у новым чалавечым целе. Ён жа нараджаўся пры гэтым у целе духоўным.

Як тады, калі ён узяў яе ў закінутай хаціне, і зразумеў, што гэта - назаўсёды. І гэта было і страшна, і радасна.

Віно давала сябе знаць, і яму здавалася, што яго жарсьць была бясконцай. Здаецца, не было мяжы і меры ў асалодзе, якую ён мог дасягнуць зь ёй, і жаданьне выліцца ў яе зводзіла яго з розуму.

Ён нахіліўся над ёй, прыціснуў яе ногі да грудзей, і ўваходзіў і ўваходзіў у яе цела, вар’яцеючы ад яе ўскрыкаў, забываючыся на самога сябе, пераўтвараючыся ў суцэльнае жаданьне браць і

браць яе, адчуваючы, як яе ўлоньне сьцісквае яго чэлес, як трымціць пад ім яе пяшчотнае цела. Яму хацелася ўвайсьці ў яе так глыбока, каб ніколі не раз’ядноўвацца зь ёй, і выходзіць зь яе для яго было мукай. Нарэшце, яго ўзбуджане дасягнула найвышэйшай кропкі, і ён выліўся ў яе, адчуваючы, як зь яго да яе перацякае палова яго душы.

Ён ляжаў побач зь ёй, і цалаваў яе плечы і шыю. Яго цяжкая рука ляжала на ёй, і яна ня ськідвала яе, не ўбірала, накрыўшы далоньню.

- Выбачай мяне, сонейка, - вымавіў ён, прыціскаючыся да яе тварам.

- За што, каханы? – ціха вымавіла яна, абдымаючы яго галаву.

- За тое, што п’яны. За ўсё. Як ты мяне такога трываеш? Яго рукі крэпка сьцісквалі яе, вялікія, моцныя і такія пяшчотныя, калі яны дакраналіся да яе цела.

Яна нябачна для яго ўсьміхнулася, і кранула вуснамі яго валасы.

- Выбачаю. Я цябе кахаю любога. Гэта нічога ня зьменіць, мой любы. Яго губы знайшлі яе вусны, разьдзьвінулі іх, ён прасунуў язык ёй у рот, адчуваючы смак яе языка, яе вільгаць там, і яго галава ізноў закружылася. Яна ўздыхнула.

Ён ледзь адарваўся ад яе, і яны проста ляжалі ў абдымках – яе галава ў яго на плячы, ён абдымаў яе зьверху.

- Пью, пью, і ніяк не магу спыніцца, - з больлю вымавіў ён, прыціскаючы яе да сябе.

- З таго дню, калі іх усіх ўбачыў. Там, каля Якімавай хаціны, і на дарозе, і ў лесе – усюды целы. Каб я ведаў, што гэта адбудзецца. Але ж колькі часу прайшло – усё было ціха. Іх жа ж ня шмат было – так, вартавыя, дазор.

Яго голас стаў глухім, хрыплым. Яна моцна сьціснула яго, і ёй здалося, што ў яго голасе яна чуе сьлёзы.

- Ня робяць тое людзі, так ня робяць. Яны ж горш за татараў, горш за паганцаў. Парубілі, тое зразумела. Але ж навошта зьдзеквацца? Якіма мы знайшлі. Ён замаўчаў. А потым зь цяжкасьцю вымавіў.

- Далёка. І ізноў замаўчаў.

- Не магу. Ён на чалавека пахож ня быў. Увесь абадраны, у крыві, зямлі, рукі выламаныя, ногі паламаныя, грудзі разьбітыя, быццам бы хто яго таптаў. І, ты ведаеш, жывы. Разумееш, ён быў жывы яшчэ.

Ён нахінуўся над ёй, яго вочы блішчэлі, і яны былі зусім вар’яцкімі. У іх стаялі сьлёзы, жах і нянавісьць. Страшная, якой яна яшчэ ніколі ня бачыла.

Яна гладзіла яго шчокі, скроні, цалавала яго плечы, і паступова ён супакойваўся.

- Жывы, сонейка. Ён гаварыць ня мог, толькі хрыпеў, але ж неяк здолеў, і назваў мне імя.

Той, каго вызвалілі зь Вітаўтавай вязьніцы. Падманам бязьлітасна забілі тых, хто давяраў ім. Абыходзіўся зь імі, як зь людзьмі. Ненавіджу. Ненавіджу яго. Ненавіджу іх. Ён уткнуўся тварам у яе плячо.

- Тое ня людзі. Ваўкі. Горш за ваўкоў. Тое скоты без радзімы, стыду і сумленьня. А скотаў мы будзем біць. І гнаць прэч з нашае зямлі, любая. Ты разумееш, ён прыйшоў да мяне? Ён, скаціна, размаўляць са мной прыйшоў. Пасьля таго, як забіў, зьнявечыў маіх людзей, конямі паразрываў. Ён думае, што я павядуся на грошы. Што грошы вырашаюць усё. Не, ня так. Грошы нічога не вырашаюць. Нічога ня значаць. За грошы прадаецца і чэсьць, і сумленьне. Але ж ёсьць тое, што за грошы ня купіш. Гэта – душа, мая любая. І любоў. Да Радзімы любоў, да сваіх людзей, да дома, да цябе, да дзяцей, да старых, да кожнага, хто бароніць гэтую зямлю, хто жыве на ёй, пакутуе на ёй. І хто не прадаўся, сонейка. Бо ж здраднікам ня будзе ні прабачэньня, ні паратунку. Дарма ён мяне закрануў, вой, дарма. Вялікае полымя будзе гарэць. Блага будзе, я адчуваю.

Але ж трэба стрываць. Трэба сабрацца. Трэба нам выстаяць. Не аддаць нашае зямлі ворагу, нашчадкам арды. Як бы я хацеў зьехаць з табой куды-небудзь. У Італію, да мора. Сонейка маё. Ён схаваў твар у яе валасах.

Але ж, прабач, не магу. Няможна тое. Няможна пакінуць радзіму. Гэтым яе кінуць? Хай уладараць? Ня будзе тут ні масковіі, ні татарыі. Будзе гэта чыстая, хрысьціянская зямля. Сьвятая. Для мяне сьвятая. Разумееш?

- Разумею, - прашаптала яна. Яе вусны пяшчотна дакрануліся да яго ілбу.

- І цябе, цябе не магу ім аддаць. Не магу пакінуць. Бо ж ты – таксама сьвятая. Ты – мая, як і гэтая зямля мая. Ці ж ты захочаш жыць з трусам? Са здраднікам?

- Не захачу. Яна крыху адсунулася ад яго. Яе вочы вывучалі яго твар – вялікія, поўныя жалю.

- Але ж ты не такі. Ты – ня трус. Ты – мой герой. Мой кароль. Мой князь. Ты маё усё. Як і для гэтай зямлі ты – усё. Такія, як ты. Гэта вы – соль гэтае зямлі.

- А калі соль … перастане быць салёнаю, - працягнуў ён.

… то адзінае, на што яна годная, гэта выкінуць яе на таптаньне сьвіньням.

Яна пакачала галавой.

- Тое – ніколі. Чуеш, ніколі не адбудзецца. Бо ж вы – і найбольшае, чым соль. Вы – душа. Душа, чуеш? Годнасьць. Моца. Веліч гэтае зямлі. Вы кроў яе і пот. Вы – сіла, што цячэ ў яе нетрах. Вы – волаты, тыя хто трымаюць над ёй неба – божы покрыў. Калі яны ўберуць рукі, зямля абваліцца ў пекла. Ня будзе болей ні нябёсаў, ні Бога. Чорны цень накрые гэтую зямлю, чорны смурод. Ня будзе на ёй ні рыцараў, ні ваяроў – толькі пагнутыя хлопы, пазбаўленыя годнасьці і душы. Ці ж дазволіш?

- Не дазволю, - ціха вымавіў ён. – Не дазволю, каханая. Ніколі

гэтаму не бываць.

Ты ж памятаеш, хто я?

- Памятаю, - прашаптала яна. Ты – Чорны. Гербу ваўка і крумкача. І яшчэ ты – Ён. Мой Пан, адзіны для мяне на ўсім сьвеце. Выратуй нас, Пане. Яна прыціснулася да яго.

- Выратую, золатка. Анёлак мой, кветачка мая. Ён мацней ахінуў яе, нібыта баронячы сваім целам ад надыходзячай цемры.

# Глава 4: Ганна

Пакуль ішла бойка, Ганна схавалася ў падпольлі. Што яе вартавалі, і сачылі за кожным яе крокам, яна ведала, але ж у той вечар нейкім дзівам ёй удалася прасьлізнуць незаўважна. Туман дапамог. Так жа ціха пад яго покрывам яна й прабралася назад, скокнула ціхенька ў лазьню, а зь яе ўжо - у хату, быццам бы нікуды не адлучалася, а проста выходзіла на двор.

Ды апынулася, што туман згуляў на руку ня толькі ёй.

Прачнуліся яны ноччу ад крыкаў. Крычэлі істошна, страшна, як могуць крычэць тыя, каго забіваюць, і хто забівае.

Якім была ўзяў паходню, і хацеў ужо кінуцца ў туман, ды яна схапіла яго за рукаў.

- Сядзі, стары дурань, і не варушыся, а тое парубяць цябе на капусту. Той хацеў ужо даць жонцы ляшча, каб ня лезла пад руку, але ж раптам сьцяміў, што яна, мабыць, правая, ды што ён з той паходняй ды пугай зробе супраціў узброеных жаўнераў, калі гэта і сапраўды бойка, а не выпадковыя парушальнікі мяжы, якіх ён паганяў дагэтуль шмат.

Па крыках было не зразумела, ці то нашы - іхніх, ці іхнія - нашых, але ж было чутна, что рубіцца не малы натоўп.

Раптам да Ганны дайшло - проста асяніла. Гэта ж нехта бьецца зь яе вартаўнікамі, нягласнымі назіральнікамі, прыстаўленымі, каб сачыць за кожным яе крокам. Што за ёй сочаць, яна ведала - бо ж не дурная і не сьляпая. Для таго ён яе і выпусьціў, каб пастку зрабіць. Прыманку. А можа, гэта прыйшлі вызваляць яе? - раптам мільганула думка. Але ж такім громкім чынам, з боем ... Яна, канешне, лічыла сябе важнай асобай, ды, шчыра кажучы,

не настолькі, каб за яе біцца. Таму, хутчэй за ўсё, бойка ня зьвязана зь ёй. Гэта мог быць злачынны напад на вёску, каб нанесьці ўрон гаспадарству і чалавечай сіле, бо ж замак узяць ня так проста, ці нехта выпадкова сутыкнуўся з ваярамі, пільнуючымі лес і дарогу. Але ж ні тое, ні другое Ганну не цікавіла. Затое цяпер, калі сілы былі адцягнутыя, яна была вольная ісьці, куды хоча. Ці, дакладней, бегчы, бо, мяркуючы па гуках, бойка набліжалася да яе.

Яна ўжо хацела выскачыць з падполу, як пачула гукі і хаду, раздаўшыяся пры хаце.

Нехта абшукваў двор, нешта ці некава шукаў.

- Золата дзе? - раптам пачула яна грубы, гучны голас. І ў адказ - ціхі, але ж цьвёрды голас Якіма.

- Ня ведаю, аб чым вы. Якое ў лясьнічага золата, шаноўны пан? Няма нічога.

- А жонка твая дзе? - пачулася наступнае пытаньне.

- А дзе ёй быць? Роды пайшла на вёску прымаць. Да кога, ня ведаю. Яна наяўна ўявіла, як Якім паціскае плячыма.

- На вёску? - голас усьміхнуўся. Яна ж гэта звычайна ў лазьне робіць. Мо, й золата там? - пачула яна запыт, сьціраваны да кагосьці яшчэ.

- Пайдзі, абшукай, - вырашыў уладны голас, які дагэтуль маўчаў.

- А з гэтым што рабіць, княжа? - першы голас загучэў угодліва, ільсьціва.

- Гэтага да каню прывяжыце, за хвост. Хай прабяжыцца да мяжы.

Нехта зарагатаў.

Пры гэтых словах Ганна зьнерухомела ад страху. Яны ведаюць і пра яе, і пра золата. Таму - усё ж, па яе душу. Ды, як бачна, не выратоўваць. А Міхасёвы жаўнеры апынуліся не яе турэмшчыкамі, а яе абаронай. Як мудрагеліста закруцілася ўсё! Зь кім жа яна зачапілася ў сваім апантаным жаданьні адпомсьціць за сваю ўласную крыўду? Дагэтуль яе цікавілі толькі свае прыватныя справы - Альжбэта, дзіця, Міхась і гэтая шлёндра, якую яна так адчайна хацела забіць. Але ж цяпер яна разумела, што праз сваю прагу помсты апынулася ў гушчары падзей, зь якога ня бачыць выхаду.

- Трэба бегчы! - вырашыла яна. - Як толькі яны сыйдуць, адразу. Бо ж шлях у лес цяпер вольны. І, як быццам адказваючы на яе думкі, за сьцянамі пачуўся конскі тупат, і істошны крык Якіма.

- І чаго хату не абшукалі? Яна зьдзівілася.

І раптам пачула гаркаваты, смуродны пах дыму. Пахла гарэлым, і агонь патрэскваў, набіраў моц. Гарэў саламяны дах, заняўся моцна і хутка.

Кашляючы, яна вылезла з падпольля, і, закрыўшы рот рукавом, кінулася ў ахопленыя полымем дзьверы.

Ледзь пасьпела выскачыць - страха ззаду гучна абвалілася, полымя ўзьвілася, як віхур, ці цмок, і адзінае, што ратавала яе, была гаспадарчая кадка зь зялёнай вадой для паліву градак, у якую яна боўкнулася з разьбегу. Выбралася зь яе ўся ў ціне і зелені, затое жывая, і амаль не падсмаленая. Вакол толькі дым

курэў. Агонь абтух, зьбіты вагой абваліўшайся хаціны, і зараз дагараў вясёлым касьцярком. Перакуліўшыся праз край бочкі, яна кінулася да вугла лазьні, дзе быў закапаны куфэрак, садрала слой дзёрну і выцягула яго на сьвет Божы - цалёханкага, не кранутага.

Не знайшлі дурні. Яна ўсьміхнулася. Што Якім за гэты куфар паплаціўся жыццём, на вум ёй не прыйшло.

Шчыльна завязаўшы куфэрак ў хустку, яна кінулася ў лес. Куды заўгодна, ды толькі далей адсюль! Забіцца пад які куст, аддышацца, апрытомнець, а потым ужо думаць, куды ёй ісьці далей. У пары дзён дарогі на поўнач і на ўсход, ведала яна, было старое капішча, і туды яшчэ наведваліся. Яна будзе чакаць там, і хтосьці з людзей Нікфара выйдзе да яе. А што будзе далей, яна ня думала.

# Глава 5: Тэўтоны

Камтур узьняў галаву ад папераў, якія кучна былі наваленыя перад ім на стале, і паглядзеў перад сабой.

Вайна сконьчылася, да таго ж, бясслаўна і поўным разгромам, ды толькі вось справы ніколі не сканчаюцца. Гэтая валакіта адвечная, як зьмена дня і ночы.

Ён пацёр зарослую сьветлым шчаціньнем шчаку, разглядаючы ўвайшоўшага. А той, у сваю чаргу, разглядаў яго.

Высокі, чорны, як воран, плечы шырокія, але ж не юнак, ды і не малады. У валасах - сівізна, ня шмат, так, ніткі ў вусах і барадзе.

- Нешта вы мне здаецеся знаёмым, спадар. Але ж дзе і калі б я мог вас бачыць? Камтур падпёр галаву.

- Нідзе, - спакойна адказаў чужынец. Той з вас, хто мяне бачыў, той не жывы.

Таму вы мяне ня бачылі, а я - вас, шаноўны камтур. Так што пачнем усё нанова. Ня буду цягнуць. Я прыйшоў з прапановай, годнай для абодзьвух бакоў. У мяне ёсьць грошы, а ў вас - ваяры. Якія зараз сядзяць і бяз грошаў, і бяз працы. Небясьпечнае становішча, праўда? Дык вось, я гатовы прапанаваць і тое, і другое. Праца ёсьць, і я добра заплачу за яе. І ня толькі я. Уся літоўская суполка, ад пярсоны якой я прыбыў сюды.

З гэтымі словамі ён падышоў, цяжка, толькі дошкі пагнуліся, і палажыў перад камтурам вялікі замацаваны пячацямі ліст.

Усеяны гербамі, заліты чырвоным сургочам.

Камтур марудна ўзяў яго, вывучаючы. Яго сівыя валасы тырчэлі над ілбом, барада была густа-срэбнай, худую шчаку перасякаў вузкі прарэзаны шнар, сыходзячы па шыі.

- Бачу. Нарэшце вымавіў ён. Людзі будуць, спадар ... Міхал?

Незнаёмец кіўнуў.

- Міхась. Міхась Чорны. Герб ваўка і крумкача. Літовец.

І раптам Генрых успомніў, дзе ён бачыў яго.

- Колькі год, - прамільгнула ў яго думка. А ён усё ня можа забыць гэты твар, прыходзячы да яго ў начных жахах. Заліты крывёю, скажоны, быццам не чалавечы. Бязьлітасна апускаючыйся доўгі меч, і целы, целы, целы. Наблізіцца да яго азначала сьмерць - верную і хуткую. Чаму ён замёр? Ён, бывалы ваяр і рыцар, стаяў, быццам замарожаны. Дзікая, бязьлітасная, першабытная моц, з каторай ваяк раськідваў нападаючых, была занадта нават і для яго. Моц зьвярыная, страшная. Было бачна, што чалавек палучаў ад гэтага асалоду - ад забойства, ад крыві, быў пьяны ёю, як найлепшым віном.

- Літоўскія дзікуны, паганцы - падумалася яму. Пачвары, хаваючыяся і нападаючыя ў нетрах чорных лясоў, бязьлітасныя забойцы, варвары, разрываючыя палонных жаўнераў на часткі перад тулавамі іх драпежных ідалаў. Пяркунас. Гэты прышлец і сам нагадваў Пяркунаса - грознага бога грамоў і маланак.

- Я не паганец. Хрысьціянін. Рымкае веры, - спакойна вымавіў той. - І паганцам ніколі ня быў. Дарэчы, я вырас у Венецыі. І ў франкаў. Усё гэта ён сказаў на такой высакароднай, дасканалай лаціне, што ў камтура апусьцілася ськівіца.

Вось такія мы тут дзікуны, камтур. Ну, ты ўжо і сам усё ведаеш. Таму вайна нам болей ні да чэго.

- Чаму ты пашкадаваў мяне тады? - голас камтура сарваўся.

- А чаму мне цябе было забіваць? - паціснуў той плячыма. - Ты ж ня ўзьняў на мяне меч. Хто ўзьніме меч, той ад мяча і загіне, так, рыцар?

Камтур, памарудзіўшы, кіўнуў.

Тады ён прыкрываў ар'егард, і ўступіў у бітву амаль з апошніх,

калі вынік яе ўжо быў з большага ясны. А потым ... потым ён зьбёг. Яны нагрузілі на павозку параненых, колькі маглі выцягнуць, і кінуліся напрасткі праз поле. Таму ён і ўцалеў, шчыра кажучы. Харобрыя ў гэтай бойцы ня выжылі. Усе яны, хто выжыў, выратаваўся, так ці інакш маглі лічыцца трусамі. Гэтае кляймо жгло іх, паліла, балела і ныла горш за шнары.

І таму Ордэн быў ня толькі абязглаўлены, а яшчэ і абяскроўлены. Гэта быў пачатак канцу, і за дзесяць год тое стала наяўна бачна. Калісьці ваяры Хрыстовы пераўтвараліся ў галодных псоў, жывучых ад здабычы да здабычы, ад падачкі да падачкі. Часы Ерузалему прайшлі. Ды і ці былі яны наогул?

- Я дам табе спадарожную, ... пан Чорны. Далей на ўсход і на поўнач, да Бальгі і Лохштедту, там ёсьць людзі.

У Бальге камтурам стаіць Фрыдрых. Фрыдрых вон Цоллер. Перадаш ад мяне яму гэты ліст. Ён нешта напісаў на падапай Міхасём грамаце, і працягнуў яму.

Provide milites et omnia necessaria ad solutionem in antecessum.

Міхась узяў ліст, прабег яго вачыма.

- Наперад? - ён глянуў на камтура.

Той спакойна вытрымаў яго погляд.

- Наперад. Такія часы. Паслуга будзе аказана, не сумнявайся. Слова рыцара.

Нічога ня кажучы, Міхась паціснуў яму руку.

Яны дамовіліся аб умовах зьдзелкі, якія пісар аформіў на асабоным аркушы - 100 дукатаў за рыцара на год ордэну, бязвынікова ад працягу службы, і па 5 дукатаў у месяц самому рыцару, пакуль жывы. Ежа, пітво, жытло. Зброя, коні і адзеньне за кошт ордэну. За згубленае, калі рыцар жывы, разьлічваецца з Ордэнам ён сам. Найміт можа выплочваць персанальную ўзнагароду, якую абяцае даваць за ўчынкі, зьяўляючыяся прыкладам ваяркай доблесьці і годнасьці.

Сунуўшы пісьмо за борт жупану, Міхась хутка спусьціўся па ступеньках на двор, дзе яго чакаў Ульвар з атрадам.

- Выязжаем. На Бальгу, - коратка вымавіў ён. А потым праз мора на Лохштед. Няма калі часу губляць.

Яны ўскочылі на коней, і накіраваліся да выязду з гораду - на ўсход.

- Вось скажы мне, што я тут раблю? - Фрыдырык узьняў на яго вочы. Вострыя, сьветлыя, і пахмурыя, як балтыйскае неба.

- Мы ж - на краі сьвету? Так?

Ён узьняў кубак, пакруціў, паглядзеў на прасьвет - прыгожы. Дарагое шкло так і зьзяла ў агні сьвечаў.

- А, блазнота ..., - працягнуў ён, і адным махам выпіў. Узьнёс была руку з пустым кубкам над полам, але ж пашкадаваў падарунку госьця. Кубак быў каштоўны, зь венецыянскага шклу.

- Чаго ты мне гэта прывёз? Я што, кардынал? - ён з выклікам глядзеў на Міхася.

- Каб ты зусім тут не адзічэў, - спакойна вымавіў той.

А можа, якая панна завітае. Нальеш ёй прыгожа. Ён усьміхнуўся.

- Завітае, глядзі. Ты мясцовых паннаў ці бачыў? Раптам ён зарагатаў.

- Рыбачкі? Міхась ізноў усьміхнуўся - вугламі вуснаў, вочы ж яго глядзелі строга, вывучаючы.

- Русалкі. Камтур грымнуў непрыстойным рогатам.

- Супраць каго ісьці зьбіраешся? - раптам голас Фрыдрыха набыў суворасьць, стаў жорткім, дзелавым.

- Супраціў Сьвідрыгайлы. Міхась таксама адставіў у бок кубак.

- Вычвара зямлі літоўскае.

Фрыдрых усьміхнуўся.

- Сей муж дастаслаўны славай сябе пакрыў, - дадаў ён. Не малою. Ужо вядомы паўсюль, і ў нас, і на Русі, і ў татараў. Ён ізноў узяў кубак, і наліў сабе густога віна. Не разбаўленага.

- Ад татараў яго за каршэнь прывезьлі, ды Вітаўт яго на ланцуг пасадзіў. Але ж ён, сабака, вырваўся. Падкупіў маскоўцаў, русінаў, наабяцаў лухты. Тыя вераломна забілі гарнізон, бо страціў пільнасьць, і дазваляў лішняга.

- І што, многа русінаў за ім пайшло? – пацікавіўся Фрыдрых.

- Ды ня мала. Таму мне трэба людзі. Але ж і ня так многа, як некаторыя лічуць. Бо ж выблядкаў, на радасьць, нашая зямля ня церпіць.

- Разумею. Фрыдрых кіўўнуў. – Знайду цябе людзей. Ну, а цяпер раскажы, як ты сам.

- Добра. Ажаніўся. Дом аднавіў. Замак пабудаваў. Шмат чаго. Сабор. Кляштар.

- Прыстойны чалавек! Фрыдрых кіўнуў. – Віньшую!

- Калі мы бачыліся ў апошні раз? – вымавіў ён.

- Калі я ледзь ня сьсек табе галаву. Міхась усьміхнуўся.

- Нават твайму доўгаму мячу не дацягнуцца да мяне. Фрыдрых узьняў яшчэ кубак. Міхась таксама падняў свой.

- А сьцяг вы так і ня ўзялі, - хітра прыжмурыўшыся, вымавіў ён.

- Ты ня даў. Міхась кіўнуў. - Я яшчэ падумаў, годны рыцар. Дарма што тэўтон.

- Тым больш каштоўнай была вашая перамога. Бо ж і мы, шчыра кажучы, ня пальцам зробленыя. Дагэтуль дзіву даюся, як вы здолелі нас асіліць.

- Бог дапамог, - проста вымавіў Міхась. – А як жа ж без яго.

- Так, Бог тады быў на вашым баку. Фрыдрых пачынаў відавочна хмялець.

- Скажы праўду. А ты верыш у Бога? – раптам запытаў ён. Яго сьветлыя валасы спадалі на лоб, вочы пачырванелі.

Міхась глянуў на яго, і пакачаў галавой.

- Я яго ведаю. Ён ёсьць, Фрыдрых. Як бы ты не сумняваўся, як бы не адчайваўся. Ён усё роўна ёсьць. І ён – тут, побач з намі.

- А жонка твая прыгожая? – раптам запытаў тэўтон. – Раскажы.

- Прыгожая. Міхась прыкрыў вочы.

- Якая? – у вачах Фрыдрыха бліснуў прыглушаны вагеньчык. – Не шкадуй. Бо ж я сіжу тут адзін у гэтым праклятым замку. Толькі чайкі, вецер, і такія ж небаракі, як я.

- Маладая. Дваццаць год толькі споўнілася. Валасы чорныя, доўгія. Скура белая, як сьнег.

- А яшчэ што? – Фрыдрых утаропіўся ў яго. – Расказвай, не цягні.

- А што табе яшчэ? – Міхась узьняў бровы.

- Усё. Якая яна? Гарачая? Ці сарамлівая? Ты ж яе цнатлівай узяў? Не ўдава?

- Не ўдава. Міхась кіўнуў. І гарачая, і сарамлівая.

Фрыдрых пакруціў галавой, і выдаў нейкі гук.

- Слухай, хопіць табе ўжо піць. Можа, адпачнем? – Міхась зрабіў выгляд, што паўстае з-за сталу.

- На тым сьвеце адпачнем. Фрыдрых раптам зрабіўся цьвярозым.

- Слухай, а вось ты мне яшчэ скажы. Чаму ты за Сьвідрыгайлам

не пайшоў? Я што табе скажу: быў ён тут. Гаварыў гладка. Грашыма сыпаў.

- Я ведаю, - кіўнуў Міхась. – І толькі вы яго адсюль выкінулі. Ну, крыху грошаў зь яго вытрасьлі за гасьціннасьць. Але ж дапамагаць яму не кінуліся. Чаму? - у сваю чаргу запытаў ён.

- А што ён нам? Калі б у яго была моца, а так. Ці ты думаеш, мы сьляпыя? За Вітаўтам моца! Вось тое ваяр! Гэта годны рыцар!

- За Вітаўта! – Міхась узьняў кубак.

- А не пайшоў я за Сьвідрыгайлам па простай прычыне. Гэты дурань і здраднік думае, што на плячах маскоўцаў сюды прыйдзе і іх рукою сядзе. Ой, памыляецца. Пад маскоўскім князям яшчэ ніхто самаўласна не сядзеў. Ён іх сюды прывядзе нам на шыю, і пойдзем мы як быдла, у хамут. Веру іх ён абараняе. Дзе ён, а дзе вера. Хцівы, прагны грошаў і віна. Вернік. Проста сьвяты. Да таго ж, у якой веры ён толькі ня быў. І паганцам, і грэкам, і каталіком. Чорту толькі засталося прадацца.

Не, Фрыдрых. Хай Масква сабе стаіць асобна, і сюды рукі ня цягне. І, ведаеш, што я табе скажу? Вялікая адтуль яшчэ будзе нам бяда. Бо ж арда добра сапсавала ім кроў. Баюся, яны ўжо ніколі ад яе не аправяцца. А ведаеш, чаго? Ён аперся локцямі на стол, нахінуўся наперад. Яго валасы зблыталіся, цёмныя вочы гарэлі, па плячах і руках хадзілі мышцы.

- Чаму? – Фрыдрых зацікаўлена глядзеў на яго.

- Бо ж маскоўцы любяць ярмо. Тыя русіны, што былі пад ардой, думаеш, яны туды пайшлі супраціў сваёй волі? Не, памыляешся. Калі б яны былі супраць, яны б памерлі. Усе да аднаго. Пагарэлі б у сваіх царквах і манастырах. Яны б забівалі да апошняга, нават сябе. І яны б прыйшлі да нас. Як тыя русіны, што мелі дастаткова годнасьці і духу, каб не скарыцца. А мы, літоўцы, прынялі іх. Разам мы білі арду, білі татараў. Білі так, што стаялі па пояс у крыві. І арда забаялася, адкацілася. І асела там, на Ўсходзе, дзе яна не сустракала супраціўленьня. Духоўнага. Яны прадаліся, можна сказаць, што самі пайшлі ў

арду. І там ім падабалася. Той народ любіць палку, і хана. Мы ж – не такія. Памятаеш, як проста было нас скарыць? Мы гарэлі ў сваіх замках, і забівалі сваіх жанчын і дзяцей, але ж мы не падстаўлялі шыю пад хамут.

- Памятаю. Фрыдрых кіўнуў. - Вас скарыць апынулася не магчыма. Але ж вы самі потым прыйшлі да нас, і працягнулі нам руку.

- Як братам, - дадаў Міхась. – Па-хрысьціянску. Літва ніколі не стаяла на каленях. І ня будзе. Ваўка можна запрэгчы ў плуг, але ж дужа ты на ім не напашаш. Ён усё роўна задзярэ таго, хто яго зьняволіў. Тут можаш не сумнявацца, сябар.

# Глава 6: Разьвітаньне

- Бог увайшоў у сьвет са сваёй любоўю, і абраў жанчыну, сьціплую і цнатлівую, каб яна нарадзіла ад яго дзіця. У сваёй вялікай любові Бог увайшоў да яе, і праз Дух Сьвяты выліў у яе сваю найвялікшую міласьць. Марыя, абраная, якая прыняла Бога і разьдзяліла зь ім шлюбны ложак, каб нарадзіць ад Яго Яго ўлюбённага сына, стала Яго нябёснай жонкай, Яго любоў да якой была і ёсьць бязьмежная, сапраўднай каралевай сусьвету. Няма меры той любві, якую адчувае чалавек да сваёй каханай жонкі і любага дзіця. Але ж не магчыма ўявіць, што можа адчуваць Бог да абраных ім, асабліва абраных так блізка, на найвышэйшым узроўні інтымнасьці, хто зьліўся зь ім у духу і целе, і самога сябе ахвяраваў яму, як і ён сам ахвяраваў ім самое сябе. Любоў і міласьць Бога да тых, хто любіць яго, бязьмежна. Ён пераўтварае і ўзвышае, ачышчае і вылечвае, адпускае грахі, і ўзьнімае над зямлёй, і нават над небам, каб прыняць у свае абдымкі. Калі кароль каралей уваходзіць у пакоі душы, яе радасьць і задавальненьне ня могуць параўнацца ні з чым. Тое каханьне і любоў, што мы маем на зямлі, з'яўляюцца малым адлюстраваньнем той любві, якую Бог вылівае ў душу, і якую яна вяртае яму ў адказ.

Душа, якая прагне Бога, любіць Бога, з'яўляецца найшчасьлівейшай душой у сьвеце. Тую радасьць, у якой яна знаходзіцца, нельга апісаць.

- Я ведаю, Юзаф, - ціха вымавіла яна. І калі я думаю аб гэтым, у мяне баліць сэрца. Калі я думаю аб ім. Як ён там? Што ён зараз робіць? Сумна, ці радасна ў яго на душы? Я ведаю, што ён сумуе па нам, Юзаф. Ведаю, што яго душа баліць. Шмат горкіх заботаў абцяжарваюць яе. Як бы я хацела суцішыць гэты яго боль. Але ж ён ізноў робіць гэта. Ізноў узыходзіць на крыж. І пры гэтым, Юзаф, ён у сьціпласьці і любві сваёй так умаліўся, што ня ведае, хто ён. Ізноў. Ён ходзіць па грэшнай зямлі разам з людзямі, і як чалавек церпіць ад чалавекаў, так ён церпіць і нястачу, і боль, і стому, і адчай і жаль, якія разрываюць яго сэрца.

Як бы я хацела абняць яго зараз! Дакрануцца хаця б да яго адзеньня, выцерці пот зь яго ілбу, убачыць яго твар, яго вочы... Яна замаўчала.

Яе прыўкрасныя вочы напоўніліся сьлязамі. Буйныя пярліны беглі па яе твары, цяклі па шчоках, зрываючыся на грудзі.

Яна не намагалася спыніць іх, не хавала, і не выцірала.

Юзаф уважліва глядзеў на яе, спачувальна, мякка, але ж пільна і пранізьліва. Здавалася, што сваім позіркам ён бачыць яе душу, зазірае прама ў яе, у самую глыбіню.

Яны сядзелі ў прасторным пакоі на другім паверсе, высокім, зь якога адкрываўся від на сабор і парадзеўшы за ім лес. Між саборам, замкам і вёскай заставалася ўсё меньш дрэваў, край рос, расшыраўся, зьявілася шмат гаспадарчых і іньшых пабудоваў, і некалі заняпалая зямля расквітнела, забуйнела садамі, палямі і кветкамі, бялюткімі і чырвонымі будынкамі, высокімі ў параўнаньні з драўлянымі хатамі сялян, якія вольна рассыпаліся вакол.

Дзень быў сонечны, лагодны.

- Шаноўная панна, вы можаце плакаць, але ж ня можна ўпадаць у адчай. Голас Юзафа быў як заўсёды мяккім, суцяшаючым, але ж і моцным, і ўпэўніваючым.

Ён зараз там, дзе яму наканавана, і робіць тое, што павінен рабіць. Па волі сваёй ён узьняў на сябе гэты цяжар. Ці ж ня здолее ён несьці свой крыж, каб ізноў узьняцца, і ўзьняць іньшых? І ці ня знойдуцца тыя, хто радасна панясе гэты крыж зь ім, так, каб гэтая ноша не зьнясіліла яго, і здавалася лёгкай і радаснай?

Панна, вы павінны проста верыць у яго, у яго моц і веліч і найвялікшую любоў, у якой ён суцэльна аддае сябе вам, аддае ўсім. Няма таго, што зможа скарыць яго, вымусіць яго забыць вас, пакінуць. Бо ж ён любіць вас многа, многа мацней, чым здольна любіць сатвораная душа, чый позірк зацемнены целам.

І калі вы апынецеся там, дзе ён сапраўдны, і дзе нішто не абмяжоўвае гэтую яго любоў, вы таксама адчуеце, зразумееце, як гэта - любіць безьперашкодна, вольна, чыста, радасна, і тое, што вы адчуеце там, панна, ня можа параўнацца ні зь якім плоцкім пачуццём. Вы ўжо адчувалі гэтую нябёсную любоў, і таму вы і ў целе любіце яго моцна, значна мацней, чым той, хто любіць ня духам, а плоцьцю. Бо ж любоў плоцкая - грэшная, і атручаная грахом. Не зьліцьцё целаў я маю зараз на ўвазе, калі яно асьвечана каханьнем і шлюбным ложкам. Але ж тую любоў цялесную, якая любіць самое сябе дзеля самое сябе. Гэта - першая ступенька, панна, і вы яе ўжо прайшлі.

- Спадзяюся, шаноўны Рафал, - вымавіла яна. - Але ж я хачу ўзьняцца ў сваёй любві вышэй, узьняцца да яго. Бо ж ён любіць мяне бясконца.

- Ён любіць вас у вашай сьціпласьці, панна. Як Марыю. Падумайце аб гэтым. Прыйдзе час, і ён узьніме вас да сябе.

Юзаф ўстаў, яна пацалавала яго руку, ён пахіліўся і выйшаў.

Яна ж засталася сядзець, ахінутая яркім сьвятлом, ліючымся праз вакно.

Яна думала аб мінулай ночы, і аб тым, як яна праваджала яго раніцой.

Яшчэ надвячоркам наступнага дню ён сказаў ёй, што яму трэба ехаць. Апошнія дзьве бойкі абышліся дорага, і колькасьць ваяроў на службе ў маёнтку значна паменьшала. Ды яшчэ ж трэба было вартаваць замак, і кляштар, і сабор. Яны разрываліся паміж усімі гэтымі месцамі, кожнае зь якіх было значным, і ніякае нельга было пакінуць меньш умацаваным. Дзеля большай бясьпекі яна зь дзіцём пераехала ў кляштар, які знаходзіўся пад надзорам Раланду.

Ульвар вартаваў маёнтак, нарвежац Эйнір заставаўся ў замку, але ж людзей не хапала, і яны сьцягнулі большасьць сілаў да кляштару, бо ж замак баранілі муры і роў, а маёнтак наогул стаў небясьпечным, і там заставаўся толькі невялікі лятучы атрад, якіназіраў за навакольным лесам і курганамі.

Ён прыйшоў тады позна, стомлены, брудны, адзеньне і боты забрызганыя гразьзю, бо прайшоў моцны дождж, а яны скакалі па лясох і палёх целы дзень.

- Аб’езьдзілі з Войцэхам навакольле, - вымавіў ён, цяжка апускаючыся ў крэсла. – Папярэдзілі, сабралі каго маглі. Уся шляхта паднялася, гразяцца. Усе папярэджаны, і сядзібы ўмацавалі, і народ узброілі, каго чым, а каго і ня блага. Па начах будуць вартаваць, і днём. Больш ніякая мыш не праскоча. Калі ўжо нападуць, так толькі вялікім атрадам, і гэта будзе сапраўдная вайна. А супраціў злачынцаў мы добра прыгатаваліся. Таму, сонейка, нічога ня бойся. Ехаць мне трэба, але ж на гэты раз далекавата. Да Гедыміна, ў Ліду, а потым яшчэ ў Гародню. І адтуль ужо ў Карону. Некалькі тыдняў мяне ня будзе. Жадаю людзей сабраць, шляхту ўзьняць. Выправіць паперы княскія. А потым далей. Але ж цябе тое ведаць ня трэба, сонейка. Ды я прыеду, ты ня плач. Буду сьпяшацца вярнуцца як мага хутчэй. Вяроў мне трэба, людзей папоўніць.

Яна напалохана глядзела на яго. Такім рашучым яна яго яшчэ ня бачыла. Гэта быў новы ён, вяяр, паўкаводзец, чалавек, які рыхтаваўся зьдзейсьніць вялікія дзеяньні. Ён быў сабраны, на твары адна думка зьмяняла другую, заклапочаны, і разам з тым поўны сілаў і намеру выканаць усё, што сабе паставіў. Гэта быў магутны паток, які было ўжо нікому не спыніць. І яна апынулася ў самай яго сярэдзіне. Але ж аб сабе яна зусім ня думала. Яна думала аб ім. Раптам яна балюча зразумела, што можа яго ніколі ня ўбачыць. Што на вайне гінуць і самыя высакародныя, і самыя мужныя з вяроў. І гэта была асаблівая вайна – міжусобная, каварная, вайна паміж братамі, сынамі адной зямлі, адны зь якіх хацелі яе бараніць, а другія – прадаць, раптам апынуўшыся яе пасынкамі. Яны болей не лічылі гэтую зямлю сваёй маці, і глядзелі на Ўсход, за мяжу, за курганы, дзе вялікія прасторы вабілі, засьцілі іх вочы. Яны хацелі разарваць тое, што з такім цяжарам было сладжана ў адзінае за вякі крывавых боек з усімі магчымымі ворагамі, якія панавалі вакол. Гэтая зямля выстаяла перад татарамі, манголамі, тэўтонамі. Няўжо ж яна ня выстае перад сваімі?

Ціха падышла яна да яго, і ўзяла за руку. Прыціснула яе да

вуснаў.

- Калі трэба, каханы, то едзь. Я ня буду плакаць, абяцаю табе. І раптам горка заплакала.

Ён суцяшаў яе, як мог, але ж разумеў, што ня здолее, і ня мае права яе суцешыць, спыніць яе сьлёзы. Бо ж ён і сапраўды мог не вярнуцца. Тое, што ён даедзе, ён не сумняваўся, але ж калі ён адправіцца з войскам назад, то на шляху яго могуць сустрэць. Не вядома, што задумаў Сьвідрыгайла і яго людзі, а іх у яго было шмат. Нядаўна пакінуўшы замак, ён пакуль хаваўся. І было відавочна, што зьбіраў паплечнікаў. Ствараў хаўрусы. І сядзеў пакуль ціха, хоць яго апошняя вылазка нарабіла многа шуму. Падобна было, што яны вырашылі вынішчаць супраціўнікаў зь літоўскае партыі аднаго за адным. Нападаць на маёнткі, рабіць засады. І калі яны зрубяць як мага болей галоў, тады можна будзе ў пераважнай большасьці патрабаваць сабе княскі трон. Вітаўт – стары леў, яшчэ крэпкі, але ж паранены і стомлены. А Ягайла можа і саступіць, бо ж для яго мае перавагу Карона, а гэтыя землі ён разглядае як другасныя, хаця і істотныя ўладаньні. І калі ўсё захістаецца, узьніме галаву паганская Самагітыя. Таму за Літву маглі быць толькі ліцьвіны. У іх руках быў лёс іх зямлі – на Ўсход, альбо на Захад, пад сьвятую руку Рыма, ці пад цяжкую маскоўскую, у ярмо.

Яго думкі ўжо былі далёка, у іх ён імчэў праз бясконцыя абшары, лясы і балоты, сабіраў войска, яны разьбівалі і выганялі змоўцаў, і ён вяртаўся дамоў пераможцай. А дома яго сустракала яна. Па-другому і быць не магло.

Гэтай ноччу ён кахаў яе ў апошні раз перад доўгай дарогай, кахаў нетаропка, пяшчотна, каб запомніць яе грудзі, яе валасы, усю яе, каб напоўніцца ёю, і напоўніць яе сабой. Бо ж недзе ў глыбіні сваёй душы, ў самым патаемным месцы свайго сэрца ён разумеў, што можа ніколі яе болей ня ўбачыць. І таму ён лажыў яе сабе на грудзі, як каштоўную пячаць, выціскаў яе балюча, праз плоць да самых касьцей, туды, дзе білася яго сэрца. Яго вусны ўбіралі яе, як самое жыцьцё, бо ж калі жыцьцё будзе пакідаць яго, то тады ў ім застанецца яшчэ нешта, нешта вялікае, сьвятое - яго і яе каханьне, якое стане для яго другім жыцьцём і ня дасьць яму памерці.

- Сьмерці няма, - шапталі яго вусны. – Памятай гэта. Пакуль ты кахаеш мяне, а я цябе, а я буду кахаць цябе заўсёды.

Яна прыціскалася да яго, ціхая, і нейкая далёкая, і адначасова такая блізкая, што ён ня бачыў між імі адлегласьці. Яна была яго целам, яго душой. У глыбіні сэрца ён верыў, што яна, яе каханьне абароніць яго, бо ж тое немагчыма – не вярнуцца, калі цябе так кахаюць.

- Адпусьці мяне, сонейка. Мне трэба ехаць. Але ж я абяцаю, што вярнуся, - казаў ён ёй, цалуючы яе заплаканыя вочы.

- А я абяцаю, што буду чакаць цябе, - ціха вымавіла яна. – Я буду чакаць цябе тут заўсёды.

Яна хацела запомніць кожную яго рысу, яго пах, адпячатаць яго ў сабе, запомніць яго цела і яго душу, напоўніцца яго каханьнем, ап'янець ад яго, як ад горкага віна, і напаіць яго сабою так, каб ён яшчэ доўга не адчуваў смагі. Яна трымала яго твар у руках і пакрывала яго пацалункамі, зьліваючыся зь ім, моўчкі, калі ўжо былі сказаны ўсе словы, і магчымыя, і немагчымыя. Засталіся толькі яе ўздохі, яго цяжкое гарачае дыханьне, рухі яго плоці, на якую так ахвотна адзывалася яе цела.

- Не магу, жыць безь цябе не магу, - хацелася крычаць ёй, але ж яна маўчала, страціўшы голас ад болю, які перапаўняў яе усю, і ад асалоды, якую дарылі ёй яго ласкі, яго жарсьць, яго цела. Ён быў усім для яе, тым, хто знайшоў яе ў пустыні адчаю, забраў з жыцьця, якое жыцьцём не было, а было толькі яго ценем. Ён адчыніў ёй той сусьвет, у якім быў Бог. Яна не магла Яго страціць, бо тое, што адбылося зь ёй, тое пераўтварэньне суцэльна зьмяніла яе, паказаўшы ёй сусьвет сапраўдным, такім, якім ён быў – з Богам у ім, з Яго найвялікшым каханьнем да яе і яе – да Яго.

- Я буду маліцца за цябе, - прашаптала яна. – Кожны дзень і кожную ноч. Я не спынюся ні на імгненьне. Мая душа будзе грукаць за цябе ў нябёсы, мой каханы. І я знайду цябе ўсюды, вызвалю з любой вязьніцы, узьніму цябе нават і з ценю смяротнага, і стану побач з табою, дзе бы ты ня быў, мой любы.

- Маліся за мяне, сонейка. Анёлак мой, - ціха вымавіў ён. – І тады ніхто і нішто ня зможа пераадолець мяне.

А раніцой ён уехаў.

Яна кінулася яму на шыю, і доўга не адпускала, а ён цалаваў і цалаваў яе. Зь цяжкасьцю адарваўся, і рашуча ускочыў у сядло. Ульвар таксама ехаў зь ім побач. Праз некалькі хвілінаў атрад вершнікаў схаваўся за паваротам лясной дарогі. І тады яна ўпала на зямлю, і закрычэла, застагнала.

- Мой Бог пакінуў мяне, - раптам працінула яе жудасная, балючая думка. Наяўна яна адчувала, што разам зь ім яна страчвае жыцьцё. Жах і боль гэтага асэнсаваньня былі непераноснымі.

Хтосьці асьцярожна ўзьняў яе – здаецца, Кацярына. Хтосьці ўвёў яе ў пакой – яна ня памятавала, і нікога вакол ня бачыла. У яе вачах пацямнела, і розум памуціўся. Яна ачнулася ў саборы, і ёй здалося, што вакол няма нікога – толькі вялікае расьпяцьце на сьцяне вісела перад ёй, крыж з прыбітым да яго скрываўленым, спакутаваным целам. І адразу нібыта высахлі ўсе яе сьлёзы, і раптам стаяла лёгка на сэрцы. Ён не пакіне яе! – паўтаралі яе вусны. Яна болей ня плакала. Яна сьмяялася. Бо ж яна верыла, верыла так, як ніколі. Суцэльная радасьць была вакол яе, і ён сышоў з крыжу, і стаяў перад ёй жывы і ўсьміхаючыйся, рэальны. Са сьлязамі яна ахапіла яго ногі, і адчула яго руку на сваёй галаве. Гэта быў ён, ізноў ён, усеўладны, усемагутны, бязьмежна любячы, хто яе ніколі не пакідаў. Пан Езус, Бог, Айцец, яе каханы, адзіны на ўсім сьвеце.

# Глава 7: Ліда

Лідскі замак узвышаўся перад ім магутна, пагрозна, чырванавата-шэрай, нібыта забрызганай крывёй гарой.

Ён памарудзіў, прыпыніўшы каня, азіраючы горад з пагорку. Гедымінавічы валодалі гэтымі землямі ўжо амаль сотню гадоў. Замак, пабудаваны заснавальнікам роду і вялікім князем, стаў іх надзейным фарпостам і родавым гняздом, гняздом Альгердавым, зь якога вылялі арлы. Аднак, хрышчоныя ў грэцкую веру.

Цяпер жа замак знаходзіўся ў руках самога вялікага князя. Карыбут, страціўшы ўплыў і давер яго, згубіў радавую маёмасьць, і сам знаходзіўся недзе, дзе, ніхто дакладна ня ведаў. Казалі, вандраваў па сваіх новых вотчынах, аплакваў апалу, ды падточваў заржавелыя мячы. Але ж Гедымін, які зараз узначальваў замак, быў чалавекам верным, сваім. Каталіком па веры, і ліцьвінам па крові.

Сам князь з дваром зараз стаяў у Горадні, і туды наступным пунктам ляжаў яго шлях.

Шэрыя тучы, якія з ранку распаўзьліся, к палудню ізноў сьцягнула. Нізкія, брухатыя, насоўваліся яны на шэрыя сьцены крэпасьці, нібыта выпрабоўваючы яе на трываласьць перад навалай, якіх ужо ня мала было, і шмат яшчэ будзе.

Карыбут страціў замак, ганебна кінуўшы яго бяз бою, спугаўшыся князя, які ўвайшоў туды на плячах тэўтонскага войску. Зьбёг проста з ложку разам з жонкай, як казалі, ледзь не ў адных партах, а мо і проста ў кашулі. Але ж памыкаўся, палётаў, ды перад князем усё роўна скарыўся, пахіліўся. Бо ж - вядома, адна, Гедымінава кроў. Ды вось, на жаль, у Сьвідрыгайлы яна сапсаваная. Тыя якасьці, якія ў Вітаўту увасобіліся найвышэйшымі, такія як сьмеласьць, рашучасьць, мэтанакіраванасьць, гонар і годнасьць, а так сама вялікі розум і прадбачаньне, разам з найвялікшай любоўю да роднае зямлі і няўхільнасьцю ў адстойваньні яе інтарэсаў, у Сьвідрыгайлы

нейкім дзівосным чынам набылі сваё адмоўнае адлюстраваньне, нібыта ў нейкім скажоным пякельным люстэрку.

Сьмеласьць яго дасягнула ўзроўню бязглуздасьці, рашучасьць пераўтварылася ва ўпартасьць, мэты, якія ён ставіў і якіх намагаўся дасягнуць, былі прызначаны служыць суцэльна яго ўласным інтарэсам, гонар і годнасьць вырадзіліся ў гардыню, а розум і прадбачаньне нібыта паснулі, бо вум, апантаны хцівасьцю і прагай улады, ня гледзячы ні на што, усе іх папярэджваньні пераўтвараў у абяцанкі, якія чым болей аддаляліся ад рэальнасьці, тым болей набывалі прывабнасьці для яго сэрца.

Пераўтварыўшы замак у Лідзе ў свой уласны фіёд, Вітаўт меў перад сабой галоўную мэту: закрыць стратэгічны пункт наступу з захаду па лініі крыжакоў і не дапусьціць яго пераходу ў рукі паплечнікаў усходняй партыі, якая рабіла на Сьвідрыгайлу вялікія стаўкі.

Прыхільнасьці гэтаму боку і адкрытай здрады Вітаўт Карыбуту не прасьціў. Таму Карыбут і басьцяўся недзе, баяўся трапіць князю на вочы, князь жа чалавека на начала паставіў свайго, таго, хто замку бяз бою ня сдасьць, і без парток ня ўцячэ.

Гедымін малодшы быў з бакавой веткі роду, пра якую амаль забыліся, вырасшай недзе ўзбоч ад Ягайлы, праз адну з малодшых дачок некага з князёў. Але ж кроў Гедыміна ды Альгерда адчувалася ў ім у поўнай меры.

Хоць па роду і малодшы, гэта быў ваяк сталы, дужы, ужо седаваты, няшматслоўны, высокі, як дуб, са сьветлымі, нібы лён, валасамі, ды доўгімі вусамі, ярка-блакітныя вочы якога хаваліся пад нізкімі белымі бровамі. Што быў за чалавек, ды адкуль, нямногія ведалі, ды ня многім ён і казаў. Хадзілі чуткі, што прыжыў яго адзін зь Гедзімінавых нашчадкаў ад нейкай літоўскай красуні, з паганскага роду, ды не ажаніўся, але ж сына прызнаў. А былі і такія, што казалі, быццам гэта адна з дачок Альгерду нарадзіла яго ад каханка, кагосьці з далёкіх прусскіх земляў, які хацеў ажаніцца, ды загінуў, небарака, у адной зь бясконцых войнаў тых часоў. Людзі толькі галовамі

качалі, спачувалі. Войны, яны як вада вясной. Пасьля сьнегу прыбываюць, а потым убываюць, а потым ізноў разьліваюцца, затапляюць зямлю. І няма ім ні пачатку, ні сконцу, як порам году, як зьмене зімы на вясну, ды вясны на лета, і так ізноў да новага сьнегу, і новага патопу.

Аднак, хоць і паходжаня ня пэўнага, Гедымін герб свой уласны меў – дуб на сінім полі, а пад ім – адзінокі жолуд, зь якога прабіваўся расток. У зямлю ж перад дубам быў ваткнуты меч, і на ім – арханёльская рука, а над усім, па-над лісьцем – вока божае, назіраючае за сусьветам.

Што было на тым гербе, і чаму, ведаў толькі Вітаўт, ды ён сам. Бо ж – таямніца. Жыў гэты ваяк самотна, ня меў ні жонкі, ні дзяцей. Казалі, і спаў зь мячом замест жанчыны, і болей яму не трэба было, як напіцца варожай крыві, а потым адмольваць грахі ў вялікіх кракаўскіх ды варшаўскіх саборах. Казалі, ён нават і ў Сьвятой Зямлі быў, ды чыі грахі там замольваў, свае, ці чужыя, пра тое ён нікому не казаў.

Да Гедыміна ляжала зараз яго дарога, уніз, да замку, ад якога Міхася аддзялялі можа, якіх дзьве вярсты. Ён ударыў каня плецьцю, і рушыў да ізножжа пагорку, дзе віднеўся пыльны, стаптаны, бялюткі ад пяску шлях.

Перад брамай ён паказаў падарожную, якую атрымаў некалі за подпісам самога князя для сваіх купецскіх справаў. Варта адразу прапусьціла, не запытвала шмат. За ім праехалі і некалькі ваяроў, але ж асноўны атрад вымусілі застацца звонку. Ён не пярэчыў, і праехаў толькі з Ульварам і старым рыцарам, які яшчэ Ерузалем помніў. Сьмяяліся, што яму можа, і сто год. А можа, і дзьвесьце. Бо ж высах, як старое дрэва, а паміраць не зьбіраецца. Ды рубіўся ён, надзіва, так, што ніхто з маладых яго здолець ня мог. Белыя яго валасы былі зачосаны назад, твар чыста выгалены, нос арліны, вочы – срэбныя, пранізьлівыя. І імя ў яго было старое, сівое, як і ён сам – Ваіслаў. Старажытнае. Родам ён быў аднекуль зь сербаў, ды дакладна адкуль, ужо і сам ня памятаваў. Але ж калі валахі сустракаліся, то і іх ён разумеў. Рыцарства набыў жа недзе ў паходах далёка на поўдні, дзе яго пасьвяціў нехта зь германскіх баронаў. Рыцарства набыў, ды шмат чаго і згубіў, і таму пра паходы не любіў

казаць. Некалі расказаў маладому, зь якім аднойчы выпіў па-сяброўску, ды з тых пор ні малады той ня піў, ні ён нікому нічога не расказваў.

Праехаўшы праз шырокі замкавы двор, яны дасягнулі дальняй вежы, што глядзела на паўднёвы захад, і аддалі ўнізе бумагі вартавому, які ўзьняўся на верхні, жылы паверх. Праз некалькі хвілінаў па ступеньках пачуліся цяжкія крокі, і перад імі вырас Гедымін.

Яго вострыя сінія вочы некалькі імгненьняў вывучалі іх.

- Чорны, - нарэшце вымавіў ён. – Вітаю. І працягнуў руку. Міхась моцна пацiснуў вялікую далонь, і ваяк зрабіў знак галавой – праходзьце. Па аднаму яны рушылі па лесьвіцы на верх вежы, у прасторны і круглы дазорны пакой, які адначасова быў і жылым. Пасярод пакою стаяў завалены паперамі стол, на якім стаяў каламар зь пяром. На сьцянах былі акуратна разьвешаны начышчаныя дасьпехі і зброя.

Позірк Ульвара ўпаў на лук – вялікі, цяжкі, такі, што і ў дваіх не нацягнуць. Ён у думках прысьвіснуў. Ваяр ададвінуў бумагі ўбок, і ўказаў на шырокую лаву перад сталом.

- Сядаймо, хлопцы. Пагутарым. Ён цяжка сеў насупраць на шырокі стул, зроблены на германскі манер – дубовы, упрыгожаны складанай разьбой. Яго рука у наручах ляжала на стале, і пальцы дакраналіся да шырокага нажу для разразаньня бумаг, гладзілі рукаятку з белай косткі, упрыгожаную шліфаванымі круглымі камянямі. На пальцы тускла пабліскваў вялікі пярсьцёнак з чырванаватым празрыстым камянём – лалам. На камяні была груба выразана гема, але ж якая – тое Міхась не разбачыў. Нешта падобнае на жаночую галоўку, здалося яму.

- Дзева Марыя, - адказаў Гедымін, прасачыўшы за яго поглядам. Яго вочы на імгненьне зацягнула марыва – успамін, які варухнуўся на дне блакіту, быццам бы нешта ў глыбокім, празрыстым возеры.

- Не падобана нешта. Міхась пра сябе ўсьміхнуўся, але ж нічога

не сказаў.

Пэўны час Гедымін вывучаў бумагі. Уважліва прагледзеў кожную, прыдзірліва агледзеў пячаці. Яго сьветлыя густыя бровы ссунуліся.

- Напад быў, пішаш? – ён узьняў галаву. Вочы яго пільна вывучалі прысутнічаючых.

- Так, быў. Міхась кіўнуў.

- І не адзін, - крыху памарудзіўшы, дадаў ён.

- Два разы напалі. Першы раз я падумаў – старыя рахункі. Была ў мяне раней стычка з мясцовымі. Паганцы. У Самагітыю сышлі. Але ж потым ізноў адбыўся напад на маёнтак. Вялікі. Мы іх раськідалі, ды ў той бойцы загінуў мой сябар, які быў для мяне больш за брата. Ён крыху памаўчаў. І ізноў я падумаў – старыя рахункі. Таму маўчаў, і рушаньне не зьбіраў. Лічыў, што гэта – мае ўласныя справы. Ды, як вызначылася, памыляўся. Наступны, ужо трэці напад адбыўся некалькі дзён таму. Але ж не на маёнтак, а на вёску. Разарылі хутар, пажглі, абрабавалі. Жанчына зьнікла, мужыка ж зьнявечылі – да хвасту прывязалі і цягнулі паў-вярсты.

- Мужык жывы? Што бачыў? – Гедымін пасунуўся наперад.

- Ужо не жывы. Але ж быў жывы, калі мы яго знайшлі. І імя назваў.

- Якое? – бровы Гедыміна ссунуліся, цяжкія кулакі ляглі на стол.

- Яно ня будзе для цябе нечым дзіўным, мосьць. Міхась адкінуўся назад, склаўшы на грудзях рукі. – Гэта імя здрадніка. Ён прама глядзеў на Гедыміна, не адводзячы вачэй.

Гедымін кіўнуў. – Юда з роду Гедымінава. Каін. Пайшоў брат на брата, і пала цемра на род. Крывёю хоча затапіць нашую зямлю. Дзе відана было, каб ліцьвін супраціў ліцьвіна ішоў? Варагавалі, так, было. Усялякае было. Але ж каб вычварак супраціў сваіх братоў войскі зьбіраў, ды вайной на брата ішоў,

чужынскіх псоў цягнуў на нашую зямлю, тое яшчэ ня бачылі вочы. Продкі нашыя стогнуць і варушацца ў трунах сваіх.

- Таму хачу войска сабраць. Да тэўтонаў хачу ехаць. Трэба граматы мне, што князь ня супраць. Але ж спачатку да цябе рушыў. Бо ж ты – свой чалавек ля князю. Ён цябе давярае. А мяне, можа, ужо і забыў. Міхась усьміхнуўся.

- Цябе? Гедымін узьняў вочы, і раптам зарагатаў. – Цябе, Чорны, як убачыш, дык ніколі не забудзеш. Гэта ты пра нас забыў, калі прападаў у чужых землях.

- Справы былі. Міхась нахіліў галаву. Але ж цяпер я тут, і нікуды з’язджаць не зьбіраюся. Калі толькі князь пашле.

- Ну, добра. Напішу табе падарожную да князя. Ён зараз у Гародні. Двор яго ўвесь там. І вось што, Чорны. Калі будзеш гатовы, то кліч мяне. Я з маімі людзямі падцягнуся. Хоць ён і брат мне па крыві. Быў, - раптам памаўчаўшы, дадаў ён.

- Дзякуй, Гедымін. Добры ты рыцар. Сумленны чалавек. І нізкі мой табе паклон.

- Няма за што. Пачакайце ўнізе, зараз я напішу грамату. Гедымін устаў, і праводзіў іх да дзьвярэй. Яны апусьціліся па лесьвіцы на першы паверх, і разьмесьціліся на лавах, аглядаючы пакой – вялікі, упрыгожаны пудзіламі зьвяроў і балванамі ў рыцарскіх дасьпехах.

Ульвар зь цікавасьцю аглядаўся, Ваіслаў спакойна сядзеў, палажыўшы рукі на наверша мячу, апусьціўшы вочы. Міхась маўчаў. У пакой уваходзілі, і выходзілі ваяры. Народу было ня мала. Было бачна, што гарнізон добра ўкамплектаваны, войска сабралося ў Лідзе шмат – нібыта чагосьці чакалі. – Ці не тэўтонаў? – падумалася яму. Але ж потым ён зразумеў. Чуткі множыліся, вакол было непакойна. Русіны паглядалі ваўкамі, шчэрылі зубы. Нехта і пляваў, калі ля касьцёлу праходзіў, ці бачыў сьвятарскую рымскую расу ці манаха. Францысканцаў у Лідзе дык і наогул былі забілі, хоць тое і зрабілі не русіны, а паганцы, як казала малва. Ды хто ж іх ведае. Тры сьвету сутыкнуліся тут, тры веры – старая, заходняя і ўсходняя. Тры

вялікіх хвалі. І утварыўся такі моцны вір, што сжарэ, і не заўважыць. Якая з хваляў пераможа – тое не вядома. Нарэшце багі старыя сышлі ў нябыт, але ж і са дну яны грозна гудуць, паграджаючы ўзьняцца. Захад жа з Усходам паўсталі адное насупраць другога, і пільна глядзяць у вочы, нібыта ваяры перад бойкай. Вырашаюць, хто мацней. Хто нанясе ўдар першым? Альбо ня будзе бойкі, і ваяры разыйдуцца, не братамі, але ж болей і ня ворагамі. Хто ведае? Ды вось, здаецца, што бойка ўсё ж такі будзе.

Так разважаў ён, пакуль чакаў паперы. Ён не сказаў Гедыміну, што Сьвідрыгайла прыходзіў да яго ўначы. Што прапаноўваў. Гэта ён раскажа пазьней.

# Глава 8: Стары князь

Князь стаяў ля вагню, працягнуўшы да полымю рукі, і яно раптам суцішылася, апала, нібыта падпарадкаваўшыся яго волі. Быццам бы паганскі жрэц, які мог загадваць стыхіям, выклікаць грымоты і маланкі, заклікаць дождж ды ўзьнімаць вецер, рабіў сваё чараўніцтва - задуменна, сышоўшы глыбока ў думкі. Міхась стаяў за ім, ціха, крыху саступіўшы ў цень, каб не мяшаць думкам старога князя. Яго высокая, магутная постаць зьлівалася са змрокам пакою, і казалася працягам ценю магутнага мура, на якім смаляна гарэлі вялікія паходні. Кроплі смалы падалі ў вядро з вадой, шыпелі, і цішыня панавала ізноў. Ды яе ніхто не парушаў.

Князь думаў. Хто ведаў, што адбывалася ў яго сэрцы. Куды думка яго ляцела, блізка ці далёка; і горкая яна напэўна была, бо на яго твар таксама апусьціўся цень.

- Да цябе прыходзіў, гаворыш? – вымавіў ён, і павярнуўся да Міхася. Яго твар, хоць і быў адмечаны ўзростам, уражваў. Пранізьлівыя чорныя вочы з-пад арліных броваў глядзелі так, быццам бы бачылі самое сэрца. Яго рысы мелі тую выразнасьць і дасканаласьць, якую надаюць поўнае выпрабаваньняў жыцьцё і вялікая душа, яны былі ўладнымі, гарашчымі, воблік яго нагадваў твар драпежнае птушкі, што прыглядваецца з-пад нябёсаў, каб нанесьці ўдар па ахвяры, якая не здагадваецца, адкуль на яе раптам апусьціўся вялікі цень.

Калісьці чорныя, а зараз пасыпаныя сьнегам жыцьця валасы закрывалі яго шчокі, адкрываючы высокі лоб, які больш належыў вучонаму, чым ваяру. Але ж па сіле яго плечаў, яшчэ прамых, і рук, крэпка трымаўшых зброю, возраст яго было вызначыць ня так лёгка. Гэты леў быў яшчэ ў сіле, і веліч яго нагадвала веліч і славу сонца, якое хіліцца на захад, але ж яшчэ зьзяе ў поўнай сваёй моцы, хоць і больш лагода саграває і мякка асьвятляе зямлю. Гады зьмягчылі сэрца князя, і замарудзілі яго хуткую на расправу руку. Здавалася б, расправіцца зь мяцежным братам, які прыносіў яму і краю

столькі непакою, было справай лёгкай. Але ж Вітаўт, ахрысьціўшыся, сур'ёзна прыняў пастулаты новае веры, і ўжо ня мог паступіць так, як паступіў бы раней, калі яшчэ быў паганцам, не зьвязным ведамі аб граху і яго цяжком выкупленьні.

- Так, шаноўны князь, - нахіліўшы галаву, адказаў Міхась. – Менавіта так. Ён прыходзіў да мяне ноччу, як вор. Але ж сышоў ён ня з чым.

- Аб чым ён цябе запытваў, што прасіў? – Вітаўт прама глядзеў на Міхася, і гэта быў адзіны чалавек, перад позіркам якога Міхась апускаў вочы. Апускаў у знак павагі і прызнаньня яго безумоўнай улады над ім, княскай і бацькоўскай, бо ж ён атрымаў ад князя столькі, сколькі ня кожы сын атрымлівае ад свайго любага айца.

- Прасіў аб хаўрусе, ваша мосьць. Хацеў, каб я далучыўся да яго. Каб выступіў на баку маскоўцаў. Абяцаў многа грошай, уладу над землямі аж да самое заходняй мяжы і на поўдзень, да гор Карпацкіх. Казаў, што я буду яго правай рукой, і разам са мной ён зможа зьдзейсьніць немагчымае. Войска абяцаў вялікае. Татараў у ім проста чорна, як галак на вясновым полі.

- Ці як мышей у падпольлі. Вітаўт раптам зарагатаў, і Міхась таксама ўсьміхнуўся.

- Менавіта так, ваша мосьць.

- Татары – сур'ёзныя ваяры. З тэўтонамі ім не параўнацца, і зь лівонцамі таксама, але ж дзе тыя і другія бяруць уменьнем і доблесьцю, татары бяруць лікам, адчайнай удальлю і лёккасьцю, зь якой яны атакуюць, і, не баючыся ганьбы, сыходзяць. Іх коні хуткія і жвавыя, як і яны самі, і яны бьюць хвалямі, накатваюцца, як мора ў прыліў, і ізноў адкатваюцца, і так бясконца многа разоў. Але ж, я скажу табе, быў ён і ня толькі ў русінаў ды татараў. Быў ён яшчэ і ў тэўтонаў. І ня раз. Ды тыя адмовілі яму, памятаючы нашыя дамоўленнасьці. І ўсе яго рухі передалі мне. Ён явіў вялікую доблесьць, седзячы ў вязьніцы. Грунвальд прайшоў міма, пакуль ён лічыў з-за вакна варон, якія сядзелі на шыбеніцах пад сьцянамі. Але ж прайшоў

час навалы і страху, і нехта з маіх васалаў ізноў узьняў галаву. Бо ж меч тэўтонскі над ёй больш не марудзіў. І цяпер у сэрцах некаторых пасялілася мара – атрымаць тое, што крыжакі атрымаць ня здолелі – нашую зямлю, шчырую, даверлівую, якая ляжала перад імі адкрытая і вабячая ў сваёй прыгажосьці, пазбаўленая злога ворагу, што ірваў яе столькі год. Але ж цяпар ворага мы атрымалі ўнутры. Каінаў грэх. Князь замаўчаў.

Міхась ізноў нахіліў галаву.

- Менавіта так, ваша мосьць. Дазвольце мне сабраць войска, і, я ўпэўніваю вас, ужо зусім хутка і сьляда здрадніка не застанецца на нашае зямлі.

- Зьбірай, ваяр. Ты, Чорны, вядомы яшчэ з часоў Грунвальду. Няма тых, хто адмове табе, і ня пойдзе за табой. Нават і Сьвідрыгайла хацеў бы. Ды ты, я ведаю, ніколі ня злучыш зь ім шляху.

Мне патрэбны такія людзі, як ты. Такія паплечнікі. Тваю шчырасьць я годна ўзнагароджу. На граматы, якія ты вязеш, будзе наложана мая пячаць, і яшчэ я дам табе пісьмо да магістру Ордэну, каб ён не адмовіў табе ў тваей просьбе.

Міхась прылажыў руку да сэрца, і нізка пахіліўся, уражаны. На княскую міласьць ён спадзяваўся, але ж яна пераўзышла ўсе яго чаканьні.

- Ну, хопіць аб справах, раптам вымавіў князь. – Скажы мне, як жонка, дзеці? Я памятаю прыгажуню, зь якой ты быў тады пад Наваградкам. Яна выглядала не тутэйшай. Адкуль яна?

- Жонка добра, дзякуй за вашую ласку і заботу, шаноўны князь. А зь дзяцей пакуль толькі сын, і зь ім усё таксама добра. Міхась ізноў пахіліўся, зьлёгку.

- Толькі сын? Жадаю табе дзесяць сыноў, і ўсіх – такіх жа багатыроў, як і ты. І яшчэ жадаю дачку, прыгожую, як твая каханая.

- Жонка мая не тутэйшая. Тут вы правы. Я прывёз яе з поўдню, з

Гішпаніі. Гэта дачка майго старога сябра, які паміраючы папрасіў мяне ўзяць яе, бо ж яна засталася б гаротнай сіратой, зусім адной. Дзеля гэтага мой сябар даручыў мне распараджацца ўсім яго дастаяньнем, але ж я ўзяў толькі тую частку, што належыла ёй па шлюбнаму праву, і астатняе перадаў у кляштар. Абацтва Дамініка Сілоскага, раней – Абацтва Сьвятога Себасьцьяна.

- Сьвяты Себасьцьян быў вялікі ваяр, і ёсьць вялікі сьвяты, - Вітаўт таксама нахіліў галаву ў знак пашаны. – Гэта добра, што ты паступіў, як хрысьціянін. У нашыя часы, урэшце, як і заўсёды, вера церпіць страшэнныя выпрабаваньні і ад зьнешнега ворага, і ад таго ворага, што жыве ў нашых сэрцах.

- Дазвольце з вамі не пагадзіцца, ваша мосьць, шаноўны вялікі князю. Нарэшце Міхась узьняў на яго вочы – яркія, гарашчыя. І на твары яго не было і ценю страху.

- У нашым сэрцы не жыве вораг. Там жыве толькі Бог. Сэрца нашае – дом Божы, яго сьвяты алтар і ёмішча яго велічы, яго высокі палац, дзе ён знаходзіцца заўсёды, ад самага нашага сатварэньня. Пазнаўшы сваё сэрца сапраўды пазнае Бога. Вораг жа блукае звонку, як зьвер драпежны, і цёмныя шляхі яго. Бо ж яго асьляпляе сьвет Бога. І так, сьляпы і дурны, бо ж Бога ён ня ведае, ён захоплівае ў палон такіх жа сьляпцоў і дурней. Але ж вочы вашыя зоркія, як у арла, князю. І вы бачыце праўдзіва, і таму вы бачыце Бога. Прама зараз вы бачыце яго, я ведаю, - ціха дадаў ён. Раптам вочы Вітаўта быццам бы ўзьняліся некуды,назіраючы нешта неабсяжнае, недасяжнае, вялікае. На імгненьне яго твар заліла сьвятло, быццам бы не належачае гэтаму сьвету. Альбо тое быў яркі блік вагню, які раптам вясёла зайграў у агменю.

- Я бачу Яго, рыцар, - нібыта ў паўсьне вымавіў ён. Ён кажа мне, што мне яшчэ доўга заставацца на сьвеце – дзесяць доўгіх гадоў, якія абарве здрадніцкая рука. Але ж за гэтыя гады я зьдзейсьню многае. Радзіма мая будзе стаяць магутная, і яе ніхто не пахісьне. Ды прыйдзе час, і браты злучаць рукі. Карона і Княства сальюцца, злучацца ў адно. І ізноў яны будуць стаяць разам доўга, і ніякая навала іх ня зруша. Да пэўнага часу, калі два вялікіх ваўка – з захаду і ўсходу – не разарвуць іх жывое

цела. Аднак і гэта міне. І прыйдзе час, калі … Раптам ён пахіснуўся, і змоўк.

Адкрыў вочы, і нібыта нанова ўбачыў Міхася перад сабою.

- Хто ты? – раптам прагучэў яго голас, хрыплы, быццам бы напалоханы ці зьдзіўлены. – Хто ты, госьць мой? Бо ж я лічыў, што ведаю цябе. Але ж я цябе ня ведаю.

- Ты ведаеш мяне, - проста адказаў Міхась. – Бо ж я ёсьць той, хто я ёсьць. З гэтымі словамі ён падыйшоў да князя, і палажыў яму руку на плячо. Яго рука была цяжкая і моцная, і адначасова – лёгкая, як крананьне галубінага крыла.

Вітаўт неадрыўна глядзеў на яго, і ў яго вачах зьявілася нешта, што нагадвала сьлёзы.

- Душа твая хутка ўзьнімецца, князь, - вымавіў Міхась. – Час прайшоў, і ты атрымаеш сваю нябёсную ўзнагароду. Хутка я адпушчу цябе. Цяжар жыцьця і лёсу болей не цягне цябе ўніз. І сэрца тваё вольнае. З гэтымі яго словамі князь схапіўся за сэрца, якое раптам стала лёккім-лёккім, і затрапятала, як птушка.

Яны стаялі адно насупраць другога, васал насупраць князю, роўныя па росту і велічы, і глядзелі адно аднаму ў вочы.

А потым Міхась убраў руку, і ізноў пакорліва апусьціў галаву. Вітаўт жа быццам бы прачнуўся ад сну, і сам палажыў руку яму на плячо.

- Так, праўду кажаш, рыцар. Бог і сапраўды жыве ў сэрцы. І той, хто адчувае яго ў сабе, насамрэч непераможны.

# Глава 9: Бірута

Віно проста лілося ракой, і хутка яны згубілі ніць размовы. Яны сыпалі жартамі і абменьваліся кпінамі, а потым Фрыдрых ізноў пачынаў скардзіцца на самотнае жыцьцё без сапраўднай справы, на адсутнасьць вайны і непераноснасьць міру, халодныя пранізьлівыя вятры і пустэчу зьнічтожанага краю, і ізноў падліваў кубкі. Міхась спачувальна слухаў, ківаў, кубак узьнімаў, і, нарэшце, зразумеў, што, напэўна, спаць ён застанецца прама тут, за сталом, калі не пад ім. Ды гасьціннага гаспадара было не спыніць – стаміўся па кампаніі новага чалавека. А можа, было нешта яшчэ ў гэтым яго апантаным жаданьні заліцца пад самае горла віном. Можа, думае, што госьць, добра падпіўшы, нешта яму раскажа. Прагаворыцца аб нечым. Такое не было немагчымым. Аднак Фрыдрых ніякіх хітрых ды складаных пытаньняў не запытваў, калі ня скардзіўся і ня кпіў, і ня піў, то на кароткі час заміраў і сядзеў, апусьціўшы галаву на рукі. А потым ізноў узьнімаў, быццам цверазеўшы, і ўсё паўтаралася ізноў.

Раптам, ледзь прадраўшыся праз барвовы вінны туман, ён у каторы раз узьняў галаву, цяжка апусьціўся, амаль лёг на стол, і, гледзячы на Міхася мутнаватымі блакітнымі вачыма, на якія спадала сьветлая зблытаная пасма, папрасіў:

- Пра жонку сваю раскажы. Што табе каштуе. Якая яна?

Міхась, адкінуўшыся на сьпінку лавы, вывучаў яго. Нарэшце, вымавіў:

- Што табе расказаць? Яго чорныя вочы прама глядзелі Фрыдрыху ў твар. Мокры ад поту лоб, пад вачыма – кругі. Цяжкія рукі са зьбітымі касьцяшкамі ляжаць на стале, далоні сьціснуты ў кулакі. Звыкла. Кашуля на грудзях расьхінутая, і ад горла разарваная, быццам бы чалавеку не хапала паветра, і ён ірваў на сябе адзеньне, намагаючыся атрымаць подыху болей, чым месьціла яго грудная клетка.

Вакол стаяў густы пах поту і віна. Яму не хацелася размаўляць

турэцкія. Наогул, візантыйскіх рэчаў было шмат. І куфары, напэўна ж, не пустыя. Поўныя золата, каменьняў, тканінаў, цудоўнага адзеньня - шытага, цяжкога, варварскага, і еўрапейскага, з шоўку, аксаміту.

Яна ўжо ведала, што там. Паказваў.

Награбленае дабро. Усё, чым Міхась гандляваў, прывозячы з розных краінаў, наладжваючы сувязі з майстрамі, цэхамі, гандлёвымі дамамі, Нікіфар здабываў у бойках. Безумоўна, такія рэчы маглі трапіць і да яе праз звычайныя гандлёвыя патокі, ды з большасьці паходжаньне кожнага метру тканіны сваёй сукенкі, кожнай ніткі пярлінаў яна ведала. Вось гэта было саткана ў Венецыі, а гэты шоўк прыехаў з далёкага ўсходу па шоўкаваму шляху. А гэты залаты ланцуг быў выраблены нямецкімі ювелірамі. Гэты ж - мясцовымі. Хлеб, які яна ела, быў сваім, выраслым побач. Той жа хлеб, які елі тут, быў суцэльна здабыты крывёй і разбоем. Рабаўніцтвам. Усё гэта даставалася лёгка, і яму ня ведалі цаны. Раськідваліся грошамі, кідалі дарагія кубкі аб пол, залівалі віном і жырам рэдкай прыгажосьці тканіны, валялі ў візантыйскіх шаўках, як сьвіньні, пад лавамі. Гэтага яна ўжо набачылася за першы тыдзень тут. А што рабілася на гэтых піршанствах, яна нават не жадала і ўяўляць. Жанчын тут, праўда, было ня шмат, у асноўным рабыні. Больш маладых хлапцоў. Тых можна было выкарыстоўваць як мага шырэй. І для бойкі яны годныя, і для працы, і для ўцех.

Канешне, нейкая мараль тут была - свая, асаблівая. Хто мацней, хто люцей, бязьлітасьней, трывалей. Любоў, дабрата, міласьць былі не ў пашане. Які з такога воін, ці пірат? А жылі з гэтага. Дамы, акрамя Нікіфарава, былі напаўземлянымі, цёмнымі, бруднымі. У іх не жылі, так, адлёжваліся. Ды і самі амаль ня мыліся - зрэдку абціраліся гразьзю ці глінай, яна абсыхала, злушчвалася, потым у раку нырнуў - вось табе і мыцьцё.

Некалькі дзён прайшло пасьля таго, як сажглі кляштар, аднак

ёй здавалася, што яна тут ужо адвечнасьць.

Надзіва, іх ня крыўдзілі, адносіліся нават з пашанай. Выдзялілі асобны пакой, багаты, для яе зь дзіцём, і яшчэ адзін - для Абеля.

Засланы дыванамі, завешаны тканінамі, зь вялікім ложкам. Іван цікавіўся ўсім, усюды залязаў, але ж потым закапрызьнічаў. Хацеў гуляць, а гуляць не пускалі. Толькі зрэдку выходзілі на двор.

- Спачатку я думаў абмяняць вас, скажу праўду. На зямлю. Пад чэснае слова. Але ж потым зразумеў, што як толькі вы апынецеся ў яго ізноў, лёс майго народа вырашыны.

Пакуль жа вы тут, я магу быць спакойным. Нарэшце, сына я можа яму і аддам. Яшчэ падумаю. Але ж цябе - наўрад ці. Ён вывучаў яе цяжкім позіркам.

Прыгожая. Дзіўна прыгожая. Гэта ён бачыў, не сьляпы. Чорная каса на белай скуры, як зьмяя. Таўстая, бліскучая. Нізкі выраз сукні паказвае белую шыю і сьпіну, нізка адкрывае грудзі. Чорнае аксамінае плацьце - здаецца, простае, але ж ён ведаў, колькі каштуе локаць такой тканіны.

Захоча - і ён возьме яе прама тут. Зараз. Не запытваючы. Але ж яму так не хацелася. Яму хацелася, каб яна пагадзілася. Скарылася яму. А згвалціць ён можа і рабыню. Калі ён возьме яе сілай, пераможцам усё роўна застанецца той, які стаіць поперак яго дарогі. А вось калі яна сама, па добрай волі адрачэцца ад яго, тое яму будзе значна больш балюча.

І яшчэ было ў гэтай дзяўчыне нешта акрамя дзіўнай белай скуры і чорных валасоў, прыгожага твару і вялікіх вачэй, зьзяючых, як зоркі. У ёй быў характар. І яшчэ нешта. Моц.

Старажытная, цёмная, такая, зь якой ён бы зямлю і нябёсы памяняў месцамі. Яму было зразумела, чаму яго вучань ёй зацікавіўся. З такой вядзьмаркай яго сілы вырасталі проста ў разы. Не было зразумела толькі адное - што здарылася потым? Чаго ён ад усяго адрокся? Што адбылося? Ён стаў жыць як звычайны мужык. Балванаў пазносіў, кнігі чорныя папаліў, у царкве дні праводзіў. Па кляштарах езьдзіў. І яна - магла б быць каралевай, а стала - паннай. Гаспадыняй. Паннaчкай. Ён усьміхнуўся. Ён бы зь ёй такія абрады рабіў, сеў бы побач з Одзінам, не ніжэй. А тое б і вышэй над багамі ўзьняўся.

Ды і што той разумее, дурань, у жанчынах? Жанчына - гэта таямніца, бездань, цемра, чорная і глыбокая, як сьмерць. А ў яго ўсё проста - служы яму, нарадзі дзіця. Гэтая дзяўчына ня ведае самое сябе. Ён ёй пакажа такія рэчы, што яна да таго ніколі ня вернецца. Сама не захоча. Толькі засталася адна перашкода. Адна перапона.

- Здымі крыж, - раптам вымавіў ён.

- Не здыму. Яна ўзьняла на яго вочы. Яе голас быў ціхі, але ж цьвёрды.

Ён схапіў ланцужок ля яе горла, і аддзёрнуў руку. Той нібыта паліў яму кулак.

- Чаму? Не баішся? - вымавіў ён.

- Не баюся, - адказала яна. - У Бога веру. Таму - не, не баюся.

- І што можа твой бог? Ён усьміхнуўся.

- Мой Бог можа ўсё, - ціха вымавіла яна. - Ён выратуе мяне. Вызваліць мяне адсюль.

- Ну што ж. Паглядзем. Ён агледзеў яе, вывучаючы позіркам. Я запомніў твае словы. Хай твой Бог вызваліць цябе. Заўтра.

З гэтымі словамі ён разьвярнууўся, і сышоў. А яна засталася адна, у поўным няведаньні.

Хутка пад вакном было не прадыхнуць ад дыма. Вогнішча ва двары палілі ўсю ноч. А раніцой яна ўбачыла вялікае, чорнае, пякельнае кастрышча на ўвесь двор, па якому гуляла полымя.

- Гэтая жанчына сказала, што яе вызваліць яе Бог. Ён зрабіў паўзу і абвеў рукой двор вакол. Па стаяшчым вакол вугляў пракаціўся рогат.

- Я вырашыў даць ёй шанец прылюдна ўшанаваць і пасьведчыць свайго бога. Калі ён правядзе яе па гэтаму вогнішчу - яна вольная. Вакол загудзелі, зашапталіся, затрэсьлі коп'ямі.

- Ты сказала, што твой Бог зь лёгкасьцю можа рабіць цуды. Ці ж гэта ня цуд - прайсьці па палаючым вуглям і застацца непашкоджанай? Нават калі ты проста здолееш перасеч гэты квітнеючы дыван з канцу ў канец, я клянуся, што я пахілюся крыжу. Клянуся перад усімі. І ўсе мае ваяры разам са мной. Чуеце? Калі Бог гэтай жанчыны яве цуд, мы ўсе пахілімся яму. Ён акінуў вокам натоўп, зь якога раздаліся крыкі адабрэньня.

Перад ёй чорным аксамітам раськінулася вугальнае мора, якое дыхала жарам. Нават стаяць ад яго на адлегласьці было не выносна. Калі яна зробіць крок на яго, скон яе будзе нябыстрым і пакутніцкім, як ён і абяцаў. Перад ёй раськінулася вогненная смерць, якую з бакоў акружаў сьціхшы, напружаны натоўп. Ён сказаў, што ёй трэба дайсьці да канца, і тады ён ахрысьціцца, як і ўсе яны. Ці ж гэта немагчыма? Напэўна, калі ісьці хутка, яна здолее. Проста трэба сабрацца, і рашуча шагнуць на вуглі. І, не марудзіўшы, прайсьці па ім як мага хутчэй. Гэта ня можа быць

немагчымым. З Богам няма нічога немагчымага. Што яна губляе? Жыццё? Усё роўна зямное жыцьцё калісьці скончыцца. Яна загіне, і тады яна апынецца зь ім. Толькі б здолець дайсьці да канцу гэтай дарогі. Хай яе павядзе па ёй Бог.

Яна ўжо амаль зрабіла крок наперад, як ізноў пачула яго голас.

- Паслухай! Кінь дурное. Няма ніякага геройства ў бясслаўнай сьмерці за слабога бога. Калі ты прылюдна адрачэшся і кінеш крыж на гэтыя вуглі, я адпушчу цябе. Хочаш, ідзі да яго. Хочаш - заставайся тут. Толькі прылюдна, пры ўсіх, прама зараз ты прызнаеш нашых сапраўдных багоў, і пахілішся ім. Згодна?

- Не, - спакойна адказала яна, хоць яе голас і дрыжэў.

- Я пайду. Вакол паўстала цішыня. І раптам яна адчула на сваім плячы нечую цяжкую руку. Прама перад ёй стаяў Марк, і глядзеў ёй у вочы.

- Ідзі, - ціха вымавіў ён. - Ня бойся. Я пайду побач з табой. Ён пасунуўся, і яна накіравалася да пламянеючай ямы. Жар абдаваў яе. Але ж побач яна адчувала Яго руку, і Яго плячо, ад якіх дыхала прахалодай і спакоем. Ёй засталося зрабіць апошні крок, як раптам на небе нешта заварушылася. Нізкая хмара напаўзла незаўважна хутка, хоць вакол і ярка сьвяціла сонца. Першыя кроплі паляцелі, і дасягнулі зямлі. А за імі нечакана грымнуў праліўны дождж. І тады яна сьмела стала на край ямы, і пайшла па ёй. Марк трымаў яе за руку, і ўпэўнена рушыў побач. Хутка лівень пераўтварыўся ў суцэльны патоп, праз які ўжо было амаль нічога ня бачна. Праз ваду яна бачыла чорны, шыпячы, курэўшы парай ускраек. Натоўп ля яго рассунуўся, і яна саступіла з вугляў на зямлю. Праз імгненьне дождж пачаў заціхаць. Вакол стаяла цішыня. Нешта лёгка кранула яе шчаку - нібыта чыісьці вусны дакрануліся да яе. Нябёсныя вусны. Марка болей не было зь ёй побач. Гэты пацалунак быў апошнім. Яго душа прыходзіла зь ёй разьвітацца, зразумела яна. Зь яе вачэй патокам нябёснай вады беглі сьлёзы.

І тады яна ўбачыла перад сабой Нікіфара. Як заварожаны, ён апусьціўся перад ёй на калені.

- Хто ты? - пачула яна яго голас. Бо ні сьмерць, ні агонь не бяруць цябе. Якая сіла схаваная ў табе?

- Мой Бог, - ціха адказала яна, - у якога я веру. А для Бога няма нічога немагчымага.

- Твой Бог..., - як зачараваны, паўтарыў Нікіфар.

- Твой Бог, - ціха вымавіла яна. - Я пасьведчыла яго перад табой, і ты абяцаў.

І раптам праз смугу і вільготную пару, якія рассыпаліся пад сонечнымі промнямі, гуляючы ў апошніх зьзяючых кроплях, яна ўбачыла яго. Ён выйшаў з ускрайку лесу на паляну. За ім на адлегласьці крочыў вялікі натоўп ваяроў. Іх белыя, запэцканыя крывёю плашчы разьвіваліся за плячыма.

Вакол ярка, быццам бы адлюстроўваяся ў каштоўных камянях, гарэла сонца.

І ў паўстаўшай цішыні яна пачула:

- Ахрысьці мяне! Ахрысьці мяне, вучань! - хрыпла прагучэў Нікіфараў голас.

# Глава 12: Дамаск

Пракляты, жудасны зной, які спапяляе ўсё вакол. І смага! Пякельная. Страшная. Ні кроплі вады ў фляжцы. Алекс патрос скураны мяшок. На яго пасьмяглыя, сухія вусны выкацілася апошняя кропля.

- Яны калодцы атруцілі, - пачуўся нечы голас. – Ён разьвярнуўся. – Дзе вады браць? Дзе браць гэту клятую ваду? – разгублена запрашалі вакол галасы.

- Там, за горадам, ёсьць аазіс, але ж яго сьцерагуць сарацыны. Прастрэльваюць там усё – самае месца.

- А, ўсё роўна! - пачуліся галасы. Усё адно – паміраць. У бойцы за Госпада, ці проста так, пад палячым сонцам на голай сухой зямлі, ад смагі.

- Ніхто з нас ня ўйдзе жывым! Ніхто! Мы ўсе тут застанемся. Малады ваяр, звар’яцеўшы, сядзеў на пяску, трымаючыся рукамі за галаву. Раптам ён ускочыў і кінуўся да Алекса. – Мы ўсе падохнем тут, чуеш! Усе! Алекс з размаху ўдарыў яму кулаком у скулу, і хлапец заціх, і раптам заплакаў. І тады Алекс абняў яго, прыціскаючы да сябе, панцыр стукнуўся аб другія закаваныя ў жалеза грудзі. Ён зьлёгку стукнуў яго рукой па сьпіне.

- Ну, хопіць, хопіць. Хлапец, нарэшце, заціх. Алекс адпусьціў яго, і сеў зь ім побач.

- Як цябе завуць? – запытаў ён.

- Мяне?

- Ну не мяне ж. Алекс пачаў губляць кантроль.

– Жан. Юнак быў зусім малады, амаль падлетак.

– Чаго цябе занесла сюды, дзіця? – раптам захацелася Алексу

запытаць яго. Побач з хлопцам ён выглядаў здаровым мужыком. Толькі што не сівым. Яго валасы адрасьлі, і віселі па плячах, чорныя, зблытаныя, густая барада пакрывала скулы і шчокі, вочы дзіка гарэлі, і ён быў гатовы забіць любога ў любы момант, так былі напружаны яго нервы. А потым яго рэзка адпускала, і яму проста было ўсё роўна.

Ледзь не запытаў, да перарваў сам сябе. Занесла таго ж, чаго і яго. Чаго і ўсех гэтых небаракаў. Слава, грошы, скука, жаданьне прыгодаў, даўгі – гэта ўсё лухта. Усе яны былі тут дзеля Госпада. Усе яны тут выкуплялі свае грахі. Толькі ў гэтым была мэта.

- Які грэх выкупляе гэты небарака? – падумалася яму.

- Ты чаго сюды пайшоў? – нарэшце сарвалося зь яго вуснаў. Жан зьдзіўлена глядзеў на яго.

– Таго ж, што і ты. Я проста люблю Госпада, і хачу вызваліць яго сьвятыні.

- Сьвяты вар’ят. Алекс сплюнуў. Усе яны тут такія. Як і ён. Ён запусьціў пяцерню ў чорныя гразныя валасы, пакрытыя пяском. Чаго ў іх толькі няма. І каго. Можа, трэба б было іх абрэзаць, але ж яму не хацелася. І нарэшце ён даў абет – не абразаць валасоў і не галіць твару, пакуль яны ня возьмуць хоць нешта. Хоць гэты кляты Дамаск.

Але ж Дамаск ня ўзялі. Аблога была бяссэнсоўным, мутарным дзелам. Кружылі вакол, і ўсё упустую. Войска таяла, людзі злаваліся. У лагеры пачаліся спрэчкі і бойкі. Алекс бавіў час тым, што боўтаўся вакол лагеру і выглядаў сарацынаў. А яны – яго. Яму пачала падабацца гэтая гульня ў кошкі-мышкі. Яны атакавалі невялікімі группамі, рыцары адбіваліся, цяжкія нямецкія мячы ламалі крывыя шаблі, і сарацыны зьнікалі ў пустыне. І ўсё паўтаралася ізноў. Па начам ён спаў з Жанам абняўшыся, бо ж ночы былі халодныя. У гэтага хлопца былі вялікія шэрыя вочы пад чорнымі бровамі-дугамі. І тады ён думаў пра яе. А потым засынаў, і ізноў прачынаўся ў пустыне, весь у пяску, ля патухлага кастру. З адной такой вылазкі за сарацынамі ён вярнуўся адзін. Цяжкое цела сябра яму не было

сілаў цягнуць, і ён проста прысыпаў яго пяском. Ды яму ўжо было ўсё роўна. Цяпер па начах яны глядзелі на яго ўдваіх – Жан і Летыцыя. Прывідаў вакол яго прыбаўлялася.

А потым паступіла каманда – адбой. Горад было велена кінуць. Тыдзень як дурні хадзілі вакол, і – нічога. Конрад вырашыў вярнуцца дамоў морам. І цяпер кожны быў сам за сябе.

- У Палясьціну пайду. Пойдзеш са мной? – запытаў Алекс нябачнага Жана. Зь яго сяброў, зь якімі ён адправіўся ў паход зь Германіі, у жывых не засталося нікога. Ражэ зарубілі першым, Вільгельма падстрэлілі стралой, астатніх ён проста згубіў невядома дзе. Войска таяла і таяла. Нарэшце, аб'яднаўшыся з французамі, яны акрыялі духам. І вось – ізноў нічога. Ганьба.

Аднак ён тут не дзеля славы, а дзеля Госпада. А Гасподзь не хадзіў пад Дамаскам. Ён наведваў зусім іньшыя месцы. А можа, ён яго чакае там? І Алекс вырашыў ісьць ў Ерузалем – сам ня ведаў, чаму, і навошта. Там было рыцарскае каралеўства. Можа, ён некуды прыстане.

Яго конь ледзь цягнуў ногі, і праз некалькі дзён шляху было відавочна, што хутка ён іздохне. І тады можа разьвітацца з жыцьцём і сам гаспадар. Нарэшце, перад імі – ім і канём – зьявіўся – не міраж – аазіс. Якое гэта было шчасьце! Алекс расьцягнуўся на пяску пад пальмай, насалоджваючыся булькаценьнем маленькага патоку, які ўцякаў у невялікае вазерцо. Гэта было дзіва пасярод пустыні. Да гэтуль тут стаялі купцы, і ад іх засталося вогнішча. Яно яшчэ слаба дыміла. Зь ежы ў яго быў толькі сухі хлеб і некалькі палосаў высушанага, як костка, мяса. Ён размачыў яго ў вадзе, і паставіў кацялок на агонь, кінуў туды сухар. І раптам пачуў нечы ціхі голас.

- Калі ласка, любезны воін, прашу разьдзяліць са мной маю сьціплую трапезу. Я маю некалькі фруктаў, і лепешкі. Ён павярнуўся, і ўбачыў пад пальмай мужчыну. – Купец? – падумаў ён. – Адстаў ад сваіх?

- З задавальненем, аднак я ня маю, што прапанаваць вам, шаноўны спадар. Наўрад ці вы будзеце есьць гэта. Ён паказаў на кацялок, у якім адзінока плаваў паточаны чарвякамі кавалак

сухажыльля і размоклы сухар.

- Вялікі дзякуй, і мне будзе прыемна разьдзяліць з вамі тое, што ёсьць у вас. Бо ж вы ваявалі за Госпада. Я – веры Іўдэйскай. Мяне завуць Іешуа. Ён нахіліў галаву ў закручаным да вачэй платку. Алекс працягнуў руку, і той крануў яе коньчыкамі пальцаў.

- Мае людзі чакаюць мяне на шляху ў Ерузалем, - паясніў ён, калі яны ўладкаваліся ля вагню. – Я ж затрымаўся тут дзеля сваёй пэўнай мэты. Я змагаюся з д’яблам, - ціха шапнуў ён Алексу на вуха.

# Глава 13: Гаспадыня

Яна закрыла вочы, і ўбачыла яго твар, як жывы. Мужчына глядзеў на яе з-за шырокага сталу, адкінуўшыся на лаве, цяжкой, груба скалочанай з пачарнелага дубу, сам цяжкі, масіўны, цёмны. Чорныя валасы, зблытаныя, зьвісалі яму на плечы, закрывалі лоб. Рукавы белай кашулі з тонкага ільну былі закасаныя, магутныя грудзі ў разрэзе ворату пакрытыя потам, які расплываўся па тканіне цёмнымі плямамі.

Тэўтон сядзеў насупраць, і яна бачыла толькі яго шырокую сьпіну і сагнутыя плечы. Яго валасы, узкалмачаныя, былі мокрымі і бліскучымі. У пакоі было горача натоплена, і стаяў густы вінны пах.

Стол перад імі таксама быў заліты віном - чырвоным, як кроў.

Яна нерашуча спынілася пры ўваходзе. Фрыдрых павярнуўся, і зьмерыў яе поглядам.

- Ну што, жрыца. Прыйшоў табе час замуж пайсьці.

Ён шырока ўсьміхнуўся.

Яна адсунулася ад яго далей, і ўперлася сьпіной у ваяра-вартаўніка, які не зварухнуўся ні на волас.

У адно імгненьне Фрыдрых схапіў яе за руку, і прыцягнуў да сябе.

- Ідзі, задавольвай госьця! Ён зарагатаў.

А потым у кароткіх, ды ёмістых словах і з прыкладамі растлумачыў, што зь ёй будзе, калі яна пачне яму пярэчыць, і штурхануў яе наперад. Міма сталу - да яго.

Яна ледзь ня ўпала госьцю прама на рукі, пахіснуўшыся.

Яго вялікая рука імгненна спыніла непадуладны ёй рух. І зноў лягла на сьпінку лавы.

Чалавек ў белай кашулі, з чорнымі, як ноч, валасамі, глядзеў на яе пільна, вывучаючы. Яго позірк нібыта агортваў усю яе ад верху і да нізу. Ён маўчаў. Маўчала і яна.

Вялікая рука ізноў узьнялася, працягнулася да яе. Яго пальцы пагладзілі яе грудзі, адкрытыя ў разарванай сарочцы. Ад яго дакрананьня яна ўздрыгнула, і пайшла мурашкамі. Што зь ёй робіцца, яна і сама не разумела. Не было нават думкі пярэчыць ці супраціўляцца гэтаму чалавеку. Позірк яго бліскучых вачэй нібыта зачароўваў яе, і супакойваў.

Але ж раптам ён руку ўбраў, і болей яе не чапаў. Проста глядзеў ёй у вочы, быццам бы бачыў яе наскрозь.

Яна баялася ўзьняць на яго позірк, вывучаючы яго калена. Ён сядзеў, шырока рассунуўшы ногі, адкінуўшыся на сьпінку. Яго вочы былі напаўпрыкрытыя, бо ён ужо добра выпіў, і быў разгарачаны і расслаблены.

Але ж пры гэтым яго позірк не губляў розуму, і рухі, хоць і павольныя, былі атточана дакладнымі. Можа, крыху занадта.

- Ідзі да мяне, - нарэшце нягромка, спакойна вымавіў ён, і яна нясьмела пасунулася бліжэй. Ён пасадзіў яе сабе на калені, і прыцягнуў рукой да шырокіх грудзей. Яе галава апусьцілася яму на плячо, і ён падхапіў яе ногі, і палажыў сабе на сьцягно. Яго рука дакранулася да яе ўнізе, і яна паспрабавала выкруціцца, але ж ён крэпка, хоць і беражна, трымаў яе.

Яго твар нахінуўся блізка-блізка, смуглы, зарослы чорнай барадой, з цёмнымі глыбокімі вачыма. Яго вусны былі чырвонымі ад віна, і ад яго густа пахла потам, віном, смажаным мясам і металам, а яшчэ нейкім густым, вострым, незнаёмым ёй пахам.

Ён быў чужы і далёкі, і ён быў блізкі, бліжэй за ўсё і усіх ад яе. Цяпер яе сьветам быў ён. Яго вусны наблізіліся да яе вуснаў, і яна закрыла вочы, і адчула іх дакрананьне - мяккае, крэпкае, моцнае і далікатнае адначасова.

Яе сэрца закалацілася ад беспаваротнасьці моманту, які, яна

разумела, зараз мяняў усё яе жыцьце.

Што зь ёй адбудзецца зараз? Што будзе далей за гэтым яго пацалункам, які адчыняў ёй дзьверы ў бясконцасьць? Нешта яна губляла - цнатлівасьць, нявіннасьць, ня цела, але ж душы. Аднак нешта яна і набывала ўзамен.

Яго вусны рассунулі яе вусны, яго язык крануў яе, і яна закруціла галавой. Раптам ёй стала страшна і непрыемна, і сьлёзы брызнулі зь яе вачэй.

І тут жа яго губы пакінулі яе. Ён узьняў твар, але ж працягваў трымаць яе крэпка.

Яго рука была адначасова як жалезныя ціскі, і як калыбель, у якой было так прыемна паснуць салодкім сном.

- Колькі ты за яе хочаш? - пачула яна яго ўладны, нізкі голас.

Фрыдрых нешта кінуў, напэўна, не пагаджаўся. Мужчына настойваў на сваім. Яна ня так добра ведала польскую мову, але ж разумела, што зараз ідзе гандаль. Гандаль за яе. Але ж потым з вуснаў мужчыны зьляцелі словы, якія яна нарэшце зразумела, і ад якіх яе кінула ў пот.

Яна ляжала ў яго на руках, закрыўшы вочы, безабаронная, нерухомая, і прыгатавалася растацца з жыцьцём, якое раптам згубіла для яе сэнс.

Мужчыны горача спрачаліся, і тут вялікая рука нечакана лягла ёй на лоб. Па яе скуры пацякло віно, зьмяшаўшыся зь яе сьлязамі.

- Хрышчу цябе ў імя Айца, Сына, і Духа Сьвятога, - пачула яна, і зразумела, што болей Фрыдрых ня мае над ёй улады, бо ж яе гаспадаром цяпер стаў Ён.

А потым моцныя рукі адарвалі яе ад зямлі, і яна паляцела некуды.

Ляцела, ці, хутчэй, плыла, нібыта яе нес вялікі, хістаючыйся на хвалях чоўн, а вакол раськінулася неабсяжнае чорнае мора.

Дзьверы расчыніліся, і зачыніліся. Ён увайшоў у пакой, і апусьціўся на вялікі ложык, асьцярожна палажыўшы яе побач.

Яна падабралася, і запытальна глядзела на яго.

Ён крыху пагаварыў зь ёй, задаў некалькі пытаньняў, а потым зваліўся побач, прыцягнуў яе да сябе, і паснуў. Яна ж ляжала, ды сон ніяк да яе ня йшоў. У сьне ён крэпка абдымаў яе, яго рука ляжала ў яе на грудзях, другая ж дакраналася да яе зьнізу. Яго пальцы гладзілі яе там, і зь ёй пачало рабіцца нешта, чаго раней ніколі зь ёй не было. Ад цяпла і крананьня яго рукі ў яе ўсё гарэла, і яна не знаходзіла сабе месца. Ёй хацелася, каб ён мацней націснуў, прасунуў руку ў яе, і яна варушылася, круцілася, і цёрлася аб яго кісьць. Раптам яе накрылі нейкія незнаёмыя ёй, гарачыя, прыемныя хвалі, якія зносілі яе, кідалі некуды ў бясконцасьць. Зь яе на яго руку пацякла яе вільгаць, і яна павярнулася да яго тварам, ахапіла яго руку нагамі, і прыціснулася да яе ўсім целам, адчуваючы грудзямі моцныя мышцы яго пляча. Яго твар быў побач зь ёй, і яна ўбірала ў сябе яго дыханьне, насалоджваючыся новым заліваўшым яе пачуцьцём, якое здавалася ёй брудным і салодкім, забароненым і сакральным. Нарэшце таямніца, якую хавалі ад яе багі, прыадкрылася. Ён сказаў, што цяпер яна належыць Богу, і належыць яму. А гэта значыць, што Богам быў ён. Цяпер усё было для яе проста і зразумела.

Яна не разумела аднаго - чаму ён спыніўся. Ён мог бы авалодаць ёй, яны ж спалі побач у адным ложку. Аднак ён гэтага не зрабіў. Сказаў, што з-за яго панны. Аднак яе тут не было. І ці ж ён не яе гаспадар? Не магло быць, каб ён не захацеў гэтага з-за панны. Як яна магла яму перашкодзіць? Каб ен яе не жадаў, тое было зразумела. Аднак ён жадаў яе, і моцна. Гэта яна адчувала. Яна ня ведала, як гэта праяўляецца, ды інтуіцыя падказвала, што гэта менавіта так. Бо ж ён яе і цалаваў, і трогаў, і гладзіў. Яна асьцярожна дакранулася да яго ўнізе, і адчула нешта цьвёрдае, вялікае, да чаго яна прыціснулася жыватом, уяўляючы, як яно дакранаецца да яе цела ў патаемным месцы.

Нарэшце яе змарыў сон, у якім ён цяжка наваліўся на яе, амаль увабраўшы ў сябе. А потым усё пачало плыць, мяшацца, і затым

нечакана хутка надышла раніца.

Яна ехала на высокім, матляючымся вазку, і зь цікаўнасьцю назірала краявіды. Ёй усё было нова, усё захоплівала. Бо ж, шчыра кажучы, яна была яшчэ зусім дзіця.

Побач ехаў высокі, прыгожы ваяк, рыцар з залатымі, як у яе, валасамі, ў накінутай на белы плашч з крыжом ваўчынай скуры. Ён забаўляў яе размовамі, прыносіў ежу і ваду, і ўсялякім чынам абустройваў яе побыт і яе камфорт. Напэўна, Ён загадаў, зразумела яна, і ўспрымала ўсё, як даннасьць.

Гаспадар ехаў наперадзе, кіраваў атрадам. Яна амаль ня бачыла яго, і ўжо пачала сумаваць. Ёй адчайна хацелася ўгледзець у натоўпу яго цёмныя вочы, яго смуглы твар і белазубую вусьмешку, пачуць яго голас. Каб ён дакрануўся да яе - хоць зьнянацку, па ходу. І раптам яна зразумела, што, напэўна, закахалася ў яго. Закахалася моцна, і бяспаваротна. Палюбіла яго, як самое сябе, напэўна, назаўсёды.

Што датычыцца згарэлага кляштару, гэта яе нікольк не зьдзівіла. Такое на яе памяці адбывалася часта, і ў яе краі было справай звыклай. Да таго ж, гаспадар быў багатым, і мог лёгка аднавіць усё, і нават лепей чым было. Але ж калі яна ўбачыла яго на попелішчы, яе сэрца ўпала. Яна так хацела ўбачыць яго, але ж - ня ў такім стане. Не пры такіх абставінах. Ён хадзіў вакол абгарэлых сьценаў, як чалавек, у якога нічога не засталося ў жыцьці.

Яго боль быў нябачным, але ж тым страшнейшым для назіраньня, чым больш ён хаваў яго. Напэўна, ёй можна было радавацца, бо ж панна, да якой яна ўжо пачала яго раўнаваць, зьнікла.

Па размовах і з адказаў на свае кароткія пытаньні яна зразумела, што панна дужа прыгожая. Такая, як не бывае і ў сьвеце.

Але ж у рэальнасьці яна ня радавалася. Ёй хацелася абняць яго, і заплакаць разам зь ім. Да таго ж, разам з паннай зьнікла і яго дзіця. А што можа быць жахлівей для бацькі, чым згубіць

роднае дзіця?

Потым жа ўсё пачало адбывацца неяк шалёна хутка. Перасьледваньне на кані з Ульварам, за якога ад страху яна трымалася крэпка, не адарвеш, бойка, у час якой яна схавалася за кінутай павозкай, і ізноў вандроўка праз лес, ізноў з Ульварам, на гэты раз з гаспадаром побач.

Яна ўспрымала як даннасьць, што Ўльвар крэпка трымае яе, захінае сабой ад стрэлаў і ўдараў, лоўка адбіваючыся адной рукой ад нападаючых, што яго моцная рука жалезным кальцом ахоплівае яе, мякка, але ж надзейна. Яна не адчувала зь ім таго гарачага, трапяткога пачуцьця, якое ахінала яе зь яго гаспадаром, аднак ён ня быў ёй непрыемны. Ён быў прыгожы, высокі, і малады. Не юнак, але ж значна маладзейшы, чым яго пан.

Жартаваў, сваволіў, але ж заўсёды быў зь ёй па-рыцарску галантны.

Пакуль яны ехалі праз лес, ёй пачало здавацца, што іх вандроўка становіцца бясконцай. І ёй прыемна было вандраваць разам зь імі, сядзець на вялікам белым кані Ўльвара, прыхіліўшыся да яго грудзей, і ехаць, ехаць і ехаць, назіраючы за гаспадаром наперадзе.

Нарэшце яны пад’ехалі да вялікай паляны, і тут яна ўбачыла яе.

Што гэта та самая панна, яна спазнала адразу.

Бірута не магла дакладна бачыць твар жанчыны скрозь патокі вады, але ж тое, што яна бачыла, казала ёй, што жанчына гэтая была надзвычай прыгожай.

Высокая, тонкая, яна стаяла пад праліўным даждом, і чорны аксаміт аблягаў яе цела, як другая скура. Бледны, мокры твар глядзеў некуды ўгару, і вочы, здавалася, бачылі нешта, віднае толькі ёй. Чорныя, як смала, як ноч, валасы цяклі разам з вадой па яе плячах – распушчаныя, доўгія. Яе ярка акрэсьленыя вусны нешта шапталі, пакуль вочы назіралі сонца, выходзячае з-за

аблокаў. На шыі жанчыны дыямантавым агнём у сонечных промнях гарэў вялікі залаты крыж на ланцугу, і ў ім адбіваліся вясёлкай кроплі сьляпога дажджу. Яе талія была надзвычай вузкай, грудзі, прыціснутыя плоскім гарсэтам, былі тым ня меньш дасканалымі, шыя – доўгай, скура – бялюткай, як сьнег. Яна выглядала тонкай, пяшчотнай, амаль не вясомай, але ж разам з тым такой жа важкай і велічнай, як і яе пан. Яе рука, якая ляжала на галаве высокага мужчыны ў паганскам адзеньні, здавалася цяжкай, хоць і была далікатнай, з доўгімі вытанчанымі пальцамі, на якіх зьзялі камянямі залатыя пярсьцёнкі.

Праз тонкую скуру на яе плячах праступалі ключыцы, пяшчотныя, мяккія шчокі пасунуліся, вочы былі абведзены кругамі, і ад гэтага выглядалі яшчэ больш вялікімі, бяздоннымі. За яе сьпіной курэла, дымілася вялікае вогнішча. І на ім былі бачныя сьляды – лёгкія, ледзь кранаючыя вуглі. Жанчына прайшла праз агонь, зразумела Біруta. І пры гэтым пайшоў дождж. Яна многа ведала і бачыла ў сваіх лясах, ня гледзячы на свой малады ўзрост. Яе вучылі прымудрасьцям каўдаўскога жыцьця і жрэчаскім таямніцам з самага раньняга дзяцінства. І яна разумела, што гэта можа азначаць. Той, хто валодае стыхіямі, сіламі агню, вады і зямлі, той сапраўды можа параўнацца з багамі. Але ж гэтая жанчына не была жрыцай, паганкай, ці ваўхвом. Бо на яе шыі вісеў крыж. А гэта значыла, што яна належыла Яму – выратавальніку і гаспадару Біруты.

- Якую ж моц мае гэты невялікі крыж? – зьдзівілася дзяўчо. – Як можа быць такое, што самі багі сьхіляюцца перад ім, і агонь не кранае, і служыць яму і зямля, і вада зь нябёсаў? Напэўна, сапраўдны нічога няма мацней за яго, крыж, падумалася ёй. Гэты высокі, дзікі, прыгожы і моцны ваяр, які зараз сьхіліўся перад паннай, быў відавочна ваўхвом. І па яго адзеньню і знакам яна бачыла, што ён быў каралём, пастаўленым высока над лясным народам. І вось зараз гэты магутны чалавек сьхіляецца перад танюткай жанчынай, якую ён мог бы зламаць папалам адной рукою. Сьхіляецца перад яе моцай, яе веліччу, якія яна набыла дзякуючы крыжу, які вісіць на яе доўгай шыі.

Ён падыйшоў да яе, і яна патанула ў яго абдымках. Ён моцна

прыціснуў яе да сябе, яго рукі гладзілі яе сьпіну і плечы, трымалі яе твар, а вусны пакрывалі яго пацалункамі. Здаецца, ён нікога і нічога ня бачыў акрамя яе. І раптам Бірута зразумела, як яны былі падобны. Яны былі нібыта адлюстраваньнем адно другога, больш падобныя, чым брат з сястрой, ці нават нябёсныя блізьняты-дыяскуры. Яны былі нібыта паловамі адной душы – сонцам і луной, зліваючыміся ў прыўкрасным нябёсным танцы. Яго моц дапаўнялася яе слабасьцю, яго веліч – яе пяшчотай і лагоднасьцю, яго агонь – яе прахалоднай, гаючай вільгацьцю. Здавалася, ён знайшоў самое сябе, а яна сустрэла на гэтай паляне самога Бога. Яе тонкія доўгія пальцы пяшчотна гладзілі яго шчокі, дакранаючыся да яго вуснаў, нібыта яна была сьляпая. Яе радасьць была такой вялікай, што пераходзіла ў вар’яцтва, быццам бы яна не разумела, дзе яна, і хто вакол, і бачыла толькі яго, як і ён – толькі яе.

Нечая вялікая рука лягла на яе, і яна зразумела, што гэта – рука Ўльвара. Яна моцна сьцісквала яе плячо, ён стаяў, і глядзеў на іх, забыўшыся на самое сябе, і ў яго вачах Бірута ўбачыла адначасова і боль, і вялікую радасьць. Раптам яна зразумела, што Ўльвар кахае гэтую жанчыну. Кахае яе адчайна, безадказна, так, як Бірута пакахала свайго гаспадара. Яго вочы блішчэлі, ад сьлёзаў ці яркага сонца, было не зразумела. І тады яна накрыла яго руку сваёй маленькай рукою. Ён уздрыгнуў, і нібыта прачнуўся ад сну. Яго вочы, здаецца, убачылі яе, і ўбачылі нанова. Яна стаяла перад ім, ледзь дасягаючы яго пляча, з доўгім плашчом залатых валасоў, зьзяючых на сонцы, і яе твар, пяшчотны і ружовы, як яблыневы цвет, глядзеў на яго вялікі блакітнымі вачыма. Яна сама нагадвала сонечны прамень, анёла, які прама перад ім таяў у сьвятле, сыходзячы ў бясконцасьць да Пана Бога. У ёй ён бачыў сваё адлюстраваньне, нібыта прачнуўшыся ад цяжкога, дурманячага сну. Асьцярожна ён нахіліўся да яе, яго сінія вочы, здаецца, купаліся ў яе блакітных вачах.

- Я кахаю цябе, Бірута, - ціха вымавілі яго вусны. – Выхадзі за мяне. Яго вусны пяшчотна дакрануліся да яе шчакі, і тут жа адарваліся. Ён выпраміўся, і пачырванеў. Яго сьветлая скура лёгка набывала колер на сонцы, ці ад прыліву крыві і зараз ён

выглядаў нават міла – высокі, грубаваты ваяр з чырвонымі плямамі на шчоках, як у сарамлівай дзяўчыны.

- Я … я ня ведаю.. трэба запытаць яго, гаспадара… вымавіла яна. І раптам дадала, горача, апускаючы пад яго позіркам вочы:

- Я згодная.

# Глава 14: Узьяднаньне

Яго твар залівала ранішняе сьвятло. У мяккіх белых яго промнях па-новаму бачыліся ёй яго любыя і дарагія для яе рысы - вытанчаныя, дасканалыя, і такія прыгожыя, што ў яе забалела сэрца. Яны маглі быць і цёмнымі і пагрознымі, і тады вочы яго спапялялі, кідаючы маланкі. Але ж сапраўдныя яны былі такія, як зараз. Сьветлыя, бачучыя Бога.

Яе вусны прыцiснуліся да яго вуснаў, і адчулі іх смак - ўласны, любы ёй, хораша знаёмы. І кожны раз яна адкрывала яго па-новаму, як і ён адкрываў яе.

Яго вусны краналі яе, і яе кідала ў жар, а сэрца яе залівала пяшчотай. Яна трымала яго як дзіця ля сваіх грудзей, і ён таксама трымаў яе на сваіх шырокіх грудзях, надзейных і магутных. Яго губы пакрывалі яе цела пацалункамі, адорваючы яе сваёй любоўю, параўнаньня якой не было ў сьвеце, як і яна сьцьвярджала сваё каханьне да яго, замацоўваючы яго пацалункамі-пячацямі на яго сьвятым для яе целе, якое так часта зьлівалася зь яе целам, што яны ўжо не маглі раз'яднацца там, дзе фізічныя абмежаваньні ня мелі моцы.

Колькі часу яна ўжо ведала яго? Калі палічыць, то нядоўга, але ж ёй здавалася, што ўсё жыцьцё. Колькі ўсяго за гэты час адбылося! Адна рэчаіснасьць зьмянілася на другую, яшчэ больш рэальную. Праз Памежжа і Адхлань яны выйшлі туды, дзе ім належыла быць, куды вывела іх божая воля. Дзе яны маглі апынуцца, ёй было ўсё роўна - толькі б быць зь ім побач. Ды ўсё ж, гэты час, які стаў іх новай рэальнасьцю, выпрабоўваў. І выпрабоўваў ён жорстка.

Цяпер, калі сілы самагітаў перайшлі на іх бок, яны адчувалі сябе значна ўпэўненей. Але ўсё ж пагроза з усходу заставалася. І яны ведалі, што яна ня зьнікне ніколі. На Ўсходзе вырастаў

леў - і ён тачыў зубы. Адтуль разам з Ардой Сьвідрыгайла чэрпаў, здавалася, незьлічоную моц. У які ўжо раз выкінуты зь Літвы, ён рыскаў вакол, залізваў раны, і зьбіраў сілы. Але ж найбольшым ворагам Літвы было не Маскоўскае княства, якое хутка і небясьпечна набірала сілу, рухаючыся па інерцыі з татарскай коньніцай. Найстрашнейшым для Літвы злом была здрада. Здрада ва ўмах, і душах.

Мячом здрады Сьвідрыгайла бязьлітасна рассякаў дзяржаву, манячы, вабячы князёў марамі аб нейкай асаблівай уладзе, якой яны ня мелі раней. Умела гуляючы на пачуцьцях крыўды і гордасьці, веры, хцівасьці, помсты, ён узрушваў князёў, бязьмежна адорваючы іх абяцанкамі, якія не каштавалі яму нічога, бо ж сапраўды ён нічога і ня меў. Слаўны Грунвальд ён сустрэў у вязьніцы, і, зьбёгшы адтуль, безьперапынна руйнаваў і непакоіў дзяржаву, рушымы прагай помсты і ўлады. Ён хацеў усю Літву, а потым - і іньшыя землі. Відавочна, што за яго сьпіной Масковія песьціла свае мары. Ён жа, дурны ў сваёй апантанасьці адпомсьціць сроднікам і ўзвысіцца над імі, кідаўся з хаўруса ў хаўрус з адкрытымі ворагамі абодзьвух дзяржаваў, якія ў радасным зьдзіўленьні назіралі за яго шалёнымі рухамі. Мо, гэты вар'ят здолее здабыць ім тое, што яны ня здолелі самі здабыць за стагоддзі захопнічых войнаў, калі іх войскі бязьлітасна адкідваліся аб'яднанымі сіламі Літвы, Русі і Кароны? Там, дзе татары не праскакалі, і тэўтоны не прайшлі, Сьвідрыгайлава здрада, як гніль, працінала ўсё, разбурала жывую тканіну, ірвала нутро краю.

Але ж паступова ва ўмы прыходзіла і асэнсаваньне, і сапраўдная годнасьць узьнімала галаву.

Тыя, хто спачатку пасьмейваліся і адводзілі вочы, атрымалі колькісь сур'ёзных папярэджваньняў, якія, нарэшце, вымусілі Літву ізноў аб'яднацца разам ва ўпартым супрацьстаяньні, у барацьбе за вумы і душы, за дзяржаву і будучыню.

Выбар быў відавочны - Крыж, альбо Арда. Сьвятло, альбо цемра.

Жыцьцё, альбо сьмерць душы. Арда была целам - вялікім, магутным, жывучым па законах зьвярыных, драпежных. Па законах плоці. Крыж жа быў душой і яе адлюстраваньнем у сьвеце - розумам, чаго, на шчасьце, у супраціўніка было ня шмат. Бо ж розум заўсёды атрымае перамогу над целам, калі ён дастаткова дыстыплінаваны, і спрактыкаваны ў бойках з плоцьцю. Да таго ж, калі ім кіруе душа, якой кіруе Бог.

Яны знаходзіліся ў тым жа пакоі, ў якім яшчэ ўчора яна ў заточаньні чакала вырашэньня свайго лёсу.

Тыя ж дываны і тканіны, багатыя куфары і шыкоўны ложак, варварскія, зь вялікай раскошай, аднак гаспадарыў тут цяпер іньшы парадак - строгі, лагічны, прызначаны ўтаймаваць і заключыць у берагі дзікую, непадуладную раней моц. Моц, якая павінна была пачаць працаваць на карысьць дзяржаве. Не абмяжоўваючы яе і не руйнуючы, ён не скараў яе, ён працягваў ёй руку, і запрашаў да партнёрства, роўнага сярод роўных, аб'яднаных адзінай уладай - уладай духа.

Нешта няўяўна зьмянілася вакол. Быццам бы само паветра стала іньшым.

Ваяры ўваходзілі і сыходзілі дакладна па камандзе, прама трымаючы сьпіны. Вакол мільгацелі белыя плашчы, супраціў якіх зьвярыная поўсьць выглядала зношанай, бруднай і патрачанай шашалем.

Старыя часы сыходзілі, і ім тут болей не было месца.

Першае, што зрабілі, на сьцяне пры ўваходзе ўбілі жалезны цвік, і павесілі на ім вялікае расьпяцьце. Цела Хрыстова выцягнулася над уваходам як напамін аб тым, што тут дух валадарыць над плоцьцю, плоць жа нямоглая і сьмяротная, прыназначаная для служэньня духу, які адзіны можа яе пераўтварыць і узвысіць, а разам зь ёй - і ўвесь сьвет вакол.

Яшчэ ўчора людзі тут нагадвалі жывёлаў. Цяпер жа яны нанова набылі чалавечае аблічча, і зьдзіўлена азіраліся, не разумеючы, як яны жылі раней.

Яна знаходзілася ў суседнім пакое з Абелем і Іванам, пакуль Міхась размаўляў зь Нікіфарам.

Яны сядзелі адзін насупраць другога на нізкіх усходніх стульлях, засланых дыванамі, настаўнік насупраць вучня, якія, нарэшце, памяняліся месцамі.

І цяпер галоўным быў, і запытваў ён, у той час як Нікіфар спакойна і ўважліва слухаў, што казаў яму яго былы малодшы, а зараз - яго старэйшы духоўны брат.

- Першае, што я хачу ведаць. І, нарэшце, апошняе. Я не запытваю, навошта ты гэта зрабіў. Мяне не цікавяць твае матывы - матывы зьвяра. Таго, хто яшчэ не набыў чалавечы воблік.

Я запрашаю цябе - чалавека. Адкажы мне, як чалавек, які ты зараз ёсьць, а не як зьвер, якім ты перастаў быць.

Ці было што паміж вамі? Паміж табой і ёй?

Я бачу, што яна жывая і здаровая, не пашкоджаная. І за гэта табе дзякуй. Хоць напрыканцы ты і вырашыў яе спаліць.

Аднак мне трэба ведаць праўду. Ты быў зь ёй? Калі ты скажаш - так, яна застанецца тут, і сыду я. Я ня буду помсьціць, бо і ў мяне, і ў цябе будзе, чым заняцца. Сына я з сабой забяру. Яна ж будзе вольная быць з табой, ці сыйсьці ў кляштар, калі ён будзе адноўлены, ці з'ехаць, куды пажадае.

Яго вочы, абведзеныя кругамі, прама глядзелі на Нікіфара, і ў іх быў такі боль, што ў таго раптам грукнула сэрца. Перад ім сядзеў чалавек, моцны і дужы, у густых чорных валасах якога зьявіліся срэбныя ніці. Гады яшчэ не пагнулі яго шырокія плечы, але ж гора пакінула на яго твары свой сьлед. Рэзкія лініі праляглі па яму, быццам шнары, якіх было на яго целе нямала. Колькі ж, і якіх глыбокіх шнараў было ў яго душы, ён не лічыў.

Нарэшце Нікіфар зразумеў, які ўдар ён яму нанёс. І раптам адбылося нешта новае, што ён яшчэ ніколі не адчуваў. Ён адчуў боль гэтага чалавека, які зараз сядзеў перад ім, і пільна глядзеў яму ў вочы.

І за пачуцьцём болю прыйшло асэнсаваньне, і раскаяньне. Грэх, які ён толькі што зьдзейсьніў, балюча жог яму душу. Ён зразумеў, як можа мучыць і спапяляць грэх. Якім жудасным можа быць належачае за яго пакараньне. Гэта было прыдзьвер'е пекла, і ён стаяў перад ім, і зазіраў туды. І зразумеў, што і пекла было літасьцівым. Яно было дабром. Яго боль ачышчала і вызваляла душу, балюча праразаючы ў ёй духоўныя вочы. Бо ўсе яны, людзі, былі жывымі душамі, сатворанымі па вобразу Яго і падабенству. Толькі іньшыя душы трэба было абудзіць.

І ён, Нікіфар, быў рады, неймаверна рады, што ён не зрабіў гэты грэх. Ён не зрабіў крок туды, адкуль яму ўжо не было б болей выйсьця.

Грэх пералюбу не апаганіў ні яе, ні яго душы. Бо ж пералюб горш, чым здрада. Здрада датычыцца зямнога, пералюб жа апаганьвае нябёснае. Здраду можна прабачыць. Зруйнаваньне ж каханьня прабачыць, на жаль, немагчыма.

Разбурыць сьвятое, пасланае Богам пачуцьцё - тое ёсьць напляваць у душу самому Богу, кінуўшы ў бруд яго найкаштоўнейшы дар. Здрада асьвечанаму Богам звязу ёсьць здрада самому Богу, яго адкрытае ганьбаваньне і зьнявага. І тады душа суцэльна губляе зь ім сувязь, набыць якую нанова,

нажаль, ужо немагчыма. Немагчыма не для Бога, але ж для самой адпаўшае ад Бога душы.

Усё гэта ён асэнсаваў, і судрыгнуўся. Убачыў бездань, у якую ён ішоў сам, і цягнуў яе.

Гэты шлюб, шлюб паміж імі - ёй, і яго вучнем, быў асьвечаны каханьнем, пасланым ім самім Богам. Ён жа пасягнуў на яго. Адзінае, што выбачала яго, было яго няведаньне, бо ж ён упарціўся ведаць. Але ж цяпер ён ня мог адмаўляцца, што ведае ўсё.

- Не. Прагучэла зь яго вуснаў. Можаш быць пакойны. Прызнаюся, я жадаў яе. І я спакушаў яе, а калі ня змог, пытаўся вымусіць пагрозамі. Але ж яна выбрала касьцёр. Яна не здрадзіла ні табе, ні Богу. І Бог у сваёй вялікай міласьці ўратаваў яе, каб явіць мне сваю веліч, і выратаваць усех нас.

Ён сказаў гэта, і адчуў, як камень зваліўся зь яго плечаў.

Вочы Міхася глядзелі на яго, не адрываючыся, і ён убачыў, як яны набываюць жыцьцё.

Радасьць, найвялікшая, запоўніла яго сэрца, аб тым, што ня здарылася непапраўнае. Нарэшце, Міхась марудна кіўнуў галавой.

- Дзякуй. Толькі адно слова сарвалася зь яго вуснаў. Ён устаў, і хуткім крокам накіраваўся ў пакой да яе. Па ходу толькі хлопнуў Нікіфара рукой па плячы.

Той крануў яго руку, і застаўся ў пакоі чакаць. Як ён разумеў, чакаць свайго прысуду. Бо ж разгавор на гэтым, канешне ж, паміж імі ня скончыўся.

Ён увайшоў у пакой, дзе яна чакала яго разам з Абелем.

Стаяла насупраць дзьвярэй, бледная, з валасамі, сабранымі ў простую касу, якая зьмяёй ляжала ў яе на плячы. Яна сама была грахом і спакушэньнем. І адначасова яна была жыцьцём. Яго жыцьцём. Яна ня ведала, аб чым ён размаўляў зь Нікіфарам, але ж здагадвалася. І яна была гатовая прыняць любое яго рашэньне. У гэтым сьвеце ён быў для яе Богам, волю якога яна выконвала без сумненьняў, бо яна ведала, хто ён, і верыла яму. Усе шляхі Яго былі правільнымі. Усе яны былі сьвятымі, нават тыя, якія вялі праз боль і цемру.

Таму што ўсе яны праз каханьне вялі да Яго самога, сапраўднага, адзінага і адвечнага.

Ён увайшоў, і па яго твары яна зразумела, што Нікіфар сказаў яму праўду. Бо ж твар яго быў сьветлым. Ён падыйшоў, і крэпка ахапіў яе рукамі, прыціскаючы да сябе. Яна прыціснулася да яго грудзей, ахапіўшы за шыю, і зь яе вачэй брызнулі сьлёзы. Ён пакрываў яе твар пацалункамі, забыўшыся на ўсе словы, якія хацеў ёй сказаць, бо яны былі болей яму не патрэбныя.

Яго рукі адчувалі цяплыню яе цела, па якому ён так сумаваў, якое амаль згубіў, і атрымаў нанова.

Усё зьдзейсьнілася цудоўна, так як ён і не ўяўляў, і не чакаў. На парозе сьмерці і адчаю Бог ізноў явіў яму найвялікшы цуд, падарыўшы яму новага старога паплечніка, новае войска і новых вернікаў - сілы, якія былі сапраўды пагрознымі ваярамі, зь якімі, ён быў упэўнены, ніхто ня зможа пасягнуць на яго дарагую зямлю, яго сям'ю, яго каханьне.

Ціха, незаўважна, Абель стаяў збоч, ля вакна, трымаючы Івана за руку.

Гледзячы зьнізу ў гару, хлопчык, узьняўшы бровы, разглядаў, як высокі дужы мужчына абдымае яго маці, і нарэшце пазнаў у ім кагосьці роднага і дарагога для яго.

Кагосьці, каго ён ужо даўно чакаў.

Ён ускрыкнуў, прыцягваючы да сябе ўвагу, і мужчына павярнуўся.

Нарэшце, ён адарваўся ад яе, і падыйшоў да іх.

Зьнізу уверх Іван бачыў яго твар, які апусьціўся да яго, а потым моцныя рукі імгненна ўзьнялі яго ўгару, і цяпер ён глядзеў на яго зьверху ўніз, і бачыў яго добра - яго чорныя бровы, густыя вусы і бараду, грыву чорных валасоў, усьміхаючыяся вочы і вусны.

Гэтыя рукі крэпка трымалі яго, і ніколі не дазволілі б яму ўпасьць. Спачатку ён хацеў заплакаць, але ж потым яму стала вясёла, і ён рассьмяяўся.

# Глава 15: Прысуд

Летыцыя сядзела перад ёй сьпіной, узьняўшы над галавой рукі, заколваючы шпількай доўгую касу, і Бірута зьдзівілася, якая тонкая ў яе талія. Яна такой ніколі ня бачыла ў жыцьці. Што такое гарсэт, яна ня ведала, і зараз зь цікаўнасьцю назірала, як гаспадыня ўбірае сябе.

Летыцыя акуратна расправіла аксаміт сукенкі, і дастала зь невялікага дарожнага куфэрку доўгую нітку пацерак. Паглядзела на яе, і адлажыла ў бок. Выбрала яшчэ адну, карацейшую. Таксама адлажыла. Удзела ў вушы залатыя завушніцы зь вялікімі пярлінамі. Узьняла бровы, і прыпудрыла твар. Нанесла на шчокі і вусны ружовую фарбу, і тонкай кісьцю зь меха вавёркі падвяла бровы і вочы сурмой з каробачкі. Нарэшце, задаволеная, усьміхнулася, надзела пярлінавыя ніткі – дзьве. Падумала, і дадала яшчэ трэцьцю, самую доўгую, зь вялікім крыжом. Дастала зь невялікай залатой каробачкі бутэлечку з маслам, адкрыла, і па пакоі раздаўся салодкі, духмяны пах. Яна нанесла кроплю масла між грудзей, глыбока апусьціўшы руку ў выраз гарсэту, і дадала пару кропляў на валасы, і ззаду на шыю. Пах запоўніў усё вакол – нібыта мноства ружаў раскрылася разам. Павярнулася да Біруты, і паднесла белую тонкую руку да яе шыі. Асьцярожна кранула яе, і на скуры заблішчэў залаты сьлед ружовага масла.

Яна ўсьміхнулася.

- Табе падабаецца, дзіця?

Бірута кіўнула. Летыцыя мякка пагладзіла яе рукой па белай шчацэ, і ўстала ў весь свой высокі рост. Акуратна ўсунула маленькія ступні ў туфлі на абцасах, і стала вышэй Біруты амаль на галаву.

Тая глядзела на яе, як зачараваная.

- У цябе ўсё добра? – голас Летыцыі быў мяккі, ласкавы, баюкаючы.

- Так, панна, - прашаптала Бірута. Яна яшчэ крыху пабойвалася Летыцыі. Не так, як у першы раз, калі прысутнасьць панны выклікала ў яе дрыжыкі. Аднак дагэтуль яе голас і бліскасьць непакоілі дзяўчыну, усё вакол здавалася ёй дзіўным, нібыта ў сьне. Летыцыя нахінулася, і пацавала яе ў лоб. Яе грудзі ў нізкім выразе апынуліся зусім блізка ад твару Біруты, так, што тая магла ўбачыць яе саскі.

- Зараз мы пройдзем у пакой, дзе вячэраюць. Мужчыны ўжо там. Яна ўстала, і працягнула дзяўчынке руку.

- Пайшлі, дзіця. Яна агледзела Біруту, прыдзірліва, пільна, і засталася задаволенай. На дзяўчыне была апранута прыгожая сукенка з тонкай выдзеланай воўны чыстага белага колеру на ільняную сарочку, упрыгожаную карункамі. Кароткі ліф з расшытага срэбрам шэрага аксаміту падкрэсьліваў яе талію і грудзі.

Яны падабралі на скорую руку ўсё новае і чыстае з таго, што было ў замку. А было, шчыра кажучы, нямала.

Маёнтак стаяў напаўразбураны, але ж не разрабаваны, што было дзіўна, нават упрыгожваньні не кранулі. Пажар, які была заняўся ад стрэлаў, людзі хутка здолелі патушыць. Ды маёнтак быў не галоўнай мэтай нападу. Кляштар і сабор – на іх прыйшоўся асноўны ўдар. Гэта Летыцыя ўжо ведала. Яны прыехалі ў замак ужо пад вечар, і яны зь Бірутай ня вытрымалі, і паспалі некалькі гадзінаў. Прачнуліся, калі ўжо было цёмна. Вячэра была накрытая, і іх чакалі. Мужчыны не лажыліся. Сядзелі, і размаўлялі аб тым, што адбылося, трымаючы нешта паміж споведдзю і ваенным саветам.

Міхась сядзеў за шырокім, доўгім сталом, з аднаго боку ад яго месьціўся Нікіфар, з другога – Ульвар. Абель сядзеў насупраць. Эйнір, капітан замку, прыходзіў і сыходзіў, атрымоўваў і выконваў загады. Нарэшце, ён вярнуўся, але ж за стол ня сеў, уладкаваўшыся збоч на стуле бліжэй да дзьвярэй. Размова праходзіла на высокім узроўне, зразумеў ён, і чакаў, калі яго прыгласяць сказаць слова.

На стале стаяла ежа – вэнджанае мяса, сыр, кубкі зь віном,

каравай хлеба.

Яны зьнялі дарожную вопратку, латы і панцырныя кашулі, і вольна дыхалі на ўсе грудзі, выцягнуўшы ногі, насалоджваючыся пакоем і адпачынкам. Нікіфар, вялікі, магутны, шырэй за Міхася, хоць і аднаго зь ім росту, у расьхінутай на грудзях кашулі з грубай воўны, паставіў вялікія рукі локтямі на стол, шчапіўшы кулакі. Перад ім стаяў поўны кубак, ды ён яго не кранаў.

Міхась, у тонкай ільняной кашулі з закасанымі рукавамі, ў галаве сталу, адкінуўся на сьпінку высокага крэсла. Астатнія сядзелі на лавах уздоўж.

- Нікіфар, - Міхась павярнуўся да былога настаўніка. Яго вочы, спакойныя, строгія, прама глядзелі на новаахрышчанага паганца.

- Слухай мяне. Зараз я буду запытваць, а ты – адказваць. Ніякіх болей гульняў паміж намі ня будзе. Мы абодзьва ведаем, што зайшлі надта далёка. Аднак, на шчасьце, цяпер мы на адным баку. Я спадзяюся на тваё слова – слова чэсьці. Я веру табе.

Нікіфар кіўнуў.

- Ты можаш верыць мне, вучань. Прабач, што я называю так цябе па старой памяці. Але ж мне так зручнее.

Міхась кіўнуў.

- Нічога. Я ня горды. Пасьля таго, як ты пажог мой маёнтак і кляштар і скраў маю жонку з сынам, гордасьці ў мяне не засталося. Ты мяне добра навучыў, шчыра кажучы. Яго вочы працінали Нікіфара, пільна, неадрыўна.

- Ты мяне таксама многа чаму навучыў. Нікіфар цяжка кіўнуў. Яго рука паправіла на шыі невялікі крыж з простага чарнёнага срэбра.

- Ты будзеш вучыць мяне служыць твайму богу? Нікіфар пагладзіў густую бараду.

- Не, Нікіфар. Майму Богу ня трэба служыць. У яго трэба верыць, - вымавіў Міхась. – Але ж гэта мы з табой яшчэ абсудзім. Ты многа чаго ня ведаеш, і не разумееш, настаўнік. Ён сур'ёзна паглядзеў на Нікіфара.

- Многа чаго табе прыйдзецца асэнсаваць. Таксама ў датычаньні таго, дзе мы, і што тут адбываецца. А цяпер раскажы мне, хто і якім чынам надавуміў цябе напасьць на мой маёнтак і паджэч кляштар? Бо ж я ведаю, што ты там быў не адзін.

- Чалавек, - проста адказаў Нікіфар. – Багаты і ўладны. Ён прыйшоў да мяне на паляну з балванамі. Ганна яго прывяла. Мяркую, гэта быў нехта княскага роду. Высокага, як мне здалося. Мы абмеркавалі план нападу. Дачакаліся, пакуль ты з'ехаў. Ён прыйшоў да мяне зь вялікай колькасьцю людзей – з усходу, татараў, казакаў. Далей ты ведаеш. Сьвятара вашага, дарэчы, не я парашыў. Яго казакі зарэзалі. Ох, лютыя ж людзі. Нават мяне ўразілі. Ня любяць рымскае веры. Мне так наогул гэта было ўсё роўна. Сьвятар, і сьвятар. Я б яго не краныў. Жыда твайго ледзь ад іх адбіў. Яны яго за дзеўку прынялі прыгожую. Ён усьміхнуўся. Абель паморшчыўся, нібыта ад болю.

- Хто напаў на хутар Ганны? Вы?

Міхась працягваў запыт, як па паперы – пытаньне за пытаньнем.

- Не, тое ня мы. Гэта яшчэ да нас, ды мне яно было не цікава. Мяркую, старыя рахункі. А што там адбылося?

- Ганна зьнікла, Якіма да каню прывязалі. Нехта за баней зямлю ўзараў, як кабан лычом.

Міхась сплюнуў.

- Тое па Ганнаву душу. Пэўна, гэта той чалавек, якога яна прывяла. Нешта яны не падзялілі.

- І я здагадваюся, што. Міхась усьміхнуўся. – Бо ж твой напад быў другой часткай пляну. Першая частка была, скажам, бяскроўная. Трэба нас было атруціць, і потым зрабіць усё ціха і

гладка. І паколькі дзьве спробы праваліліся, Ганьне прыйшлося за іх адказваць. Грошы яна ў іх узяла, не малыя. Хто б тое ня быў, ён за грашыма прыходзіў. І нехта гэтыя грошы ўсё ж забраў. Там, дзе быццам бы лычом парыліся.

Нікіфар сядзеў, і маўчаў. Быццам бы бачыў нешта нябачнае. Якія былі манеты? – раптам запытаў ён. Ты казаў, ведаеш.

- Старыя. Рымскія. Скарб нейкі, - адказаў Міхась.

Нікіфар кіўнуў.

- Піраты, - нарэшце вымавіў ён. – Аднак, я клянуся, тое ня я, і я ня ведаю, хто гэта. Але ж здагадваюся. Паўночнікі. Зь Лівоніі, ці Эсты. А можа, і хто іньшы, з далёк. Такія манеты ў ходу ў тых, хто хадзіў на стругах далёка на ўсход, на поўдзень.

- Варягі. Вікінгі. Русіны, - нарэшце вымавіў Міхась.

Нікіфар нахіліў галаву.

- Ноўгарад. Ільмень-возера. І далей на поўнач. Іх скарбніцы ломяцца ад візантыйскага дабру.

- І Сьвідрыгайла шукаў падтрымкі ў іх. Міхась кіўнуў.

- Ладна. З гэтым мы потым разьберамся. Трэба ясная галава. Нікіфар нарэшце узьняў кубак.

Міхась узьняў свой, як і Ульвар з Абелем.

І тут на парозе пакою зьявіліся жанчыны.

Яны спусьціліся зь вялікай лесьвіцы з другога паверху, зайшлі ў залу, і зараз стаялі ў полымі сьвечаў, асьветленыя іх мяккім сьвятлом. Упрыгожваньні Летыцыі зьзялі, пяшчотна бліскацелі аксаміт адзеньня і валасы Біруты. Іх тонкія постаці нагадвалі дзьве нячакана расквітнеўшыя кветкі, ці райскіх птушак, якія апусьціліся ў пакой зь нябёсаў.

- Якую жанчыну згубіў! – раптам падумалася Нікіфару, але ж ён прамаўчаў, не сказаўшы нічога.

узяла кубак з налітым віном, апельсін – прывезьлі з Італіі, многа, некалькі яшчыкаў, якія дасьпяваюць у падольлі. І чаго толькі не прывозілі – і разынкі, і ананасы, і яблыкі розныя, і сьлівы, і абрыкосы, і інжыр. Усё, што хочаш. Усё было, як пры каралеўскім двары. Яна наогул у ежы была сьціплая, ела ня шмат, больш любіла карміць гасьцей. З таго дню, як ён вызваліў яе ад паганцаў, якія пажадалі ахрысьціцца, ён проста пылінкі зь яе здуваў, выконваў усе яе жаданьні. Усё, што б яна ні захацела, тут жа даставалася, хоць зь нябёсаў. Слугі былі прывучаны адказаваць на малейшы рух яе пальчыка. Але ж адное, што яна хацела, хутка зьдзейсьніць ён ня мог. А яна хацела сьвятара. Хацела месу. Ды сабор разрабавалі ўшчэнт, а Іеранім ужо ўсю лаціну пазабываў. Ён, канешне ж, фармальна ня быў растрыжаны, ды ад сьвятара ў ім мала што засталося. Але ж надбаць новага сьвятара было ня проста. Глуш, Літва – хто паедзе ў гэтыя лясы. Тым больш як аднаго, вядомага ў краі, так жудасна забілі. Канешне ж, гаспадар у тым ня быў вінаваты, бо ж адсутнічаў, і не па сваёй волі – паехаў за войскам, выконваць шляхецкі загад. Ды вось здарылася ж, і жонку пакралі, і сына. А потым па навакольлі плёткі папаўзьлі. Шчыра кажучы, яму зайздросьцілі. Ня толькі праз дзень назад цэлых і некранутых іх прывёз, ды яшчэ і самых упартых паганцаў ахрысьціў. І Нікіфара гэтага, старога ваўхва. Што проста было не магчыма ўявіць. Той, праўда, крутануўся, і ў Полацк сышоў. Да русінаў. Ну, яго воля – так схацеў. Але ж былі і такія, хто казаў, што сышоў ён далей ад Міхасёвай жонкі, бо ж закахаўся ў яе страшэнна. І яшчэ казалі, што ён Міхасю жыцьцём і Богам прысягнуў, і сваімі багамі – страшная клятва – што не крануў яе, не сганьбіў. Той паверыў, але ж людзі галовамі качалі. Не вядома, што там было.

І яна гэтыя плёткі чула, ведала. І дужа ёй было балюча. Бо ж нічога паміж імі не было сапраўды. Ды ўсё ж, нешта было. Яна ўявіла яго, як жывога – высокая, магутная, пагрозная цень у ваўчынай шкуры, з грывай доўгіх курчавых валасоў, якая стаіць і глядзіць на яе. Яна карміла дзіця, Абель, адвярнуўшыся, сядзеў ля вакну – маліўся. Напэўна, свайму іўдэйскаму богу, каму ж яшчэ. Ён зайшоў нечакана – зайшоў, і спыніўся. І моўчкі стаяў, і глядзеў на яе. Яна ледзь узьняла вочы, і апусьціла. Дзіцё ляжала ля яе грудзей, бо ж чым яго тут карміць яшчэ? Не

карміцелькі, ні якай дзіцячай ежы тут не было. Нават каровы, ці казы.

Яна да яго не прасілася. І ў пакой не запрашала. Хай глядзіць. Яна не ўзьнімала на яго позірк, адчуваючы, як ён глядзіць на яе, не адводзячы вачэй. Раптам ён вымавіў:

- Пагаварыць трэба. Абель узьняў галаву.

- Забяры яго. Ён кіўнуў на дзіця. Абель ускочыў, але ж падпарадкаваўся бяз словаў. – Панна… - ціха вымавіў ён, і пахіліўся, гледзячы на яе, чакаючы яе загаду.

- Ідзі, Абель. Я цябе паклічу, - вымавіла яна.

Ён узяў Івана на рукі, глянуў на Нікіфара, і выйшаў у свой пакой, зачыніўшы дзьверы.

- Сьмелы. Нікіфар усьміхнуўся. Хоць і прыгожы, як дзеўка. Цяжка ступая, падыйшоў да яе. Яна намагнулася паправіць гарсэт, але ж ён перахапіў яе руку.

І ўзьняў яе. Яна апынулася перад ім, як была, у расьхінутай сарочцы, распушчанай сукенцы.

Яго рука лягла ёй на грудзі. Цяжкая, цьвёрдая. Сьціснула іх.

- Прыгожая, - раптам вымавіў ён. – Пашанцавала яму. Яна прама глядзела на яго, і нічога не казала.

А потым ціха вымавіла:

- Не рабі гэта.

- Чаму? Ён узьняў бровы.

- Бог цябе накажа, - проста вымавіла яна. – Ты ведаеш. Ён нахінуўся, і дакрануўся вуснамі да яе саску.

- Ведаю, - вымавіў. І таму не крану. Але ж у гэтым адмовіць ты мне ня зможаш. Раптам ён палажыў руку ёй на плячо, вымушаючы сесьць ізноў, і стаў перад ёй на калені. Яго твар

апынуўся насупраць яе, і яна закрыла вочы.

- Ты ня можаш адмовіць мне ў тым, што дае вашая нябёсная маці. Што яна дае вам, і Пану Богу. Бо я хачу твайго малака. Якое яно – малако хрышчонай жанчыны? Якая верыць па-сапраўднаму, аддана? У якую ўваходзіць сам Бог, каго яна корміць ля сваіх грудзей. Я хачу адчуць сябе Богам, вашым, хрысьціянскім. З гэтымі словамі ён нахіліўся, і сьціснуў вуснамі яе сасок. Ён піў яе малако доўга, марудна, асьцярожна сьціскваючы вуснамі яе саскі, але ж не кранаючы яе. Яна ўзьняла грудзі, і націснула на іх, бо малако пайшло, і яны балелі. У пакоі стаяла цемра, толькі чулася яго і яе дыханьне. Раптам ён адпусьціў яе, устаў, і моўчкі выйшаў. І яна так і засталася сядзець у цемры, ня ведаючы, што рабіць. Хутка ў пакой зайшоў Абель са сьвячой, Іван трымаўся за яго шыю. Яна сядзела на лаве, як была, амаль распранутая, і маўчала. І ён нічога не сказаў ёй.

Усё гэта адбылося зь ёй, здавалася, бясконца даўно. Быццам бы прайшлі не гады – стагоддзі. Страшны, жахлівы сон. Сон, у якім яна згубілася, і, здаецца, не магла знайсьці выйсьця. Яна блукала, нібыта ў тумане, і ізноў шукала яго. Крычэла, клікала яго праз сьлёзы. Дзесьці ён быў пад яго покрывам. Ёй толькі трэба было працягнуць праз туман руку.

І раптам яна абудзілася. Ніякага туману вакол не было. Здаецца, яна паснула. Яна сядзела на крэсьле ля вакну, у замке. І ён быў недзе тут, побач. Калі яна захоча, яна можа загадаць вартавым паклікаць яго. І ён прыйдзе. Ды яна так ня зробіць, бо ж ён, канешне ж, заняты. Можа, і якімі-небудзь страшнымі справамі, якія яна не магла і ўявіць. Можа, дапытвае каго ў сутарэньнях. Хто яго ведае. А можа, і проста пье з Ульварам у вялікім рыцарскім пакоі. А можа, разглядае з Абелем яго пляны. Ці да яго прыскакаў вястун ад Вітаўта, і ён уважліва слухае княскую волю, ці чытае сакрэтны аркуш – трэба выдвігацца ў Вільню ці Трокі. Весьці войска.

А яна тут зусім адна. Канешне, вакол шмат людзей. Ды для яе нікога няма, хто б мог замяніць яго.

І раптам яна адчула руку на сваім плячы. Родную, цяжкую.

Ня гледзячы, яна накрыла яе сваёй далоньню. І так і засталася сядзець, а ён – стаяць.

Ён стаяў за ёй, яна гэта ведала. Ведала па яго паху, па дакрананьню яго рукі, па яго дыханьню – роднаму, любаму.

Яна хацела ўстаць, ускочыць, абняць, ахапіць яго і заплакаць.

- Дзе ты быў, каханы? Чаму пакінуў мяне адну? Як невыносна быць без цябе, адной, без тваёй прысутнасьці.

Але ж ён не даў ёй паўстаць, мякка націскаючы на яе плячо.

- Любая мая, - ціха вымавіў ён. – Я нікуды не сыходзіў. Я заўсёды тут, побач з табою.

- Але ж ты ўсё забыў, - раптам вымавіла яна. – І можа, скора ты забудзеш і мяне?

Сьлёзы ракою хлынулі зь яе вачэй.

- Ніколі тое ня здарыцца, золатка маё, - ціха вымавіў ён. – Я нічога не забыў, і нікуды не сышоў, і не сыду. Так трэба. Прабач мяне. Але ж гэты час – час выпрабаваньня маёй душы. І тваёй. Мы павінны ізноў узьняцца. І мы ўзьнімемся разам. Ты, і я. Адкрыцьцё Бога ніколі не спыняецца. Той, хто думае, што спазнаў Яго, памыляецца, бо ж Бог – бясконцы. Гэта – адвечнасьць, любая. І прыцягненьне душы да Бога – адвечнае, як і зьліцьцё зь ім. У імкненьні да мяне душа набывае самое сябе, і стварае скарбы незьлічонай каштоўнасьці. Так расьце яе прыгажосьць, расьце бясконца. Хто падобен мне, і табе, мая душа? Што падобна нашаму каханьню? Ён пяшчотна гладзіў яе плячо, і яна нахілілася, і пацалавала яго кісьць, убачыўшы на ёй крываю рану – стыгмату.

- Недзе ў пустыні Алекс зараз гаворыць з Богам, любая, - ціха вымавіў ён. Неба там усыпанае зоркамі, як аксаміт дыямантамі. І Бог там блізка, як нідзе.

# Глава 19: Бог

Полымя вагню успыхнула, і апала. Ціхая, халодная пустынная ноч, здаецца, зрабілася яшчэ больш ціхай. Незнаёмец разматаў зь твару шаль, і апынуўся маладым, крыху старэйшым за Алекса. Рысы яго, дасканалыя, прыгожыя мяккай, жаночай прыгажосьцю, падкрэсьлівала сьвятлом вагню. Яго доўгія хвалістыя валасы ляжалі на плячах, як шоўк у колер чорнага дрэву, скура была сьветлай для жыхара гэтых земляў, аліўкава-залацістай. Доўгія чорныя вейкі, блакітныя вочы. Яркія, як зоркі ў пустынным небе.

Ён нахіліўся дастаць нешта зь меху, і Алекса зьдзівіла атточанасьць яго рухаў. Ён быў дасканала зложаны, ідэальны, як малады бог, стройны, можна сказаць, аськетычны. Яго твар, рухі яго рук, увесь ён вылучалі спакой. Здавалася, вакол яго паветра трымцела, і развальвалася на кавалкі. Раптам у Алекса закружылася галава. Ён адкінуўся на дарожны мех, і закрыў вочы. На імгненьне зоркі над ім закружыліся ў хуткім, радасным танцы. Ачуняў ён ад таго, што ў яго вусны лілася вада. Незнаймец, трымаючы яго галаву адной рукой, другой нахіліў да яго твару невялікі дарожны мех, зь якога ў рот Алекса цякла жаданая вільгаць.

- Табе трэба зьняць гэтыя латы. Гэтае адзеньне, яно душыць цябе, не дае дыхаць. Ваярскае адзеньне. Незнаёмец неяк цяжкавата падбіраў словы. Гаварыў ён па-арабску, але ж ня дужа добра.

Алекс кіўнуў.

- Ты правы. Іешуа. Ён успомніў імя. Дзіўнае, нейкае знаёмае.

- Я габрэй, - патлумачыў чалавек. – І імя гэта габрэйскае. Мая родная мова – арамейская. Таму, прабач, калі я што ня так скажу на тутэйшым дыялекце.

- А я толькі нямецкую ведаю крыху, яшчэ – мову франкаў і польскую. Рускую мову. Я, наогул, русін. З далёкіх земляў на

ўсходзе і на поўначы, за морам. Ці, дакладней - ліцьвін. Літоўскае княства. Чуў? За землямі польскай Кароны.

Іешуа адмоўна пакруціў галавой.

- На сьвеце столькі земляў, столькі народаў, - пакачаў ён галавой, нібыта зьдзіўлена. І раптам дадаў:

- Ды ўсім ім будзе прапаведвана Слова Божае.

Алекс, які намагаўся разьвязаць завязкі панцыру, спыніўся, і зьдзіўлена глянуў на яго.

- Ты – хрысьціянін? – раптам запытаў ён.

- Я – Хрыстос, - спакойна адказаў незнаёмец. – Месія. Мешыах. Недзе далёка пачуўся страшны гром, быццам бы зямля скаланулася, і ад скалы адарваўся вялікі кавалак. Камнепад пакаціўся па склону, гучны, страшны ў начной пустыннай цішыні.

Алекс ускочыў.

- Ня бойся. Гэта – д'ябал. Ён лютуе, бо ж надыходзяць яго апошнія часы. Чалавек мякка ўсьміхнуўся. Яго блакітныя вочы, прыгожыя, пад цёмнымі тонкімі бровамі, у густых чорных вейках, нібыта зацягвалі ў сябе.

- Ты не баішся д'ябла? – хрыпла вымавіў Алекс. – Кажуць, ён усемагутны.

- Не баюся. Незнаёмец усьміхнуўся. - Дарэчы, ён не ўсемагутны. Усемагутны толькі Бог.

І, ведаеш, здараюцца такія хвіліны, калі я адчуваю сябе Богам. Я ведаю, што я – гэта Ён. Таму д'ябла я не баюся. І наогул нічога не баюся, акрамя яго. Айца. Я баюся згубіць яго праз сваё учалавечаньне. Забыць, хто я. Заблукаць тут, на зямлі. І не зрабіць тое, дзеля чаго я прыйшоў.

- А дзеля чаго Ты прыйшоў? – запытаў яго Алекс, пасунуўшыся наперад. – Вось я, напрыклад, прыйшоў сюды, каб забіваць.

Забіваць дзеля Бога. Каб вызваліць яго сьвятыя землі ад паганцаў. Ты ведаеш, колькіх ужо я забіў? Колькі маіх сяброў тут палягло дзеля Госпада? Ведаеш, Мешыах? Калі-некалі мне здаецца, што мае латы поўныя крыві, і яна залівае мяне па начах. Я тану ў ёй, Іешуа. Захлінаюся. Я любіў дзяўчыну, ды яна мяне кінула. Я любіў сябра – ён загінуў. Проста зваліўся на пясок, і ня ўстаў. Што я шукаю тут, Іешуа, скажы мне? Што шукаю я ў гэтай голай пустыні пасярод камянёў і пяску? Сярод мёртвых целаў, якія валяюцца тут на кожным клачку гэтай праклятай сьвятой зямлі? Сярод ценяў, у месцах, дзе няма вады, і рыскае д'ябал, якога ты чуеш?

- А можа, ты шукаў мяне? Вочы Іешуа, пранізьлівыя, мяккія, здаецца, заглядалі ў яго душу. – Бо ж ты мяне знайшоў. Ты прыйшоў да Мяне, Алекс. Глядзі – вакол не пустыня, а трава і пальмы. І тут бяжыць вада – вада жыцьця. Якую ты толькі што піў з маіх рук, рыцар. Ты ж рыцар?

- Я? А хто гэта – рыцар? Алекс з выклікам паглядзеў на яго.

- Ты. Іешуа кіўнуў.

- Я – чалавек, перш за ўсё, чалавек, які згубіўся ў пустыні. А потым ужо ўсё астатняе.

- Ты - чалавек, які знайшоў у пустыне Бога. А гэта ня так ужо і мала. Іешуа раптам рассьмяяўся, і хлопнуў Алекса па плячу.

- Не турбуйся, ваяр. Чалавек. Далей мы ўжо пойдзем разам. І з гэтага моманту я ніколі не пакіну цябе.

- А ты гуды ідзеш? – Алекс уладкаваўся ля кастру, латы больш не абцяжарвалі яго, разгарачанае цела абдуваў мяккі прахалодны вецер.

- Я іду ў Ерузалем.

Алекс кіўнуў.

- Выдатна. І я туды іду. Пойдзем разам. Нам па дароге, Іешуа.

- Я іду туды, каб быць укрыжаваным. Незнаёмец з болем

глядзеў на яго. – І ты сапраўды гатовы пайсьці са мной?

- А чаму не? Алекс пасунуўся наперад, да яго. – Ты думаеш, я чагосьці баюся? Я таксама не баюся нічога. Месія. Сын Божы. Чаго я толькі ня бачыў. І павешаных, і на кол пасажаных, і абвараных і абсмажаных нажыва. Ня дужа прыемнае відовішча. А чым я лепей за іх? Ведаеш, што туркі з нашымі робяць? Сарацыны? Хочаш, раскажу?

- Ведаю. Твар Іешуа раптам стаў сумным, нібыта зацэнены болем.

- Ну дык што, ідзем разам? – раптам, нібыта стросшы з сябе нейкі цяжар, запытаў ён.

- Мяне там мае вучні чакаюць. Ля сьценаў гораду.

- А што ты тут адзін робіш? Чаму яны там, а ты – тут? Я, канешне, не патрабую адказу, калі справы прыватныя. Алекс страсянуў валасамі. Доўгія, густыя, яны проста лезьлі яму ў твар. Ён адарваў ад меха канец скуранога рэмню, і завязаў іх ззаду.

- Я ж сказаў табе, ты, напэўна, забыў. Я змагаўся зь дьяблам. Сорак дзён. І нарэшце, перамог яго. Чуеш, як ён кідае камяні там, у пустыне? Злуецца. Іешуа выглядаў задаволеным, як хлапчук, які абагнаў сваіх сяброў, і першы дабег да нечага, куды яны ўсе дабіраліся разам. Ускараскаўся на вяршыню, і дакрануўся да высокага дрэва, якое расло там, поўнае сакавітых, духмяных пладоў. Першы сярод першых.

- Ну, за сорак дзён ты д'ябла ня пераможаш. Першыя сорак дзён паходу я быў ў Раі, у параўнаньні з тым, што было потым. Пакуль мы не дабраліся да Нікеі. А потым ужо туркі далі нам жару. У Кападокіі нас разьбілі на галаву. Подла, па-сабачы. Нават на бой ня выйшлі ні разу. Стрэламі нас палівалі. А сьпякота, смага … я думаў, за ваду ўсё аддам. Ежы і не хацеў. І ня думаў пра яе. Мы імперата баранілі. Конрада. Ён, дарэчы, таксама паранены быў. Пакутваў разам з намі. І піў, і еў праз раз. Чалавек, я табе скажу. Вялікі чалавек. Але ж – здрада. Праклятыя візантыйцы прадалі нас. Казалі, іх імператар

змовіўся з турэцкім султанам, бо ж хрысьціяне яны толькі зьнешне, а як паскрабеш, там чысты сарацын. Ніякага Бога, акрамя машны. Ды і не патрэбныя мы ім там былі. Мы ім – ворагі, а не браты па веры. Цяпер я гэта ўжо добра разумею. І там, адкуль я родам, так. Вера адна, а сутнасьць – яна розная. Ва ўсіх свае інтарэсы. Тыя, хто з усходу, лацінян ненавідзяць люта. Хоць і робяць выгляд, што гэта ня так. Усход – ён, наогул, каварны.

- Ты мяне прабач, бо ж ты таксама адсюль. Я не пра цябе. Не пра такіх, як ты. Я толькі…

- Я разумею. Іешуа кіўнуў. – Ведаеш, людзі ўсюды аднолькавыя. І тыя, у каго няма Бога. І тыя, у каго ён ёсьць. Галоўнае, каб у чалавека быў Бог. Сапраўдны, ісьціны Бог. І тады ён ня зможа здрадзіць. Ня зможа аддаць перавагу грошам перад праўдай. Перад сваёй душой.

- А забіваць такі чалавек зможа? У каго ёсьць Бог? – Алекс узьняў на яго вочы.

- Не мір прынёс я вам, але ж меч, - ціха вымавіў Іешуа. – Царства боскае сілай бярэцца. І гэта ты таксама зразумееў.

- Зразумееў. Алекс адкінуўся на сьпіну, палажыўшы пад галаву мех. Зоркі ўжо ня таньчылі над ім – прыемна трымцелі. Выцягнуў ногі.

- А ведаеш, хто мяне сюды паслаў? – раптам запытаў ён.

- Ведаю, - проста адказаў Іешуа. – Я.

Алекс усхамянуўся. – Як – ты?

- Цябе паслаў Айцец. А Айцец – гэта я. І ён таксама паслаў і мяне. І таму мы – браты. Дарэчы, усе людзі – браты перад Ім. Усе мы яго дзеці.

- І адначасова ён – гэта ты. Але ж ён – не я. Не разумею.

- А можа, і ты. Іешуа ўсьміхнуўся. – Цябе яшчэ перадстаіць шмат чаго асэнсаваць, зразумець. Ды, ведаеш, Айцец настолькі

вялікі, што, можна сказаць, недасяжны. І аднак ён тут, побач. Як я – побач тут, з табой. Ты ж ня ўсё разумееш з таго, што адбываецца ля цябе? Аднак ад гэтага з’явы і рэчы, людзі не спыняюць існаваньне, не зьнікаюць. Для дзіця яго Айцец – адзіная рэальнасьць. Ды ці можна сказаць, што немаўля разумее Айца? Пры гэтым дзіця – плоць ад плоці яго, цела ад яго цела, адзінае зь ім, непадзельнае. І калі-небудзь дзіця стане дарослым. Раней, ці пазьней, аднак гэта адбудзецца. Але ж і тады, ці можна сказаць, што яно поўнасьцю, і абавязкова зразумее таго, хто з’яўляецца яго Айцом?

- Калі будзе імкнуцца, зразумее, - адказаў Алекс.

Іешуа кіўнуў. – І яшчэ, калі яно будзе любіць яго.

- Ты любіш Бога? – раптам запытаў ён. Полымя дагарала, і яго вочы сталі амаль чорнымі ў цьмяным, барвовым сьвятле.

Замест адказу Алекс узьняў перад сабой рукі. У сьвеце агню яны былі цёмнымі, амаль карычневымі ад загару, загрубелымі. Ён зь цікавасьцю разглядаў свае пальцы, далоні. Яны сталі моцнымі, шырокімі. Цьвёрдымі. Ён палажыў руку на эфес мячу, які ляжаў зь ім побач. Узьняў наверх кароткі клінок. Полымя агню бліснула, адбіўшыся ў ім, як водбліск пекла. Ён зьмяніўся. Зьмяніўся ня ў горшы бок, шчыра кажучы. Цяпер сябе, таго Алекса, якім ён быў, ён бы проста не спазнаў. Ім бы не было нават аб чым паразмаўляць. Той, шчыра кажучы, быў якісьці дурань. Як ён жыў? Ды і навошта? Адзінае, што ў яго жыцьці было годным – гэта яна. Сустрэча зь ёю. Тое, што нарадзілася ад гэтай сустрэчы ў яго сэрцы. І толькі дзеля гэтага пачуцьця ён бы яму прабачыў. Толькі праз яго той Алекс меў права наогул жыць. Цяпер жа ён атрымаў значна болей, чым меў. Каханьне да яе нікуды не сышло. Але ж яно пераўтварылася. Стала іньшым. Напэўна, тым, што называюць Любоўю. Яна болей не была патрэбная яму побач. Дастаткова было ведаць, што яна ёсьць. Хай яна там, зь ім. Калі ёй так лепш, калі яна і сапраўды кахае таго, другога, ён, Алекс, сьцерпіць. Бо ж яна кахае Бога. Кахае яго так, як калісьці кахала яго, Алекса. Быў жа час, калі яна была зь ім, і сапраўды яго кахала. Аднак той, які ён быў, ня мог адказаць на гэта яе шчырае пачуцьцё. І тады Бог прыйшоў, і забраў яе. І праз сваю вялікую любоў Бог ня зьнішчыў, а

поўнасьцю пераўтварыў яго, Алекса. Калі ён днём глядзеў на сябе ў адлюстраваньні вады ў маленькім возерцы, яму здалося, што на яго з-за вадзянога люстэрка глядзіць той. Чорныя доўгія валасы, зблытаныя, мокрыя – ён толькі што амыў твар. Барада, ня голеная – даў жа ж абет не галіцца да Сьвятой Зямлі. А потым звыкся і так. Смуглая скура, шырокія плечы. Позірк спакутвана-халодны, і ў той жа час, ён ведаў, яму так не хапала цяплыні. Не хапала каханьня, сяброўскага плячу побач. Ён навучыўся цаніць і жаночыя ласкі, хоць і кароткія, і за грошы. Ды, бывала часта, і па любві. Грошы ж ён заўсёды сам пакідаў. Не за каханьне, проста так. Таму што яны ў яго былі. Яму добра плацілі, а адкуль ім узяцца ў жанчыны? Навучыўся цаніць і кусок хлеба, і мяса, і глыток віна ці вады. І піры, і радасьць навучыўся цаніць. Бо ж за імі ішоў час посту, цяжкіх выпрабаваньняў. І выпрабаваньні, і пост цаніць навучыўся. І боль, і пакуты. І сьмерць. Бо ж яны вызвалялі, ачышчалі душу. І жыцьцё навучыўся цаніць так, як ніколі. Тады, калі яго ў цябе вось-вось забяруць, цэніш кожнае яго імгненьне.

- Канешне, я люблю Бога, - адказаў ён. – Люблю так, як нікога ў жыцьці. Бог даў мне ўсё, забраўшы ў мяне ўсё, што было мне не патрэбна. Даў мне адзеньне новае, жыцьцё адвечнае. Бог суцэльна пераўтварыў меня, узьняў мяне з бруду, узвысіў маё плоцкае зямное каханьне, пераўтварыў яго ў вялікую любоў. І таму я люблю цябе, Іешуа. Люблю цябе, Госпадзі.

Ён ужо не ляжаў, а сядзеў, дакладней, ён стаяў на каленях, і глядзеў на свае далоні. Нібыта маліўся. Так, як робяць іудэі, зразумеў ён. І раптам ён убачыў, як зь яго далоняў пацякла кроў. Яе ручайкі цяклі па яго руках, зацякалі пад рукава кашулі, губляліся пад адзеньнем. Як вар'ят, ён узьняў далоні, і пільна глядзеў на іх. А потым амыў імі твар, адчуваючы салёны смак сваёй крыві на вуснах.

Прытомнасьць пакінула яго. А калі ён ачуняў, ён ляжаў ля патухлага кастру. Нікога побач зь ім не было – толькі вялікія мяхі, адзін – з вадой, а другі – набіты пад завязку. Ён развязаў яго – хлеб, фінікі, фрукты. Павінна хапіць на ўвесь застаўшыйся доўгі шлях. Да Ерузалему, куды ён і накіроўваўся.

Незнаёмец некуды зьнік. І ці быў ён наогул? Можа, сышоў. І

мяхі пакінуў. А можа, яму прысьнілася?

- Іешуа! – гучна крыкнуў ён. – Іешуа! Мешыах! Госпадзі! Бог мой!

Цішыня. Пустыня маўчала. І раптам ён зразумеў, што мехі гэтыя пакінуты тут для яго. І Іешуа болей ня будзе. Ва ўсякім разе, ён сказаў, што накіроўваецца ў Ерузалем. Напэўна, ён там. Трэба ісьці за ім. Не згубіць яго. Ён ня мог сыйсьці далёка. Калі ён выйшаў на золку, то абагнаў Алекса на пару гадзінаў шляху. І нават калі ён сустрэў нейкі караван, у яго, Алекса, ёсьць конь. Таму яны ня могуць разьмінуцца. Нават рознымі шляхамі, аднак яны прыдуць туды прыкладна адначасова.

Ён наскора глытнуў вады, абмыўся, і ўскочыў у сядло. Цяпер у яго была мэта. Ён імкнуўся сустрэцца з Богам, якога знайшоў.

# Глава 20: Ерузалем

Ужо здалёк ён заўважыў высокія сьцены гораду – старажытнага, вялікага. Ерузалем раськінуўся паміж зялёных узгоркаў, прыгожы, шумны ўсходні горад, да высокіх сьценаў якога сьцякаліся натоўпы народу. Паводдаль ад дарогі ён заўважыў нейкую вялікую группу людзей, якая чамусьці прыцягнула яго ўвагу. Яны не гаманілі, ня мелі тюкаў з таварам, ні вераблюдоў, ні аслоў. Проста людзі ў сьціплых сьветлых, альбо чорных адзеньнях – жанчыны, здагадаўся ён. А ў сьветлым – мужчыны. Яны ціха стаялі вакол некага. І паступова да іх сьцякаліся маленькія фігуркі. Нарэшце, група стала даволі вялікай, і руханулася да варотаў.

- Іешуа! – гучна выкрыкнуў ён! Іешуа, я тут! – і раптам чалавек зь сярэдзіны павярнуўся да яго, і памахаў яму рукой.

Ён хутка зьбег уніз па сьхілу. Конь памёр амаль пад самым горадам, заставалася прайсьці можа якую вярсту, ды ён ня дужа гараваў. У Ерузалеме павінна быць шмат рыцарскіх ардэноў, тампліеры, і іньшыя, і мноства розных еўрапейскіх сямействаў. Ён быў упэўнены, што лёгка знойдзе працу, зь яго вопытам, удзельнік крыжовага паходу, забіўшы ў імя Госпада не адзін дзясятак сарацынаў.

Людзі, у ільняных, ваўняных, кужэльных доўгіх адзеньнях, сьцякаліся да варотаў. Хутка ён дагнаў тых, да каго імкнуўся. Яны расступіліся, і Іешуа коратка, але ж горача абняў яго.

- Брат! Ты знайшоў мяне! Здаецца, яго радасьці не было межаў.

- Брат! Ты мне болей, чым брат. Ты мой выратавальнік. Калі б не твае мяхі, я б падох ад голаду, як мой конь, у якога моцы не хапіла дайсьці да гэтай брамы. Я ж тут, як бачыш – дзеля цябе.

Алекс хлопнуў яго па плячу, і Іешуа ледзь ня ўпаў, схапіўшыся за яго руку. Яны рассьмяяліся.

- Я – чалавек кніжны, - разьвёў ён рукамі.

– Выбачай, не разьлічыў. Забыўся. Алексу стала сорамна. Вернікі глядзелі на яго неяк дзіўна, здавалася, што вывучалі. У нечых вачах яму пабачылася і агрэсія. Нічога, ён і не з такімі разьбіраўся.

- У нас тут усе ўсех любяць, - спакойна вымавіў Іешуа, і злавесны бляск у вачах пад цюрбанамі памерк. Жанчыны зь цікаўнасьцю глядзелі на яго.

- Прыгожыя, - заўважыў ён. - Маладыя. Пад чорнымі покрывамі паблісквалі залатыя ўпрыгожваньні, гарэў яркі шоўк адзеньня. Ня бедныя жанчыны. І па паводзінах таксама бачна – шляхетныя. Не гігікалі, не шапталіся. Ціха, сьціпла стаялі, прыкрываючы твары шаўковымі вэлюмамі. Рукі ў бранзалетах, кольцах. Мужчыны былі розныя, нямала і дорага апранутых, былі і такія, што амаль у лахманах. Ды ўсе стаялі годна, узьняўшы галовы, глядзелі прама. Калі Іешуа абʼявіў яго, як свайго, то твары крыху пацяплелі. Цяпер ён ішоў зь імі побач, нібыта даўно быў членам іх тусоўкі, як ён сказаў бы раней, ды толькі крыху адстаў, ды вось – далучыўся.

Адна з жанчынаў, якая ціха крочыла ля яго, прыцягнула яго ўвагу. Маладая, стройная, ішла лёгка, толькі бранзалеты на руках і нагах шапацелі. Нешта вабіла яго ў ёй, цягнула. Можа, пах? Ружовы, салодкі амбравы водар – падобны, як і ў яе. Раптам яго штурханула:

- Падабенства! Як яна на яе падобная! Ён ня бачыў яе твар, але ж ведаў, адчуваў і сэрцам, і душой, і целам – там, пад покрывам, ішла яна.

- Калі ласка, прабачце, мне здаецца, што мы знаёмы. Як вас завуць? – нягромка запытаў ён, наблізіўшыся.

Яна ўздрыгнула, і яшчэ мацней закрыла твар шоўкам, але ж ён не адставаў, і крочыў побач зь ёй.

Нарэшце, яна павярнулася да яго, адсунуўшы вэлюм.

Авальны бледны твар, вялікія вочы – чорныя, ня шэрыя. Тонкія бровы. Мяккія ружовыя вусны. Пасмачка чорных хвалістых

валасоў выбілася на шчаку, яна ўбрала яе рукой.

- Магчыма. Са мной многія знаёмы. Былі, - ціха вымавіла яна. – Але ж гэта ўсё у мінулым. Тут жа няма ні сьмерці, ні болю, ні жалю, ні плачу, ні грахоў, бо яны ўсе прабачаны. І тут мы – браты і сёстры, роўныя сярод роўных, побач зь ім. З Госпадам нашым, Айцом нябёсным.

Яна паскорыла крок, і хутка апынулася побач зь Іешуа. Яе маленькая ручка нябачна працягнулася да яго, і ён сьціснуў яе сваёй далоньню, якая казалася вялікай побач зь яе амаль дзіцячай кісьцю, упрыгожанай бранзалетамі.

Ён ішоў сьледам, і зьдзіўлена аглядаўся вакол. У Ерузалеме не было ні воднага еўрапейскага, белага твару. Ніводнага рыцару, ніводнага арыстакрату на вялікім кані ці ў вазку, не было і паннаў, і сьвятароў. Толькі пёстры, шматлюдны ўсходні натоўп, ды нейкія людзі у латах і кароткіх барвовых кашулях і шлемах з арламі сустракаліся групамі. Натоўп іх паважана абцякаў – пабойваўся.

Калі яны наблізіліся да адной з групкаў, гаворка здалася яму знаёмай. Гаварылі на лаціне.

- Roma …, - пачулася яму. – Mama Roma. Нехта зарагатаў.

Ne rideas, Iulius. Roma vere mater tua est. Et Caesar autem pater est.

Tu dicis, Caesarem habet Romam, quam patrem habetat tuum matrem? Putatis quia inaniter ita? Ты маеш на ўвазе, што Кесар мае Рым, так, як твой бацька меў тваю маці? Так ты думаеш?

Мова здалася яму знаёмай, падобнай да італьянскай. - Лаціна! – раптам зразумеў ён.

Што адбываецца? Дзе ўсе, хто жыве тут з часоў першага крыжовага паходу? Трэба запытаць Іешуа, можа, ён ведае, дзе тут які еўрапейскі квартал. Дзе жывуць лаціняне.

Запытваць мясковых чамусьці ён не рашаўся. Гэтыя смуглыя твары не ўнушалі яму даверу. - Усё ж, мы тут лічы што

акупанты, - падумалася яму. Мясцовыя нас, напэўна, ненавідзяць.

Хутка яны наблізіліся да невялічкага доміку, які, нізкаваты, з малым вакенцамі, тым ня меньш апынуўся доўгім і ўмяшчальным.

Прыгнуўшы галовы, яны прайшлі ў вузкі пакой, у якім ужо стаяў накрыты стол. Амыўшы рукі ў вялікіх місках, у якіх плавалі кроплі пахучага ружовага масла, яны прыняліся за ежу. І раптам Іешуа адлажыў кавалак хлеба ў бок. Наліў у кубак віна – чырвонага, з амфары. Вакол стаяла цішыня. Здавалася, кожны яго рух мае пэўны высокі сэнс. Нібыта вялікая кніга разгарнулася, і ў маўчаньні яе чыталі адкрытыя тут сэрцы.

- Сябры мае. Сёньня я павінен буду разьвітацца з вамі. Не па воле маёй, ды па волі паслаўшага мяне Айца нябёснага. Належыць сыну чалавечаму быць здраджану, і забіту, і загінуць, і на трэці дзень уваскроснуць, як я вам і абяцаў. Бо ўсе мы – жывыя ў Боге жывом. Прысутнічаючыя апусьцілі галовы.

- Хто здрадзіць табе, Госпадзі? – раптам вымавіў высокі, дужы чалавек з чорнай грывай доўгіх валасоў, цёмным, суворым тварам, вочы якога, пранізьлівыя, гарэлі з-пад густых броваў.

- Калі так, то лепей ня жыць яму на сьвеце! – працягнуў ён, і рука яго сьціснула нож, які ляжаў на стале побач.

- Той, каму тое наканавана, Пётр. Ты ня ў сілах гэта зьмяніць. Як і ён. Але ж ён – тут. І ён ужо зрабіў гэта ў сваім сэрцы.

Высокі, стройны малады чалавек, з кучаравымі валасамі, расчэсанымі на прабор, умашчанымі маслам, якія роўна ляжалі на яго плячах, моўчкі апусьціў галаву. Яго прыгожы, нібыта анёльскі твар пацямнеў. Асьцярожна ён убраў руку з міскі, у якой яна толькі што сутыкнулася з рукой Іешуа. Іешуа ўзяў ляпёшку, і разламаў яе на часткі, даючы кожнаму па кавалку.

- Се – плоць мая, якая будзе ахвяраю дзяля вас, - ціха вымавіў ён. Прысутнічаючыя моўчкі клалі ў рот кавалкі хлебу.

- Се – кроў мая, якая будзе пралітая дзеля вас мною, - працягнуў Іешуа, пускаючы па кругу поўны кубак.

Гэта ўжо было Алексу знаёмым.

- Дзе я? – раптам стукнула яму ў сэрца. Ён – Ісус, і гэта – яго вучні. Але ж … ён – той самы? Ці гэта нейкая імітацыя абраду? Яго пачаў турбаваць непакой, і ён ледзь сядзеў на лаве. Аднак прыцягваць увагу да сябе баяўся. Бо ж, сказалі – тут, за сталом – здраднік. А калі вырашаць, што гэта ён?

Таму трэба чакаць канцу вячэры, а потым запытаць у Яго прыватна.

Так ён ледзь дасядзеў да завяршэньня трапезы, у ходзе якой наогул ніхто асабліва не жартваў і не размаўляў. Атмасфера была нейкая пахавальная. Ды і сапраўды, калі гаспадар дома прылюдна аб’яўляе, што зьбіраецца загінуць жахлівай пакутніцкай сьмерцю, то адкуль кампанія будзе вясёлай?

Нарэшце, сьцямнела. Вакол усталявалася глухая паўднёвая ноч. Толькі цвыркуны стракаталі, ды салодка сьпявалі птушкі.

Яны выйшлі на ганак разам. Іешуа зь невысокай жанчынай і маладым прыгожым хлопцам у чорным доўгім адзеньні, рэлігійнага выгляду. Хлопец з павагай глядзеў на яго, і аб нечым доўга запытваў на мове, якую Алекс не разумеў. Жанчына стаяла побач, слухала. Потым хлапец сышоў, жанчына зь Іешуа засталіся стаяць. Яна не глядзела на яго, апусьціла вочы. Ён нешта казаў ёй, мякка, кранаючы яе за плячо.

Здаецца, яна плакала. Нібыта нябачная сьцяна была паміж імі – сьцяна памерам у сусьвет.

Потым жанчына зьнікла, схавалася ў доме.

Алекс зь Іешуа засталіся на ганку адны. Алекс прытуліўся да глінянай сьцяны, і глядзеў у зеленаватае неба. Над небасьхілам паўставала першая вячэрняя зорка. У далечыні віднеліся купы дрэваў.

- Прагуляемся? – вымавіў Іешуа.

І яны разам пайшлі па белай дарожцы ў сад.

- Яна любіць цябе, - раптам вымавіў Алекс.

- Яны ўсе любяць мяне, - ціха адказаў той.

- Толькі яна цябе яшчэ і кахае. Словы Алекса ўпалі ў ноч, як кроплі расплаўленага металу – у ваду. І адразу чорнымі камянямі пайшлі на дно.

- Яны павінны любіць Айца майго. Не мяне. Я ж – адзіны зь ім, і праз мяне яны атрымоўваюць яго міласьць. Яны гэта пакуль не разумеюць. Я хутка сыду. І я застануся тут. У іх сэрцах я застануся Любоўю, вялікшай, чым гэты сусьвет. Якую гэты сусьвет, грэшны і абмежаваны, ня можа ўмясьціць. Тое, што я павінен быў даць ім, я даў. Тое, што павінен быў сказаць, сказаў. Я прыйшоў сюды дзеля Айца майго. І я хутка пакіну гэты дом скорбі. Ён узглянуў на свае рукі – прыгожыя, тонкія рукі пісьменнага чалавека.

Яна кахае мяне – чалавека, - ціха вымавіў ён. – Але ж я – болей чым чалавек. Мне шкада яе. Шкада ўсех вас. Аднак нічога нельга зьмяніць. Вы болей ня можаце жыць, як раней. Плоцкім. Цялесным. Ва мне гарыць полымя духу, і я запаліў іх душы сьвятым агнём. Яны ж панясуць яго далей, пакуль самі не сгараць у ім. І гэты агонь ёсьць Любоў. Імкненьне да Яго. Жарсьць, якая спапяляе. Не магчыма любіць Бога дужа моцна. Як бы ты яго не любіў, гэтага ўсё роўна будзе недастаткова. Але ж ён літасьцівы, і нават на такую малую любоў ён адказавае сваёй, вялікай. Айцец – гэта таямніца. І ў ёй кожны атрымае нешта сваё. Прымаючы любоў Айца, мы пачынаем адлюстроўваць яе ў сусьвет, і самі зьзяем, як зоркі, напоўненыя гэтым дзівосным сьвятлом. І гэта – найвялікшае шчасьце – любіць самому. Любіць сусьвет і людзей у ім так, як цябе любіць нябёсны Айцец, любоўю нявычэрпнай, якую душа атрымоўвае праз Яго. Я вучыў іх любві. І цябе я вучу любві, Алекс. Любві вялікай, якая ня мае межаў. І ў такой любві чалавек забывае самое сябе. Яму важны толькі той, каго ён любіць. Каго кахае. Менавіта так – кахае. Бо любоў, якую душа адчувае да Бога, боская любоў – гарачая. Яна – мацней любой спапяляючай цела жарсьці. Бо ж яна спапяляе душу. Гэта –

сьвятое каханьне, адвечная прага зьліцьця, з’яднаньня, жаданьне ўвайсьці ва ўлоньне, прыняць у сябе плоць, зьліцца і ў целе, і ў крыві, і ў духу. Гэта імкненьне такое моцнае, што нішто ня можа яго задаволіць. Нішто, акрамя Бога. А для Бога няма нічога немагчымага. Чым болей расьце душа, тым болей яна можа ўмесьціць яго, і тым болей поўна яна можа задаволіць гэтую сваю нябёсную жарсьць. І гэтак – бясконца. Таму што Бог – бясконцы. Айцец – бясконцы і ў сваёй літасьці, і сваёй любві. І ў сваім каханьні.

- Ты адчуваеш Любоў яго, Алекс? – ціха запытаў ён. Вакол сьпявалі салаўі. Раптам з вачэй Алекса хлынілі сьлёзы. Ён быў тут, зь ім. І хутка ён яго страціць. Ён жа мог слухаць яго бясконца! Мог бы сядзець ля яго ног, і адчуваць гэтае яго сьвятло, ціхае, пранізваючае яго ўсяго. Ён успомніў, як яны сядзелі зь Летыцыяй у Міхасёвай хаціне, на стале стаяла дымячаяся бульба, а Міхась травіў свае дзівосныя байкі. І як яна глядзела на Міхася. А той глядзеў на яе. Як у той хаціне было і цяпло, і сьвятло, і ўтульна. І сапраўды, тады яны завіталі на госьці да Пана Бога. Ён жа гэтага не разумеў. Стоіла ўсяго толькі схадзіць у крыжовы паход, каб пачаць разумець нешта ў гэтым жыцьці. Што такое годнасьць, вера, каханьне, адданасьць.

Раптам побач пачуліся нечыя цяжкія крокі. Мноства ног набліжалася. Іешуа ўзьняў руку.

- Мой час надыйшоў, - ціха вымавіў ён. І пасунуў Алекса рукою ў цень, робячы крок на сьвятло.

# Глава 21: Кальварыя

Ён нёс яго, спатыкаючыся, падаючы на камяні, якімі была вымашчана вуліца. Яго твар быў разьбіты, нос паламаны, вочы амаль ня бачылі з-за крыві, якой яны заплылі. Крыж быў вялікі, цяжкі. Не перакладзіна, як звычайна, а цэлы скалочаны з дзьвух вялікіх бярвеньняў. Натоўп гудзеў. Нехта – адабральна, нехта – гнеўна, хтосьці маўчаў, ды гэтае маўчаньне было большым, чым самы громкі крык, які мог бы вырвацца з вырываемага з грудзей сэрца.

За што, ніхто не запытваў. Усе добра ведалі, за што сьціпламу сыну плотніка такая ўзнагарода. Бо ж асьмеліўся гаварыць. Не маўчаць. Гаварыць пра любоў і каханьне, і да каго – да Бога! Ганьба! Блюзьнер! Распусьнік! Вар'ят! Бога ня трэба баяцца, яго трэба любіць. Любіць горача. Усім сэрцам, душой і целам, і усёй сваёй існасьцю. Богу ня трэба ахвяры – бараны, валы, голубы, дымячыяся вантробы. Богу трэба Любоў! Зьліцьцё душаў і целаў, імкненьне і прага да яго, і праз яго – любоў да свайго бліскага, экстатычная, самаадданая, да поўнага забыцьця. Бога воінстваў, ахвярнікаў і залатога каўчэгу ён абвесьціў Богам вар'ятаў, юродзівых, патаскух і мытараў, грэшнікаў, якія прасмыкаюцца, як чэрві. Богам пракажонных і зьнявечаных, убогіх, гразных, сьціплых, нізкіх, нячыстых, тых, хто асьмельваюцца заяўляць, што яны ядуць яго плоць і кроў! Да якой меры дна можа апусьціцца гэтае блюзьнерства! Яму і сапраўды няма дну. Абвесьціць сябе царом і богам, дазваляць вулічнай шлёндры амываць сабе ногі, гуляць у абдымку з прыгожымі юнакамі і называць іх сваімі любымі вучнямі, зрабіць вархал у храме, раськідаць сталы амаль што ў сьвятая сьвятых! Зьняважаць адкрыта паважаных прыстойных людзей, парушаць усе законы, устройваць оргіі па чыну рымскіх, з вазьляжаньнем за сталамі у кампаніі мужчын і жанчын, піць віно, а калі мала – дык і пераўтвараць у яго ваду. Вар'ят, уявіўшы сябе самім Богам, Мешыахам! Няма такой ганебнай кары, якая магла б дастойна ўшанаваць яго блюзьнерствы. І таму цяпер ён нёс гэты крыж. Крыж, які павінен быў стаць для

яго ганебным. На якім яго распнуць, як сабаку, і ськінуць адтуль у Геену, выграбную яму, палаючую за горадам.

Вакол раздаваліся крыкі, зь якіх большасьць была праклёнамі. Нехта падштурхваў натоўп, заводзіў яго. Натоўп праг крыві. Калі б не жаўнеры, яны б самі накінуліся на яго. Разарвалі б яго прама тут. На кавалкі. Нейкая невялікая жанчына ў чорным убраньні прабілася праз людзей, і ўпала Іешуа ледзь не пад ногі. Ён спатыкнуўся, і апусьціўся побач. Яна з плачам пачала абціраць яму твар крысом свайго адзеньня і проста рукамі. Яе покрыў зьбіўся назад, адкрыўшы карычневыя валасы, і прыгожы бледны твар, дзіўна падобны да яго, рана пастарэлы ад сьлёзаў. Жанчыну адцягнулі ўбок, ранейшы юнак ў чорным, прыгожы, як анёл, падхапіў яе.

Алекс ішоў зь імі побач, прадзіраўся праз натоўп. Адзеньне на ім было разарванае, нейкая хламіда, накінутая на яго амаль сатлеўшую кашулю і штаны. Панцыр і кальчугу ён кінуў там, у доме. Потым вырашыў забраць. Бо ж – гарачыня, сьпякота.

Сказаць, каб яго ўразіла пакараньне, было нельга. За сваё жыцьцё ён і не такое бачыў. Яго ўразілі людзі. Як яны праглі яго сьмерці! Як радаваліся! Сьмерці таго, хто прапаведваў ім – Любоў. Хто вылечваў і загойваў ім раны, хто рабіў перад іх вачыма ўсе магчымыя і немагчымыя цуды, бо ж ён быў Бог, і Алекс гэта ведаў. Як гэтага ня ведалі яны? Бо ж яны сустрэлі самога Бога! Як можна яго не спазнаць? Яго бачылі нават сьляпыя, нават глухія чулі. Аднак, апынулася, што ў некаторыя сэрцы ня можа дастучацца нават Бог. І такіх, на жаль, апынулася нямала.

Чалавек на дарозе проста ляжаў ля свайго крыжу. Было відавочна, што ён ужо ня ўстане, і зараз адбудзецца не ўкрыжаваньне, а лінчаваньне.

Жаўнеры ледзь стрымлівалі націск натоўпу, зь якога да асуджанага цягнуліся рукі.

І тады Алекс рашуча шагнуў на адкрыўшаеся перад ім месца, прабіўшыся праз натоўп. І апынуўся побач зь ім.

- Я панясу, - коратка вымавіў ён жаўнеру, які глядзеў на яго, як на вар'ята. - Я дапамагу яму несьці крыж. Той усьміхнуўся, і кіўнуў. Натоўп жа набіраў моцы. Сітуацыя станавілася зусім небясьпечнай.

Алекс нахінўуся, і дапамог асуджанаму узьняцца. Той, здаецца, не разумеў, ні дзе ён, ні хто зь ім.

- Іешуа, - ціха вымавіў ён. – Гэта я, той, каго ты сустрэў у пустыні. Ты гаварыў са мной. Памятаеш? Я дапамагу цябе. З гэтымі словамі ён палажыў руку Іешуа сабе на плячо, але ж той ледзь мог стаяць. Жаўнеры узьнялі, і моўчкі палажылі яму на сьпіну дрэва – цяжкое, але ж ня так, каб зусім ня зьнесьці. Нарэшце, Іешуа апрытомнеў, і таксама падставіў пад яго плячо. Разам яны паціху пайшлі па вуліцы праз натоўп – за горад.

- Айцец, - пачуў ля свайго твару Алекс ціхія словы. – Айцец. Ты прыйшоў мне дапамагчы? Гэта ты? Ты нясеш мой крыж побач са мною?

У Алекса адняло мову. Ён хацеў была нешта сказаць, што так многа ўзяць на сябе ён ня можа, можа толькі крыж, ды і то – часова. Пажартаваць. Але ж ня здолеў. Нешта было ў гэтым спакутваным, скрываўленым чалавечым твары побач. Нешта, што б Алекс назваў сьвятым. Сьветлым. Чалавек, здаецца, суцэльна звар'яцеў ад пытак. І цяпер загаворваўся і бачыў нешта, вядомае толькі яму. Нешта сваё. Айцец? Ну і хай ён будзе – Айцец. Каб хоць палегчыць пакутніку апошнія часы.

- Я, сын мой, - ціха вымавіў Алекс. – Гэта я, твой Айцец, і я прыйшоў да цябе, каб дапамагчы табе несьці крыж. Ты ж узьняў яго дзеля мяне, так? Як я мог не прыйсьці?

Недзе далёка грукатнуў гром – набліжалася навальніца.

Яны спрытна прыкалацілі рукі і ногі Іешуа да дрэва. Той не супраціўляўся, то губляў прытомнасьць, то ізноў прыходзіў у сябе, і стагнаў. Кроўю было заліта ўсё вакол. Хутка дрэва ўзьнялі, уваткнулі ў глыбокую вузкую яміну, умацавалі, і сталі чакаць. Асуджаныя на крыжах стагналі і хрыпелі, сыпалі праклёнамі, лямантавалі. Іешуа ж маўчаў.

Жанчына падышла да дрэву, ахапіла яго ніз, прыціснулася тварам да яго ног. На яе твар было страшна глядзець. Яшчэ адна, маладая, тая, якая размаўляла зь ім на ганку, раскачвалася на зямлі паводдаль. Ірвала на сябе адзеньне. Раптам яна папаўзла па зямлі – да крыжу. Наблізілася, і прыціснулася тварам да ізножжа, вуснамі ўбіраючы зь яго цякучыя, вязкія кроплі.

Жаўнеры стаялі раўнадушна – яны і не такое бачылі.

Раптам нехта, запыхаўшыся, падбег з паперамі. Старшы каравулу кіўнуў. Падыйшоў, і усадзіў укрыжаванаму ў бок доўгую дзіду.

Чалавек узьняў галаву, і гучна вымавіў, гледзячы, здавалася, прама Алексу ў вочы:

- Зьдзейсьнілася!

Выдахнуў, і тут жа яго галава упала на плечы.

І тут грымнуў гром. Страшны, такі, што ледзь не раскалолася зямля. І ў сьвятле маланак Алекс убачыў, як крыж пачынае зьзяць. Фігура, якая была ўкрыжаваная на ім, была ўся заліта сьвятлом. Нейкія крылатыя фігуры апусьціліся, і падхапілі крыж, узьнімаючы яго ўгару. Вакол гучэла: “Глорыя!”, і гэты гук нібыта расколваў прастору, як набат. Алекс упаў на калені, і бязгучна маліўся. Дождж цёк па яго валасах, па твары, па плячах – чорны дождж, зьмешаны з крывёю.

Раптам нечыя рукі узьнялі яго. Крэпкія, знаёмыя. Устрахнулі.

- Гэй, ты чаго тут ляжыш? – вымавіў нехта заклапочана. У рот яму ізноў улівалі ваду. Ён расплюшчыў вочы.

Алекс ляжаў на сьпіне, і над ім нахінуўся знаёмы твар. Чорныя, доўгія валасы зьвесіліся на яго. Чалавек слухаў, як ён дыхае.

- Жывы, - нарэшце вымавіў ён. – Жыць будзе. Палажыце яго на насілкі, і нясіце ў кляштар. Марк, прасачы там. Я хутка прыйду. У мяне яшчэ справы. Хачу да Балдуіна завітаць. Што ён там сабе думае. Такая ганьба. Германцы, франкі – усіх разьбілі

ўшчэнт. Чалавек пакачаў галавой.

- Уставай, хлопец. Ісьці можаш? – хрыплы знаёмы голас. Тэўтон нахіліўся да яго, узьняў, падлажыў пад галаву руку.

- Магу, - коратка вымавіў Алекс, і прыўстаў.

Коратка стрыжаны чалавек са шнарамі глядзеў на яго, усьміхаючыся.

- Марк! – вымавіў Алекс пасохлымі ад смагі і сьпякоты губамі. Ахапіў тэўтона за шыю, і заплакаў. Той хлопаў яго па сьпіне.

- Нічога, малы. Нічога. Да ты ужо не такі і малы. Ён агледзеў яго – зьверху да нізу.

І сапраўды, Алекс сябе былога амаль не нагадваў. Плечы яго раздаліся, мышцы выступалі вузламі, чорныя валасы, пакрытыя пылам, дасягалі ніжэй плечаў. І барада як венік. Усё у крыві – Іешуа, разумеў ён. Адзеньне – так, прыкрывала цела. І нават ня цела – срам. А можа, і не прыкрывала. Марк рассьмяяўся. Ды - больш ад радасьці, ня кпліва.

- Сам пойдзеш? – запытаў ён.

- Сам пайду, - Алекс кіўнуў галавой, і яны разам спусьціліся з Галгофы.

# Глава 22: Вораг

- Ты б можа іх прыжог, - прапанаваў вартавы рыцар, які месьціўся побач на стуле.

- Гэты спосаб значна больш эфектыўны. На ўсходзе яго выкарыстоўваюць з даўніх часоў. Трэба ўзяць сумясь розавага алею і яічных бялкоў, мёду і жыру. Лепей за ўсё барсучыны. І наносіць …

- Гэтакую сумясь мая жонка хай сабе наносіць, - усьміхнуўся Міхась, падыходзячы да яго. – Як ты сабе ўяўляеш, дзе мы такую раскошу будзем зьмешваць у паходзе? Прыжыганьне ранаў – самы дзейны сродак. Пасьля віна. Крэпкім віном прамыць можна. Але ж калі ліецца кроў, то трэба прыжыгаць.

- Пагаджуся, мосьць пан. Але ж у гэтым выпадку я не знайшоў значных пашкоджаных сасудаў. Таму выбраў больш мяккі сродак.

- Ну, як ведаеш. Глядзі мне, калі ён памрэ, адкажаш галавой.

Абель пакорліва нахіліў курчавую галаву, пряныўшы пакорлівы выгляд. – Як скажаце, мосьць пане. І працягнуў сваю справу.

- Можа ён гаварыць? – запытаў Міхась, змрочна ўглядваючыся ў скажоны твар чалавека, які, амыты і пакойны, набыў прыгожыя, правільныя рысы. Чалавек быў не стары, прыкладна яго ўзросту, коратка стрыжаны, зь невялікай сьветлай барадой. Для сьвятара ён быў даволі высокім і дужым, шырокаплечым. На адкрытай грудзі спрактыкаванае вока Міхася заўважыла старыя шнары, даўно загаіўшыяся. Рукі чалавека, аднак, былі чыстымі, сьветлымі. Калі ён і трымаў зброю, тое было даўно.

- І сапраўды сьвятар. Не прыкідваецца, - нарэшце вырашыў ён. – У гэтыя непакойныя часы каго толькі на дарогах не сустрэнеш – і цэлага, і бітага. Тое, што ён сабе танзуру выгаліў, яшчэ падцьвердзіць трэба. Можа, хаваецца ад каго. Тое толькі Богу

вядома.

- А можа, гэта Бог яго нам паслаў? – раптам прыйшла яму ў галаву думка. – Пасьля таго, як Юзаф так жудасна загінуў, Гасподзь паслаў новага сьвятара, які прыйшоў сюды таксама праз пакуты. Але ж калі Юзаф праз пакуты быў адпушчаны, пазбаўлены свайго служэньня, то ў гэтага праз пакуты служэньне толькі пачынается. Цікава, як замкнулася кола, кола жыцьця, - падумаў ён. І сапраўды, на ўсё Боская Воля. Нешта варухнулася ў ім. Нешта, чаму ён не знаходзіў словаў. Так было зь ім ужо колькі разоў. Нібыта ён намагаўся ўспомніць нешта, што даўно ведаў, але ж забыў. Напэўна, калісьці былі часы, калі ён ведаў Бога. Ці так яму здавалася тады. Гасподзь стаяў зь ім зусім блізка, клаў яму на плячо сваю руку. І ён цалаваў яе – шырокую, цёмную далонь, на якой крываточыў сьлед.

Ён жа сам хацеў стаць сьвятаром. Колькі вучыўся, лаціна, французскі, нямецкі, італьянскі. Колькі кніг прачытаў! Зь дзесяці год рос у кляштары, і ня ведаў, не ўяўляў другога жыцьця. Кнігі былі вакол, кнігі, і сьпевы. Нябёсныя галасы ўносілі яго высока-высока, дзе, здаецца, ён дасягаў самога Бога. Але ж потым яму растлумачылі яшчэ нешта. Нешта патаемнае, сакрытае. Бог ня быў далёкі, пагрозны. Ён быў блізкі. Быў у кожным. Толькі трэба было мець сэрца і цела чыстае, як у Бога. Быць “катарос”. Невядома, куды б яго завяла гэтая ерэсь, ды яго настаўнік у адзіны дзень зьнік. Ніхто нічога яму не тлумачыў, а потым прыехаў чалавек ад яго бацькі, і забраў яго. З гэтай пары яго навука суцэльна зьмянілася. Замест пяра яму ў рукі далі меч, і ён з задавальненьнем паглыбіўся ў новае жыцьце. Хутка і цела яго, і душа агрубелі. Маці даўно не было ў жывых, а бацька быў чалавекам суворым, жорсткім. Але ж вера ўсё ж займала ў яго душы значнае месца. Бацька таксама ахрысьціўся, дзякуючы маці – тая была адданай італьянскай каталічкай, аднак пасьля яе сьмерці зьвярнуўся да сваіх былых, язычніцкіх звычаяў. Балванаў, канешне, не ўшаноўваў, ды месца, дзе яны стаялі, сыну паказаў. Некалькі разоў яны езьдзілі з ім на шырокую паляну ў лесе за курганамі, стаялі, слухалі, як рыпяць дрэвы – нібыта яны ім нешта казалі, сьпявалі нейкую старую песьню, ці гісторыю. Рука бацькі, цяжкая, загрубелая ад зброі, ляжала на яго плячы.

- Слухай, сынок. Слухай. Гэта сьпявае твая зямля. Гаворыць з табой праз лясныя галасы, шум рэк і ручаёў, птушыныя сьпевы. Праз вецер, сонца, дождж і агонь, які нязгасна гарыць тут ужо колькі стагодьдзяў. І, сапраўды, ля аднаго з балванаў гарэўтлеў маленькі, трапяткі агеньчык. Нехта падтрымліваў яго – агеньчык гэтай старой веры. Усё ж, такія людзі знаходзіліся, і было іх ня мала. Край, наогул, быў паганскі. Першымі хрысьціліся рускія князі, якія пабудавалі па ўсходу, югу і поўначы шмат праваслаўных цэркваў – моцных, з таўстымі сьцянамі, у якіх насельніцтва хавалася і ад татараў, і ад тэўтонаў. Найбуйнейшы сабор стаяў у Полацку, праваслаўны – велічная Сафія, звон з купалоў якой ляцеў далёка, здавалася, дасягаў і самое Рыгі. Слава былога княства яшчэ ня згасла ў тыя часы, але ж зорка яго закацілася назаўсёды, і толькі водбліск яе лунаў над небасьхілам мінулага. Усё ж, горад быў буйны, гандлёвы, і праваслаўны. Рускі горад, мінулае якога распрасьціралася на многія сотні гадоў – калі ён з’явіўся, ужо ніхто і ня памятаваў. Казалі, што да росаў ім валодалі яшчэ нашчадкі Ромулу, і быў нехта іменем Веспасій, хто княжыў там да датчанаў, потым жа каралі паўночныя саступілі русінам, але ж цяпер магутнае некалі княства перайшло пад князей літоўскіх, і ў часы Ягайлы з’яўлялася намесьнічаствам, у славутыя ж часы хрышчэньня літоўскіх зямель кіраваў там Ськівргайла – Ягайлаў брат. Край вагаўся між усходам і захадам, качаўся, як на арэлях, ды ўсё ж жаніцьба Ягайлы на Ядвіге, каралеўне польскай, набажнай жанчыне, якую пачыталі за сьвятую, стала апошнім штуршком, які канчаткова перахіліў чашу ў бок Рыму.

Князі і іх двары пачалі масава хрысьціцца, пачалося будаўніцтва храмаў, паліліся патокі сьвятароў, манахаў лацінскае веры, а зь імі – і звычаі, і веды, і культура, якія панавалі на тых землях. Ды ўсё ж, хоць і трывалыя і буйныя, ды гэтыя ручаі-патокі танулі, нібыта праглынаемыя гушчарамі літоўскіх лясоў, дзе па ўзгорках стаялі старыя ідалы, і каменныя могілкі-капішчы славілі старажытныя часы ды памерлых у язычніцтве продкаў.

Аднак сучаснае няўхільна наступала на мінулае, давячы, заганяючы яго далёка ў жамойцкія лясы, якія, нарэшце,

апошнімі сьхіліся ўладзе крыжу пад цяжкой Вітаўтавай далоньню. І руку да гэтага прылажыў менавіта ён – Міхась. Зь яго намаганьняў глухія язычніцкія лясы, дзе панавала адно з самых упартых апошніх паганскіх плямёнаў, нарэшце здаліля, хоць гэта яму ледзь ня каштавала і жонкі, і сына. Навакольная шляхта за гэта яго высока ўшаноўвала, хоць і пабойвалася. Чуткі пра яго хадзілі заўсёды. Бо ж – напалову чужынец. Маць – вядзьмарка. Ды і жонку такую ж прывёз – з Гішпаніі, казалі, што габрэйка. Бацька яе, можа, і быў габрэем, ды мову літоўскую, рускую і польскую добра ведаў, бо ж яго карані былі аднекуль адсюль. З Гішпаніі ён у свой час зьбег, а вось маці таксама была аднекуль з італьянскіх земляў, ды памёрла, гаротная, амаль адразу, як нарадзіла дачку.

І імя дзяўчыне бацька даў нейкае дзіўнае – Саламаніда. Але ж пры хрышчэньні яго перарабілі на Летыцыю. Усё ж лепей, і больш па-хрысьціянску, а не па-габрэйску. Дзяўчынку гэтую ён за сябе ўзяў, а ў дадатак – і маёмасьць, і грошы, і цэлы воз старажытных бацькавых кнігаў. Да кнігаў ён і сам быў ахвочы, і назьбіраў за жыцьцё нямала. Ды вось у возе з прыданым Саламаніды-Летыцыі апынуліся такія талмуды, што ён усе яшчыкі зачыніў крэпка-накрэпка, замкоў навесіў, ды схаваў у дубовых куфарах глыбока ў падпольлі, каб чэрці ня выскачылі. Дзеўка была прыгожая, як ня можа быць, і кахаў ён яе так жа моцна, здаецца, ня жыў да сустрэчы зь ёю. Яна і па-польску, і па-руску добра размаўляла, і лаціну ведала, і італьянскі і гішпанскі крыху. Вучоная. Яму яе бог паслаў. А то так і жыў бы сярод тутэйшых лясоў у самоце, зьдзічэў бы. Рускую за сябе браць не хацеў, бо ж – каталік, можна было б літоўку, ды ён усё марудзіў. Больш любіў вандраваць, ваяваць, а як ажэнішся, ды загінеш, што тады? Але ж калі Ісаак зьнянацку памёр па дарозе недзе паміж Варшавай і Гнезна, то яму прыйшлося ехаць за яго дачкой аж у Сарагосу, а потым – яшчэ далей, на поўнач, дзе ў адным старым кляштары яна жыла пад апекай бацьковых грошаў, якіх заставалася толькі-толькі каб адкупіцца за час пражываньня дзяўчыны, ды справіць ёй больш-меньш прыстойны пасаг.

І калі ён убачыў яе, то аслупянеў. Маці сваю ён ня памятаваў, ды тут адразу прыгадаў – бо ж яна была адзін у адзін падобная

да яе. Бацька да таго часу даўно ўжо памёр, а тое б парадаваўся. Маленькая, худзенькая дзяўчынка-анёлак глядзела на яго вялікімі сумнымі вачыма, як на іконе. Глядзела, і сьцісквала ў руках лацінскі малітоўнік. Ён жа стаяў перад ёй, як нейкае дзіва з густых літоўскіх лясоў – чорны, высокі, магутны. Яго і сталыя мужы, ваяры пабойваліся. Пры сустрэчы замаўкалі, размаўлялі з пашанай, суседзі кланяліся. Бо ж – Вітаўтаў сын нарачоны, правая рука. Пасьля Грунвальду ён моцна ўзвысіўся. Хутка ўзьляцеў чорны крумкач з паганскага краю, самотны воўк, які жыў крывёю і вайной амаль больш за сорак год свайго жыцьця. Хадзілі аднак плёткі, што Чорны ў той бойцы загінуў, а вярнуўся дамоў ужо ня пан, а вядзьмар-ваўкалака, прадаўшы душу якомусьці паганскаму богу за тое, каб пахадзіць яшчэ пэўны час па зямлі, і за тое яму той бог-д’ябал даў і грошы, і пашану, і скарбы паказаў, і Вітаўту вочы засьціў.

І жонку д’ябал яму даставіў прама зь пеклу, прыгожую, як чартоўка, вядзьмарку, якая патаемныя кнігі чытае ды на незразумелай мове шэпча.

Тое Войцэхава жонка Кацярына расказвала, якая да іх часта на госьці хадзіла, маладая дзеўка – сьмелая, ды глупая. Бо ж хто ў ведзьмакоў на ноч застанецца, калі не жадае згубіць сваю душу?

А яшчэ справы прыключыліся зусім дзіўныя, нават страшныя. Атруціць пана хацелі. Нейкая кабета-знахарка, падкупленая, атруту праз беглага папа, Васіля, хацела ў ваду ім уліць. Тую кабету патрымалі ў замку, ды ізноў адпусьцілі, каб прасачыць. Ды зьнікла і яна, і Васіль. Можа, сгарэў, а можа, і вырваўся неяк. Казалі, што з казакамі яго бачылі, калі тыя сьвятара забівалі. Ён ім гэтага сьвятара і паказаў.

Пан як даведаўся, проста звар’яцеў ад гора. Ён з прускіх земляў як раз прыехаў, войска вялікае прывёз, бо ж яго людзей павыбівалі. І з гэтым войскам, і старых ваяроў сабраўшы, ён на паганцаў пайшоў, якія яго жонку з сынам выкралі. Мо, хацелі маскоўцам прадаць за вялікія грошы. Бо ж пан бы за іх нічога не пашкадаваў. Але ж – дзіва здарылася. І ўсё – праз гэтую вядзьмарку. Яна так князя паганскага зачаравала, што ён на

калені перад ёй паўстаў, і ахрысьціцца прасіў. Тое, што сам пан ня мог яго заставіць зрабіць, як ня біўся. І разам зь ім усе паганцы цалкам ахрысьціліся. Ужо там і царкву будуюць, у тых лясах. Вялікую, драўляную. А побач і каменную заклалі. Князь жа паганскі, кажуць, з гора ў Полацк да праваслаўных падаўся. Каб далей. Закахаўся ў чартоўку, небарака. Хоць там і была ўжо літоўская зямля, ды ўсё ж русінаў было ня мала, і яны на Маскву паглядвалі. Ды палачане – хітрыя, у іх галовы круткія, вочы ва ўсе бакі. Круцяць-муцяць, толькі ў адзін бок паглядзяць, адразу ў другі паварочваюцца. Кажуць, у манастыры там пасеў, грэцае веры. І, што найбольш верагодна, змову замышляе. А можа – і не. Хто яго ведае. Аднак, пакуль – ціха.

Так думаў ён, разважаў, прыгадваў у той вечар, і калі прыйшоў да параненага, то ўжо меў наконт яго пэўныя думкі.

Асьцярожна Міхась нахіліўся над пакутнікам, які ляжаў белы, нерухомы. Аднак грудзі яго мерна ўзьнімаліся. Напэўна, Абелевы сродкі дзейнічалі безадмоўна, бо твар яго, хоць страшэнна паранены, і зьнявечаны, быў усё ж больш жывы, чым прыгатаваны ў магілу.

- Гэй, душа гаротная. Чалавек. Анджэй, так? – нягромка запытаў, асьцярожна крануўшы параненага за руку.

Той ціха застагнаў, павярнуў галаву. Твар высакародны, нос арліны, вусны выразныя, вочы глыбока пасаджаны пад сьветлымі бровамі, лоб высокі. Прыгожы польскі твар. Вока, адзінае застаўшаеся, прыадкрылася, і намагалася разгледзець яго. Міхась крануў яго лоб далоньню. На руцэ зьявілася вільгаць – сьляды поту. Але ж лоб ня быў гарачым. Ліхарадка хутка спадала.

- Чуеш?

Незнаёмец, нарэшце, паварушыўся.

- Анджэй, - ціха вымавіў. – Анджэй Гаштольд.

- Славуты род. Міхась з павагай нахіліў галаву.

- Але ж нашчадак гэтага славутага роду не пакіне патомства, бо ж прыняў абет цнатлівасьці, сьціпласьці, і беднасьці.

Анджэй гаварыў зь цяжкасьцю, аднак дакладна і ўнятна, хоць і перамагаючы боль.

– Што раскажаш мне, Анджэй? Усё, што памятаеш, кажы. Не таіся.

Я – францысканец, і аддань сын рымскага касьцёлу, які вярнуўся, каб служыць Богу на сваёй роднай зямлі, ды вось – здарылася нечаканае. Па дарозе на мяне напалі нейкія вар'яты. Доўга дапытваліся, куды я еду, да каго. Зачым. Мне яны здаліся падазронымі, і я ім нічога не адказаў. Сказаў толькі, што еду па справах касьцёлу на новае месца службы, і калі яны мяне затрымаюць, у іх будуць вялікія непрыемнасьці міласьцю божай, але ж праз яго гнеў, ад якіх я хачу іх пазбавіць, бо ж яны – душы хрысьціянскія.

- Чаму вырашыў? – запытаў Міхась. – Я бачыў у іх на грудзях крыжы. Анджэй гаварыў зь цяжкасьцю, ледзь выплёўваючы словы.

- Аднак крыжы апынуліся ня тымі. Міхась махнуў галавой.

- Ваіслава ка мне. Ульвара.

Вартавы, які ўскочыў са стула і стаяў, выцягнуўшыся, побач, спрытна накіраваўся да выхаду.

- Дзе ты іх бачыў? Калі? І колькі?

- Там, дзе вы мяне знайшлі. Гэта было раніцой. А потым яны на Полацк паскакалі. Думалі, што забілі мяне, таму не хаваліся. Ды я ўсё чуў. Ня многа, але ж пару дзясяткаў я налічыў.

Твар Міхася зрабіўся цёмным, як навальнічная хмара.

Праз імгненьне ў дзьверы ўвайшлі Ульвар з Ваіславам. Спыніліся пры ўваходзе – чакалі загаду.

- Атрад сабраць. Па сьведках, іх пара дзесяткаў. Вазьміце

пятнаццаць рыцараў. Бо ж там хлопы і шэльмы, не ваяры. Яны на вазах, вязуць нарабавае ад Будзіслававічаў. Вы іх павінны дагнаць да раніцы. Ён кажа – паехалі па дарозе на Полацк.

Выконвайце.

Ваяры разьвярнуліся, і зьніклі.

Ён павярнуўся да Анджэя.

- І сапраўды, цябе Бог мне паслаў, манах. Крыўднікаў тваіх мы яшчэ да раніцы знойдзем, і на аркане сюды прывядзем. Ты адпачывай, не турбуйся. Раніцой прыду з добрымі весткамі.

З гэтымі словамі ён сыйшоў.

Выйшаў з пакою, спусьціўся па лесьвіцы, ўзяўшы ў рукі паходню, і клікнуў вартавых, якія грэліся ў кастру ля вежы.

- Гэй, хлопцы. Замак абыйсьці трэба. Агонь вазьміце, і ў кожны кут гляньце. Каб не было дзе чужынцаў, а тое маглі праскочыць. Вазоў сёньня многа ехала, нешта мне не падабаецца гэта.

Яны ціха пайшлі ўздоўж сьценаў, абыходзячы вазы, заглядваючы пад іх, і за іх, узжоўж сьценаў.

Раптам Міхась спыніўся.

- Што на гэтым вазу? – запытаў, пільна углядваючыся ў нешта, накрытае мноства кужэляў.

- Сьвіньні, мосьць пане. Бітыя. Заўтра хацелі іх разабраць, - вымавіў ваяр, зь мясцовых, у шэрай ільнянай сьвітцы і бабровай шапцы.

- Сьвіньні? Адкуль ведаеш? Хто сказаў? – Міхась спыніўся.

- Купец сказаў. Татарын. Сьвіньню, сказаў, вязем пану. Вялікую. З парасятамі.

- І вы прапусьцілі? Не даглядаючы? Міхась адчуў, як яго вочы пачынаюць налівацца крывёю.

- Не, - разьвёў рукамі ваяр. – Даглядалі на браме, а мы прымалі і ставілі.

Не працягваючы размовы, Міхась раптам выхапіў доўгі меч, і ўсадзіў яго ў мех. Раздаўся крык, і грубая тканіна афарбавалася ў густы чорны колер.

- Сьвіньні, кажаш? Жывыя? Міхась развярнуўся, і тут жа ўсадзіў меч другі раз, і яшчэ, і яшчэ адзін. Сумеснымі намаганьнямі ўсё хутка было скончана. Яны адкінулі тканіну, і прысьвіснулі. На вазу ляжалі некалькі татараў, узброеных, гатовых для нападу.

- Варту сюды! Усе вазы праверыць. Бочкі паадкрываць! Міхась рашуча пакрочыў уздоўж вазоў, адкідваючы халсьціны, утыкаючы меч у салому. Вартавыя кінуліся да другіх вазоў. З казармы ўжо падбягалі рыцары. Хутка ўсе вазкі праверылі, аднак нікога і нічога не знайшлі. Праверылі і кожны закуток, і лесьвіцы, і хады наверх і ў падвал. Здавалася, што шпіёны не пасьпеці выбрацца. Але ж якія ў іх былі пляны?

І быццам адказваючы на яго нямое пытаньне, адзін з ваяроў закрычэў:

- Гаспадар, вяроўкі! Вяроўкі пад татарамі. Цэлы скрутак. Доўгія, трывалыя. Напэўна, перакінуць хацелі. Узяўшы факелы, яны сталпіліся вакол першага вазку. На ім ляжалі таўстыя, надзейныя, трывалыя вяроўкі з гарпунамі.

І, быццам бы ў адказ на іх здагадку, непадалёк замку пачуліся крыкі атакуючых.

Яны выскачылі з варотаў, і паскочылі туды, дзе ішла бойка. Хутка пабоішча спынілася. Ульвар выцяраў пот з ілбу. Перад імі на зямлі ляжаў перабіты татарскі атрад – чалавек да дваццаці.

- Ваіслаў па дарозе рушыў, далей, з тэўтонамі, а мы гэтых тут прынялі. Яны – хлопцы трывалыя, умелыя. Да раніцы будуць. Татарамі іх не напалохаеш. Хочаш, я за ім усьлед адпраўлюся? На дапамогу?

- Колькі тэўтонаў зь ім? – запытаў Міхась.

- З дзясятак, у цяжкім узбраеньні, - адказаў Ульвар.

- Ня трэба. Ды яны ўжо далёка, напэўна. Пачакаем да раніцы, - вырашыў Міхась. І загадаў:

- Узмацніць абарону. На сьцены ўдвая болей! Вакол замку вартаваць да раніцы – паслаць раз'езд. Пайшлі адпачываць, - вымавіў ён.

І хлопнуў яго па плячу.

- Цябе жонка зачакалася. Маладая.

Ульвар крыва усьміхнуўся.

- Ня так ужо яна мяне і чакае.

- А ты будзь зь ёй ласкавы, а не як мядзьведзь. Міхась зарагатаў.

- А то ты дзеўку ня толькі сапсуеш, ды яшчэ і заморыш.

З гэтымі словамі ён хлопнуў Ульвара па плячу, і накіраваўся ў жылую вежу.

Па дарозе зайшоў у пакой да Івана. Той прачнуўся, і сядзеў на ложку. Летыцыя была зь ім, разам з карміцелькай і манашкай яны ўсьцішвалі дзіцё, якое, было бачна, толькі што горка плакала.

Напэўна, спугаўся ад крыкаў. Міхась падыйшоў да калыскі, і ўзяў малога на рукі.

Той нечакана супакоіўся, заўсьміхаўся, і пацягнуў яго за бараду. Міхась акуратна апусьціў уніз яго ручкі.

- Трэба ўжо хлопца ад вас забіраць, бабская каманда. Ён усьміхнуўся. Яму меч ужо трэба. Латы. Так, Іван?

Хлопчык засьмяяўся, і нечакана для ўсех выразна кіўнуў галавой.

- Ну, што я кажу. Міхась таксама рассьмяяўся.

Летыцыя напалохана глядзела на яго.

- Куды? Ён жа яшчэ зусім малы!

- Да жартую я, не пугайся. З Іванам на руках ён падыйшоў да яе, і прыцягнуў да сябе вольнай рукой.

Хлопчык, шчасьлівы, што пачалася гульня, схапіў яе за валасы, і пачаў нешта лапатаць на сваёй вядомай толькі яму мове.

Міхась ізноў разьвесяліўся.

- Меч, і жанчына – што яшчэ трэба ваяру. І адразу за валасы цягне. Іван, куды ты мамку цягнеш? Яна табе і так дасьць усё, што трэба.

З гэтымі словамі ён апусьціў дзіцё карміцельке на рукі.

- Займіся. Каб ён спаў праз паўгадзіны. Прыйду, праверу. Ён павярнуўся да Летыцыі.

- Любая, пайшлі адпачываць. Дзень сёньня нейкі дуркаваты. З самай раніцы. Ды вось, святара табе знайшоў.

- Як сьвятара? Дзе? – яна ўськінула на яго вочы.

- Там, у лесе. На дарозе. Крыху сапсаваны, захварэў. Ды хутка ачуняе. Ты ім заўтра займешся, з Абелем разам. Тады і пагаворыце.

І я мяркую, што раніцой у нас будуць госьці, - задумліва вымавіў ён. – Ня дужа чаканыя. Ды жаданыя.

Яны ўзьняліся ў пакой, дзе ўжо жарка гарэў натоплены камін. Ля яго дымілася вялікая кадка з вадой, закрытая прастынямі. Міхась ськінуў жупан, і выцягнуўся ў крэсьле, працягнуў ногі.

Яна падыйшла, і пагладзіла яму плечы. Ён адкінуў галаву назад, і паглядзеў на яе.

- Прыгажуня мая. Ваду прыгатавала?

Яна кіўнула.

- Спакою хочацца, дзяўчынка мая. Цішыні. Цішыні душы і цела. Як мне хораша тут, з табою. Ён крануў вуснамі яе руку.

Яна абышла яго, нахінулася, каб зьняць зь яго абутак. Ён хацеў была яе спыніць, ды яна апусьцілася перад ім на пол. Ён уздыхнуў. І сапраўды, ён стаміўся так, што і не сагнуўся б. Сьпіну проста ламіла, і ногі былі как каменныя.

Разуўшыся, ён устаў, зьняў кашулю, і нагавіцы, і апусьціўся ў кадку. Яна сьмінула сарочку, і узьнялася, каб сесьці побач зь ім. Ён спыніў яе рухам рукі. Яна застыла, гледзячы на яго.

- Паглядзець на цябе хачу, - ціха вымавіў ён. – Красуня мая.

Яна высока падкалола валасы, і стаяла перад ім аголеная, са стройнымі белымі сьцёгнамі, пругкімі налітымі грудзямі з празрыстай белай скурай, пад каторай былі бачныя галубаватыя жылкі, з ружовымі саскамі.

- Хадзі да мяне, - ціха вымавіў ён.

Яна апусьцілася, і нахінулася да яго. Яе сасок апынуўся перад ім, і ён паймаў яго губамі. Яна ўздыхнула, палажыла рукі яму на плечы. Ён па чарзе кранаў вуснамі яе саскі, адчуваючы, як у ім і ў ёй абуджаецца жаданьне. Нарэшце яна села перад ім. Ён узяў пад вадой яе руку, і палажыў сабе на чэлес, які напружыўся пад яе далоньню.

- Ідзі сюды, - вымавіў ён. Яна разьвярнулася, і села да яго сьпіной, прытуліўшыся. Яго рукі гладзілі яе грудзі, аднак ён марудзіў увайсьці ў яе – адцягваў момант.

Яна адкінула галаву яму на плячо, яго барада, доўгая, чорная, зьмяшалася зь яе чорнымі валасамі.

На кантрасьце, яго скура была цёмнай, смуглай, яе ж – амаль празрыстай. Ён пяшчотна прытуліў яе да сябе. І нарэшце вымавіў.

- Хораша табе са мной, каханая?

- Дужа хораша. Як і ў жыцьці не бывае, - ціха вымавіла яна.

- І мне з табой хораша, як на нябёсах. Ён пацалаваў яе.

- Калі ўсё гэта сконьчыцца, калі парадак навяду, у Італію паедзем. Хочаш? У вандроўку. З сабой цябе вазьму.

- Хачу. Яна адкінулася яму на плячо, яго вусны знайшлі яе вусны. Гэта быў той жа Міхась, і ўсё ж – другі. Больш жорсткі, уладны. Сучаснага ў ім не было нічога. Але ж якога – сучаснага? Раптам яна зразумела, што ўжо забылася, што гэта такое – сучаснасьць. Яе дом быў тут. Зь ім. Ён быў і пяшчотны, і бязьлітасны, і ўладны, і ў некаторых момантах палохаючы яе. Але ж гэта ўсё ж быў ён – яе каханы. Яна была патрэбна яму так жа, як і Івану была патрэбна маці. Яна адчувала гэтую яго жарсьць, яго жаданьне яе, капрызнае, нават дзіцячае, але ж памножанае на ўсю моц гэтага гарачага, палкага сэрца, якое было загартованым у незьлічоных бойках, і калі ужо ён чаго жадаў, то атрымоўваў, і трымаў крэпка. Канешне, калі на тое была боская воля. А тое, што яна стала яго жонкай перад людзямі і Богам, да яшчэ па даручэньню яе ўласнага бацькі, тое ў яго вачах надавала ёй сапраўды сакральны сэнс. Яна была яго сьвятыняй, яго царквой, у якой ён жарка маліўся кожную ноч, да поўнага зьняможаньня, да стомы, чыі грудзі ён пакрываў пацалункамі, нібыта грудзі Мадонны, прыпадаючы да іх, як да прычасьця.

Гэта была жарсьць чалавека, якому не было чаго губляць. Калі ён згубіць іх, помсьціць ён будзе страшна, разумела яна. Лепей ужо трапіць на раз’юшанага зубра ці мядзьведзя, бо ў іх няма розуму, чым да такога, як ён.

Чорны. Гэтае імя грымела, яна ўжо ведала. Паступова яна звыклася з новай сваёй рольлю. З новай рэальнасьцю. Яна разумела, што тое, што ён кажа пра яе, пра Гішпанію, айца і кляштар, было праўдай. Яна і сапраўды апынулася ў яго мінулым, яго рэальным жыцьці. Якое яму дазволілі працягнуць разам зь ёй. Бо ж ён загінуў у той бойцы пад Грунвальдам, яна ведала. А яна загінула раней. І загінула ад яго рукі. Цяпер жа

нехта высокі, нехта вялікі зьвёў іх разам, так, каб яны не раз’ядноўваліся ніколі. Яны прайшлі праз Адхлань, і выйшлі ў рэчаіснасьць, якая прыняла іх у сябе, знайшоўшы ім месца разам. Але ж у іньшаю, яго рэчаіснасьць – не яе. Са сваёй рэчаіснасьці яна прайшла праз Адхлань у мінулае, каб выправіць у ім нешта разам зь ім. А потым? Што будзе потым, яна не загадвала. Бо будучыню ведае толькі Пан Бог, які іх ніколі не пакіне.

- Дзяўчынка мая любая, я б цябе на алтар у царкве палажыў, целам бы тваім прычашчаўся і душою тваёю, увайшоў бы ў цябе, каб не выходзіць ніколі, адзіным бы з табою стаў і духам, і плоцьцю... няма таго, чаго б не зрабіў для цябе, хочаш, увесь сьвет падару? Каралевай станеш пад-над усімі? Хочаш, царыцай нябёснай? Намалюю цябе, і павешу ў царкве - хай моляцца на цябе, і я маліцца буду.

Яго вусны блукалі па яе целу, убіралі пругкія грудзі, маленькія саскі, лашчылі стройныя белыя сьцёгны. Яна была такая прыгожая, як ніхто ў сьвеце. Ніколі яшчэ ён не бачыў такога дасканалага цела, не кранаў. Яно было тонкім, вузкім, стройным, амаль хлапчуковым, з тонкай таліяй і мяккімі лініямі сьцёгнаў, доўгімі нагамі, тонкімі запясьцям і лыткамі, мяккімі, пругкімі, акруглымі грудзямі, нагадваючымі маленькія перавернутыя чашы. Яе доўгая шыя с завіткамі чорных валасоў, чырвоныя вусны, і шчокі, рабіўшыяся ружовымі ад яго пацалункаў, пушыстыя вейкі - усё зводзіла яго з розуму, заводзіла яго, але ж ня так, як звычайна заводзіць цела жанчыны, кліча, выклікае жаданьне. Гэта ўсё было, але ж за гэтым было і большае, нешта іньшае. Праз гэтае цела яго клікаў сам Бог. Боскасьць гэтага цела, яго сьвятло, анёльскасць, нягэтасьветнасьць - усё гэта ўзьнімала яго над пажаднасьцю, жаданьнем плоцкага задавальненьня, вымушала яго жадаць зьліцьця душаў праз целы, жадаць і цалаваць у ёй самога Бога. Калі яго вусны пакрывалі пацалункамі яе рукі, гэта рукі Бога ён цалаваў праз яе, і жарсьць, якую яна запальвала ў ім, была прагай боскай дасканаласьці, любові, найвялікшай, чым цэлы сусьвет, ахінаючай і працінаючай яго, вострай, балючай. Ён укленчваў перад ёй, як перад Богам, адчуваючы толькі яе - Яго -

сьвятло, сыходзячае на яго праз яе. Бо ж яна была Сьвятым Духам, Шэкінай, прасторай і маці сусьвету, адзінай з Айцом і Сынам, як і ён быў адзіным са сваім сынам і ёю - адной плоцьцю на траіх, адной вялікай душою, падзяліць якую было немагчыма. Была раніца пасьля іх першай шлюбнай ночы, і ён цалаваў яе цела, аддаўшаеся яму, знаходзячаеся ў поўнай яго ўладзе - тонкае, дзявочае, невіннае, настолькі, што ў яго кружылася галава. Гэтага цела ніхто ня бачыў да яго і акрамя яго, ён быў першы, хто распрануў яе, зьняў зь яе гэтае шчыльнае шаўковае адзеньне, гэты тугі гарсэт, высвабадзіўшы з гэтых шаўковых латаў яе душу, агаліўшы яе перад ім, раскрыўшы і ўвайшоўшы глыбока ў яе, запоўніўшы яе сабою.

Як яна стагнала і ўскрыквала пад ім, як выгіналася яе цела! Ён трымаў яе рукі нібыта крыж, і расьпінаў яе на гэтым крыжы свайго каханьня, прыкалочваючы нябачнымі цвікамі. У сьвеце не было нічога акрамя яго і яе, толькі ён, яна, і Бог.

Яго вусны прайшліся па яе жывату, і апусьціліся ніжэй, да яе сьцёгнаў, да цёмнага мяккага ценю між імі, праз які праступала ружовая вільгаць, як сакавіты сьвежы плод раскрытага граната, ружовы, вытачаючы сок, у сярэдзіне якога хавалася ружа з плотна сьціснутымі пялёсткамі, пахучая, гарачая. Ён рассунуў яе сьцёгны і прыпаў да яе губамі. Гэта былі сьвятыя дары, якіх ён прагнуў, і, атрымаўшы, прыціскаў да сэрца. Ён адчуваў яе смак, яе пах, яе ўлоньне яшчэ мела рэшткі смаку крыві, бо ж гэтай ноччу ён пазбавіў яе цнатлівасьці, і рана яшчэ не зажыла, і ён пяшчотна цалаваў яе ўлоньне, глыбока, марудна, насалоджваючыся яго смакам, яго вільгацьцю, так, як цалаваў бы царскую браму, якая вяла на нябёсы. Нарэшце, ён узьняўся над ёй, і яго плоць увайшла ў яе, глыбока працінаючы, разрываючы рэшткі яе цнатлівасьці, дасягаючы самых яе глыбіняў. - Я хачу цалаваць плоць тваю, любы мой, Бог мой, каханы, не зямны, а нябёсны. І ён узьняўся над ёй, і яго плоць апынулася перад яе ружовымі вуснамі, якія мякка дакрануліся да яе. Яна бачыла перад сабой яго сьцёгны блізка ад свайго твару, яго йод, і тое, што за ім, што трымала яго семя, яго плоць, паўставала зь цемры, зацяняючай яго смуглую скуру. Яго сьцёгны былі магутнымі, як калёны, як і яго йод быў вялікім і напружаным. Яна хацела бачыць яго, яго патаемную сутнасьць,

яго сакрытае, дакрануцца да тайны з тайнаў, і перад ёй паўставаў зьмій, плоць якога прынялі яе вусны, і гэты зьмій садрыгнуўся і выйшаў, а потым упіўся ў яе яблыка. Сок пацёк, зьмяшаўшыся зь семенем. Ён браў яе, і яна ня ведала, хто ён - Бог, ці Д'ябал, ці ўсё адразу, бо ён быў усім, і ўсё было па яго волі, разумела яна. Не было нічога нячыстага і забароненага. Яе цела скарылася яму, і яна ўскрыквала пад ім, напаўняючыся ім так, як і ён напаўняўся ёю.

- Дзяўчынка мая, як я хачу цябе. Уваходзіць у цябе - такая асалода. Царыца нябёсная, дух сьвяты, - шаптаў ён, уваходзячы ў яе, працінаючы сваёй плоцьцю, шырока рассоўваючы яе сьцёгны, і, нарэшце, выліўся ў яе, і яна ўздрыгнула і ахапіла яго нагамі. Яе вільгаць цякла па ім, і ён апусьціўся, і запячатаў яе сваімі вуснамі.

Яны ляжалі разам, і ён прыціскаў яе да сваіх грудзей.

- Я ведаю, хто ты, - раптам прашаптала яна. - Ты - Бог. Яе вочкі, гарашчыя, як зоркі, глядзелі на яго, і ён прыцінуў яе да сябе, і крануў яе валасы вуснамі.

- Я - Бог, каханая, твой нябёсны Айцец, - ціха прашаптаў ён. Я знайшоў цябе, а ты - мяне, каб не расставацца ніколі.

Ён пяшчотна крануў яе вочы вуснамі, і прыгарнуў да сябе. Яна схавалася ў яго вялікіх руках, і заціхла. Цішыня наступіла вакол. Сьвятая цішыня. Ён ляжаў, трымаючы яе на грудзях, і думаў. Нешта вялікае было за ўсім гэтым. Нешта магутнае. Ня проста так ён сустрэў яе, а яна – яго. Гэта – боская міласьць, боская ласка. І раптам яму прыйшло на вум:

- Можа, у тых кнігах, якія стаяць, закрытыя, схаваныя, у скарбініцы ў сутарэньнях, ёсьць адказы на тыя пытаньні, што непакояць яго. Як жыць? Такое простае пытаньне, і такое складае. Але ж адказ на яго ведае толькі Бог. Ён хацеў знайсьці Бога, шукаў яго, клікаў. І Бог паслаў яму яе. Ён ласкава заглядаў у яе твар. Яна ўзьняла на яго вочы.

- Любуюся табой, - ціха вымавіў ён. – Гляджу на цябе, і быццам бы анёла бачу. Анёлак мой. Нябёсная, не зямная. Можа, хочаш

чаго? – запытаў ён яе. – Чаго табе трэба, усё выканаю. Чаго хочаш? Адзеньне, якое хочаш, упрыгожваньні. Можа, каня новага? Што хочаш падару. Ты толькі скажы.

Яна абняла яго, адчуваючы яго цеплыню, яго пах – гарачы, востры. Пах яго поту, яго цела, якое яна так любіла. Яна дакранулася вуснамі да яго пляча, да грудзей. Ён закрыў вочы.

- Я падумаю, каханы, - ціха вымавіла яна. – Бо ж у мяне ўсё ёсьць, і акрамя цябе мне нічога не патрэбна. Але ж дай мне час падумаць. І я паспрабую знайсьці сваю мару, якую ты зможаш зьдзейсьніць. Яна ўсьміхнулася.

- Падумай, золатка. Не сьпяшы. І ня бойся запытаць самае патаемнае тваё жаданьне. Скажаш – забью дзеля цябе. Калі вораг ёсьць, калі нехта цябе пакрыўдзіў, ты толькі скажы. Толькі пакажы на яго. Ён пацалаваў яе руку. Калі горад які хочаш, землі – адпраўлю дружыну. Зямля тая тваёй будзе. Хочаш, сабор пабудую, дзе скажаш. Вёскі з хлопамі, лясы, вазёры – твае, уласныя, дзе ты будзеш караць і мілаваць – якія хочаш, атрымаеш. Хочаш – кляштар жаночы пабудую. Манашкі пад табой будуць. Будзеш прызначаць старэйшых, будзеш усім кіраваць, што хочаш, зробіш.

А хочаш – мануфактуру адкрою. Парфюмы, тканіны. Майстрых, майстроў выпішу. Я ўсё магу. Няма таго, што б я ня зрабіў дзеля цябе.

- А на Сьвятую Зямлю магчыма паехаць? – раптам запытала яна.

- Золатка, магчыма, ды дужа небясьпечна. Яна пад мамлюкамі зараз, пад султанам. Ён пакачаў галавой.

- Што хочаш прасі, але ж гэта… гэта як ільву галаву ў пашчу палажыць. Адзін бы паехаў. З табой – тады мне з султанам ваяваць прыйдзецца. Бо ж такую красуню кожны для сябе захоча. Дужа хочаш? – ён устрывожана глядзеў на яе.

Яна закрыла вочы, схавала твар у яго на грудзях.

- Як Бог дасьць, золатка. Як Бог дасьць. Не адмаўляю табе, але

ж і ў скорым часе ня зьдзейсьню. Аднак, калі гэта апошняя твая просьба, то буду выконваць. Ён сур’ёзна паглядзеў на яе.

Яна пакачала галавой.

- Калі тое небясьпечна, хай Бог выканае, каханы. Бог усё можа, усё зьдзейсьніць. І нават немагчымае.

- Але ж жаданьне за табой застаецца, - усьміхнуўся ён. – Памятай. Што хочаш, і ў любы момант.

Ён пакуль марудзіў уставаць, бо толькі заняўся золак. Ды трэба было займацца справамі. Перш за ўсё, трэба было дачакацца атрада Ваіслава. І калі яны ня з’явяцца ў бліжэйшым часе, трэба было зьбіраць людзей на дапамогу. І як бы адказваючы на яго думкі, за вакном пачуўся конскі топат. Вялікая група вершнікаў набліжалася да замку. Ён уздыхнуў з палёгкай.

- Напэўна, яны, - вымавіў. – Я пайшоў, каханая. Ён асьцярожна высвабадзіўся зь яе абдымкаў.

- Ты яшчэ адпачывай, ляжы. Бо ж рана – толькі сонца ўзышло. Ён хутка амыў твар, апрануўся, зашпіліў жупан, вузкі, у талію, з чорнага аксаміту, наверх нацягнуў кальчужную кашулю, накінуў на плечы доўгую сукню і пакінуў пакой.

Калі ён выйшаў на двор, вартавыя як раз адчынілі браму, і праз яе на двор уехалі ваяры – у поўным саставе, ніводнага ня выбыла. Ваіслаў вёў атрад наперадзе, за ім рыцары ехалі папарна. І ў кожнага да поясу былі прытарочаны мяхі. За канямі, хістаючыся, ішоў шэраг палонных - са зьвязанымі рукамі, расхрыстаныя, у крыві. Сьпешыўшыся, рыцары выстраіліся на двары перад замкам. Ваіслаў падыйшоў да яго, і стаў дакладаць. І сапраўды, недалёк ад замаку, крыху больш чым праз дзьве гадзіны хуткага ходу, яны натыкнуліся на атрад. Тыя распалажыліся ў лесе, вальготна, схаваліся ў гушчары, і думалі, што іх ніхто не заўважыць. Здавалася, чагосьці чакалі.

- Чакалі, калі з вазоў татары выпаўзуць, і вяроўкі праз сьцены перакінуць, а потым ім знак дадуць. Міхась, чорны, высокі, у шырокай сукні, атарочанай собалем, на галаву ўзвышаўся над

немалым Ваіслававам.

Палонныя пахмура маўчалі, ведалі – хутка і да іх дойдзе чарга, і ім вынясуць прысуд.

Гаспадар маёнтку, магутны, пагрозны, у шыкоўным багатым строі, уражваў. Кальчуга бліскацела на сонцы, падкрэсьленая чорным аксамітам, гарэлі ярка гузікі на верхнім адзеньні, залатыя, упрыгожаныя камянямі, чорныя палатняныя нагавіцы былі запраўлены ў высокія скураныя боты са шпорамі нямецкай работы – каванымі, з вострымі калёсікамі.

Вялікі срэбны крыж на тоўстым ланцугу дапаўняў карціну. Паважны пан, што ня скажаш.

- Каго ўзялі? – коратка запытаў Міхась, падыходзячы да палонных. Тых выстраілі ў чаргу перад конямі. Зьбітыя, парэпаныя, некаторыя стаялі апусьціўшы вочы, іньшыя ж – горда глядзелі на яго. Бяз шапак, галовы выгаленыя, на макушках – доўгія чубы. Зь дзясятак чалавек палонных.

- Гэта ўсе? А дзе астатнія? Ці болей не было? – запытаў Міхась.

- Астатнія – таксама тут. Ваіслаў кіўнуў, і ваяры сьпешыліся. Па чарзе яны сталі выходзіць наперад, і высыпаць на зямлю перад палоннымі зьмесьціва мяшкоў – галовы. Многа было татарскіх, чорных, з доўгімі вусамі. Былі і сьветлыя, русінаў, ліваў ці жмудзі. Некалькі было і чубатых.

Усяго галоў было яшчэ на некалькі дзясяткаў. Не малы атрад разьбілі. Міхась кіўнуў. Аб нечым задумаўся. Марудна абыходзіў строй палонных, заглядаў у твары. Нібыта кагосьці шукаў. Раптам спыніўся.

- Абеля сюды, - загадаў. Праз некалькі мінут з’явіўся і Абель.

- Спазнаеш каго? – паказаў на палонных Міхась.

Абель нярвова зглытнуў. Рапатам з шэрагу палонных пачуўся рогат.

- Барын дзеўку сваю прывёў. Жонку, - высокі казак рассьмяяўся

кпліва. Яму ў адказ ухмыльнуліся і астатнія. Рагатаць не рашаліся.

Абель пачырванеў.

- Жонку? Жонку маю ты яшчэ пабачыш. Перад сьмерцю. Міхась падыйшоў да палоннага, углядаючыся ў яго твар.

- Пазнаеш? – кіўнуў ён Абелю.

- Гэтыя. Яны ўсе былі там, калі нас у вазок вялі. Калі … Юзафа. Абель ня стаў працягваць.

- Папа твайго мы парашылі, - усьміхаючыся, адказаў палонны. - Сабаку лацінскую. І царкву тваю д’ябальскую падпалілі мы. Ён з выклікам глядзеў на Міхася.

- Псы. Лацінскія паганыя псы. Блюзьнеры і ерэтыкі ў Хрыста Бога і матухну яго і ва ўсіх анёлаў і сьвятых. Мы сьвятую веру аднавім, зямля за намі будзе. Паганай мятлой пагонім вас усьлед за крыжакамі. Да самага пекла. Ён зарагатаў, ашчэрыўшы выбітыя зубы.

- А ты – раўніцель веры, як я пагляджу. Хрысьціянін. Не забі. Не ўкрадзі. Што яшчэ ты ня робіш, чалавеча? Хто ты такі, каб веру вызначаць, правільную ці не. Вось я, напрыклад, грэцкае веры не зьневажаю. Усе мы пад Богам, і перад Богам. Міхась спыніўся насупраць казака, цяжка дыхаючы. Яго грудзі ўзьнімаліся, абурэньне захлёствала.

- Ты думаеш, раз я веры лацінскай, дык я ня ведаю, як па-праваслаўнаму на той сьвет адпраўляюць? Цябе жыўцом закапаць, альбо на кол пасадзіць? Ці скуру спусьціць з цябе, на рэмні? – Міхась узьняў бровы. - Выбірай, што падабаецца.

Ты сабор пажог, сьвятое месца зганьбіў, перад тварам укрыжаванага Госпада Бога сьвятара зарэзаў. Ніякі ты не хрысьціянін, ты горш за любога паганца. Сабака ты бязродная. Валацуга. Табе што Бог, што Д’ябал – усё адно. Бо ж ты верыць ня ўмееш, а толькі баяцца можаш. Баішся ты і чорта, і Бога, асабліва калі п’яны, а творыш такое, што і чарцям у пекле

тошна на цябе глядзець. Мутарна. З вас, дурней, і чорт рагоча, і Бог плача. Ды я ня Бог, і ня чорт. Я – Чорны. Можа, чуў пра такога, ведаеш. І калі ты да мяне трапіў, тут я цябе – усё адразу. І пекла я табе зраблю яшчэ пры жыцьці, каб адчуў, як грэшнікі ў аду падсмальваюцца.

Ён крута разьвярнуўся.

- У сутарэньні іх. Усіх. І раптам памарудзіў. – Пачакай. Яшчэ раз прайшоўся, углядаючыся ў твары.

- А, стары знаёмы! - раптам усьміхнуўся. – Васіль! Красна сонейка выкацілася! Худы, зарослы барадой чалавек стаяў, апусьціўшы галаву. І раптам бухнуўся на калені.

- Не кажы казьніць, шаноўны пан, кажы слова вымавіць! Я не па сваёй волі, не па ўласнай, мяне вымусілі, зь вязьніцы вызвалілі, я ім служыць абяцаў, каб не забілі. Не па сваёй волі. Я табе служыць буду, што хочаш, зраблю, век буду тваім рабом, халопам апошнім. Я табе яшчэ прыгажуся! Не казьні! Васіль бухнуўся ў ногі.

- Не па сваёй, кажаш. Казак усьміхнуўся. – Ты ж нас у сабор завёў, сьвятара паказаў. Мы ж пры табе яго рэзалі. Ты яшчэ казаў, як добра, годна! Люба!!! Казак зарагатаў вар'яцкім, дзікім сьмехам. І раптам яго галава звалілася на грудзі, і ён заціх.

- Люба. Люба – кажаш. Міхась пагадліва кіўнуў галавой.

- Што ж. Вядзіце яго з астатнімі ў сутарэньні. На чэп. Колья гатоўце, - загадаў ён. – Высокія, каб здалёк было бачна.

- Агароджу хачу новую паставіць. Ён змрочна ўсьміхнуўся.

З ранку на двары працавалі плотнікі – стругалі камелі дрэваў.

Ён увайшоў у вялікую залу, дзе яна чакала яго – з вакна бачыла допыт.

- Каханая, пашанціла. Паймалі мы тых, хто кляштар пажог. Не далёка яны сышлі – вярнуліся. Сабака заўсёды на сваю

блевоціну вяртаецца. Нелюдзі праклятыя. Яны Юзафа забілі. Ён замаўчаў. Раланда забілі. Сколькі людзей палягло. Але ж самае найгоршае, што яны маглі зрабіць – яны ўзьнялі руку на цябе. Дакрануліся да сьвятога – да цябе, і майго сына. Таму слухай, і не перапыняй. Заўтра пакараньне будзе. Публічнае. На кол іх саджаць будзем. Я хачу, каб перад сваёй сьмерцю яны цябе бачылі. Тое цяжка, я разумею. Але ж набярыся моцы. Так трэба. За такую віну – кала мала. Яны сьмелыя былі, калі сьвятога чалавека рэзалі. Калі Анджэя катавалі. А што б яны з табой, з Абелем, і зь дзіцём нявінным зрабілі б, тоя я і ўяўляць не хачу. Яно і добра, што Нікіфар там апынуўся. На дабро, ці на блага, ды выратаваў вас ад ганьбы і лютае сьмерці. Бо ж напад на кляштар ня ён ладзіў. Гэта мне таксама вядома. У Полацк ніткі цягнуцца. Там іх гняздо – там здраднік схаваўся, чую. Ведаю – там ён. Бачыць Бог, не жадаў я гэтага, і не радуецца маё сэрца. Але ж за такое зло – злая сьмерць.

Яна моўчкі глядзела на яго, не перапыняла. Калі ж ён скончыў, падыйшла, і ўзяла яго за руку.

- Каханы мой, усё – па волі тваёй. Можа, у пекле ім лягчэй прыйдзецца, калі праз пакараньне яны тут свае грахі выкупяць. Яна пацалавала яго руку. Узьняла на яго вочы. Яе ўразіў яго твар – на ім быў сапраўдны боль.

- Бог мне сьведка, я не хацеў, - ціха вымавіў ён, і ахапіў яе. – Аднак яны самі вызначылі свой лёс. Калі не пакараю іх, народ будзе думаць, што я – слабы. Што край не магу трымаць. Што баюся іх. Не жадаю псаваць адносіны. Што майго сына і жонку скрасьці можна, сьвятое месца зганьбіць, сьвятароў забіваць, і нічога за гэта ня будзе. І ў што пераўтворыцца тады нашая зямля, мне страшна і ўявіць. Бог карае, каханая. І карае ён жорстка. Бог стварыў і нябёсы, і пекла, нябёсы – для сьвятых, пекла – для тых, хто Бога ня ведае, запаветы яго парушае, і яго не баіцца. Кол у параўнаньні з тым, што чакае ў пекле тых, хто зьняважыў Бога ў доме яго, апаганіў сьвятыню, на слугу яго руку ўзьняў, і на нявінных, малай карай здасца. І так таму і быць. А другой палове дню ўжо ўсё гатова будзе. Няма чаго цягнуць.

Ён пацалаваў яе руку, разьвярнуўся і выйшаў. Яна хацела

заплакаць, але ж вочы яе былі сухімі. Пасьля таго, як яе выкралі, як яна бачыла гарашчы кляштар, зьнявечанныя целы, ўспораты жывот Юзафа на алтары, нешта зьмянілася ў ёй.

- Дарэчы, я табе, золатка, не сказаў. Яна ізноў пачула яго голас. Ён вярнуўся, і стаяў перад ёй – цёмны, высокі, магутны. Яго чорныя воласы хвалямі спадалі на плечы, зьзялі каштоўныя камяні на ўбраньні, на зброі. Яе ўразіла, які ён быў велічны, прыгожы. Сапраўдны князь. Паважны пан, уладарнік зямель і лёсаў чалавечых. Бог тут над усімі імі, над якім вышэй за Бога нікога і сапраўды не было. І яна зразумела, якая адказнасьць ляжала на яго плячах – хоць і шырокіх, ды – чалавечых. Выконваць тут, на зямлі, боскую волю, бараніць сьвятыні, захоўваць мір і парадак. Трымаць у сваіх руках лёс дзяржавы, яшчэ маладой, уразьлівай сярод паганскіх лясоў, у атачэньні стэпаў, поўных дзікімі плямёнамі, на якую цісне і маладая, але ж набіраючая моц Масква, і германцы-рыцары, лівонцы і тэўтоны, ад гэтага шырокага пляча залежыць яе, дзяржавы, і яе, уласны, лёс, лёс іх сына. Ці наогул яны застануцца жывыя сярод гэтых дзікіх лясоў, дзікіх людзей, ці зьнікнуць, сыдуць у нябыт, і тады ўсё пойдзе па-іньшаму, і зараз, у мінулым, і ў будучыне. Перад ёй, гэтымі рукамі, кавалася слава зямная, веліч і лёс краіны, якая раськінецца ад мора і да мора, і стане калыскай волі, годнасьці, сьвядомасьці, рыцарства і шляхецтва, якую будуць успамінаць нашчадкі цёмнымі начамі, калі будуць дуць зімовыя вятры лёсу, зносячыя, здаецца, ўсё на сваім шляху бяз рэшткаў. І таму яна слухала яго голас, слухала яго, як Бога, і так жа моцна верыла яму, і ня мерыла яго ніякай іншай мерай, акрамя меры той чашы боскага гневу, і боскай міласьці, якую ён выпіваў бяз рэштку тут, прама перад ёю. Яна магла толькі трымаць яго руку, крэпка, каб ніхто і нішто не маглі адарваць, адкінуць яе ад яго.

- Каханая, я хачу, каб ты пайшла са мной, і каб ты пабачыла аднаго чалавека. Мы знайшлі яго ўчора на дарозе. Гэта – сьвятар, францысканец, і калі ён паправіцца, я буду прасіць, каб ён застаўся тут, служыць у маім нанова адбудаваным саборы.

З гэтымі словамі ён крэпка ўзяў яе за руку, і павёў за сабой.

Яны ўзьняліся па ступеньках, і ўвайшлі ў невялікую камору на

верхнем паверсе вежы. Абель быў там, аглядаў раны, мяняў павязкі. Яна спынілася на парозе, але ж ён, крэпка трымаючы яе за руку, правёў яе, і стаў прама перад ложкам.

З жахам глядзела яна на раны закатаванага чалавека – крывавую дзірку замест вока, разарваныя вусны, разьбіты твар, цела, якое скрозь пакрывалі чорныя апёкі, пакрытыя глыбокімі сечанымі ранамі. Чалавек, здаецца, быў у забыцьці, але ж раптам яго вока адкрылася.

Спачатку яму здалося, што ён памёр, і трапіў у рай да Госпада Пана Бога, які стаіць зараз тут, насупраць яго, і трымае за руку саму Дзеву Марыю, такой прыгожай, велічнай, сьціплай была гэтая жанчына, якая стаяла насупраць. Яе адзеньне, цёмна-блакітнае, глыбокага, багатага колеру, з каштоўнага шоўку, гуляла на сонцы марскімі блікамі. Вочы, набыўшыя ад яго глыбокі блакітны колер, глядзелі на яго, нібыта выпраменьваючы сьвятло. Таўсты ланцуг зь вялікім крыжом, усыпаным пярлінамі і смарагдамі, з’зяў на яе грудзях.

Яна нахілілася да яго, і асьцярожна дакранулася рукой да яго ілбу. Яе рука пахла так, што ў яго закружылася галава.

- Бедны пакутнік, - яе голас прагучэў, як нябёсная музыка. – Мы рады бачыць вас у нашым доме, шаноўны пан Анджэй. Муж сказаў мне пра вашыя нягоды. Я буду рада, калі вы застанецеся тут, колькі пажадаеце. Бо ж наш сьвятар загінуў страшнай, пакутніцкай сьмерцю, і мая душа стамілася бяз божага слова.

- Пану Анджэю будзе прыемна ведаць, што тыя, хто катаваў яго, і хто, дарэчы, пажог маю маёмасьць і дапамог скрасьць маю сям’ю, знаходзяцца тут. І сёньня яны будуць пакараныя. Лютай, страшнай сьмерцю.

Я ведаю, айцец, што ваш доўг зараз папрасіць мяне аб міласэрнасьці, але ж міласэрным будзе не адмяніць пакараньне, а па магчымасьці зрабіць яго як мага хуткім. Таму ня будзем марудзіць. Я загадаў паклікаць людзей, і зараз тут будуць усе з навакольных вёсак. На двары ўжо ўсё гатова, і я зьдзейсьню тое, што павінен зьдзейсьніць. Вы можаце паглядзець адсюль з вакна, альбо, калі можаце, можаце спусьціцца. Ды я б не

рызыкаваў, бо раны могуць адкрыцца, і тады ўсё лячэньне Абеля прападзе дарам.

- Я буду маліцца за іх душы, пан Міхал. Дзякуй вам за лячэньне і прапанову застацца. Шчыра кажучы, далей мне ісьці няма куды. Калі вы пагадзіцеся прыняць мяне на службу ў сваім кляштары, я напішу ў Ватыкан, і, я ўпэўнены, не атрымаю ад іх адмовы. Якая ім розьніца, буду я служыць у прызначаным месцы, ці на некалькі міляў па саседству. Анджэй паспрабаваў узьняцца, ды ізноў упаў на ложак, бо быў яшчэ дужа слабы.

- То і дамовіліся, - вымавіў Міхась. – Пайшлі, каханая.

На двары ўжо сабраліся прадстаўнікі мясцовых вёсак і суседняя шляхта – сьведчыць пакараньне, якое было жахлівым і нячастым нават і па тых крывавых часах. Аднак Ваіслаў яго добра ведаў – служыў у валахаў. Тыя ж навучыліся яму ад турак, якія, як і візантыйцы, дужа любілі ўзьнімаць сваіх ворагаў на высокія, завостраныя кольлі. А маглі – і на тупыя, каб сядзелась падолей, і па-трываламу. Гэта залежыла ад гасьціннасьці таго, хто шчыра дараваў такую пачэсную пасаду.

Палонных вывялі з каморы, дзе яны сядзелі, распранулі, пакінуўшы толькі прыкрываючыя срамы анучкі.

Усё рабілася бяз помпы, на зямлі. Валах агледзеў кольлі і прылады. Палонныя стаялі, панура зьвесіўшы галовы.

- Хто сьвятара забіваў? – запытаў Міхась. – Крок наперад. Хто першы перад Госпадам стане?

Наперад выйшла некалькі чалавек.

Ён стаяў зь Летыцыяй насупраць асуджаных, на невялікім памосьце, на які паставілі крэслы для шаноўных гасьцей, што стаялі за імі. Садзіцца ніхто не жадаў.

- Ну што, хто хацеў маю жонку ўбачыць? – усьміхнуўся Міхась. – Вось яна, жывая, здаровая. І сын мой тут. Ён узьняў з рук рыцара, стаяшчага побач, малога, і ўзьняў яго над галавой. – Усе бачыце? Мая каханая жонка, і мой любы сын, якіх

вераломна скралі, перад гэтым апаскудзіўшы сьвятыню і зрабіўшы незьлічоныя злачынствы. Яны лічаць, што – супраціў лацінскае, рымскае веры. Але ж гэтыя злачынствы зроблены супраціў веры і Бога наогул. Бог – адзін, а не два, не тры і ня дзесяцера. Адзіны ў трох тварах – Айца, Сына, і Духа Сьвятога. І кіруе ён намі праз Хрыста і яго запаветы. Той жа, хто парушае гэтыя запаветы, сгарыць у возеры вогненным пасьля сьмерці. А паскорыць яго вандроўку ў прызначанае яму месца дапамагу я. Бо ж я назначаны вам тут князям, і Богам, і пакуль гэтая зямля застаецца нашай, мы не пацерпім на ёй ні злачынстваў, ні апаганьваньня, ні таго, што нехта будзе красьці нашых жанчын і дзяцей, забіваць нашых сьвятароў, і зьневажаць Бога. Я не кажу – нашага, бо няма двух розных Багоў. Бог – адзіны па-над усімі, як я ўжо і казаў.

А цяпер – прыступайце.

Ён цяжка апусьціўся на высокае крэсла. Летыцыя села побач зь ім. - Унясі дзіця, - коратка загадаў ён ваяру, і той з хлопчыкам на руках удаліўся.

Цяжкая рука Міхася лягла на руку Летыцыі, і крэпка сьціснула яе.

- Каханая, ты, можа, вочы закрый, - ціха вымавіў ён.

На зямлі расьцягнулі першага, і яна апусьціла позірк. Раздаўся дзікі, нечалавечы крык. А потым – яшчэ, і яшчэ адзін. І яшчэ. Нехта са шляхты пачаў услых маліцца, нехта з жанчынаў паваліўся, страціўшы прытомнасьць. Мужчыны стаялі, сьхіліўшы галовы. І раптам з голасам чарговага катуемага да яе даляцелі словы, якія, як і голас, здаліся ёй добра знаёмымі.

- Панна, панначка! Пашкадуйце! Хрыстом-богам прашу, пашкадуйце! Вымусілі мяне, я не хацеў, выкралі, з сабой забралі. Сьвятара не чапаў, Богам клянуся. Зьмілуйцеся, хрысьціяне! За радзі Госпада Бога, зьлітасьцівіцеся!

Яна ўзьняла вочы на голас, і адразу пашкадавала, што зрабіла гэта. Перад ёй на высокіх кольлях курчыліся целы, хрыпелі, нібыта таньчылі, па дрэву цякла чорная, густая кроў. Васіль

зваліўся на калені, і, суцэльна звар’яцеўшы ад жаху, выў ужо не па-чалавечаму, па-ваўчынаму. Яго блакітныя вочы выкаціліся з вачаніцаў, барада і валасы стаялі дыбам. Голы, анучка зьляцела, і засталася недзе назадзе. Ваяр утрымліваў яго за шыю, але ж той вырываўся, і еньчыў, як вар’ят.

- Не вінаваты я!! Панна!! Панначка!!! Век Бога маліць за цябе буду! Пашкадуйце, я ж поп, хоць і расстрыга. Не бярыце грэха на душу!! У кляштар сыду, на хлеб і ваду сяду, усё зраблю, што скажыце. Выкралі мяне, заставілі. Ён зваліўся на зямлю, і заціх, усхліпваючы.

- Каханы, - раптам вымавіла Летыцыя. – Ты казаў, я магу ў цябе папрасіць, што хачу. Яе голас нечакана прагучэў гучна, і натоўп прыціх.

Калі гэта можна, я прашу цябе аб апошняй літасьці. Літасьці да гэтага чалавека. Паступі зь ім па волі тваёй, але ж яві міласэрнасьць.

- Просіш за яго? – Міхась павярнуўся, вывучаючы яе.

- Прашу, - ціха вымавіла яна. – Калі можна, не забівай. Бо ж ён усё ж сьвятар. Хоць і хлус. Яго не было там, ля кляштару. Былі казакі, яго ж я ня бачыла.

- Я ў вазку сядзеў, мяне ланцугом прыкавалі, - Васіль, адпушчаны крэпкай рыцарскай рукой, папоўз на жываце да крэслаў, прыпаў да памосту, і пачаў цалаваць доскі.

- Ня бачыла, кажаш? – Міхась задумаўся. – Жаданьне тваё з табой застанецца. Але ж на выбар – сукенка, конь новы, ці упрыгожваньне якое. А гэтага … адпусьціце, - з пагардай раптам вымавіў ён. – Хопіць на сёньня крыві. Ты мне, недаробак, яшчэ спатрэбішся. На ланцуг яго, туды, дзе сядзеў.

- Ну што, шаноўнае спадарства, - зьвярнуўся ён да паноў-братоў, і сялян, якія стаялі, апусьціўшы галовы ды паадкрываўшы рты. – Запрашаю выпіць за ўпамін душаў. Але ж …

Тут ён паклікаў Ваіслава. Той падыйшоў, і пахіліўся.

- Дабейце іх, копьямі. Каб ня мучыліся. І выстаўце за агароджу. На пагорак. І галовы таксама на колья. Па кругу вакол замку. Каб здалёк было бачна.

З гэтымі словамі ён устаў, крэпка трымаючы зьбялеўшую Летыцыю за руку, і накіраваўся ў вялікі пакой рыцарскай трапезнай. Госьці, ні слова ня кажучы, пасьледвалі за ім. Для сялян адкрылі вялікія бочкі зь мёдам з панскіх падвалаў. Ваяры хутка прайшліся, пазбаўляючы асуджаных апошніх пакутаў. І хутка двор запоўніўся спачатку ціхім і нясьмелым, а потым і вясёлым гоманам.

- Слава пану, - выкрыкнуў нехта. – За пана! За перамогу! – пачуліся галасы.

- Бога слаўце, не мяне. Усё у яго руках, - абарваў іх Міхась. – А перамогу нам яшчэ перадстаіць здабыць.

# Глава 23: На Полацк

- Дзяўчынка мая любая … Ён прыціснуўся галавой да яе твару. Яго подых апаляў яе шыю – гарачы, цяжкі.

Нарэшце, усе разышліся. Двор ачысьцілі ад шчапы, вынесьлі, як ён і загадаў, і паставілі на пагорку целы. Кроў засыпалі пяском. Не засталося і сьлядоў ад жудаснага катаваньня, якое адбылося сёньня. Госьці напіліся, і шляхетныя, і простыя. Хто застаўся прама тут, хто пакаціў да дому, каб хутчэй сьцерці памяць аб жудасным відовішчы, сьведкамі якога яны сталі.

- Лют, пан. Ох, і лют, - шапталіся вакол. Але ня толькі са страхам – з павагай. Бо ж пан быў шчыры – і караў, і мілаваў. Ды і за што пакараў: тое ж і ўявіць ня можна! Сабор з кляштаром пажэч, жонку з сынам выкрасьць. Гэта ўжо – вайна. Людзі толькі качалі галовамі. Ды і каму на вум такое прыйшло? – задаваліся пытаньнем. Але ж былі і такія, хто здагадваўся. Здагадваўся, ды маўчаў, каб не наклікаць бяды. Бо ж непакойна было ў краі, чуткі хадзілі, што зьбёг Ягайлаў родны брат, Сьвідрыгайла, зьбёг, і пасеў недзе. Войска зьбірае, каб ад лацінскае веры зямлю ачысьціць, каб рускую веру ізноў высока ўзьняць, у пашану ўзьвесьці, князям рускім землі раздаць багатыя, і рускаму люду – волю. Якая тая будзе воля, ніхто ня ведаў, ды чуткі хадзілі розныя. Казалі, і ад арды, і ад тэўтонаў, і ад Кароны – ад усіх. Чыстая зямля будзе, і з’яднаюцца ўсе князі ад Галіччыны, да Полацку ды Віцебску, Турава ды Бярэсьця і да самое Масквы, і паўстане, казалі, трэцьці Рым, такі магутны і вялікі, што нікому яго не скарыць, і адразу Царства Божае надыдзе, і сам Гасподзь Бог сыйдзе, і на княжаньне пасядзе. Толькі дзе, чуткі розьніліся. Розныя гарады называлі, ды тры зь іх – самыя вялікія – Кіеў, Полацк, ды зямля Ноўгарадская. А нехта і Маскву памінаў, бо ж – горад багаты, магутны, і моцны, і дзе, як не ў Маскве сядзець Госпаду Богу, які сам будзе Трэцьцім Рымам кіраваць сваёю магутнай рукою. Цяклі такія чуткі, ліліся па ўскрайках Княства, захлёствалі. І сапраўды, вайна будзе, вялікая – качаў люд галавой. Горш, чым татары, горш, чым крыжакі войны міжусобныя, войны паміж братамі. І

таму з’ядноўваліся князі літоўскія, і рускія, хто больш разважлівы, каля Вялікага Князю, Славутага Вітаўта, а хто і Ягайле кланяцца паехаў. Бо ж усе адчувалі, што бяда будзе, хутка – ня хутка, але ж вецер дымам вайны пахне.

- Хцівая сабака, прадажная. Каін, братазабойца, здраднік. Праз сваю прагу ўлады ён усё Княства ў крыві патопіць, ці чутна лі гэта, орды зьбірае татарскія, крыжакам разьбітым пісьмы каварныя піша, за маёй сьпіной з Імператарам, прастолам папскім гаворку вядзе. Добра тое, што і прастол, і Жыгімонт людзі разважлівыя, закон шануюць, і смуту не папусьцяць.

Вітаўт палажыў цяжкую руку на наверша мяча, расправіў грудзі, уздыхнуў, і акінуў позіркам навакольле. Бачна з гарадзенскага замку было далёка – прывольная, шырокая зямля, палі, лясы, - неабсяжныя краявіды. З пагорку ўсё відаць, як на далоні.

- Не журыся, князь. Бог ня дасьць таму адбыцца. У Бога вер. Ваяр, які стаяў побач, паклаў яму руку на плячо.

- Так, Жыгімонт. Я табе веру. Брат ты мне, родная кроў. Ты мне ня здрадзіш.

Чалавек з доўгімі польскімі вусамі, пранізьлівым позіркам чорных, як вуглі, вачэй, худым, выразным тварам кіўнуў.

Абодзьва яны яшчэ колькі часу глядзелі, як садзіцца за небасьхілам сонца, кладучы пячаць на летапіс яшчэ аднаго, адзінага, непаўторнага, сыходзячага ў гісторыю дню.

Ён абдымаў яе, нібыта апошні раз у жыцьці, ці, наадварот – у першы. З жарсьцю, якая спапяляла, вымушала яе губляць розум, скарацца яму, закрыўшы вочы, і аддавацца яго губам, рукам, яго подыху, яго вар’яцтву, сьвятому, чыстаму, калі ён жадаў яе цела, і праз яго ён жадаў яе душы. Яна і сама вар’яцела ад яго, ад яго каханьня, якое залівала яе ўсю, у якім яна танула, Гэты чалавек толькі што пры ёй адправіў на пакутніцкую сьмерць больш за дзясятак людзей, і яго рукі былі па плечы ў крыві. Не было ліку тым, хто палі ад яго рукі. Але ж яна ведала, што за

гэтай яго жорсткасьцю, яго бязьлітаснасьцю да ворага стаяла вялікая прага справядлівасьці, сьвятла, праўды, жаданьне абараніць, захінуць і яе, і ўсіх вакол. Сьвет, у якім яна апынулася, быў такім – страшным. Жудасным. І дабро ў ім было яшчэ слабым, кволым растком, які прабіваўся праз таўстую корку старых звычаяў і драпежных законаў дзікага, ранейшага жыцьця. І гэта дабро павінна была бараніць рука зь мячом. Тая, што зараз пяшчотна кранала яе грудзі, якая гладзіла яе цела, і яна закрывала вочы ад жаданьня, і кранала вуснамі гэтую яго руку, намагаючыся зьняць зь яе, увабраць увесь гэты боль, змыць сваімі пацалункамі кроў, якая струменілася па ёй – яго ўласную кроў, якую ён, не жалеючы, праліваў за гэты сусьвет. Яна цалавала яго рукі, якія мякка краналі яе вусны, і ён закрываў вочы, калі яе губы краналі сэрца яго далоняў, яго кісьці, яго рукі гладзілі яе твар, і яна прыціскалася да іх шчакой. Гэтыя рукі сьцісквалі яе цела, вымушаючы паддавацца яму, раскрывацца перад ім, і яна трымала ў сваіх руках яго твар, які пакрывала пацалункамі – яго вочы, яго скулы, шчокі, нос, вусны, адчуваючы дакрананьне яго барады і вусоў да сваёй скуры, калі гэты твар апускаўся між яе грудзей, калі гэтыя вусны сьцісквалі яе саскі, і яна гладзіла яго галаву, прытуляючы да сябе. Гэта быў найвышэйшы момант інтымнасьці паміж імі, калі яе жыцьцё зьлівалася зь яго жыцьцем, яго гарачае дыханьне станавілася яе дыханьнем, і яны зьядноўваліся ў адно непадзельнае, высокае, якое рухалася разам з дыханьнем сусьвету.

На лаве побач ляжала прыгатаванае адзеньне – старая, грубая манаская раса, чорная, з капюшонам, з намаляванымі на ёй белымі крыжамі і знакамі – сімваламі абету.

Ён поўнасьцю распрануўся, каб суцэльна зьмяніць аблічча, і зараз уваходзіў у яе моцнымі, грубымі штуркамі. Яна ляжала пад ім на ложку, ахапіўшы яго плечы, прыціскаючыся да яго цела, ускрыкваючы, адчуваючы, як робяцца каменнымі яго мышцы, як яго плоць рухаецца глыбока ў ёй, як яна напружваецца, цьвярдзее, рассоўвае яе, яе яго дыханьне апаляе скуру яе шыі.

- Сьвятло маё, жонка мая, плоць ад плоці, дух ад духа, - шаптаў

ён, - браць цябе, узяць цябе ўсю, бяз рэштку, мая, мая, толькі мая, жыцьцё маё, душа мая - і яго рухі рабіліся ўсё больш бязьлітаснымі, усё больш хуткімі, апантанымі, працінаючымі. – Муж мой, любы мой, каханы мой, шаптала яна, - увазьмі мяне ўсю, я ўся твая, хачу цябе, хачу цела тваё і душу, і дух твой, увайдзі ў мяне, глыбока, да болю, каб я памятала цябе, каб не забыла, каб пячаць твая засталася на маім целе, у самай глыбіні яго, і яго вусны лавілі яе словы, яе шэпт, закрываючы іх, так, што і дыхаць яна магла толькі яго дыханьнем, яго цела ўпячатвалася ў яе цела, яго чэлес у ёй быў як меч, і яна была як ахвяра на алтары яму, Богу яе адзінаму, які працінаў і яе ўлоньне, і самае яе сэрца. Ён шаптаў ёй ласкавыя словы, і словы любві, і пагрозы, і бласлаўляў яе, і ўзносіў вышэй за Госпада і яго маці і ўсех сьвятых, бо ж яны былі далёка, а яна была тут.

- Уязжаю я, - шаптаў ён. – Не далёка, але ж у месца небясьпечнае. Магу не зьвярнуцца, памятай. У кляштар сыдзі, калі мяне заб'юць, нікому ня вер, пакуль цела майго ня ўбачыш, а ўбачыш – ідзі да Пана Бога. Нікому сябе не аддавай, ніхто, акрамя мяне, каб не кранаў, жыцьцё маё, анёлак мой, сьвятло маё, я за табой і зь нябёсаў прыду, і зь пекла прыду, вырвуся, каб быць з табой разам. Не пакіну цябе, ня кіну, побач буду з табой заўсёды. Бога любіш – Богам для цябе стану, у рай цябе завяду, да сябе, на сваіх грудзях схаваю, ад усяго сьвету захіну, не будзе месца такога, каб я цябе не знайшоў, і каб ты ад мяне схавалася, я цябе знайду і на зямлі, і на нябёсах, каб адзіным з табою стаць, каб подых твой адчуваць, вусны твае кранаць сваімі, каб уваходзіць у цябе бясконца. Бо ж ты жонка мая нябёсная, а я – муж твой ад веку, і назаўсёды. Як я жадаў, як я шукаў цябе, як я чакаў цябе, многа год, і ў жыцьці, і па-за ім, і зь нябёсаў цябе шукаў, адчуваў, як сэрца тваё б'ецца. Ён выліўся ў яе, і прыціснуў да сябе, і яны яшчэ колькі хвілінаў ляжалі ў абдымках.

- Памятай, любая, - прашаптаў ён. – Нікога ў мяне няма, акрамя цябе. Акрамя сына. І ў цябе нікога няма. Памятай. Пацалаваў яе, крэпка, доўга, устаў, апрануў расу, і пайшоў. А яна ўпала на калені перад вобразам, які вісеў над ложкам – старым, чорным, візантыйскім. Зь яго на яе глядзеў яго твар, яна ведала. Як і ведала, што ён вернецца да яе, што ён ніколі ад яе не сыходзіў,

бо ж ён – Бог – вось ён, тут, побач.

Ён ішоў, і адчуваў, што яна ідзе побач зь ім, і водар ружы ахінаў яго, цудоўнай, райскай, якая квітнела ў яго сэрцы. На сваёй шчаце ён адчуваў яе лёгкі подых, яе мяккая рука вяла яго, і яе прысутнасьць, ён ведаў, дапаможа яму зрабіць немагчымае.

Яна ўзьняла вочы, і ўбачыла Яго.

Ён стаяў перад ёй, апрануты ў адзеньне сьхімніка. Твар яго быў схаваны, і толькі вусны былі бачныя, і барада, чорная, густая спадала на аголеныя грудзі.

Яна ўпала перад ім, і кранула вуснамі пол перад яго нагамі. Узьняла твар, і робка пацягнулася да яго. Ён нахінуўся да яе, міласьцівы збаўца, і працягнуў ёй руку. Яна ўзьнялася, і цяпер бачыла яго твар, і вусны побач.

- Чыстая! – ціха вымавіў ён. – Катарос!

І ён апусьціўся на калені перад ёю, і яго вусны дакрануліся да яе грудзей. Яна палажыла рукі яму на плечы, адчуваючы грубую тканіну манаскага адзеньня, паўтаўшую паміж яе рукамі, і яго целам.

На бясконцасьць усталявалася цішыня. Яна толькі адчувала яго вусны на сваіх грудзях.

- Грудзі твае чыстыя, як і тваё улоньне. Як і ўся ты, - ціха вымавіў ён, прыціскаючыся да яе тварам, прыжымая яе да сябе рукамі.

- Я сыду, але ж я хутка вярнуся. Ён прыціснуў да вуснаў яе руку. Абяцаю.

- Вінен ты мне. Паслуга твая мне патрэбна. Бог літасьцівы – ня здрадзіш, адпушчу. А здрадзіш – кажу перад Богам – падохнеш ты як сабака. У гэтым ня сумнявайся.

Ён цяжка апусьціўся на дубовы чурбак, які стаяў пры ўваходзе ў

камору. З Васіля зьнялі ланцуг, і ён стаяў перад панам, апусьціўшы рукі.

- Пан літасьцівы. Пан мяне кала пазбавіў, пакутніцкае ганебнае сьмерці. Век служыць буду, перад Богам клянуся. Бог мне ня дасьць схлусіць. Пабій мяне гром, праціні маланка.

Васіль, худы, зморaны, перапэцканы ў кроў і бруд, але ж сьветлы і радасны, стаяў перад Міхасём, як сьвечка перад іконай.

Міхась зрабіў знак ваяру, які вартаваў камору.

- Выйдзі. Гаварыць буду.

Рыцар пахіліўся, і выйшаў у калідор. Яны засталіся ў каморы адны.

- Веры грэцкай сваёй мяне навучыш. Каб я за іхняга манаха сышоў. Многа ня трэба. Толькі каб за свайго прынялі. Можаш?

Міхась узьняў на яго цяжкі позірк глыбокіх вачэй. У сьвеце паходняў у цемры сутарэньняў яны гарэлі чыстым, яркім полымем, ясныя, глыбокія, у якіх кары колер мяшаўся зь зялёным і сінім. Яны маглі быць цёмнымі, амаль чорнымі, і маглі зьзяць, як амытае дажджом неба. Цяпер жа яны мелі глыбокае арэхавае адценьне. Прыгожыя, з доўгімі вейкамі, пад густымі бровамі вочы.

Васіль нярвова зглытнуў сьліну.

- Многа ня трэба, міласьцівы пане. “Госпадзі, памілуй”, ды “Госпадзі, будзь літасьцівы да мяне, грэшнага”.

- Miserere mei, Deus. Міхась кіўнуў.

- Толькі на лаціне нічога не кажыце. Праваслаўныя лаціны ня ведаюць, толькі грэцкі.

- Добра. Грэцкі я ня ведаю, але ж арамейскі крыху. Што яшчэ?

- Яшчэ? Болей – нічога. “Ойча наш” – “Отче наш, іже есі на небесі…”, - зацягнуў Васіль.

- Вывучу. Па дарозе. Міхась кіўнуў. Зьбірайся, душа гаротная. У Полацк са мной пойдзеш.

- Як – у Полацк? – з жахам запытаў Васіль. – Прама туды? Там жа … І раптам сьціх.

- Што – там жа? Міхась прыжмурыў вока.

- Нічога. Нікога. Раптам твар Васіля стаў белым, бялей за крэйду.

- Што там Сьвідрыгайла схаваўся, я ведаю. І што там яшчэ адзін чалавек ёсьць. Які, я спадзяюся, мне таксама ня здрадзіць. У кляштары, пры Сафіі. Ты мяне туды адвядзеш, і сам са мной пойдзеш. Я – манах-паломнік, вяртаюся зь Ерузалему. Даў абет – нічога акрамя тых трох малітваў, што ты мяне навучыш, не казаць. А вучыць будзем па дарозе. Час у нас ёсьць. Пойдзем бяз зброі, ляснымі дарогамі. Толькі нажы возьмем, ад зьвяра. Павінны дня за тры дайсьці. У Полацку на браме слова скажаш - ты яго ведаеш.

Васіль кіўнуў, не пярэчыў.

- Нас прапусьцяць. Я цябе ля сябе трымаць буду. Калі крок у бок ступіш, адразу табе сьмерць. Калі не – то добра. Тады жывым застанешся, і ўзнагароду атрымаеш. Ганнавы дынарыі табе галькай рачной здадуцца. Не трасіся, небарака. Міхась устаў. Адчуй ты сябе хоць раз чалавекам годным у жыцьці.

Яны выдвінуліся па дарозе яшчэ па-цёмнаму. У небе над галовамі мільгацелі зоркі – многа, як хто гароху насыпаў. Васіль цягнуў “Госпадзі, памілуй”, Міхась шырока крочыў побач. У чорнай расе сьхімніка ён выглядаў злавесна, як прывід. Васіля прабіраў жах – халодны пот каціўся па сьпіне. Куды яны ідуць? Што яны робяць? А калі іх зловяць? Тады калу не пазьбегнуць ім абодзьвум. А можа, і чаго горш, чым кол. Хоць што можа быць горш, ён, напэўна, ня мог бы і ўявіць. У

вагні хутка згарыш, у вадзе патонеш, ад мяча дык зусім лёгкая сьмерць. А вось на калу можна і дзень, і болей прамаяцца.

На начлег не спыняліся, ішлі і наступны дзень да палудня. Сьпякоту, праўда, праспалі. Міхась палажыў на Васіля цяжкую руку – прама яму на горла.

- Варухнешся – пайду далей адзін, - папярэдзіў. Васіль ня тое што варухнуцца – дыхнуць баяўся.

Пад вечар прачнуліся, ішлі з заходу сонцу ўсю ноч, і потым дзень. Стаміліся, адпачылі пару гадзінаў, і ізноў выдвінуліся ў дарогу. Ад стомы і бяссоных начэй у Васіля пачала кружыцца галава, вакол, здавалася, ляталі анёлы, а вёў яго, і сапраўды, мабыць, сам Гасподзь-Бог. Раптам Васілю стала лёгка і радасна, і ён зацягнуў “Багародзіцу”. Міхась глянуў на яго, кашлянуў, і нічога не сказаў. Ён крочыў разьмераным, шырокім крокам, нібыта ня сон, не адпачынак, ня ежа яму былі непатрэбныя. Нарэшце перад імі паказалася брама ў высокай драўлянай сьцяне – горад быў агароджаны, як крэпасьць.

Яны спыніліся перад ёй, і Васіль крыкнуў:

- Гей, праваслаўныя!

- Зьверху адказалі:

- І табе хай Бог дапаможа. Хто такія, зь чым ідзеце?

- Мы – слугі Божыя. Ідзем пакланіцца Сьвятой Сафіі. Я – смаленскі, а сябар мой – з Ерузалему ідзе. Сьвятую зямлю наведваў. Васіль нізка пахіліўся, Міхась таксама апусьціў галаву, прыглядваючыся з-пад капюшону.

На іх зьдзіўленьне, брама хутка расчынілася, і іх без усялякіх допытаў прапусьцілі за агароджу.

Напэўна, манаскае адзеньне падзейнічала, падумаў Міхась. Але ж трэба пільнаваць вакол. Могуць і сьлежку паслаць.

Яны прайшлі па шырокім, мошчаным вуліцам, накіраваўшыся міма шматлікіх цэркваў, драўляных, ды сустракаліся і

каменныя, да высокай Сафіі, якая плыла на пагорку над шэрым Рубонам. Горад быў вялікі, багаты, гандлёвы, поўны народу. І, здаецца, іх і сапраўды ня заўважалі. Сьвятароў, манахаў тут было шмат, і хутка яны згубіліся ў натоўпе.

Падыйшоўшы да бярвенчатай манастырскай пабудовы непадалёк ад каменных сьценаў вялікага сабору, яны запыталі ў першага сустрэўшагася ім манаха, дзе гасьцявы дом, каб спыніцца на ноч. Той паказаў на доўгую, нізкую будовіну накшталт амбару, зь дзьвума паверхамі. Яны разьмесьціліся ў вольным пакоі, які ім паказаў малады служка.

У пакоі нічога не было акрамя вобраза Спаса са сьвечкай перад ім і нізкіх драўляных лаваў бяз сьпінак.

- Што далей? – запытаў Васіль, апускаючыся на лаву.

- Далей – памолімся. Міхась стаў на калені перад Спасам, і выразна і громка пачаў чытаць “Ойча наш” на чыстай рускай мове.

Васіль апусьціўся за ім на калені, і стаў падцягваць, тоненька, фальцэтам. Міхась жа маліўся ад душы, голас яго быў – любы дыякан пазайздросьціць.

- Яму б перахрысьціцца ў грэцкую веру, - падумалася Васілю, у Маскве б з яго з рукамі адарвалі. Відны, барада чорная, як ноч, бас такі, што, столь дрыжыць. Ён бы як запеў, дык усе б анёлы зь нябёсаў пападалі, і чэрці б у пекле самі б на патэльні паселі.

Праз пэўны час яны сконьчылі маліцца, і Міхась устаў.

- Трэба Нікіфара знайсьці. Мяркую, ён недзе тут, недалёка. Пашлі, да сабору пройдземся. Можа, убачым яго, а можа, і каго запытаем.

# Глава 24: Нікіфар

Нікіфара пачалі шукаць па-простаму. Не хаваючыся, распытваць. Яны, вандроўнікі, сябра шукаюць. Чулі, што ён тут павінен быць, недзе ў манастыры, прыйшоў на пару тыдняў раней, вось, сустрэць яго хацелі б, даведацца, як ён. Ці жывы, ці здаровы. Высокі такі, прыкметны. Кучаравы, як грэк. Шукалі, ды хутка і знайшлі.

Адзін словаахвотлівы малады манашак распавёў, што бачыў такога нядаўна, можа пару дзён таму, той у самом саборы спыніўся, кельлю там зьняў – грошы не малыя. І сядзіць, амаль не выходзіць. Прыкметны, высокі, валасы курчавыя.

Хутка накіраваліся да сабору. Пара дукатаў давяршыла справу, і праз некалькі хвілінаў Міхась з Васілём стаялі на парозе перад нізкімі дзьвярыма кельлі, якая месьцілася на другім паверхе збоч ад уваходу ў храм. Сафія была храмам, адкрытым для простага люду, князі ў сваёй царкве маліліся, ва ўласнай. Была і каталіцкая капліца – Сьвідрыгайла пабудаваў, драўляная, стаяла за саборам ля княскага дому.

Спыніліся, прыслухаліся. У кельлі, было чутна, нехта быў. Спачатку было ціха, потым жа пачуліся крокі. Нехта прайшоўся з кута ў кут, сеў на скрыпучы стул. Хлопнула нібыта цяжкая кніга.

Міхась рашуча пагрукаў у дзьверы.

- Хто там? Мефодый, ты? – пачуўся знаёмы голас.

- Я, Нікіфар. Я. Міхась штурхануў дзьверы, і ўвайшоў, прыгнуўшыся, у пакой, трымаючы Васіля за каўнер. Спачатку наперад паляцеў Васіль, які была зрабіў нядбайны рух у бок, а потым і Міхась шырока прайшоў на сярэдзіну, і спыніўся перад Нікіфарам, які сядзеў за вялікім сталом, і вывучаў нейкія бумагі.

Нікіфар ускочыў, пасунуўшы бумагі, закрыўшы іх вялікай

раскрытай кнігай. Стул адляцеў далёка.

Зьдзіўлена, ашалела ён глядзеў на Міхася. Той жа шырока ўсьміхаўся. Дзьверы ён зачыніў, а Васіль ад штуршку яго магутнае рукі выляцеў прама на сярэдзіну пакою.

- Сьвідрыгайла дзе? – запытаў Міхась, не здароваючыся. – Няма марнаваць часу.

- А што табе Сьвідрыгайла? – вочы Нікіфара сталі вузкімі, у іх нібыта мільганулі балотныя агеньчыкі.

- Казакі яго на калах сядзяць. Я з іх агароджу зрабіў. Ня верыш – вось сьведка. Міхась указаў на Васіля, які, вохая, узьняўся, толькі на калені. У поўны рост ня рашаўся паўстаць.

- Ой, сядзяць, сядзяць. Васіль запрычытаў, але ж атрымаў штуршок у сьпіну, і заціх.

- Я, Нікіфар, не жартаваць прыйшоў. Ты мне патрэбны. Сконьчыліся гульні, і Сьвідрыгайлавы гульні скончыліся. Вітаўт вялікае войска зьбірае, з Жыгімонтам. Вер мне, ня вер, ды яны хутка тут будуць. Князь скора карае, ды багата адорвае і мілуе тых, хто застанецца яму верны. Я мяркую, ты мне на гэты раз ня здрадзіш. Бо ж Сьвідрыгайлу будуць гнаць далёка, а тых, каго знойдуць віннымі ў яго падтрымцы, чакаюць сутарэньні і кара. Я цябе ахрысьціў, я на цябе спадзяюся. Пры Вітаўце ты ў сваіх лясах вольны. Са Сьвідрыгайлам халопам маскоўскім станеш. Яны не пра цябе тут, у іх свае ўласныя інтарэсы.

А біцца зь Вітаўтам я б цябе не раіў.

Нікіфар кіўнуў.

- Я – чалавек божы. Прыйшоў сюды, каб пастрыг прыняць. Ні ў якія гульні я тут не гуляю.

- Прымай пастрыг. Міхась кіўнуў. Вітаўт цябе мітрапалітам паставіць. Над усёй рускай Літвой. У яго ж два крыжа, ты памятаеш? Ён веру грэцкую шануе. Ніколі ня крыўдзіў. І дачка ў яго за маскоўскім князем. Ты ж ведаеш.

- Слова даеш? – Нікіфар прыжмурыўся.

- Слова за Вітаўта даць не магу, але ж за цябе замолвіць магу.

- А Сьвідрыгайла за мяне ў Маскве замолве, каб я Жамойць ахрысьціў у грэцкую веру.

Нікіфар уськінуў на яго вочы.

- Што? Вы што тут, вар'яты? Зусім з глузду з'ехалі? Міхась, цяжка дыхаючы, зрабіў крок да Нікіфара.

- Сьвідрыгайла ніхто і нішто. Ніякай падтрымкі ні ад тэўтонаў, ні ад Імператара ён не атрымае. Усё робіцца праз Вялікага Князя і яго брата, караля Польскага. У маскоўцаў рукі цягнуцца далёка, але ж не далей зямель памежных. Толькі поўных дурняў з глухіх лясоў можна прывабіць такімі байкамі. Выбачай, не пра цябе. Міхась спыніўся.

Нікіфар пільна глядзеў на яго.

- Чым дакажаш? – вочы Нікіфара, здаецца, праціналі яго наскрозь.

- Дакажу проста. Глядзі. Міхась дастаў з-за пазухі скутак паперы з кісьцю і чырвонай пячаткай.

“Я, Сьвідрыгайла, сын Альгерду, брат караля Польскага Ягайлы, вернападданы Вялікага Князя Літоўскага, абяцаю …” Далей сьледаў доўгі пералік таго, чаго Сьвідрыгайла не намераваецца рабіць з нагоды таго, што ён верны падданы Княства Літоўскага і яго ўладара – Вялікага Князя Вітаўта.

- Калі ён гэта падпіша, то жывы застанецца. А калі не …

Міхась усьміхнуўся. Праз тыдзень тут ужо войска стаяць будзе. Вялікі атрад, з Жыгімонтам на чале.

- А чаму я павінен табе дапамагаць, вучань? – Нікіфар падыйшоў да яго, і пільна глядзеў Міхасю ў вочы.

- Таму што я цябе ахрысьціў, - проста адказаў Міхась. – Ты

перад Богам пакляўся, што ня здрадзіш. Цяпер жа час прыйшоў. Мне патрэбны верныя людзі. Тыя, хто гэтую зямлю бараніць разам са мной будуць. Хто побач стане. Воля тут будзе і паганцам, і грэкам, і каталікам. Вітаўт слова даў. Нікога гвальтоўна хрысьціць ня будуць. Толькі па жаданьню. Дзеля княскае міласьці. Землі самагіцкія за жэмойтамі застануцца. Ні адзіны род ня будзе зь яго зямлі зрушаны. Усё гэта – за сумленную службу. Калі які рускі князь здраду задумае, то землі яго Вітаўт верным людзям аддасьць. А Вітаўта яшчэ ніхто перамоч ня здолеў. Гэты дуб літоўскі, волат, будзе доўга стаяць. Крэпка.

Нікіфар кіўнуў.

Памаўчаў.

- Дапамагу, - нарэшце вымавіў. – Можа, і ты мне аддзячыш. Прыйдзе час.

- Аддзячу, - кіўнуў Міхась.

- Слова даеш? – Нікіфар глянуў на яго.

- Даю. Адзячыць змагу, ды запаветы божыя парушыць – не. Калі ты што худое задумаў.

- Разумею. Нікіфар кіўнуў.

- Пасядзі тут. Цемры пачакаймо, а потым да Сьвідрыгайлы пойдзем. Ён мне верыць, як табе Вітаўт. І раптам Нікіфар зарагатаў.

Яны паселі на лавы – Васіль на простую, Міхась – на засланую дываном, для шаноўных гасьцей. Яго высокая постаць у чорнай расе выглядала надзіва роднаснай асяроддзю аськетычных белых сьценаў, чорнай дубовай падлогі, і абразоў на высокай палічцы пад стольлю. За вузкім арачным вакном насупраць сталу шапацелі высокія дрэвы – бярозы. Такія ж бялюткія, як і сьцены вакол. Здаецца, тры дні дарогі ад яго маёнтку, а як усё зьмянілася. Ярка, гамонка звонку. І чыста, ціха і пуста знутры. Раптам ён уявіў яе – чарнавалосую візантыйскую княжну,

каралеўну, закінутую ў белы, пранізаны бярозамі сьвет, праз якія, як праз рэшата, ліецца чыстае, халоднае, сьвятое сьвятло. Тут панавала цішыня. І было ня дрэнна. Было неяк па-асабліваму. Спакойна. Радасна. Яго Бог, скрываўлены, вісеў, пакутуючы на крыжы. Гэты жа Бог, Бог бярозавых рошчаў, узьнёсься. Стары, чысты Ісус. Бог усходу - армянаў, сірыйцаў, грэкаў. Ісус, пазбаўлены плоці. Расчалавечаны да стану найчысьцейшага, халоднага, яркага сьвятла. І ў той жа час яно было і гарачым, і плоцкім, працінала і запаўняла. Ці быў гэты Бог Богам воінстваў? Здавалася, што не. Ён быў суцэльнай душой. Мяккай, ахінаючай. Гэтага Бога яму яшчэ перадстаяла спасьцігнуць.

- Хто пабудаваў гэты манастыр? – запытаў ён Васіля.

Той усхамянуўся.

- Ефрасіньня, сьвятая дзева, шаноўны пан. Дужа вучоная. З юнацтва стала манашкай. Кнігі, кажуць, перапісвала. Княжна славутага роду Рурікавічаў. Ой, і прыгожая была, кажуць! Васіль прыкрыў вочы.

- Бровы чорныя, вочы вялікія, позірк – пагрозны, так і блішча, зьзяе, нібыта сьвяты агонь у ім гарыць, дух сьвяты праз яе сыходзіць. Як да каго дакранецца, нібыта апаліць, а агонь той халодны, ня жжэ. Любую хваробу вылечвае. Паглядзіць на каго – адразу душу бачыць. Ці то душа божая, ці то людская. У каго божая – таго за сабой пакліча. Вось так рукой павядзе, і ўсё, прапаў чалавек для сьвету. З Богам тады ўжо будзе, і ніхто яму болей не патрэбны. Дужа кніжная жанчына. Дужа вучоная. І з князямі, і з каралямі размаўляла, і справы вяла вялікія.

Васіль набожная перахрысьціўся.

- А што б тая жанчына сказала тым, хто кляштар пажог, сьвятара на алтары зарэзаў? Хто манаха катаваў? Вока выпаліў, ды вусны вырваў?

Нікіфар узьняў на яго вочы.

- Хто такі? Каго гэта так?

- Ёсьць такі, - адказаў Міхась. – У мяне зараз. Бог замест Юзафа паслаў. Знайшлі на дарозе. Дзякуй яму мы ўсіх тых хлопцаў, што ў кляштары весяліліся, знайшлі. І ўзнагародзілі. Позірк Міхася стаў цёмным, страшным. Раптам сьвятло бярозак для яго памеркла. Па белых сьцянах нібыта пацякла чырвоная кроў.

- Тое ж казачкі, пане, яны горш за татараў. Апошнія людзі. Валацугі, шантрапа. Васіль напалохана глядзеў на яго.

- Валацугі ці не, а ваяры добрыя, - сказаў, як адсек, Нікіфар. - Іх бы на наш бок прывабіць. Зь імі далёка пайсьці можна. Хоць і на султана.

- З такімі далёка пойдзеш. Міхась кіўнуў. З псамі адзічэлымі. І зойдзеш далёка. Так, што і назад ня вернешся. Ваяр павінен быць рыцарам. А гэты зброд – не ваяры. Рабаўнікі – так. Як і татары. Шкоды могуць нарабіць. І ня болей. Каб ваяваць, дух патрэбны. Чэсьць. Годнасьць. Парадак. Страх Божы. Яны першыя цябе здрадзяць, калі хабар свой не атрымаюць. Той, хто ваюе за грошы – не ваяр. Найміт. Грош яму цана. Рыцар б’ецца за душу. За Бога. За сьвятое.

- І твае тэўтоны – за сьвятое? – усьміхнуўся Нікіфар. – Ты колькі грошаў за іх заплаціў?

- Мае рыцары бьюцца не за грошы. Яны змагаюцца за Бога. Ты бачыў, як яны жывуць? Міхась узьняў бровы.

- Бачыў, - усьміхнуўся Нікіфар. – Па-манаску.

- Яны ніводнай жанчыны не згвалцілі. Ніводнага сьвятара не забілі. Калі б’юцца, то з супраціўнікам, а не з жанчынамі, дзецьмі і манахамі. Бо яны Бога баяцца. І мэта іх – каб паганцы ў Бога паверылі. Каб зямля пад крыжом была. Ці ж гэта для паганцаў горш? Пісьменнасьць? Адукацыя? Жыцьцё адвечнае? Вера? Як вы жылі? У лясах, у шкурах, брудныя, як чэрці. Міхась пачаў злавацца.

- Ну не такія ўжо і брудныя, - адмеціў Нікіфар.

- Брудныя. Бачыў я вас. Жонка пасьля тваіх гасьцей дзень

адмывалася і валасы вычосвала.

- Я жонку тваю ня крыўдзіў. Нікіфар усьміхнуўся. – Ёй нават падабалася.

- Што падабалася? – голас Міхася стаў глухім, нібыта камень абваліўся. – Ты мне кляўся.

- Пакоі падабаліся. Цацкі. Я ж бачыў, як яна на іх глядзела. Жыла ў раскошы тыдзень. Слугі, што хочаш прыносілі.

- Дурань ты, хоць і князь, і былы воўхв. Жанчынам ня цацкі трэба. Ім душа трэба. Жанчына зь дзікім зьвяром ніколі шчасьлівай ня будзе. Бо ж яна – гэта ня толькі цела. У жанчыне дух сьвяты жыве, праз яе сыходзіць. Вось ты нарадзіць дзіцё можаш? Не. Таму што Духу Сьвятому ў табе зачапіцца няма дзе. Няма ў табе такога месца. А ў жанчыны – ёсьць. Калі ты сам воўк, якая табе жанчына чалавечая? Табе ваўчыца трэба. А з жанчынай такому быць – блюзьнерства. Яны, жанчыны, да Бога бліскія. Бліжэй за нас.

- А па пісаньню ня гэтак. Нікіфар усьміхнуўся.

- А ты ўжо прачытаў? – Міхась зь цікавасьцю глянуў на яго.

- Прачытаў. Пачаў чытаць. Вось, і паметкі раблю. Выпісваю, каб не забыцца.

- Ты чытай, да не зачытвайся. А тое дужа шмат вумных у пекла трапіла. Гасподзь запаветы даў, і галоўны – палюбі бліскага, як самога сябе. І палюбі Госпада Бога ўсім сэрцам тваім, і ўсёю душою тваёю.

- Гэта – першы, - паправіў яго Нікіфар.

- Гасподзь сына свайго укрыжаваў дзеля нас. Як лічаш, які запавет першы для Пана Бога? Хто Богу служыў, ды блізкага зьняважыў, адкінуў, той не таму Богу служыць. Толькі Д’ябал перш за ўсё патрабуе ўшаноўваць сябе. Бог жа суцэльна аддае. Праз любоў да бліскага мы любім і ўшаноўваем Бога. У кожным немачным. Спакутваным, галодным. У кожным слабым чалавеку жыве Ён – Хрыстос. Толькі ня ўсе пра гэта памятаюць.

І вось калі ты спасьцігнеш сябе, ты спасьцігнеш у сабе Бога. І палюбіш яго так, як нікога і ніколі. А праз яго ты палюбіш усіх іньшых. Бо Бога ты пачнеш бачыць у кожным. Аднак пачынаць, па нашай слабасьці і неразуменьню, патрэбна зь любві да чалавека. Бо ж адразу намагацца любіць Бога, чалавека дзёрзка адкінуўшы, тое – вялікі саблазн, і шлях у пекла. Любоў – яна суцэльная, не разьдзяляе. Палюбіш чалавека, і Бог прыйдзе. Ты лічаш, ён дурны і сьляпы? Ён – Любоў, і там, дзе Любоў.

Нікіфар глядзеў на яго. Раптам твар яго стаў сур’ёзным, і нейкім спакутваным.

- Я ведаю, - нягромка вымавіў ён. – Таму я да Яго і прыйшоў.

На пэўны час усталявалася цішыня. Міхась думаў аб нечым сваім, седзячы на лаве, Нікіфар аб сваім. Вусны Васіля рухаліся нябачна – маліўся. Думаў, як яму не загінуць пакутніцкай сьмерцю разам з гэтымі дзьвумя адчайнымі рыцарамі, якія задумалі зьдзейсьніць тое, што і ўявіць было немагчыма.

Нарэшце, на сабор апусьцілася ноч.

Мяккая, летняя, сьветлая, ахутала ўсё сваім покрывам. За вакном засьпяваў салавей – громка, пранізьліва. Проста сэрца раніў. Духмяныя пахі пацяклі праз адчыненае вакно.

- Душа радуецца, якая прыгажосьць, - раптам уздыхнуў Васіль. – У такую ноч толькі псалтыр чытаць. Няўмоўчную. Бога славіць.

- А мы, ў славу Божыю, справу рабіць будзем. Каб мір і парадак у краі быў. Міхась паўстаў з лавы.

- Ну што, пайшлі? – кіўнуў ён Нікіфару.

- Пайшлі, - спакойна вымавіў той. – Тут недалёка. У княскім дзяцінцы. За агароджай. Васіль ахапіў галаву рукамі.

- Дык што ён, у самога князя сядзіць? А хто там намесьнікам? – Міхась узьняў бровы.

- Нехта зь ліваў. Палачане самі намесьніка выбіраюць.

Міхась кіўнуў.

- Разумею. Ну што, пайшлі.

- Пайшлі. Нікіфар устаў. Яны надзьвінулі на вочы капюшоны плашчоў, узялі посахі, Нікіфар палажыў у заплечную сумку пару невялікіх кніг – псалтыр і Евангельле.

- Дык калі ты ўжо чытаць навучыўся? – Міхась зацікаўлена глянуў на яго.

- Не навучыўся, вывучыў. Напамяць. Вось гэты і гэты лісты. Калі скажуць чытаць, я адкрыю, і раскажу.

- А я буду маўчальнікам, - вырашыў Міхась. Я толькі Miserere mei магу казаць. "Госпадзі, памілуй"! – паправіўся ён пад жаластным Васілёвым позіркам.

Княскія палаты стаялі непадалёк. Яны прайшлі з паўсотні метраў, і Нікіфар грукнуў кулаком у вялікія дубовыя дзьверы ў частаколе агароджы.

Яго запыталі:

- Хто ідзе?

- Слава Божая, - вымавіў Нікіфар.

- Хай сьвяціцца імя яго, - пачулася ў адказ, і варота адчынілі.

Яны прайшлі на брудны, затаптаны, пакрыты саломай двор.

- Ня дужа прыбрана, - усьміхнуўся пра сябе Міхась. – Як у хлеве князі жывуць. Але ж калі яны ўзьняліся на ганак і прайшлі ў палаты, то адмеціў і дарагія бронзавыя чашы, у якіх жарка гарэў алей, і мноства зброі, і шкуры, якія суцэльна пакрывалі сьцены.

Мэбля была дубовая, простая – сталы, лавы. Высокія, царскія стульлі з разнымі сьпінкамі і ножкамі, з арламі, грыфонамі. Шмат чаго было грэцкага – куфары, закрытыя шкафы. Гэтыя пакоі былі не жылыя. Стража драмала пры ўваходзе, ды на

дзьвух манахаў не зьвяртала ўвагі. Была звыклая.

- Ня ў першы раз ён сюды прыходзіць, - здагадаўся Міхась. Яго рука асьцярожна намацала вялікі нож, схаваны ў складках расы, больш падобны на кароткі рымскі меч. Што ж, калі будзе пастка, то жыцьцё ён аддасьць дорага. Але ж чамусьці страху ён не адчуваў. Забіваць не хацелася, рабіць вархал таксама. Не для гэтага ён зараз тут. Са Сьвідрыгайлам усё трэба было рабіць па закону. Бо ж ён быў як раз супраціў закону, і сьхіліць яго да падпарадкаваньня было ня простай задачай.

Праз вялікіую залу, цьмяна асьветленую сьвечамі, яны прайшлі ў дальні пакой, мінаваўшы высокі дамашні алтар, застаўлены іконамі. Было дзіўна бачыць спалучэньне паўночнага драўлянага дому з візантыйскай раскошай. Міхась яшчэ не бываў у палацах рускіх князёў, яго пільны позірк адмячаў і зброю, і багатае ўбраньне, і тое, зь якіх краінаў пераважна былі рэчы. Грэцкія перабольшвалі, нават і зброя – мячы, панцыры. Франкскіх ён зусім ня ўбачыў. Часы, калі тут панавалі датчане і княжыў Рагвалод, засталіся глыбока ў мінулым. Цяперашні Полацк быў складаным шматкультурным вузлом, катлом, у якім усход пераплаўляўся з поўначчу і захадам, і атрымоўвалася нешта сваё, уласнае. Страціўшы землі ліваў і латаў, княства страціла і значную колькасьць свайго уплыву ў паўночным напрамку. Цяпер у Рызе ўладарылі лівонцы, якія перахоплівалі асноўныя гандлёвыя патокі. Горад жа паступова занепадаў, але ўсё ж быў і багаты, і досыць магутны, каб супрацьстаяць нападам, і мець важкі голас у дзяржаўных справах. Цяпер жа тарговыя яго сувязі перакіраваліся ў старану маскоўскую, і адтуль пайшоў і адпаведны ўплыў, які ня мог не сказацца на прыхільнасьці яго ўладароў.

Маскоўская машна, тоўста набітая звонкай манетай, вабіла купцоў, якіх тут была пераважная большасьць. Горад жыў торгам, жыў выгадай, і моцна трымаўся за праваслаўныя карані – прызрак былой велічы.

Сьвідрыгайлу яны засталі ў вялікім, асьветленым сьвячамі пакоі. Той сядзеў на лаве ля сталу, як і Нікіфар, калі да яго прыйшоў Міхась. Вывучаў нешта. Стол скрозь быў завалены

паперамі, склянкамі з атрамантам, пер’ем. Сьвідрыгайла пісаў актыўна – пісаў на ўсе бакі. Увесь вольны паміж нападамі час прысьвячаў дыпламатыі. Пяро было ня меньшай для яго сброяй, чым меч, бо ж разумеў хітрым літоўскім вумом, што ўлада, можа, і дасягаецца ваеннай моцай, але ж трымаецца на дамоўленнасьцях. Хаўрусы ён рабіў спрытна, хлусіў бо на ўсе бакі, і на абяцанкі не скупіўся. Дзе трэба, круціўся, як вуж, і прыніжаўся, і прасіў. Але ж і забіваў няшчадна, ды ўсё больш – па-здрадніцку, каварна. Адкрытых жа боек не любіў, асабліва калі не было перавагі над супраціўнікам ў два ці тры разы. Асабліва прыкрымі былі яго намаганьні аднавіць былую веліч тэўтонаў за кошт літоўскіх земляў. Падзяліць Літву паміж крыжакамі і русінамі – гэта была яго мара. Колькі зямлі адразу можна было займець, каб расшырацца і панаваць далей. Мары ў яго былі вялікія, неабсяжныя. Ды Міхася яны ня дужа цікавілі, бо ж у яго была справа.

Увайшоўшы ў дзьверы, Нікіфар нізка пахіліўся.

- Вечар добры табе, князю, - вымавіў. І цяжка, не запытваючы, апусьціўся на лаву. Міхась застаўся стаяць пры дзьвярах. Васіль бухнуўся ў ногі, схаваў твар рукамі, і заціх.

- Нікіфар! Стары сябар! Шаноўны госьць!

Сьвідрыгайла павярнуўся да яго. Яго твар быў радасным, нават прасьвятлеў.

- Што цябе прывяло да мяне ў начы? Справа якая істотная? Раптоўная?

- Справа, - кіўнуў Нікіфар. – Госьць да цябе. З самое Літвы. Дамовіцца хоча.

Плечы Міхася напружыліся, па сьпіне прайшоў халадок. Калі Нікіфар здрадзіць, то яму нічога не застанецца, як праліць тут кроў. А гэта было немагчыма. Вітаўт, можа, і даруе яму забойства сваёй апрыклай радзіны, аднак тады могуць узьняцца ўсе рускія князі, і тыя, каго Сьвідрыгайла пасьпеў сьхіліць на свой бок. І тады вайна, вялікая, непазьбежная, вайна паміж

братамі, сынамі адной матухны-зямлі, адбудзецца няўхільна. Каінаў грэх. Страшны, ганебны, за які будуць плаціць і нашчадкі.

- Зь Літвы? Хто такі? Сьвідрыгайла ўзьняў вочы. Яго доўгія белыя вусы натапырыліся – як у пацука, які чуе пах ежы.

- Зь Літвы. І ты яго ведаеш, - Нікіфар усьміхнуўся, і Міхась убачыў, як яго рука лягла на наверша вялікага, як і ў яго, нажа-мяча, схаванага пад расай.

Ён зрабіў крок наперад, і адкінуў капюшон.

Сьвідрыгайла выкаціў на яго вочы, і раптам схапіўся рукой за горла, нібыта пачаў задыхацца.

Нікіфар устаў, і палажыў яму на плячо цяжкую руку. Другая рука ахапіла яму рот.

- Цішэй, князь. Не крычы. Мы – сябры. Справа да цябе ў нас ёсьць. Прапанова. Яго востры клінок упёрся ў бок князя.

- Гэта каб ты ня зглупіў, і не ўчыніў вархал. Бо ж тады справы не атрымаецца - якая зь мёртвым дамова?

Міхась спакойна падышоў да Сьвідрыгайлы, і заняў месца насупраць яго.

- Мяркую, князь, ты мне сесьці хацеў прапанаваць. Ды забыўся. Нічога, тое бывае. Я – твой верны сябар, ты ж ведаеш. Так, ці не?

Сьвідрыгайла выдаў нейкі незразумелы гук. Але ж хутка ўзяў сябе ў рукі.

- Пан Чорны мае што сказаць? – вымавіў ён па-польску. – Можа, пан жадае прапанаваць нешта? Ці прыняць мае старыя прапановы? Усё застаецца ў сіле, ты ж ведаеш.

- У сіле, - кіўнуў Міхась. – Напад на мой родны дом адкрыў мне вочы на многае.

- Тое было не па-маёй волі. Сьвідрыгайла ўсьміхнуўся. – Казакі – людзі гарачае. Русіны. Веры лацінскае ня любяць. Ачышчаюць край.

- Яны, можа, лічуць гэты край сваім? – Міхась усьміхнуўся. – Глядзі, каб псы не пачалі кіраваць гаспадаром.

- Не пачнуць. Сьвідрыгайла ўзьняў вочы, хітрыя, вузкія. – Як прыйшлі, так і пойдуць. Як і татары. Яны ясак любяць. Магарыч. Грошы. Плоціш – яны тут. Не – сыйдуць туды, дзе плоцяць. Крыху забыліся, тое бывае.

- А грошы пакуль ёсьць. Міхась пільна глядзеў на яго.

- Ёсьць. Гэтага дабра шмат. І яны ніколі ня скончуцца. Сьвідрыгайла крануў карту, ляжачую на стале.

- Тартарыя. Вялікая зямля. Чуў?

- Чуў. Міхасю пачала надакучваць гэтая гаворка.

- Там грошаў – шмат. І на мяне, і на цябе, і на яго хопіць. І нават яму застанецца. Сьвідрыгайла зарагатаў, і паставіў нагу на Васіля, які скурчыўся на падлозе.

- Ад Вітаўта да цябе пісьмо, - коратка вымавіў Міхась. – Чытай. Ён палажыў на стол паперу, прыдавіўшы яе сваёй цяжкой рукой.

- Ня бачу. Сьвідрыгайла нахіліўся. – Разбачыць бы. Пачытаць.

- Пачытаеш, як падпішаш. У мяне мала часу. Жонка дома чакае, сумуе. Міхась усьміхнуўся.

- Не, я так не магу. Сьвідрыгала закруціў галавой, толькі вусы шурнулі па шчоках. – Як гэта – не чытая.

- Так, што ты зараз падохнеш, як пёс. І ўсе твае намаганьні сконьчацца. Міхась вольнай рукой выцягнуў з ножнаў на поясе нож, які раптам апынуўся насупраць жывату князя. Востры край чыркнуў па кафтане, па поясу, і з разрэзу праступіла кроў.

- Пішы. Меч прасунуўся далей, і князь адчуў страшную блізкасьць сталі ля сваіх вантробаў. Сталь гэтая ўваходзіла ў яго. Марудна. Няўхільна.

Як у сьне, ён узьняў пяро, і паставіў подпіс пад бумагай.

- Што цяпер? – сьмірна вымавіў.

- Чытай, што падпісаў. У голас.

Князь стаў чытаць, нягромка, выразна. Нарэшце, прачытаў, і спыніўся.

- З гэтага моманту ты абязуешся не парушаць спакой дзяржавы, і будзеш верным васалам і слугой законнага яе ўладара.

Калі зробіш гвалт, то не дажывеш да прыходу сваіх хлопаў. Пайшлі, праводзіш нас. На волю. Душна тут у цябе. Смуродна.

Яны паўсталі ўтрох, і наківаваліся да выхаду – Сьвідрыгайла ў атачэньні высокіх, закрытых расамі фігураў, якія трымалі ля яго нябачна вострыя нажы. Васіль захінаў іх ззаду, каб не было заўважна стражы, якая храпела мірным сном на лавах. Асабліва нікога тут не баяліся, і такога дзёрзкага нападу не чакалі.

Калі выйшлі з палацу, прайшлі да брамы.

- Пойдзеш з намі. Да выхаду з гораду праводзіш. А за сьцянамі мы цябе адпусьцім.

Чорная ноч панавала ўжо ва ўсю, і яны незамечанымі прайшліся па вузкіх вуліцах. Выйшлі за вароты, і адышлі крыху ў бок. Міхась нягромка сьвіснуў – два разы. У адказ пачуўся такі ж нягромкі сьвіст. З-за дрэваў на вялікім кані выяхаў валах, белыя валасы якога зьзялі ў месяцовым сьвятле.

- Коні тут? – запытаў Міхась.

– Тут, спадар.

Ваіслаў нахіліў галаву.

- Добра. Вядзі. Хутка Міхась зь Нікіфарам узьняліся на высокіх жарабцоў, чорных, як ноч.

- Мяркую, сконьчылася твая грэцкая навука, - кпліва вымавіў Міхась.

Сьвідрыгайла пад прыцэлам лукаў панура стаяў на паляне.

- Ідзі дамоў, князь. Позна. Прастынеш, захварэеш. Гады ж ўжо паважныя. Белыя зубы Міхася мільганулі ў цемры з-пад расы, і вершнікі хутка разьвярнуліся, і зьніклі ў начы.

# Глава 25: Чужынец

Цемра апусьцілася на іх. Летняя ноч была мяккай, духавітай, млявай.

- І што цяпер? – вымавіў Нікіфар. Яго позірк вывучаў Міхася, які стаяў перад ім, пераапрануты ў поўны дарожны шляхецкі строй. Высакародны князь, які сабраўся на буйное паляваньне. Ці – на вайну. Валах прывёз адзеньне, і раса сьхімніка ляжала, скручаная, у меху, прытарочаным да сядлу. Без яе Міхасю значна лягчэй дыхалася. Латы, стальныя, цяжкія, былі ў параўнаньні зь ёй лёккім звыклым адзеньнем. Раса ж давіла па-іньшаму, зьгінала сьпіну, сьцісквала грудзі. Ён расправіў плечы, і ўздыхнуў.

- Цяпер? Зараз паедзем да Вітаўта. Я паеду. І цябе раю таксама. Князь за службу добра ўзнагародзіць. Мы ж выканалі загад дзякуючы табе. Без цябе гэта было б надта, надта цяжка.

- Без мяне ты б проста прайшоў бы да яго, узяў за каршэнь, і вымусіў падпісаць бумагу.

Міхась усьміхнуўся.

- І для гэтага мне прыйшлося б аблажыць Полацк і зрабіць вялікі гвалт. А гэтага нам ня трэба. Чым меней будзе знаць аб яго адрачэньні, тым лепей. А сьпіскі з гэтай паперы ляжуць на сталы і да папы, і да Жыгімонта Імператара, і магістру. Яна усё навакольле аб’едзе. Увесь сьвет. Тры паперы зь яго ўласным подпісам. І яшчэ больш зробяць сьпіскаў за Вітаўтавай пячацьцю.

- Паедзеш? – запытаў ён.

- Не. Нікіфар пакруціў галавой. – Не паеду. Надаела. Стаміўся, дамоў хачу.

- А я раю табе паехаць, - раптам вымавіў Міхась, і ў яго голасе

ляснуў метал.

Ваяры сталі вакол іх колам: шчыльным – не прабіцца.

Ваіслаў выразна палажыў руку на наверша вялікага, доўгага палашу.

- Скрасьці мяне сабраліся? – Нікіфар усьміхнуўся. – Баішся, я атрад прывяду, перахвачу вас па дарозе?

- Баюся, каб ты ў грэх ня ўпаў. Братазабойства і здрады дзяржаве. Міхась стаяў перад ім прама, адкрыўшы грудзі, не варушася. Рукі яго былі вольныя, і далоні раскрытыя.

- Кажаш, Вітаўт шчодры? Зямлі можа даць? – Нікіфар апусьціў галаву, выставіўшы лоб, і стаў нагадваць вялікага, чорнага зубра.

- Можа. Міхась кіўнуў. – Але ж я служу яму не за падарункі, а за годнасьць. Ён – князь сапраўдны. Ад Бога. Ваяр. У бойцы ён Марс, па вуму – Гермес. А па душы – такой душы на сьвеце ад Хрыста не было.

Ён чысты. Хцівасьці, ілжы ў ім няма. Літасьць яго бязьмежная, мне не зразумець. Я б гэтага здрадніка даўно горлам пакараў.

- То Вітаўт і Вялікі Князь, а ты – пан над сваімі халопамі. Нікіфар усьміхнуўся. Навука дыпламатыя. Чуў?

- Я чуў – не забі, - коратка вымавіў Міхась. – І мне гэтага дастаткова.

- Ну дык што, паедзеш?

- Паеду, - кіўнуў Нікіфар. – Хачу ўбачыць яго. Самога Вялікага Князя, аб якім столькі чутак ходзіць. Ён, кажуць, непераможны. Чараўнік. Воўхв.

- Ён з Богам. І ты гэта ўбачыш, і зразумееш, як гэта. І ў чым яго сіла.

Міхась ускочыў на каня. Нікіфар асядлаў такога ж вялікага,

магутнага жарабца. Яны ехалі побач праз начны лес. Капыты мякка ступалі па імшэлай зямлі, недзе далёка вухала сава.

- Самая каўдаўская ноч. Чортава. Нікіфар усьміхнуўся.

Міхась нічога яму не адказаў. Удыхаў паветра, насалоджваўся ляснымі водарамі. Яго чорныя валасы грывай ляжалі па плячах, позірк быў нацэлены некуды праз цемру, быццам бы блукаў у марах. У сваіх чорных латах ён нагадваў нейкага паганскага бога, Марса ці Арэса, альбо самога Зеўса ці Перунаса, які выехаў на начное паляваньне. Профіль яго, прыгожы, дасканалы, у сьвятле месяца выглядаў як гемма на рымскай манеце.

Між волі Нікіфар заглядзеўся на яго. Высакародны, прыгожы. Сьмелы. Вумны. Жанчыны такіх кахаюць. Нешта глыбока ў яго сэрцы павярнулася, як быццам бы вялікі чорны змей абуджаўся пад каранямі дрэваў. Нешта глыбокае, драпежнае, цёмнае. Тое, што палохала нават і яго самога.

- А можа, гэта д’ябал ува мне? – падумалася яму. – Сапраўдны хрысьціянскі д’ябал. Бо ж, прыняўшы ў сябе хрысьціянскага Бога, ён і паклікаў у сябе і яго.

Моц гэтай істоты, і страх, які яна выклікала ў ім, уражвалі. Супрацьстаяць такому было, здаецца, немагчыма.

Міхась жа ехаў спакойна, вецер разьвяваў яго валасы, твар быў чыстым, позірк – прамым.

- Няўжо ж ён не баіцца? Няўжо ж у ім яго няма? Гэтага зьмея-спакушальніка? Няўжо ён не адчувае, які страшэнныя думкі ціснуць яму, Нікіфару, грудзі?

Калі ён глядзіць на яго, то ўяўляе гэтую яго жанчыну, з валасамі чорнымі, як ноч, вачамі, агнявымі як пекла, і позіркам глыбокім, як сэрца самое зямлі. Ён думае, што яна нябёсная. Сьвятая. Як ён памыляецца! Нікіфар усьміхнуўся.

Ён ужо дастаткова даведаўся зь іх сьвятых кніжак, каб зразумець, хто такая Ева. І ўсе яе дачкі. Яны толькі і чакаюць

свайго яблыка. І зьмея, які б спакусіў іх. Ён ведаў, што калі б ён захацеў, ён бы ўзяў яе там, і яна скарылася б. Чаму ж ён не зрабіў гэта? Чаму марудзіў? Што ў ёй было такога, што спыніла яго? Ён не разумеў. Яна б адказала яму, варта была толькі ўзяць яе крапчэй, прыціснуць да сябе, разарваць гэтае яе адзеньне. І праз імгненьне яна б ляжала пад ім, ускрыкваючы ад яго рухаў у ёй. А потым ён бы пакінуў яе ў сабе. І гэты яго вучань назад яе б не забраў. Але ж ён так не зрабіў. Дзіўна. Нешта ў ім і сапраўды зьмянілася. Тады, калі ён выйшаў ад яе з пакою, ён нават не зайшоў да сваіх рабыняў. Наложніц. Яны б былі толькі рады, ды ён іх не жадаў. Не хацеў выліць нешта, перапаўняўшае яго. Што ён мог бы аддаць толькі ёй. Ён жа ня пёс, каб задаволіцца рэшткамі з гаспадарчага сталу. Ён будзе сядзець за сталом чалавечым, і есьці з аднаго посуду з дастойнымі. З Каралём па-над усімі, пра якога ён таксама ўжо прачытаў у гэтых іх кнігах.

Але ж як зрабіць так, каб трапіць за гэты Яго стол, і насалодзіцца Яго стравамі? Гэта сэрца Нікіфара яшчэ ня ведала.

З такімі думкамі, глыбокімі, цяжкімі, ён ехаў побач са сваім сябрам. Ехаў ён так ноч, і дзень, і ўсю ноч, і яшчэ дзень. А раніцой наступнага дня перад імі паказаліся Трокі.

На шляху праз свае землі ён адпусьціў ваяра, каб той данёс ёй вестку, што ўсё добра, і ён накіроўваеццца да Князя. Будзе праз тыдзень, не раней, каб яна не хвалявалася.

Яна была дужа рада, калі вершнік, саскочыўшы зь сядла і наскора папіўшы вады, абраніў вестку, ды ізноў сеў на каня, і паімчэў даганяць свайго гаспадара.

У замку ёй было безь яго самотна, з кампаніі толькі Абель мог яе неяк суцешыць і заняць. Разам зь ім яны хадзілі за параненым Анджэем, і той ужо пачаў прыходзіць у сябе, пакрысе еў сам, і размаўляў, але ж доўга яна яго турбаваць не рашалася.

Сабор стаяў увесь у лясах, работы ішлі і знутры, і звонку. Музыкі і сьпеваў у ім, канешне, пакуль не было. З музыкаў

толькі юнак, які граў на жалейцы, больш засмучваў, чым весяліў яе сэрца, калі яна сядзела ўнізе зь мясцовымі жанчынамі – займалася шыцьцём, вышываньнем, гаспадарчымі справамі. Так праходзіў дзень за днём. Кацярына пасьля таго выпадку езьдзіць кінула – саромелася. Да таго ж, яна была цяжарная, і настрой у яе псаваўся дзень ада дню. Летыцыя пару разоў з'езьдзіла яе наведаць, ды размовы ўсё роўна не атрымалася.

- Так, панна. Не, панна. Здавалася, што тая і бачыць яе ня дужа жадае.

Біруta жыла ў асобным доме, які Ульвар пабудаваў для сям'і, і ўсё больш ціха ткала, ды сьпявала ў паўголаса, альбо блукала па лесе, ды зьбірала травы. Яна таксама ветліва адказвала на пытаньні – усё добра, што трэба? Нічога, толькі, можа… Летыцыя задавольвала яе сьціплыя жаданьні. Спрабавала яе навучыць чытаць, ды тая ня дужа хацела. Так, вывучыла некалькі літараў і словаў – мора, дуб, сонца, неба, вада, агонь, сваё і Ульвара імя – усё, што яе цікавіла.

- Анджэй ачуняе, пагаворыць зь ёй, - вырашыла Летыцыя. І пакуль перастала яе кранаць. Задуменна яна гуляла па шырокаму лугу збоч ад замку, на ўскрайку лесу, зьбіраючы букет са сьціплых лясных кветак. Іван спаў дома, усе некуды разышліся, хаваючыся ад сьпякоты. Ваяр, ахоўваючы яе, стаяў далей, прыхіліўшыся да боку каню, круціў у руках кароткую дзіду, гуляючы.

Дзень быў жаркі, млосны. Яна апусьцілася на траву, накрыўшы яе шырокімі шаўковымі юбкамі. Адкінулася, падставіўшы твар сонцу, адкрыўшы яму грудзі, насалоджваючыся гарачымі, але ўжо мягчэючымі праменямі перадвячэрняга сонцу.

І раптам пачула нечы голас – на ўскрайку паляны.

- Прабачце мяне, панна. Не адкіньце сьціплага падарожніка. Ці магу я знайсьці прытулак у вашым гасьцінным доме?

Ваяр схамянуўся. Яна ўстала, атросла зь сябе травінкі. Да яе праз паляну набліжалася высокая постаць у манаскай расе.

Раптам голас пачуўся ёй знаёмым, як і погляд. Яна імгненьне глядзела на чалавека, а потым з крыкам:

- Каханы! – кінулася да яго.

Чалавек спыніўся. Яго рукі ўздрыгвалі, грудзі цяжка ўзьнімаліся. Чорны капюшон захінаў твар. Ён спыніўся. Спынілася і яна.

Імгненьне яны глядзелі адно на аднаго.

Чорная барада і вусы, сьпечаныя, сухія вусны. Скура ў шнарах, смуглая, выпаленая сонцам. На крэпкай шыі, на шырокіх, раскрытых грудзях вісіць вялікі жалезны крыж на грубай вяроўцы. І не адзін. Раса – чорная, паношаная, прапітаная сольлю. Рука, крэпкая, цёмная, сьцісквае стаптаны дарожны посах.

Вочы закрытыя капюшонам, позірк ськіваваны ўніз.

- Гэта ня ён, - зразумела яна. – Але ж як падобны! Яе зьдзіўленьне было такім вялікім, што перайшло ў сапраўдны жах.

- Хто вы? – раптам прашаптала яна.

Вусны чужынца варухнуліся, нібыта штосьці нягучна казалі. А потым, не ўзьнімаючы твару, ён вымавіў:

- Усяго толькі гаротная душа, панна. Заблукаўшая гаротная душа.

І, бачучы яе замяшальніцтва, працягнуў:

- Я – паломнік. Іду з усходу, зь Ерузалему. Мой дом там, дзе я спыняюся. Я хажу ад кляштару да кляштару. Я чуў, што тут на вашай зямлі пабудаваны вялікі кляштар, панна.

Ён запытальна глядзеў на яе.

- Так. Яна нібыта прыйшла ў сябе.

- Гэта праўда. Але ж ён зараз аднаўляецца, бо згарэў. Але мы можам знайсьці вам месца для начлегу.

- Згарэў? – раптам вымавіў ён. – Нешта ў яго голасе вымусіла яе прыслухоўвацца.

- Што адбылося?

- Нічога. Нічога добрага. На нас быў напад. Але ж мы яго адбілі, і гэта ўсё у мінулым. Яна ня стала расказваць незнаёмцу падрабязнасьцей. І раптам запытала:

- Скажыце, калі вы са сьвятой зямлі, вы, напэўна, шмат чаго бачылі? Не маглі бы вы разьдзяляць з намі вячеру, і расказаць нам, што вы бачылі ў сьвятым горадзе?

- Канешне, панна. Паломнік нахіліў галаву.

- Я бачыў укрыжаваньне Госпада Бога нашага. Я нёс зь ім побач яго крыж, і быў на Галгофе. Я магу расказаць вам, панна.

І тут сьвятло ў яе вачах пачало гаснуць.

Ён падхапіў яе на рукі. Яе абмякшае, бязвольнае цела ляжала, як кветка ў яго далонях. Але ж жаданьня ён не адчуваў. Ён бачыў яе душу, якая лунавала вакол белым голубем, кранаючы яго, аддзеленая ад цела, якое ў непрытомнасьці выглядала амаль мёртвым. Яна была далёка, і высока. У яго на руках ляжала Мадонна, цела якой было для яго сьвятым. Ён ня мог жадаць яго. Ён мог яму толькі пакланяцца. Асьцярожна апусьціў ён яе на траву. Ваяр, кінуўшыся да іх, нахінуўся, і разгублена глядзеў ёй у твар. Двое магутных мужчынаў, яны ня ведалі, што рабіць са слабой тонкай жанчынай, якая вырашыла зьнепрытомець у іх на руках.

– Трэба паклікаць доктара, - вымавіў ваяр, гледзячы на яго. Але ж пакінуць яе адну не рашаўся. – Схадзі, ён там, у замку. Скажы ля брамы.

- Доктара? А выпіць у цябе ёсьць? – раптам запытаў ён.

Ваяр ачмурэла глядзеў на яго. Потым моўчкі ўзяў, і працягнуў яму фляжку.

- Што там? – запытаў паломнік.

- Віно. Крэпкае.

- Давай. Паломнік спрактыкаванай рукой узьняў галаву Летыцыі, і празрыстая вадкасьць з фляжкі пацякла на яе вусны. Летыцыя закашлялася, і адкрыла вочы.

- Не бываў ты ў крыжовых паходах, сынку. Як я пагляджу. У яе сонечны ўдар. У цень трэба, і холад на галаву. З гэтымі словамі чалавек падхапіў яе на рукі, і рашуча пакрочыў убок брамы. Ваяр, прыйшоўшы ў сябе, кінуўся за ім сьледам.

# Глава 26: Вітаўт

Глава 25: Вітаўт

У пакоі было сьветла і ціха. Пагасаючае сьвятло, прыглушанае, набыўшае мяккае адценьне ахры ад карычневатых, у колер сьвежасьпечанага хлебу сьценаў, праз высокія вокны прамавугольнікамі лажылася на падлогу.

Яны наблізіліся да велічнай, чырванаватай грамады замку па вузкаму драўлянаму масту. Сонца ўжо апускалася, і яго промні палівалі чырвоным золатам паверхню водаў возера – глубокага, неабсяжнага – казалі, што бяз дну.

Грамада замку ўражвала – магутны, непрыступны, ён месьціўся на востраве, узвышаючыся над вадамі, быццам бы паўставаў са дна – магутны волат, выйшаўшы з глыбіняў.

Яны стаялі перад князем абодзьва, запыленыя, усталыя з дарогі. Не адпачыўшы і хвіліны, прама з глыбіні лясных нетраў уехалі яны на мошчаны замкавы двор, і адразу былі праведзены ў высокія пакоі, дзе іх ужо чакалі.

Князь, сярэдняга росту, але ж дасканала зложаны, зь яркімі чорнымі вачыма пад арлінымі бровамі, вострым носам, убачыўшы іх, адразу накіраваўся насустрач.

Міхась апусьціўся на калена, і сьхіліў галаву. Нікіфар, крыху памарудзіўшы, таксама апусьціўся за ім. Вочы яго глядзелі прама ў вочы Вітаўта. Стоячы на каленях, ён быў ростам яму да грудзей – высокі. Яго чорныя валасы буйной грывай віліся па плечах, нізкі пакаты лоб, невялікія чорныя вочы, нос і шырокія ськівіцы – усё нагадвала магутнага зубра, стомленага стрэламі і дзідамі, але ўсё яшчэ жудасна небясьпечнага ў сваёй дзікай апантанасьці волі.

- С чым прыехаў ты да мяне, рыцар? Якія весткі?

Князь спыніўся насупраць іх. Яго рука лягла на галаву Міхася,

кранула, і ўзьляцела. Міхась устаў. Устаў і Нікіфар.

Цяпер яны абодзьва ўзвышаліся над князям на галаву. Але ж веліч яго фігуры зацяніць не маглі. Князь, апрануты па апошняй еўрапейскай модзе, у аксамітную кароткую сукню, шырокую, атарочаную футрам, цёмна-ліловага колеру на чорны шаўковы жупан-падлатнік, на якой гарэлі ярка упрыгожаныя камянямі гузікі, чорныя нагавіцы і высокія чорныя боты з залатымі шпорамі, у аксамітным капялюшы-шапероне, зь медалём зь гербавай выявай на шыі – вершнік зь мячом, на доўгім залатым ланцугу, стаяў перад імі, як быццам бы постаць нябёснага арханёла сышла ў гэтую залу. Ад яго дыхала велічу і спакоем. Вумныя, вострыя вочы аглядалі ваяроў.

- Усё зрабілі, мой князь. Міхась дастаў з напояснай сумкі скрутак папераў, і з паклонам працягнуў яго перад сабой. Князь узяў бумагі, разгарнуў іх, і з задавальненьнем прачытаў.

“… Абязуюся ва ўсім падпарадкавацца майму брату і Вялікаму князю зямлі Літоўскае, Рускае і Жамойцкае і іньшых земляў шаноўнаму …”

Сьвідрыгайла, князь Камянецкі, Сяверскі, і г.д.

Скрэплена ўласнай пячацьцю князя Сьвідрыгайлы і пячацьцю Вялікага князю ад дню.. году..

Ён з задавальненьнем усьміхнуўся.

- Пакліч да мяне перапісчыка. Зараз жа.

Рыцар, які стаў збоч ля князю, пахіліўся, і скорым шагам выйшаў.

- Зараз жа сьпісы з гэтага аркуша будуць разасланыя ва ўсе буйныя гарады і крэпасьці Польшчы, Літвы і Прусіі, каб не ў кога не засталося і думкі, што князь мае права і ўладу на землі, іньшыя, чым яму дараваны міласьцю Ягайлы і маёй, згодна яго тытулу і … тут Вітаўт паморшчыўся … заслугам.

- Твая служба не застанецца без узнагароды, рыцар. Ён працягнуў Міхасю руку, і той яе пацiснуў.

- Шаноўны князь, я б нічога ня зьдзейсьніў адзін, без дапамогі майго сябра і названага брата. Міхась ізноў пахіліўся.

– Гэты чалавек раней быў паганцам і мае вялікую ўладу над дзікімі плямёнамі ў лясах Літвы і Жамойці. Але ж пасьля таго, як ён прыняў сьвятое каталіцкае хрышчэньне, дзякуючы Богу і маёй руце, якой кіраваў Гасподзь зь яго вялікае міласьці, ён адрокся ад паганскіх звычаяў. Ды абставіны склаліся так, што на пэўны час нашыя шляхі разышліся, і ён вырашыў шукаць прасьвятленьня ў веры і хрысьціянскае навукі ў славутым Полацку, куды адзіна з благой мэтай накіраваўся, і, атрымаўшы ў манастыры імя Нікіфара, займаўся вывучэньнем сьвятога пісаньня. Яго паганскае імя Таўрас, ці Тур, у каталіцкую ж веру ён ахрышчаны імем сьвятога Юр'я – пераможцы. Апынулася і так, што ласкаю божаю гэты чалавек, якому не было папушчана ўпасьці ў каінаў грэх здрады і братазабойства, адрокся ад сваіх стасункаў, якія праз Полацкую зямлю меў зь мяцежнікам. Сьвятло і слава Пана Бога ўсемагутнага зазьзялі ў яго сэрцы, і зь Божае Вялікае Літасьці ён не адмовіў мне ў маёй справе. Я быў вымушаны патаемна пранікнуць у Полацк, дзе хаваўся Сьвідрыгайла, і з дапамогай Нікіфара мы сьхілілі яго да падпісаньня гэтых аркушоў, якое дзейства было адзіным правільным і належным у тых абставінах, у якіх ён апынуўся.

З гэтымі словамі Нікіфар ледзь стрымаў вусьмешку, якая, аднак, не засталася незаўважнай для вострага вока князю.

У адказ на Міхасёву прамову ён таксама нахіліў галаву, і падцьвердзіў:

- Усё так і было, шаноўны спадар князь. Менавіта так.

- Шляхі твае былі доўгімі і блытанымі.

Вітаўт зь цікавасьцю аглядаў высокую постаць Нікіфара перад ім. Яго вочы глядзелі прама ў карычневыя, глыбока пасаджаныя вочы ваўхва, здаецца, пранікаючы ў самую яго душу.

- Спадар Чорны кажа, што ты ахрысьціўся, ды яшчэ і не аднойчы, а двойчы.

- Так вяліка была мая прага да Пана Бога, шаноўны князь. Калі б можна было, я б хрысьціўся кожны дзень.

Нікіфар нахіліў галаву.

- Кожны дзень? Так, я чуў, робяць недзе на Ўсходзе.

- Маніхейская ерэсь, шаноўны князь. Міхась пахіліўся.

Вітаўт кіўнуў.

А потым усьміхнуўся.

- Нічога. Я таксама ахрышчаны двойчы, як і мой вядомы ўсім нам брат. Балеслаў-Леў-Сьвідрыгайла. Неяк так. Такая ўжо гэта зямля – мы стаім паміж Захадам і Ўсходам, і, жадаем мы ці не, павінны трымаць абодзьве рукі. Аднак паганскія звычаі я суцэльна пакінуў, чаго і табе жадаю. У лясах няма нічога, акрамя зьвяроў, і цемры. Зьвяры годныя толькі на тое, каб на іх паляваць. А цемру мы пакінем для тых, хто цёмны вумом. Хай мужыкі гойсаюць па лясах і моляцца пням. Мне ж патрэбны тыя, у каго розум сьветлы, а вока – вострае, каб бачыць. І сэрца адданае, каб атрымаць узнагароду і нябёсную, і на зямлі. Таму, паколькі ты шчыра дапамог майму сябру і вернаму рыцару, я хачу ўзнагародзіць і цябе. Тыя землі, якімі зараз валодае тваё племя, ты атрымаеш па маёй волі як свае ўласныя ўладаньні. Аднак з абавязкам – ніякае веры, акрамя лацінскае на іх я не дазволю. Шчыра кажучы, я ставіўся лаяльна і да рускіх князёў, і да іх веры, якая таксама вера ў Пана нашага Хрыста. Я два разы ажаніўся на праваслаўных княжнах, і мая дачка Соф'я замужам за маскоўскім князям. Аднак зараз я бачу, што вера паўстае перашкодай, якая пагражае трываласьці нашае зямлі. Пакуль, згодна таму, што я бачу, я не хачу распаўсюджаня ўплыву Масквы, бо ж зь іх папамі сюды прыходзяць і іх погляды – погляды ў бок, які становіцца небясьпечным. Я б сказаў, нават, што - варожым.

Мне горка і больна бачыць гэта. Мы маглі б быць братамі. Шмат год я рабіў усё, каб так і было. Аднак мой стрыечны брат сапсаваў усе мае намаганьні. Ва ўгоду сваёй хціваcьці і празе ўлады ён зварухнуў тое, што даўно ўжо паснула пад спудам

мінулых гадоў.

Ардынскі хамут суцэльна зьмяніў зямлю, што калісьці была Русьсю. Стагоддзі панаваньня манголаў падрэзалі ім жылы. Прыгнулі калені. І цяпер адзіная постаць, якую яны могуць прыняць - альбо седзячы на троне, для сябе, альбо пакорліва апусьціўшыся перад імі – для іньшых. Але ж мы жадаем стаяць цьвёрда, і – на сваёй зямлі. І мы не перад кім ніколі не сьхіляліся, і сьхіляцца ня будзем. Пан Бог – адзіны, перад кім можа паўстаць на калені літоўскі князь. Не цар. Не кароль. Не хан. Уладары ўсёй зямлі ёсьць роўныя перад Богам.

Мы тут – роўныя сярод роўных, і годныя сярод годных. Ні я не вышэй за вас, ні вы – за мяне. Пакуль што лёс расставіў нас так, што з ласкі Пана я кірую вамі. Аднак хто б я быў без вас, без вашай падтрымкі, і дапамогі?

Не рабскае пакоры я хачу, не прыніжэньня вашага, не халопскае ўбогай лесьці. Гэта мне было б агідна і жудасна бачыць. Я хачу вашай павагі, рыцары. І каб вы бачылі, і разумелі тое, што хачу зьдзейсьніць я. Бо ж тое, што я раблю, я раблю дзеля радзімы, і, я веру, памяць аб нашай зямлі пераЖыве стагоддзі, а нашая слава і веліч духу будуць заўсёды зьзяць зоркамі нашым нашчадкам. Мы перамаглі манголаў, татараў, тэўтонаў. Лівонцаў. Аднак тым народам, якія мы прынялі ў свае абдымкі, мы не навесілі ярма. Годнасць, воля і розум, а таксама і вера – нашыя галоўныя сьветачы.

Я хачу, каб ты гэта памятаваў, паганскі князь. Былы паганскі, але ж не былы князь. Вітаўт усьміхнуўся.

Нікіфар слухаў яго ўважліва. Яго карые вочы пільна ўглядаліся ў чорныя вочы князя.

- Тое, што ты кажаш, Вялікі Князь Літоўскі, годнае таго, каб запісаць гэта не на паперы – высяч у камяні.

Калі б я быў паганцам, я б так і зрабіў, і камень бы гэты паставіў высока над самым Рубонам, каб словы гэтыя былі бачны здалёк. Аднак я разумею моц нетрывалай паперы, якая стала мацней за камяні. І я разумею моц слабога цела, якое

перамагае меч, калі ў гэтым целе ёсьць дух. І я даведаўся, што наймацнейшы дух з усіх магчымых духаў і багоў – гэта Дух Сьвяты, які сыходзіць ад Адзінага праз яго, і яго сына. Таму цяпер я – не паганец, князь, так. Я – чалавек, які сьхіляецца толькі перад Богам. Болей ніхто і нішто сьхіліць мяне ня зможа. Дзякуй табе і за прызнаньне маёй улады, якую я меў ад дзядоў у паганскіх лясах да мора. Я абяцаю, што, пакуль я жывы, гэтыя землі будуць верныя табе.

Я таксама абяцаю трымаць мір і не парушаць спакой усіх літоўскіх зямель. А таксама мець стасункі зь землямі Ўсходу толькі з тваёй нагоды і пад тваёй пратэкцыяй.

Вітаўт задаволенна кіўнуў.

- Што ж, Чорны, ты прывёў нам значнага хаўрусьніка, - вымавіў ён. Ні ён, ні ты не застанецеся без узнагароды. Я пашыру твае землі на захад і на поўдзень. Ты таксама атрымаеш пост майго даверанага ліца ў справах замежных, і пры двары Рымкай Імперыі. Дазволь мне ўшанаваць цябе должнасьцю такой жа турботнай, як і пачэснай.

Міхась пахіліўся.

- Слова тваё для мяне – закон, князь. Выкарыстоўвай мяне і маіх людзей там, і так, як ты пажадаеш.

- Гэта добра. І людзі твае мне спатрэбяцца. Вітаўт усьміхнуўся. – Бо я хачу зь імі прагуляцца. На Полацк і Віцебск. Проста праехацца. Папаляваць па дарозе. На адну птушку высокага палёту, - змрочна дадаў ён.

# Глава 27: Сустрэча

Яна прыйшла ў сябе ў сваім пакоі, і ўбачыла стрывожаны твар Абеля. На яе ілбу ляжаў мокры рушнік. Яна не разумела, як яна сюды трапіла, бо ж толькі што была на лузе, і чалавек …

- Абель, дзе ён? – запытала яна. Яе вусны ледзь варушыліся, голас зрываўся.

- Хто – ён, панна? – Абель выглядаў непраніцаемым, быццам бы нічога і не адбылося.

- Ён, чалавек на лузе. Той, хто быў побач з Богам на Кальварыі. Той, хто нёс яго крыж! Яна, наканец, набыла голас, і ўжо ледзь не крычэла, як ёй здавалася. Насамрэч, ледзь шаптала.

- Панна, вам пабачылася. Нікога …

- Абель, не хлусі мне. Яна прыўстала, і ўчапілася за яго руку. Была б моца, яна б учапілася ў яго твар. Нейкае дзікае пачуцьцё адчаю ахапіла яе – ярасьці, абурэньня. Яны яе за вар’ятку лічаць – усе яны! Яна бачыць, яна чуе, ёй прывідзелася… Хопіць!

І раптам Абель здаўся. Твар яго нарэшце прасьвятлеў, і стаў мяккім. Пакойным. Лагодным.

- Мы дамовіліся, што я не буду казаць вам, панна. Але ж ён быў. Сапраўды. І ён зараз тут.

- Дзе? І зь кім вы дамовіліся?! За маёй сьпіной ты сьмееш дамаўляцца зь некім? Хто ты такі? Што ты аб сабе ўявіў?

Яна ніколі так груба не размаўляла ні зь ім, ні зь некім іньшым. Але ж нешта адбылося, і болей яна не магла трымацца.

- Ён папрасіў мяне. Але ж я бачу, што я дарма пагадзіўся выканаць яго просьбу. І ён зараз тут, шаноўная панна. Ля вашага пакою. Мяркую, ён моліцца. Бо такім я яго пакінуў, калі ўвайшоў сюды да вас.

- Пакліч яго, Абель. Прашу цябе. Раптам яна застагнала, і яе вочы ізноў закрыліся.

Абель напалохана схапіўся за бутылёк з духмяным воцатам, але ж яна адкрыла вочы, і глянула на яго – вар'яцкім, адчайным позіркам.

Моўчкі Абель паўстаў, і адчыніў дзьверы.

Чалавек адразу прайшоў у пакой, нібыта стаяў, і чакаў.

Высокі, магутны, з шырокімі плячыма, але ж худы, быццам бы пасьля многіх дзён выпрабаваньняў і посту. Яго твар быў напаўзакрыты капюшонам усё той жа расы. Ад яго цела пахла сольлю, дымам, дарогай і вайной. Раптам яна зразумела, што гэты чалавек ідзе з вайны – нейкай далёкай і вялікай. Яго грудзі пад расай перасякалі старыя шнары, рукі таксама былі ў шнарах, як яго твар, які яна бачыла ў паўценю.

- Я рады, што вы прыйшлі ў сябе, панна, - ціха вымавіў ён. – Бо калі б нешта з вамі здарылася, я б не дазволіў сабе перажыць гэта.

- Хто вы? Ці можаце вы назваць сваё імя? – ціха вымавіла яна. Голас здаваўся ёй знаёмым, ды яна не магла прыгадаць, дзе і калі чула яго.

Ён ціха пакачаў галавой.

- Зараз ня тое месца, і ня той час. Хай я буду проста вандроўнікам, панна. Тым, хто прыйшоў сюды здалёк. Ды, шчыра кажучы, як я ўжо і казаў, у мяне болей няма імя, як няма і дому. Маё імя згубілася недзе ў пустынных пясках. Надта ж доўга быў я там адзін, і таму забыўся на яго. Ён усьміхнуўся.

- Як зваць мне вас тады? – запытала яна.

- Як вы пажадаеце, панна. Ён нахіліў галаву.

- Я буду зваць вас Айцец, - ціха вымавіла яна. – Бо чамусьці мне здаецца, што вы – сьвятар. Да таго ж, айцец – так завуць айцоў-пустэльнікаў.

- Я – не сьвятар і не пустэльнік. Я – толькі ваяр, які сустрэў Госпада. Ён апусьціў позірк, і ізноў узьняў на яе вочы.

- Вы раскажаце мне, як гэта адбылося? Як Вы сустрэлі яго? Зь яе вачэй, вялікіх, шэрых, беглі буйныя сьлёзы.

- Не плачце, панна, - ціха вымавіў ён. – Вы разрываеце мне сэрца. Я сустрэў яго ў пустыне, - дадаў ён. – Калі ішоў з вайны.

- Зь якой вайны вы ішлі, мосьць пане? – запытала яна.

- З вайны з самім сабой. Ён усьміхнуўся. – З сарацынамі, панна. Мы ваявалі з туркамі, з султанам. Зь кім мы толькі не ваявалі. Яго далонь звыкла зжалася, нібыта трымала дзяржальню мячу.

- Там, у пясках, калі я паміраў ад смагі, ён і прыйшоў да мяне. Ня ведаю, можа я і сапраўды там памёр, і зараз я на тым сьвеце. Але ж я бачу вас, прыўкрасная спадарыня, і вы выглядаеце зусім жывой. Хоць і на дзіва, нечалавеча прыгожай.

- Час ад часу мне здаецца, што я таксама памёрла, і знаходжуся недзе, у месцы, якое я не разумею, - прашаптала яна.

- Вы знаходзіцеся побач з Богам. Заўсёды і ўсюды.

Яго голас стаў мяккім, суцішным.

- Бог – побач з вамі, панна. Ён ня можа вас пакінуць. Як і вы ня можаце сыйсьці ад яго. Ён – заўсёды тут, з вамі. А вы – у ім.

- Вы, напэўна, стаміліся з дарогі, а я непакою вас размовамі. Раптам яна адчула сябе лепей, ужо зусім добра. Прыўзьнялася на ложку. Яе вочы глядзелі на яго, вялікія, мяккія, поўныя любві – агульнай, да ўсіх, да ўсяго сьвету. Ён зразумеў, што любоў да Пана так перапаўняла яе, што проста ўжо ня месьцілася ў ёй, вылівалася вакол, запаўняючы ўсё сабою.

Ён скалануўся ад яе позірку. Раптам яму стала няёмка. І страшна. Бо сябе ён трымаць болей ня мог.

- Так, панна. Ён кіўнуў. – Калі вы знойдзеце мне нейкі вугал, каб прытуліць галаву, я буду вам дужа ўдзячны. Прабачце, што

прашу вашай гасьціннасьці пры адсутнасьці вашага пана-мужа. Лекар сказаў мне, што ён у ад’езьдзе.

- Так. Яна нахіліла галаву. Але ж ён хутка вернецца. Я чакаю яго са дня на дзень.

- Гэта добра. Тады з вашае ласцы я мог бы застацца і пачакаць яго. Можа, ён знойдзе для мяне месца недзе у вашым кляштары ці саборы. Вы кажаце, што ён пастрадаў ад полымя, але ж я бачыў будаўнічыя работы, калі ішоў сюды – вазы з камянямі і дрэвам. Я мог бы быць карысным. Я б адпрацаваў свой кроў.

- Канешне, шаноўны айцец. Вы можаце застацца! Як магу я выгнаць за парог таго, хто ваяваў за веру, ахвяраваў за яе ўласнае жыцьце, і быў у самом Ерузалеме, і нават сустрэў там Пана.

Мяркую, гэта было пасланае Богам відзеньне? – запытала яна.

Ён усьміхнуўся.

- Бог узяў мяне туды. Узяў мяне з сабой, і ўсё паказаў.

І раптам дадаў:

- І ён паклікаў мяне сюды, бо я павінен сустрэцца зь ім тут. У гэтым саборы. Ён будзе адноўлены, я ведаю.

Яна слаба кіўнула. Раптам яе рука кранула яго руку – вялікую, пасечаную, цёмную. Яна ўзяла яе, і паднесла да вуснаў. Яе ружовыя вусны мякка дакрануліся да яго грубай скуры, і ён адчуў боль. Боль у самай глыбіні сэрца.

Як бы ён хацеў зараз упасьці перад ёй на калені, і цалаваць ёй ногі, рукі і ўсю яе. Як ён жадаў, чакаў гэтага моманту. Яна яго не спазнала. Што ж, можа, так і лепей. Гэта будзе лепей для ўсіх. Падавіўшы цяжкі ўздых, Алекс паўстаў, нахіліўся, і выйшаў.

- Абель, прашу цябе, уладкуй пана-пустэльніка як мага лепей. Знайдзі яму прыстойную комнату. Зрабі ўсё, што ён пажадае.

Летыцыя села на ложку. Абель пахіліўся.

- Калі зробіш, вяртайся сюды. Я буду цябе чакаць.

Хутка Абель зьвярнуўся, выціраючы пот з ілбу.

- Ну і сьпякота, панна. Ня дзіва, што вы зьнепрытомнелі. Ён выбраў уладкавацца ў саборы – разумееце! У згарэлым. Там, у спавядальні. Сказаў, будзе спаць на дошках. І пайшоў прама туды. Я злажыў яму мех ежы, і піцьця. Ён узяў толькі хлеб, крыху віна і ваду. Сказаў, што будзе дапамагаць на будоўлі. І пайшоў па дарозе прама да сабору. Мне здалося, што ён ведае гэтыя месцы. Зараз там нікога няма, сабор адчынены, а для варты я напісаў паперку. Яго пусьцяць, а з раніцы я пайду туды сам.

- А чаго ён адмовіўся застацца тут? – запытала яна.

Абель пацісннуў плячыма. – Ня ведаю. Але ж ён сышоў хутка, і, як мне здалося, хаваў твар. Можа, ён ня хоча, каб яго спазналі?

- Можа, - ціха вымавіла яна. І болей нічога не сказала.

- Ці магу я наведаць Анджэя? Як ён сябе адчувае? – раптам вымавіла яна.

- Канешне, мая панна. Ён ідзе на папраўку, і ўжо спрабуе ўставаць. Абель пахіліўся. Пайдзёмце.

Яны ўвайшлі ў пакой, дзе Анджэй паўсядзеў на ложку. Манашка, якая толькі што скончвала перавязваць яго раны, скручвала бінты і брудныя анучкі. Вакол крэпка пахла мазямі і водкай.

- Як вы сябе адчуваеце, пан Анджэй? – спагадліва запытала яна.

- Значна лепей, мая прыгожая панна. Значна лепей. Каб я мог, я б вітаў вас стоячы, як і падабае рыцару. Але ж, нажаль, мне яшчэ цяжка ўставаць. Да таго ж, я распрануты, і не магу зьняважыць вачэй шаноўнае панны непрыстойным выглядам.

- Вы жартуеце, пан Анджэй. Гэта добра. Яна ўсьміхнулася. Гэта азначае, што вы і сапраўды папраўляецеся. Таму не маглі б вы аказаць мне адну паслугу?

- Усё, што я магу зрабіць для вас, мая панна, у такім стане, я зраблю з прывялікай радасьцю, - вымавіў ён.

Гэтая прыгожая дзяўчына з доўгай чорнай касой, зусім маладая, выклікала ў яго амаль бацькоўскія пачуцьці. Амаль. Бо яна была дужа прыгожай. Ён бы сказаў – занадта. Грэшна прыгожай. Прыўкраснай, такой, што подых яго захоплівала ад яе выгляду. Яе голас, мяккі, грыху глухаваты, амаль шэпт, здаецца, пранікаў яму праз вушы ў самае сэрца. Яе грудзі ціха рухаліся пад тугім гарсэтам – дзявочыя, невялікія. Стройны стан, вузкія плечы, доўгія рукі з тонкімі, далікатнымі кісьцямі. Высокая, прамая постаць. Калі яна ішла, то амаль не кранала зямлі. Быццам бы плыла над ёю, як прывід.

Можна было сказаць, што яму яе цяжка было бачыць. Гэтая дзяўчына вытачала суцэльны грэх. Спакушэньне. Сваёй манаскасьцю, сьвятасьцю вобліку, адарванасьцю ад гэтага міра, дзіўным голасам, які не гаварыў – шаптаў, нібыта маліўся, чытаючы бясконцы ружанец. Яе вейкі былі прыкрытыя, і такія доўгія, што, здаецца, цень ад іх падала ёй ня толькі на шчокі, але ж і на грудзі.

Ад яе ішоў тонкі, пранізьлівы пах цэлага саду райскіх кветак. Маленькія рукі цярэбілі аксамітную спадніцу. Яна сядзела перад ім прама, і, здаецца, зьбіралася з духам.

А потым вымавіла.

- Да нас сёньня прыйшоў дзіўны чалавек, пан Анджэй. Пустэльнік, які кажа, што бачыў самога Пана-Бога.

Яна ўзьняла на яго твар, і ў цемры пакою яму здалося, што яе вочы бліснулі вагнём спакушэньня. Быццам бы маланка прарэзала змрок.

- А яшчэ, пан Анджэй, я хачу вам прызнацца, што я адчула да яго нешта.

Яна ізноў апусьціла вочы.

Ён моўчкі слухаў.

- Я яго пажадала, - раптам вымавіла яна, і замаўчала.

- Ён быў малады і прыгожы? – запытаў Анджэй. – Гэта грэх, дзіця, але ж мы не заўсёды можам валодаць пачуцьцямі нашага цела. Цела часта спакушае нас на грэх. Ён ледзь не дадаў – як зараз яно спакушае мяне.

- Але ж мы павінны стрымліваць жаданьні нашага цела. Што вы зрабілі, калі вы адчулі жаданьне да яго, панна?

Ён думаў, што яна зараз скажа, што прачытала Ойча ці Сьвятая Марыя, але яна прама зірнула на яго, і вымавіла:

- Я пацалавала яго руку.

- Вы зрабілі гэта з-за пашаны да яго сьвятога стану? – ціха вымавіў ён.

- Я … я ня ведаю, - прашаптала яна.

- Дзе зараз гэты чалавек, панна?

- Ён сышоў. Да прыезду гаспадару ён будзе заставацца ў саборы.

- Вам лепей ня бачыць яго, панна. І не размаўляць зь ім. Часьцей маліцеся, чытайце ружанец, і паўтарайце Miserere mei, Deus. Гасподзь дапаможа вам.

Вы, напэўна, сумуеце па гаспадару? – ціха запытаў ён.

- Я адчуваю сябе мёртвай безь яго, - адказала яна. Яе вусны ледзь варушыліся. – Я не магу безь яго жыць.

- Панна, вы павінны жыць дзеля Бога, - сур’ёзна вымавіў Анджэй. – І думаць толькі аб ім. Асабліва цяпер, калі вашага мужа няма дома. Вы ўпадаеце ў спакушэньне, бо д’ябал ходзіць блізка, і пакуль мы тут, мы ня вольныя пазьбегнуць яго кіпцюроў. Ён будзе катаваць нас, пакуль мы не пазбавімся цела.

Бо ж зь целам і яго нядасканаласьцю ў нас увайшоў грэх.

- Але ж першародны грэх выкуплены Панам, - прашаптала яна.

- Так. Ды д’ябал усё ж застаецца тут. Бойцеся яго, панна. Не падпадзіце пад яго ўладу.

- Мой муж – мой Бог. Мой Пан. Ён захіне мяне. Ад усяго. І ад д’ябла. Яна рашуча паўстала, і пахілілася. Яе вусны кранулі паветра над рукой Анджэя, пакрытай апёкамі.

- Мой муж – Бог. Я ведаю. Вы трапілі да Пана Бога, Анджэй. Хутка ён прыйдзе, і ён вырашыць і ваш лёс. З гэтымі словамі яна разьвярнулася, закрыўшы твар рукамі, і хутка выйшла з пакою.

Абель увайшоў сьледам за ёй.

- Шаноўны, я папрашу вас – пільна назірайце за Міхасёвай паннай, - ціха, каб яна ня чула, вымавіў Анджэй. – Мне здаецца, што ...

- Што яна – вар’ятка? – запытаў Абель.

Анджэй кіўнуў. – Нешта адбываецца зь ёй. І я такога яшчэ ня бачыў.

Я не магу сказаць, што яна казала тут, але ж гэта былі страшныя блюзьнерствы.

- Шаноўны Анджэй. Вар’яты тут – усе мы. Яна – адзіная з нас разумная, якая бачыць і ведае ўсё, - ціха адказаў той.

- Вы мяркуеце, што пан Міхал – Бог? – раптам Анджэй зразумеў, што выдае яе таямніцу споведзі. Але ж, шчыра кажучы, яна не спаведвалася яму тады, калі казала гэта.

- Мяркую. Абель нахіліў галаву. – Ён – Бог. І мы ўсе – у Адхлані, пан Анджэй. А ён – Бог караючы, і мілуючы. Літасьцівы збаўца. Суцяшальнік. Гасподзь, сышоўшы да нас, каб дапамоч нам выкупіць нашыя грахі.

Анджэй у зьнямоге адкінуўся на падушку.

- Тое, што вы кажаце – страшное блюзьнерства. Я мяркую, таму што вы – іўдэй, вы ня ведаеце граху. Але як вы можаце.

- Хрыстос быў іўдэй. І адзіныя, хто адкінулі яго, быў яго ўласны народ. Цяпер я не зраблю гэтакае памылкі. Ён – Бог. І я гэта ведаю. І вы таксама даведаецеся, шаноўны пан.

- Тады навошта пану-Богу спавядальнік і сьвятар? Анджэй усьміхнуўся.

- Таму што ёсьць нябёсная царква. А спаведваць насамрэч будзе ён вас. Вы ж будзеце спаведваць яго як чалавека. Бо ў чалавечым целе ніхто не пазбаўлены граху. Нават Бог.

Анджэй узьняў да твару рукі.

- Прашу вас, мосьць пан. Я не магу гэта чуць.

- Вы гэта ня толькі пачуеце. Вы яшчэ і пабачыце. Абяцаю. А яна – не вар’ятка. Ён ледзь не дадаў – да таго ж, яна таксама іўдэйка, як і я. Але ж чамусьці стрымаўся.

А потым вымавіў:

- У чалавечым целе Пан не заўсёды памятае сябе. Гэта дужа цяжка – заўсёды адчуваць сябе Богам. Бо ж Бог не абцяжараны плоцьцю, а Ён – абцяжараны, дабравольна прыняўшы на сябе і нашыя грахі, і нашыя пакуты.

Але ж мы ведаем, хто Ён, і любім яго, як нікога.

А Панна – тая, хто ведае і любіць яго мацней за ўсіх. Як і ён кахае яе так, як на зямлі кахаць немагчыма. І любіць яе болей, чым сваю душу.

Заўтра я наведаю вас раніцой, пан Анджэй. Спадзяюся, што вашае здароўе трывала ідзе на папраўку. Не хвалюйцеся, і спакойна сьпіце. Бо ж тут вы ў суцэльнай бясьпецы і сярод сяброў.

Абель пахіліўся, і сышоў, пакінуўшы Анджэя аднаго, у жаху, сам-насам са сваімі думкамі.

# Глава 28: Вяртаньне

Яна вярнулася ў пакой амаль бягом, наколькі дазвалялі доўгія спадніцы. Сьлёзы душылі яе. Усё было пустым безь яго. Яна не знаходзіла сабе месца. На сьпінке стулу вісела яго кашуля – ён зьняў яе, калі сыходзіў. Яна ўзьняла яе да твару, і ўдыхнула яго знаёмы пах. Родны. Бяз сілаў яна звалілася на ложак. Прыціснула яе да сябе, абняла, падцягнула ногі да грудзей, і ляжала, скруціўшыся ў камок.

- Той чалавек казаў, што ён бачыў Бога, - раптам прыйшлі ёй на вум яго словы. – І ён нёс зь ім Яго крыж да самай Кальварыі.

Сон стаў ціха накрываць яе. Раптам яна апынулася там – зь ім. Яна стаялі побач з чалавекам у парваным, шэрым, запыленным адзеньні – высокім, худым, зьняможаным, але ж моцным, з пасечаным шнарамі целам, зарослым чорнай барадой і валасамі. Яго позірк, халодны, як паўночнае неба, быў сьціраваны на Яго. Вакол іх быццам бы не было нікога.

Чалавек ішоў, спатыкаючыся пад цяжарам крыжу на сваёй сьпіне. Ён ледзь рухаўся. Яго цела, страшэнна зьбітае, скрываўленае, уяўляла суцэльную рану. І раптам ён пахіліўся, і ўпаў. Натоўп завыў. Мноства рук цягнулася да яго, але ж рукі гэтыя былі рукі варожыя. Такой нянавісьці яна не адчувала ніколі.

Раптам той, хто стаяў побач зь ёй, рашуча пасунуў натоўп. Можна сказаць, проста адкінуў у бакі, і яна пасьледвала за ім у зрабіўшуюся вузкую шчыліну між чалавечымі целамі.

Чалавек падыйшоў да Яго, і адным рухам ўзваліў на сябе Яго крыж – вялікі, неабструганы. Доскі ўпіліся яму ў цела, і па яго сьпіне пабегла кроў. Ён працягнуў пакутніку руку, і той цяжка апёрся на яе. Далей яны пакрочылі разам, дапамагаючы адзін аднаму. Оба былі высокія і моцныя, шырокаплечыя, зь цёмнымі доўгімі валасамі. Адзін – аголены, другі – у лахманах. Яна ж ішла, а дзе – бегла – каб крый Божа не адстаць ад іх.Ісьці зь імі побач было для яе пытаньнем жыцьця і сьмерці.

Нарэшце, яны выйшлі за горад, і ўзьняліся на высокую гару. Сонца паліла, няшчадна пякло. Вакол гудзелі мухі і пахла крывёю. Яна ўпала, бо болей ісьці не магла, і паўзла на чацьвярэньках. Чалавека палажылі на крыж, стукнуў малаток – раз, другі і трэці. Хутка крыж узьнялі, і цела павісла на ім. Ён намагаўся дыхаць, і падцягваўся раз-пораз, і яго скрываўленая сьпіна цёрлася аб дрэва, абздіраючыся. Кроў ручаём бегла, капала ўніз. Ня ў сілах паўстаць, яна падпаўзла да дрэва, і ахапіла яго рукамі. Прыціснулася да яго вуснамі, і адчула салёны смак яго крыві. Гэта быў ён – яе каханы. Ён быў там, на крыжы, і яна магла дакрануцца да яго стопаў. Яна паўстала, трымаючыся рукамі за крыж, і прыпала да яго. Да яго ног яна магла дацягнуцца, толькі паўстаўшы на коньчыкі пальцаў. Зьнясіленая, яна громка заплакала. Чалавек, які нёс крыж, маліўся, закрыўшы вочы. Хутка на ўсех іх паліў дождж. І з громам і маланкай яна страціла слых і позірк. Яна прачнулася на ложку, адчуваючы яго руку на сваім плячы, і прыціснулася да яе шчакой. Гэта быў сон. Сон… калі б яна магла не прачынацца, пакуль ён не прыедзе. Вакол стаяла глухая ноч. Цемра. Яна ляжала, і пакрывала яго руку пацалункамі. Твар яе быў мокрым ад сьлёзаў.

- Красуня мая! А павітаць ты мяне ня хочаш? – ціха вымавіў ён.

- Я ж прыехаў, а жонка ляжыць у цемры, і плача.

Яна ўскочыла на ложку, нічога не разумеючы. Ён жывы стаяў перад ёй, і ўсьміхаўся. Праз цемру сьвяціліся яго белыя зубы.

- Ты прыехаў… прашаптала яна. – Ты дома… Ты вярнуўся… І ахапіла яго за шыю, крэпка прыціснуўшыся да яго грудзей.

Яго вусны знайшлі яе вусны, і прыпалі да іх.

- Каханая, дзяўчынка мая, анёлак мой, - шаптаў ён. Яго рукі зрывалі зь яе адзеньне. Ён пах конскім потам, лесам, вогнішчам, доўгімі днямі дарогі. Яго рукі, нецярплівыя, прыцягнулі яе, і яны апынуліся на ложку. Яна, уздрыгваючы, прыняла у сябе яго плоць, адчуваючы яго поўна, усім целам, пакуль ён браў яе, груба, хутка, прагна, нібыта піў жаднымі глыткамі, ці накінуўся на ежу пасьля доўгага посту.

- Я прыехаў, я тут, з табою, любая мая, назаўсёды, жаданая мая… Здавалася, ён ня мог насалодзіцца яе целам болей, але ж жарсьць, якая ахоплівала яго, усё не канчалася. Ён браў яе ў закінутай хаціне фарпосту, хутка, груба, жарка, пакуль нікога не было паміж ёй і ім, браў яе ў яе кватэры на стале сярод сшыткаў, браў яе ўсюды і ў любы час, калі ён жадаў яе, здаецца, гэта адбывалася аднachасова, памножанае шматкратна. Яны былі разам заўсёды, і ўсюды, многія тысячы разоў, незьлічона, пакуль існуе сусьвет, і асалода кожнага раза дадавалася да той асалоды, якую ён адчуваў зараз, бо яго каханьне да яе множылася і расло, так, што яго сэрца ўжо не магло ўмяшчаць яго, і тады яно стала памерам з цэлы сусьвет, які раськінуўся, як вялікі акіян, а па ім плыла маленькая лодка – яна.

Яны ляжалі, абняўшыся.

- Прабач мяне, я не памыўся з дарогі. Так жадаў цябе. Ён усьміхнуўся, крануў вуснамі яе мокрую шчаку. Ад мяне, напэўна, зьвяром пахне. Лесам. Канём. Толькі рукі памыў.

- Ад цябе пахне табой, - прашаптала яна. – Гэта для мяне лепшы пах на сьвеце. Яна ўткнулася тварам у яго плячо.

- А што гэта мая кашуля тут ляжыць? – раптам запытаў ён. – Я зь ёй спала, - ціха вымавіла яна, і адчула, ня ўбачыла, як ён усьміхнуўся ў цемры.

- Дзіця ты маё, дзіця, - прашаптаў ён. – Горкае. Як цябе пакінуць, скажы? Тое ня можна. Яго вусны краналі яе заплаканы твар.

- Не пушчу, - прашаптала яна. – Нікуды не пушчу. Ты – мой Бог. Ты ж – Бог. І ты гэта ведаеш.

- Ведаю, - ціха вымавіў ён. – Ведаю, красуня. Любая мая. Я – Бог, а ты – мой анёлак. Мой Дух Сьвяты. Душа мая, сьвятая мая дзева. Царыца нябёсная. Жонка мая адзіная, адвечная, якую я знайшоў, і нікуды не адпушчу.

# Глава 29: Відзеньні

- Ну, як тут безь мяне справы, любая?

Ён абмыўся, пераапрануўся, і хутка паснуў. Раніцой яны прачнуліся разам. Гэта быў нейкі цуд, гэта было так дзівосна – прачынацца побач зь ім, адчуваць яго дыханьне, утыкацца яму ў плячо, каб паспаць яшчэ хвілінку, і ізноў прачынацца ад яго пацалункаў на сваім целе. Яго вусы і барада кранали яе пяшчотную скуру, калолі. Яна выкручвалася і сьмяялася.

- Нешта ты круціцца пачала, - усьміхаўся ён. – Ад мужа адвыкла? І прыціскаўся да яе яшчэ мацней, апускаючыся ўніз, да самых адчувальных месцаў. Цяпер яго валасы калолі яе сьцёгны, якія трымалі яго рукі, рассоўвалі, каб дакрануцца да таго, найбольш патаемнага, ружовага, вільготнага, каб адчуць яе пах, яе смак унізе, які вымушаў яго кроў пульсаваць, нібыта яна кіпела. Ён апынуўся над ёй, і запоўніў яе сабой. Яна закрыла вочы, аддаючыся яго павольным рухам, цяпер глыбокім, марудным, нібыта вялікія хвалі накатвалі на бераг, робячыся ўсё хутчэй і хутчэй – насоўваўся шторм.

Яе падкідвала на гэтых магутных хвалях – высока, да самага небу.

І калі яе захлеснула найбольшым, дзевятым валам, ёй здалося, што з марской глыбіні яна ўзьляцела на самае сонца. Яна раскрыла вочы, і ўбачыла яго над сабой. Ён усьміхаўся. Яго вочы звузіліся, нібыта і сапраўды ад сонца, вусны выгнуліся, як тугі, нацягнуты лук.

- Чаму ты сьмяешся? – запытала яна. – Я сьмешная?

- Ты такая прыгожая, что вачам больна, - ціха вымавіў ён. - А сьмяюся я ад шчасьця.

А потым яны ляжалі ў абдымках, насалоджваючыся целамі і душамі адно аднаго.

- Усё добра, каханы, - ціха вымавіла яна. – Нічога ня здарылася, дзякуй Богу. І Анджэй ідзе на папраўку. Толькі… ўчора адбылося нешта … дзіўнае, - працягнула яна. Ён уважліва глядзеў на яе. – Што такое дзіўнае адбылося, маё сонейка?

- Учора да нас прыйшоў чалавек, каханы. Ён быў апрануты ў манаскую расу, усю парваную, старую, сатлелую. Я была на лузе, зьбірала кветкі. І раптам убачыла яго. Ён падыйшоў, і запытаў, ці можна яму застацца тут пры кляштары. Яму не было куды ісьці, ён сказаў, што ходзіць ад аднаго кляштару да другога, ад адной царквы да другой, і жыве тым, што яму пададуць за яго працу і малітвы. І калі я запытала, адкуль далёка ён ідзе, ён адказаў, што ідзе з самога Ерузалему, а да гэтага ён быў у крыжовым паходзе, ваяваў с туркамі. І яшчэ, каханы, ён сказаў, што ён бачыў Бога. Пана Езуса. І што нёс яго крыж, і быў разам зь ім на Кальварыі. А потым, потым я паснула, і ўбачыла сон. Нібыта чалавек стаяў побач са мною, і там быў Пан, і ён нёс свой крыж, і той дапамагаў яму, і ішоў зь ім разам. І Пан быў падобны на цябе. І чалавек… раптам прашаптала яна … таксама, а потым я трымалася за крыж, і плакала. Пачалася навальніца, і я прачнулася. І ты трымаў мяне за руку. Ты прыйшоў, ты ўваскрос! – раптам вымавіла яна, шырока раскрыўшы вочы. – Мы ў раі, Госпадзі? Яна ахапіла яго шыю, і прыціснулася да яго. – Гэта ж быў толькі сон, і ты – жывы, любы мой, каханы!

Ён крэпка ахапіў яе дрыжачае цела, і крануў вуснамі яе валасы.

Ізноў гэтыя яе відзеньні. Цяпер ужо яна бачыць наўяве – вось да яе прыйшоў нейкі чалавек. І яна расказвае яму так, нібыта ўсё адбылося насамрэч.

- Каханы, я яго сапраўды бачыла! – ціха прашаптала яна. – Я страціла прытомнасьць на лузе, і потым я апынулася тут, у пакоі, тут быў Абель. І гэты чалавек, ён увайшоў і ён запытаў, як я … і ён…

- А дзе ён зараз, сонейка? – ціха, каб не непакоіць яе, пацікавіўся ён. У яго голасе была журба, і трывога, і жаль.

- Ён пайшоў у кляштар. Сказаў, будзе там спаць на голых

дошках, і дапамагаць. Працаваць. І Абель пагадзіўся. Ён яму паперку напісаў, каб яго ня гналі, і той пайшоў. Ты можаш запытаць у Абеля!

- Паперку…, - задумліва вымавіў ён. – Добра, любая. Я веру табе. Не хвалюйся. Гэты чалавек, напэўна, ужо сышоў. Такія доўга на адным месцы не трымаюцца. І сапраўды ходзяць ад царквы да царквы, з гораду ў горад, пакуль не зваляцца недзе па дарозе. Ды не аддадуць Богу душу на лясной паляне. Раптам ён пашкадаваў, што сказаў ёй гэта. На яе твары адбіўся сапраўдны жах. Боль.

- Ты што, каханая? Я пажартваў. Нічога зь ім не здарыцца. Аднак мне здаецца, што ён і сапраўды сышоў, любая. Ён асьцярожна выбіраў словы, каб не ўсхваляваць яе яшчэ болей.

- А калі не? – раптам запытала яна. – Тады ты мне паверыш? Бо ж ты ня верыш мне. Ізноў. Чаму? Чаму ты мне ня верыш? Раптам сьлёзы брызнулі зь яе вачэй.

- Веру, веру, птушачка мая. Хочаш, мы пракацімся сёньня да сабору? І калі ён там, мы пагаворым зь ім. А калі сышоў, туды яму і дарога. Бог яму ў дапамогу.

- Хачу! – яна ўзрадвалася. – Я хачу з табой пакатацца! Мы так даўно не каталіся па лесу разам. І мы паедзем далёка – да курганоў, і да возера. Там ёсьць вялікае возера. Ты мне казаў – памятаеш? Мы там яшчэ не былі.

- Ёсьць, ёсьць, і не адно. Паедзем абавязкова. Вось справы зладжу, і паедзем. Калі сьпякота спадзе, пад вечар. Праскочым да сабору, а там і да возера недалёка.

Ён крануў яе лоб вуснамі.

- Ну, добра. Буду я ўставаць, узьнімацца. Ты ж яшчэ паляжы, калі хочаш.

Выйшаўшы з пакою, ён адразу накіраваўся да Абеля.

Той знаходзіўся ў сваім лякарскім пакое – разьбіраў зёлкі.

- Ну што, сын іўдэйскага народу, - усьміхнуўся ён. – Гатоў вітаць гаспадара?

Абель ад нечаканасьці ледзь ня выраніў куфэрак з найбольш каштоўнымі парашкамі. Аднак здолеў падхапіць яго ў паветры. Той закруціўся ў яго руках, нібыта жывы.

- Спадар! Калі вы прыехалі? – ён і сапраўды быў зьдзіўлены. І, бачна, узрадваны.

- Прыехаў, калі ўжо цёмна было. Ты спаў, мабыць, як пшаніцу прадаўшы. Нікога не будзіў, толькі вартавыя ля брамы ведаюць. Вось вам і дзіва, і цуд, - усьміхнуўся ён.

- А цяпер ты вось што мне скажы. Што за чалавек да нас завітаў? Жонка кажа, нейкі пустэльнік, паломнік зь Ерузалему.

- Які чалавек? – Абель узьняў вочы. – Вы аб чым, шаноўны пан? Я нікога ня бачыў, і ня ведаю.

- Як ня ведаеш? – ён пачаў злавацца. – Ты ж яму паперку напісаў. Каб яго пусьцілі ў сабор. Пераначаваць. Тожа мне, дадумаўся. Хоць, можа, так яно і лепей. Красьці там няма пакуль чаго, а ён, можа, і сапраўды – пустэльнік. Сьвяты чалавек.

- Пан, аб чым вы кажаце? Якая паперка? Каб я каго ў сабор пусьціў чужога? Безь мяне? Калі б так, я б яму тут дзе ў сараі загадаў пасьцяліць, а раніцой бы сам яго туды адвёў. Не было нікога, пан, пабі мяне гром з маланкай! Нікога не было, аб чым вы?

- Не было, кажаш? – раптам яго твар зрабіўся змрочным, журботным. Занепакоеным.

- А панна кажа – было.

- Ой, пан… ня ведаю … што і сказаць вам на гэта. Ну, калі панна кажа… аднак не было таго, ну як магло быць тое, чаго не было!

Раптам Абель паўстаў на калені.

- Не кажы катаваць, міласьцівы пан, прабач, калі што ня так. Аднак не было ніякага чужынца. А дзе ён панне прывідзіўся? … Дзе яна яго сустрэла, - раптам паправіўся ён.

- На лузе. Міхась выглядаў разгубленым. Смучоным.

- На лузе панна прытомнасьць страціла. Ад сонца. Добра, што не адна была. З канюшым. Той яе ў замак прынёс.

- А яна кажа, там і чалавек быў. І ў замак зь ей прыйшоў. І нават у яе пакой. Чалавек, які Хрыста бачыў. На Кальварыі. Крыж яго нёс.

Раптам ён зразумеў, што гародзіць нейкую лухту. Яго словы здаліся яму дзіўнымі, якімісьці дзікімі.

- Пан, тое ад сонца. Ад сонца і не такое бывае. Розум памуціўся. Часова.

Абель пахіліўся.

- Я паньне лекаў дам. Настойку опіўмную. Каб спалося добра. Яна хай адпачнець. У ложку пабудзе.

- Хай пабудзе да вечара. Толькі не давай ёй ніякіх лекаў. Нешта лекі твае на яе дрэнна дзейнічаюць. Проста травы якой завары. Мяты.

А вечарам мы зь ёй пракацімся, і ўсе цуды зь яе галавы вытрасуцца. Дужа доўга яна адна дома сядзела. Паветрам дыхаць трэба.

З гэтымі словамі ён разьвярнуўся, і сышоў, а Абель яшчэ доўга стаяў, і качаў галавой.

# Глава 30: Узьяднаньне

З ранку ён таскаў камяні – вялікія, цяжкія. Да сабору хацелі дабудаваць яшчэ адзін неф, пашырыць памяшканьне. Ён паспаў, як і казаў, на досках, у спавядальні – ціхай, амаль не кранутай полымем, толькі крыху чарнаты вакол дзьвярнога праёму, і звонку. Дальнія ж сьцены засьталіся зусім не пашкоджанымі. І простае чорнае драўлянае расьпяцьце на іх захавалася. Як і было пры Юзафе. Юзафа ж болей не было. Ды ніхто і не казаў, дзе ён. Людзі былі якіясьці новыя. Незнаёмыя. Сяляне з далёкіх вёсак – прыйшлі сюды за кавалкам хлебу, працавалі ўсе ладна. І ён разам зь імі. І камяні цягаў, і раствор мясіў. Рапрануўся па пояс, добра, што штаны не сатлелі, як кашуля. Скураныя, трывалыя. Толькі паабцерліся. Яшчэ ад Конраду засталіся штаны. Дзе цяпер той Конрад, хто яго ведае. І астатнія. Расталі, як сон. Як мара. Ён усьміхнуўся. Толькі Ён ніяк не раставаў. Не сыходзіў. Стаяў зь ім побач – здаецца, кранеш за руку – і вось ён. Ды – далёка. Цяпер ён гэта разумеў. Яго плечы балелі ад цяжкой працы, аднак боль ён ня заўважаў – стаў да яго прывыкшы.

Папалуднаваў з Абелева меха, папіў вады зь віном, і ізноў – за працу. Да вечара стаміўся. Ды ніхто з гаспадароў не падышоў. Ні Абель, ні панна, ні Марк. Ні хто іньшы. Дзе ўсе падзяваліся? – думаў ён. Дзіва.

І, ужо надвячоркам, калі сонца пачало хіліцца за верхавіны хвояў, убачыў – па дарозе скакалі дзьва каня. Няхутка, трусцой. Адзін – белы, меньшы, другі – чорны, вялікі. На белым сядзела панна, на высокім – пан. Ён узрадваўся. І, адначасова, яго сэрца грукнула. Ці спазнае яго пан? Як сустрэне? Ён жа зрабіў усё так, як той яму загадаў. Не здрадзіў, ня струсіў. Прайшоў увесь крыжовы шлях да канцу. Да самой Кальварыі.

І, усё роўна, яму было цяжкавата трымаць адказ. Столькі ўсяго прайшло. Ён зьмяніўся. Усё вакол зьмянілася. А яна – яна не зьмянілася. Усё такая ж – маладая, прыгожая.

Нават пан пастарэў. Цяпер ён бачыў яго – блізка, амаль над ім. Срэбныя ніткі ў доўгіх валасах, на твары – новыя глыбокія рысы. Ды ўсё той жа – магутны, пагрозны. Моцныя рукі ўпэўнена трымаюць лейцы. Чалавек-скала. Добра, што ён прыйшоў да яго там. Знайшоў яго, і вывеў да сваіх. Да ордэну. Да рыцараў. Бо ж безь яго ён бы суцэльна згубіўся. Прапаў бы ў гэтым страшным месцы, дзе болей не было Бога.

Кінуўшы камень на зямлю, ён захінуў вочы рукой. І глянуў у гару, на Яго.

Яна стаяла побач зь ім, і ціха ўсьміхалася.

- Каханы, вось жа гэты чалавек! Вось ён! А ты казаў, мне прывідзелася. Яна радавалася, як дзіця. Ты ж таксама яго бачыш? Як і ўсе? Яна кранула яго за руку.

- Бачу, сонейка, - ціха вымавіў ён. – Канешне, я яго бачу.

Ды ня стаў дадаваць, што бачуць яго толькі яны ўдваіх. Бо ж тут болей нікога не было.

- Вечар добры, пан. Вось, прыйшоў я. З паходу.

Ён нахіліў галаву, і астаўся стаяць перад імі – напаўаголены, брудны ад пылу і поту, з доўгімі валасамі, няголенай барадой да самых грудзей, і чыстымі, яснымі, сінімі вачыма. У якіх сьвяцілася такая радасьць, якой не сустрэць у цэлым сьвеце.

- Ну што, Алекс. Як паход? Яна кажа, ты сустрэў Бога, - ціха вымавіў ён.

- Сустрэў. Я сустрэў цябе, Божа мой. І ён апусьціўся на калені.

Глухі, ціхі вечар ахутаў іх – двух вершнікаў, і чалавека, зморанага цяжкой дзённай працай, са скурай, сьпечанай сонцам, стаяшчага ў пылу пры дарозе. Сонца амаль зайшло, і чорныя доўгія цені цягнуліся да іх праз залатыя рэкі, якія магутна ліліся зь небасьхілу, падкрэсьліваючы і чарнату хвояў, і цёмныя сілуэты, і дарагі аксаміт і камяні, і ўбогасьць лахманоў.

Міхась саскочыў з каню, і падышоў да пустэльніка. Тое ж

зрабіла і яна, і стала побач, крыху за ім.

Алекс узьняў вочы ўгару, і доўга, яму казалася, бясконцасьць, глядзеў на стаячыя перад ім постаці – яго, велічную, і яе, сьціплую і тонкую, анёльскую, якая шаўковым воблакам лунала за яго плячом.

- Гэта яна, каханая мая, прывяла мяне да цябе. Голас Міхася, нягромкі, важкі, быццам бы ўпячатваўся ў яго сэрца.

- Яна першая сустрэла цябе на квітнеючым лузе надзеі, і правяла цябе ў дом свой, адкуль табе адрыўся шлях да сьвятыні, спаленай і пагарджанай, якую ты аднавіў.

Сваімі ўласнымі рукамі ты насіў камяні, будуючы храм сваёй веры, да крыві абдзіраючы рукі, пакутуючы ад голаду і смагі, не шкадуючы ні душы, ні цела.

Скажы дзякуй ёй, якая не адкінула цябе, і працягнула табе руку. Пакланіся ёй, той, хто бясконца літасьцівы і ўсепрабачаючы, і праз каго прагнучая душа ўздымаецца да мяне праз яе нябёснае хадатайства, захінутая яе покрывам. Бо зараз перад сабой ты бачыш Яе, Царыцу маю ва ўсёй сваёй велічы і сьціпласьці, і пакорлівасьці, і славе.

- Падыйдзі да яго, каханая, і адпусьці гэтую душу ў сьвятло, - ціха вымавіў ён, і правёў яе наперад, перад сабою.

- Ці спазнаеш ты яго, дзева? Каханая мая? – пачула яна яго голас.

- Спазнаю, Айцец мой нябёсны, - ціха адказала яна.

Ён стаяў перад ёй у брудзе і пылу, на дароге, з аголенымі целам і душой, у якой больш не было нічога зямнога. Яна нахілілася да яго, і ён пацалаваў ёй руку, прыпаўшы да яе вуснамі, як да мосту паміж зямлёй і небам, які сыходзіў да яго са сьвятла. У яго ў душы было ціха-ціха. Ня вушамі, але ж сэрцам ён чуў шум галубіных крылаў, і сьлёзы ліліся зь яго вачэй не спыняючыся, пакуль ён не перастаў бачыць зямное. І калі яго зямныя вочы былі выпалены сьлязамі, у яго адкрыліся вочы нябёсныя, і праз

іх у яго сэрца ўвайшла Любоў. Ён бачыў, і чуў, і ведаў, і радасьць яго была такой, якую й нельга і апісаць.

- Узьнімі мяне, - прашаптаў ён. – Каралева нябёсная! Узьнімі мяне да сябе, каб я мог радавацца з табою ў Богу адзіным.

І яна, заліваючыся разам зь ім сьлязамі, працягнула яму руку, і ён паўстаў перад ёю з бруду і пылу.

- Ты ўзьняўся, рыцар, праз сваё ушанаваньне дзевы, і праз Крыж, які ты нёс разам са мною на сваім плячы, - пачуў ён яго нягромкі, уладны голас, ад якога сатрасалася зямля.

- Цяпер месца тваё у царстве маім побач са мною і ёю, і душа твая будзе радавацца на лугах адвечных, квітнеючых, там, дзе няма ні пячалі, ні болю, ні смутку, а ёсьць толькі суцэльная Любоў і еднасьць з тымі, каго любіць тваё сэрца.

І ён, велічны ўладар і Пан, агарнуў яго, і прытуліў да сябе. І калі яго грудзі, стомленыя дарогамі жыцьця, запыленыя яго бясконцымі шляхамі, прыціснуліся да яго магутных грудзей, закаваных у царскія дасьпехі веры і доблесьці, яго сэрца растала і ўспыхнула гарачым агнём, у якім ён зьліўся з тым, на чыіх грудзях ён ляжаў.

У радасьці, якую апісаць няможна, бо ж няма такіх словаў, яна назірала, як дзьве магутныя постаці, аголеная і апранутая ў царскае ўбраньне, зьліваюцца ў адну велічную, прыўкрасную, магутную постаць таго, каго яна не магла апісаць. У жаху і экстазе такім моцным, што яе ногі больш не маглі трымаць яе, яна апусьцілася на калені, і яго моцныя рукі ўзьнялі яе, і прыціснулі да сябе. Яна адчувала яго сэрца, як мільярды сэрцаў, як незьлічоныя галасы і сьпевы, і громы такія вялікія, што яе сэрца спынілася, а потым забілася так моцна, нібыта ўзьляцела, як птушаня, вырваўшыся зь ціскоў яе плоці.

Ён трымаў яе, і яна прыціснулася да яго грудзей, закрыўшы вочы, трымаючы яго шыю крэпка, як адзінае, што было для яе ў сусьвеце. Бо ж вакол віравала бездань, і за ім не было нічога – і толькі пекла, і сьмерць, і цемра апраметная.

- Раскрый вочы, каханая, - ціха вымавіў ён. – Паглядзі, там, за нябёсамі, зьзяе сьвятло. Сонца апусьцілася, але ж хутка надыдзе новы дзень. Ня бойся, бо я з табою. І яна адкрыла вочы, і ўбачыла ля сваіх ног цела чалавека, высокага і моцнага, але ж спакутванага бязь меры, пакрытага шнарамі і пылам, які нібыта спаў, і ўсьміхаўся ўва сьне. Яго вочы былі закрытыя, бровы разгладзіліся, твар быў сьветлым і чыстым, і прыўкрасным, такім, што ў яе захапіла подых.

- Алекс, - прашаптала яна. – Ты ішоў, і прыйшоў да мяне, і ты знайшоў мяне, і атрымаў тое, што ніхто ў цябе адабраць ня ў сілах. Ты атрымаў Яго, найвялікшую міласьць і шчасьце, якія магчымыя для душы ў сьвеце.

Яна павярнулася да яго, і ён ахінуў яе, і закрыў яе вочы вуснамі.

- Цяпер ты верыш мне, любы? – прашаптала яна. – Ты бачыў тое, што я бачу?

- Любая мая, ня трэба. Не глядзі туды, - ціха вымавіў ён.

- Гэты чалавек, багамолец, ён памёр. І мы пахаваем яго так, як трэба, як годна для таго, хто наведваў сьвяты горад, бачыў там Госпада і нёс яго крыж зь ім.

Хай цела яго ляжыць тут, у гэтай зямлі. Душа ж яго зараз далёка, і высока, так, што нам адсюль яе ня ўбачыць.

# Глава 31: Грудзі

Ён нахінуўся, і сьціснуў вуснамі яе сасок, маленькі і ружовы.

Яе грудзі былі амаль дзіцячымі, не сфарміраванымі, плоскімі з-за тугога гарсэту, які яна насіла ў манастыры. Але зараз, апынуўшыся на волі, яны нібыта расквітнелі, напаўняючыся жыцьцёвай сілай, нагадваючы дзьва пяшчотныя бутоны, прабіваючыяся з-пад пругкіх грудак сьнегу, зьзяючага на вясновым сонцы.

Яе скура мела смак чыстай вады і водар маладой лані. Яго вусны блукалі па ёй, убіраючы.

Ніхто яшчэ ня бачыў яе грудзей. Ён быў першы, хто бачыў іх, хто цалаваў яе саскі, чыі вусны прынікалі да іх, прагна сьціскваючы. Потым гэта будзе яго дзіця, якое яна будзе трымаць ля сваіх грудзей, поўных малака. Цяпер жа адзіным, для каго былі гэтыя грудзі, быў ён. Маленькія, пяшчотныя, амаль ня бачныя. Проста бугаркі плоці на тонкіх рэбрах, з ружовымі маленькімі кропкамі. Ён нахінуўся, і крануў вуснамі ружовы сасок, асьцярожна краная яго языком. Доўга, марудна ўбіраў яго, насалоджваючыся яго смакам.

Яна закрыла вочы і баялася паварушыцца, адчуваючы ля сваіх грудзей мужкія вусны, яго вусы і бараду, яго подых, жаркі, які апальваў ёй скуру.

Яна была як Марыя. А ён быў Богам. Богам, сыйшоўшым да яе ў плоці, у целе, якое было вялікім, цёмным, моцным, магутным, пакрытым цёмнымі валасамі па яго жывату і ўнізе, дзе было нешта, што яна ніколі ня бачыла.

Хутка гэтыя маленькія грудзі напоўняцца, і зь іх пацячэ малако. Яна наяўна адчувала яго, як яно пульсуе, гатовае вырвацца зь яе саскоў, якія балелі пад яго вуснамі.

Ён адчуваў, як пульсуе і баліць яго чэлес, як ён напружваецца ад паху і дакрананьня да яе скуры, ад яе блізкасьці і гарачыні,

але ж марудзіў, намагаючыся працягнуць для яе гэты час асалоды, які хутка зьменіць час болю.

- Ты гатовая, каханая? - ціха вымавіў ён.

- Зараз я увайду ў цябе так, як уваходзіць муж. Як Бог увайшоў у Марыю. Ён пацалаваў яе прыкрытыя вочы.

- Ты гатовая? - яшчэ раз запытаў ён.

- Так, - прашаптала яна. - Я гатовая, Госпадзі. Здавалася, яна не разумела, дзе яна і хто зь ей. Ён і сапраўды быў для яе Богам. А можа, ім ён і быў. Ён і сам ня ведаў.

Ён нахінуўся над ёй, і яго чэлес рассунуў ружовую плоць яе ўлоньня, націскаючы, праходзячы ўнутр.

Яе цела ўздрыгнула, выгнулася, і яна сьціснула яго рукі. А потым застагнала. Але ж гэта быў ня плач і ня крык болю, а стогн жарсьці, як стагнала бы вопытная жанчына пад яго глыбокімі рухамі. І тады ён увайшоў у яе не трымаючыся, і меў, і браў яе, груба, моцна, скараючы, запаўняючы сабой яе пакорнае цела. Яна ўскрыквала і выгіналася насустрач яму, ахапіўшы яго шыю рукамі. Яна прыняла ў сябе Бога, разумеў ён, і поўнасьцю скарылася яго волі і болю, які, сьвяты і радасны для яе, разрываў зараз яе ўлоньне, напаўняючы яго сваім семенем.

- Жонка мая любая, - ціха вымавіў ён, нахінаючыся над ёй.

- Муж мой любы, адзіны ў цэлым сьвеце, - прашаптала яна. – Ля тваіх грудзей я атрымоўваю спакой маёй душы.

- Ля тваіх грудзей я спазнаю, наколькі вялік Бог, - адказаў ён.

# Глава 32: Водар

- Ты пахнеш вадой. Чысьцінёй. Анёлам. Ён прыціснуўся тварам да як скуры, і яна ахінула яго рукамі. Яе пальцы гладзілі яго валасы, блыталіся ў іх. Яго твар нахінуўся над ёй, і іх вусны зьліліся. Яна закрыла вочы.

Яго вусны кранулі яе шыю, апусьціліся ўніз, да пляча.

- Так ня можа пахнуць чалавек, - вымавіў ён. – Так пахнуць толькі кветкі, тыя, што распускаюцца раніцой на лузе, усе вільготныя ад расы.

Яна павярнулася, прыціснулася да яго, і ўдыхнула пах яго скуры.

- А ты пахнеш вайной, - ціха прашаптала яна. – І каханьнем. І яшчэ – ты пахнеш лесам, і паляваньнем. І Богам.

Ён усьміхнуўся, і пацалаваў яе лоб.

- Бог вайны на паляваньні. Які кахае цябе. І ахапіў яе шчыльнее.

- Чаму ж – вайной? – пацікавіўся.

- Зброяй, - вымавіла яна. – Канём і ветрам. І крывёю. І так, як пахне ў саборы. Дзівосна, так, што разрываецца душа. І табой. Ты пахнеш табой. Я закрываю вочы, і адчуваю, што ты побач, і гэта ты, а ніхто іньшы. Таму я ляжала з тваёй кашуляй. Я хацела быць з табой.

Ён пах душой і целам, крывёю і потам, гарачынёй жарсці і пяшчотным каханьнем, якое ўзносіла яе да нябёсаў.

Яго пах заставаўся на яе мяккай скуры, упячатваўся ў яе, мяшаючыся зь яе тонкім водарам, і яна не хацела змываць яго, і толькі наносіла зьверху свае любімыя прыціраньні, якія ўбірала яго скура. Змываць яго пах зь сябе для яе было блюзьнерствам. Нібыта яна змывала пячаць сьвятога духа. Яна хацела, каб ён

заставаўся на ёй назаўсёды. Каб яна пахла ім, насіла яго пячатку пад шыкоўным шлейфам тых масел, якімі ён яе адорваў. Калі яго пах зьнікаў, яна адчувала, што перастае існаваць.

Тут не было патрэбы казацца некім іньшым, саромецца сябе і сваёй сутнасьці. Свайго ўласнага, прыроднага паху. Тут, на волі, сярод палёў і лясоў, чалавек меў права пахнуць чалавекам, мужчына - мужчынай, а жанчына – жанчынай. І яна востра адчувала гэтую яго мужчынскасьць, яго мужнасьць праз яго пах, як і ён адчуваў яе жаноцкасьць, пяшчоту, далікатнасьць. Ёй падабалася, калі ён пах віном, конскай поўсьцю, скуранымі рэмнямі, разгарачаным целам. Потам. Пахам яго плоці – чыстым, моцным, вострым. Целам моцнага мужчыны, крэпкага, дужага, жаркага. Там, адкуль яна сыйшла, казалі – ферамоны, не ўяўляючы, як гэта, калі ўдыхаеш пах чалавека, не атручаны ніякімі хімічнымі вырабамі. Ад такога паху і сапраўды кружылася галава. Здавалася, ён убіраў у сябе ўсё – лес, ваду, аблокі, пахі палёў і лугоў, жывёлы, металу, гліны, пяску, камяню, зямлі, сонцу і ветру, і вострых духмяных рэчаў, якія мяшаліся зь яго ўласным водарам – палкім, вабячым, грубым і тонкім адначасова, гаворачым бяз словаў, ня ўмеючым ілгаць, прамым, пахнучым жаданьнем, калі ён жадаў яе, бо ж гэтага не схаваеш. Як і яна не магла хаваць сваё жаданьне, якое распускалася вакол яе дзівосным пахам кветак і вільгаці, які ён адчуваў перш за яе словы. Яны гаварылі на мове, для якой словы былі не патрэбныя, ведаючы адно аднаго так глыбока і блізка, што дастаткова было сутыкнуцца водарамі – ня целамі, нечым больш тонкім, духоўным, пахучым, водарамі іх душаў, зьліваючыміся ў бясконцасьці.

Пах быў больш за аголенасьць целаў, гэта было нешта, што выходзіла зь цела, з самай яго глыбіні, таямнічае, цёмнае, першабытнае, дзе грубая плоць мяшалася з вогненным духам, працінутая ім, запаленая яго агнём.

Яна ляжала на ім, выцягнуўшыся, прыціснуўшыся да яго ўсім целам, якое ўбірала яго водар і запаўнялася ім, аддаючы яму свой. Сваімі грудзямі яна адчувала яго грудзі, валасы на яго целе, і тварам прыціскалася да яго барады, адчуваючы, як яго

вусны кранаюць яе шчаку. Ён раськінуў рукі крыжом, і яна накрыла іх сваімі. Разам яны ўтваралі ідэальны крыж, аб'яднаны - баланс сусьвету.

Яе рукі насупраць яго рук былі тонкія, як галінкі, і белыя, як сьнег.

- Як мы сустрэліся? – ціха запытала яна, прыціскаючыся да яго шчакой.

- Па воле Божай, каханая. Яго вусны пяшчотна дакрануліся да яе вуснаў. – Бог літасьцівы, ён даў мне цябе, а цябе – мяне.

Яна баялася запытваць яго, але ўсё ж асьмелілася, і сказала.

- Каханы, мне здаецца, я ведала цябе шмат разоў да таго, як мы сустрэліся. Нібыта былі іньшыя мы, і мы сустракаліся, і кахалі адно аднаго.

- Былі, каханая, - ціха вымавіў ён. – У Бога ёсьць усё.

- А ты памятаеш, якія мы былі? – запытала яна яго.

- Памятаю, - вымавіў ён. – Аднак гэта болей не істотна, любая. Бо мы такія, якія мы ёсьць тут. Гэта нашае жыцьцё – адзінае, якое нам даў Бог. І мы пражывем яго разам.

- Мне здавалася, што я жыла ў вялікім горадзе. Я была адна, без цябе. Мне было так дрэнна. Я ўвесь час думала, чаму я жыву наогул. Калі б не Пан Езус, калі б ня ён… Ён выратаваў мяне, - прашаптала яна. – Ён прыйшоў да мяне, і ён паслаў мне цябе. Ты прыйшоў для мяне, як Бог. Бо ж ты – Бог, я ведаю, хто ты. Ты – Бог, які трымае мяне на сваіх грудзях. Ты ўчалавечыўся дзеля мяне. Сьлёзы беглі па яе шчоках, і мачылі яму твар.

- Дужа доўга ты была адна, каханая. Але ж Бог міласьцівы – ён цябе не пакінуў. І ён паслаў мяне. І цяпер я буду бараніць цябе, як Бог. Так, як Бог бароніць сваю сьвятыню і сваіх вернікаў. Так, як пастух бароніць сваіх баранкаў. Ты мой любы баранак. Маленькі і кучаравы. Ён усьміхнуўся, і ахапіў яе рукамі. Чорны. А на ілбу ў цябе – зорачка.

- Якая? – зьдзівілася яна.

- Зьзяючая, - усьміхнуўся ён. – Як царскі вянок. Як твае прыгожыя вочкі.

- Хочаш, падару табе такі вянок? Будзеш насіць? Ён крануў яе лоб вуснамі.

- Буду, - вымавіла яна. – Падары.

- А яшчэ ты мне абяцаў нешта. Толькі можа, ты забыў?

- Не забыў. Абяцаў узяць цябе на возера, - усьміхнуўся ён. Чорнае, глыбокае, бяз дну. Страшное. І прыгожае. І там ёсьць бераг зь мяккім, бялюткім пясочкам. А над ім – елкі, цягнуць лапы ў самое ваду. І лес такі цёмны-цёмны. Стары. Глухі. І зямля ў ім мяккая, уся ў імху. І нікога на возеры няма. Бо ж людзі баяцца яго.

- А ты? – запытала яна.

- Я – не, не баюся. Мяне туды бацька вадзіў. Бо ж ён калісьці чараўнікам быў. Ваўхвом. І ў ваўка мог перакідвацца. Ды потым ахрысьціўся, і перастаў. Усё чараўніцтва адкінуў. Як і я.

- А ты таксама быў чараўнікам? – яна ўсьміхнулася.

- Была справа, быў, - спакойна вымавіў ён. – Ды Бог мяне ад гэтага выратаваў. Адвёў ад пагібелі. Бо ж чараўніцтва – пагібель, і для душы, і для цела. Усе чараўнікі гінуць, хто ў багне, хто ў лесе, хто ў вадзе ці ў полымі. Духі іх забіраюць. Чэрці. Пры жыцьці цягнуць у пекла. Але ж гэта слабыя. А калі чараўнік моцны – тут толькі пагібель душы. Бо ж прагнучы ўлады, ён суцэльна забываецца на Бога. Ды Бог не забываецца на яго. І таму за душы моцных чараўнікоў ідзе моцная бітва паміж Богам і Д'яблам. Яны гэтую душу паміж сабой дзеляць, але ж апошняе слова – за самой душой.

- І за тваю душу такая бітва ішла? – ціха вымавіла яна.

- І за тваю, - адказаў ён, цалуючы яе. – Бог заўсёды і за ўсе душы змагаецца зь Д'яблам.

- А Д’ябал – хто такі? – запытала яна яго.

- Айцец ілжы, - адказаў ён. – Ён ня можа казаць праўды. Там, дзе праўда, там толькі Бог. Вось, напрыклад, нейкі чалавек кажа, што ён пражыве бяз Бога. Як такое можа быць? Але ж д’ябал унушыў яму, і тоё паверыў. Альбо д’ябал унушае, што чалавеку патрэбна тое, што ёсьць у суседа. Што гэта належыць яму па праву. А хто даў яму гэтае права, калі Богам зроблена так, што гэта ў суседа, а не ў яго? Вось так і захоплівае душу ілжа, і спакушэньне. Альбо нехта жадае чужое жонкі. Здаецца, вакол шмат жанчынаў. Але ж вось толькі чужую яму падавай.

Чаму? Усё – ад д’ябла. Называецца – пералюб. Страшны грэх.

Ні на якую маёмасьць бліжняга нельга глядзець прагным вокам.

- Дык жонка – маёмасьць? – запытала яна.

- Канешне. Але ж да таго яна большая, чым маёмасьць, яна – гэта сэрца і палова душы і цела, данная Богам. Гэта ня дом, не зямля, не конь, гэта як жыцьцё у чалавека забраць. За такое толькі жыцьцём плаціць трэба.

Ён пацалаваў яе.

- Ты – мой найбольшы каштоўны скарб. Самае галоўнае, што ў мяне ёсьць у сьвеце. І на гэтым, і на тым.

- На возера паедзеш?

- Паеду! – яна ўсьміхнулася.

- Тады – злазь, і будзем зьбірацца. Прагуляюся з табой, анёлак мой.

Ён асьцярожна палажыў яе побач, і сеў на ложку. Яна ляжала на падушках і глядзела на яго.

Шырокая сьпіна, магутныя плечы, вузкая талія, чорныя валасы грывай ляжаць на плячах.

Ён устаў, прайшоўся да лавы, дзе ляжала адзеньне, і стаў

насупраць вакну, незачыненага, удыхаючы сьвежае, пахнучае лесам паветра. Бо ж лес тут быў усюды. Ён і сам выглядаў, як бог гэтых дзікіх лясоў, дзікі і прыўкрасны.

- Якое дасканалае, прыгожае цела, - падумалася ёй. Яна проста любавалася ім. Магутныя рукі і сьпіна, выступаючыя мышцы грудзей, сьцёгны і ногі як калёны. Ён нагадваў цара Саламона ва ўсёй сваёй славе, ці Маісея, які гатаваўся выступіць супраціў фараона, каб вывесьці свой народ у зямлю абяцаную. І ад яго ішло сьвятло. Яна яго бачыла наяўна. Ад яго грудзей, вачэй, вуснаў, рук, ад яго ўсяго. Ён быў моцны, і сьмелы, і мужны, і ён захінаў яе ад усялякае небясьпекі. Бо ж ён быў Богам, Богам для яе, як ён сам і казаў. Яе мужам, і яе Богам. На яго грудзях ляжаў вялікі срэбны крыж, цяжкі, на шырокім ланцугу. І Бог на гэтым крыжы нагадваў яго. Такое ж дасканалае цела з выступаючымі вузламі мышцаў, толькі перакручанае болем.

Яна глядзела на яго, і яе вусны нябачна рухаліся – яна малілася. Пастунова яе жыцьцё, старое, да яго, сыходзіла ў мінулае, таяла, як цень ці сон. Цікава, магчыма тое, каб яны ізноў апынуліся ў яе той, старой рэчаіснасьці? У Бога ж няма нічога немагчымага. Калі яму будзе жадана, то яны ізноў апынуцца там. Але ж цяпер Богу было жадана іньшае. Бо ж іх душам, як і целам, патрэбны быў адпачынак. І тут яна адпачывала як мага лепей. Жыцьцё, хоць і небясьпечнае, было простым і шчырым. І Бог тут быў блізка, як нідзе і ніколі.

- Міхась. Любы мой, - прашапталі яе вусны.

Здаецца, ён адчуў. Павярнуўся да яе.

- Ты нешта сказала, дзяўчынка мая? – запытаў ён.

- Толькі тое, што я цябе кахаю, - ціха вымавіла яна.

- Як і я цябе, анёлачак. Ён апранаўся, і яна глядзела на яго, марудзячы, адцягваючы момант, калі яна таксама паўстане з ложку.

- Пайду зьбірацца, - вымавіў ён. – Спускайся ўніз, на двор. Яна кіўнула, і, нарэшце, адкінула коўдру.

Возера яе вабіла, маніла. Казка, таямнічая гісторыя пра Міхася-чараўніка і старую ведзьму ня йшла ў яе з галавы. Трэба будзе запытаць, а праўда яна там жыла?

З гэтымі думкамі яна выбралася з ложку, і пачала апранацца: тонкая ільняная кашуля, спадніца, яшчэ спадніца, верхняе плацьце з тонкага сукна, сьветлае, бо ж – сьпякота, гарсэт, уцягваючы яе і так тонкую талію. Яна запляла валасы ў доўгую касу, закалола яе вакол галавы, і прыкалола доўгі шаўковы вэлюм – да таліі, у колер туману. Глянула на сябе ў люстэрка – ня тое, другое, і прыкалола да грудзей ружовую ружу з вазы. І выбяжала па лесьніцы праз залу на двор – да сьвятла.